

# 3

САКАВІК

Мінск, 1973


*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*




# МАЛАДОСЦЬ


ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *




Вокладка **Б. Суслянкова** .

Шмуцтытулы **Ю. Зайцава** (стар. 3) **і В. Ждановіча** (стар. 93).



# ПАЭЗІЯ

- СВЯТЛАНА БАСУМАТРАВА
- АЛЯКСЕЙ КАРПЮК
- РАІСА БАРАВІКОВА
- МАРЫЯ БАРАВІК
- ВАЛЯНЦІНА ХАМЧУК
- НІНА ГАРАГЛЯД



- ЯЎХІМ КОХАН
- ЭЙНАР МААЗІК
- МАТС ТРААТ
- АРВІ СІЙГ
- СЯРГЕЙ ЯСЕНІН

# ПРОЗА





**святлана басуматрава**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Лістапад

Якая восень — сум і прыгажосць,
Спакой і смутак, золата і чырвань.
Вось-вось гатова адляцець у вырай
За жураўліным клінам маладосць.
Хай лістапад. Я веру, што мяне
І заўтра будзе радаваць світанне,
Што светлае і вечнае каханне
Мой неспакойны лёс не абміне.
Не вабіць ні вядомасць, ні рублі,
Аддам усё адзіным двум патрэбам —
Сумленна жыць пад родным мірным
небам,
Любіць усё жывое на зямлі!

## У дарозе

Задрамлю — схамянуся знянацку —
Што за дзіўнае дрэўца ў акне?
Быццам восень цудоўную цацку
Рыхтавала даўно для мяне;
Бачу, сонца павольнае тоне
У мядзяным люстэрку ракі.
Ходзяць лугам грывастыя коні —
Пэўна ж, згубіць падкову які!
Да спаткання, іржышча сухое
І у сонечных яблыках сад.
Хай жа згіне навек усё ліхое —
Я з падковай вярнуся назад!



## Дома

Мякчэй няма за матчыны падушкі,
А ўжо не сплю, не сплю ў такую рань.
На тым акне ружовая герань.
Над тым акном гняздо вясёлай птушкі.
Яно было адзінае на свеце,
Як поціск рук тваіх, як твой пагляд.
Усё гэта больш не вернецца назад.
Я разумею гэта. Толькі вецер,
Як апантаны, ходзіць па іржышчы,
І гойдае над дахам праўды,
І ўсё шукае даўнія гады
Сярод забытых рэчаў на гарышчы.

■

Мой лес, кірмаш мой каляровы,
Што ліст кляновы — што рубель,
Тут быў мой ветразь папяровы,
Тут плыў драўляны карабель.
Тут і прайшло маё дзяцінства
З арэхам, рэхам ля ракі,
З святочным водарам гасцінца
Ад цёплай матчынай рукі,
Пад гукі нашай простай мовы —
Ад іх знікалі боль і злосць.—
Мой лес, кірмаш мой каляровы,
Мой шлях з маленства ў маладосць.

## Асенняя песенька

Асенні дожджык па стрэсе шапоча,
Як бабін кот, ліслівы абармот,
Так ціха, так лагодна, быццам хоча
Пазбавіць ад усіх маіх нягод.
У равесніцы дыплом і сын вялікі,
А я усё падручнікі нашу,
Кантрольныя раблю, здаю залікі
Ды вершы летуценныя пішу.
Мне б чырванець пад «горка» на вяселлі,
А я ўсе незалежнаю хаджу...
. . . . . . . . . .
У сентыментальнай песеньцы асенняй
Усе мае словы. Музыка дажджу.

■

Я выйду ў поле за сяло,
Дзе скрыпка кожная раслінка.
Нясі мяне, мая хусцінка,
Маё блакітнае крыло.

З імклівай сілай пачуцця
Нясі па сонечных сцяжынках,
...Спяваюць бабы на дажынках
Пра свята шчодрае жыцця.

## Родная мова

Мне мова родная мая,
Як перапёлка ў спелым жыце,
Якая, што там ні кажыце,
Спявае лепш за салаўя.
Той салаўіны спеў — маністы
Скакухі, што здзіўляе круг,
Ён мне ўсяго прыгожы гук,
Гарэзлівы і ганарысты.
А выйду ў спёку за шашу,
І перапёлкі спеў штодзённы
Крыніцай светлай і сцюдзёнай
Ліецца проста мне ў душу.







*аляксей карпюк*

# ВЕРШАЛІНСКІ РАЙ

## РАМАН-БЫЛЬ

● Мал. Г. Паплаўскага.

*Спачатку было слова, і слова было ў бога, і слова было бог.*

(Евангелле ад Іаана, раздзел I, радок I).

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

1

Грыбоўшчына мела дваццаць пяць двароў. Калі мы з бацькам ехалі праз яе на кірмаш у Крынкі, то не было на чым спыніць і вока.

Гнілыя, пахіленыя платы, саламяныя стрэхі. Сярод вуліцы валун. Яго як аб'язджалі сто гадоў назад, так і аб'язджаюць цяпер. Гэтак сама бялелі і каменні на палетках, аб якія ламалі нарогі сваіх сох дзяды і прадзеды...

Людзям з Грыбоўшчыны ад памешчыкаў перайшло тарфяніска і пясчаныя ўзгоркі з хмызнякамі,— там нават жыта расло слабое. Грыбоўцы прызараблялі ў лесе.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі гэтая вёсачка прымусіла загаварыць аб сабе цэлую акругу. А пачалося ўсё з нявіннай падзеі.

Аднаго разу ў Грыбоўшчыну прыплялася струпастая, таўстаногая нямая. Ніхто не ведаў ні яе бацькоў, ні яе імені, не ведалі, якой яна веры. Жанчыны ўчынілі прыблудзе экзамен.

Каталічкі прачыталі над ёй «Ойчэ наш» па-польску, праваслаўныя — па-руску, але беднае дзяўчо зыркала

на іх дзікімі вачыма і не разумела, чаго ад яго хочуць. Тады бабы прынеслі два распяцці — ад бацюшкі і ксяндза. Нямая ўбачыла крыжы і завізджэла, закалаціўшыся ад страху.

— Бабы, дальбо, яна — нехрышчоная! — аўтарытэтна заявіла Русялёва Марыля.

Бабы папрасілі старасту, і той дазволіў прыблудзе пасяліцца ў пустой хаціне. Русялёва Марыля схадзіла яшчэ ў Крынкі, дамовілася з рэстаранішчыкам Хайкелем, каб ён узяў да сябе нешчаслівую істоту круціць спружыну ў шафе, што іграе, і сатуратар да газіроўкі.

З часам людзі звыкліся, што летам босая, а зімой — у вялізных салдацкіх чаравіках без шнуркоў нямая валачэ ў мяшку з крынкаўскага рэстарана аб'едкі ды тым сабе жыве.

— Што зробіш, калі гэтаму стварэнню бог не даў адной клёпкі!— ківалі людзі галовамі і ўздыхалі.

Мінуў нейкі час, і нечакана для ўсіх дурніца прывяла сына. Дзіця на дзіва было вялікае, прыгожае і здаровае. Грыбоўшчынскія бабы папраклiналі местачковага нягодніка, што спакусіў сірату, і зачасцілі да парадзіхі. Дурніца не ўмела нават карыстацца плітой, і цёткі пачалі прыносіць ёй хто гаршчок грэцкай кашы, хто яечка, хто бярэмя дроў, а хто які грош...

Выхаванне груднога дзіцяці — далікатная школа эмацыянальнага жыцця. Свет да малога жэўжыка даходзіць разам з тонкімі адценкамі роднага слова, пачутага ад блізкага чалавека, разам з ласкавым і клапатлівым, трывожным і мудрым выражэннем матчыных вачэй, з яе радасным смехам.

Тупая дурніца такога багацця, вядома, сыну даць не магла, псіхіка хлопчыка пайшла наперакос. Але жахлівыя скуткі гэтага грыбоўцы адчулі пасля, а цяпер толькі дзівіліся:

— Ты бачыш, якім здараваком расце ў яе сын — голы па снезе бегае—і хоць бы што! А паглядзі, колькі есць — за паўтарых!

— Бабы, яна ж прыпадачная! — заўважыла Русялёва Марыля.— Каб хоць малога не задушыла, калі прыступ яе возьме!..

Толькі трывожыцца цёткам давялося нядоўга.

Крынкаўскія ўхажоры да непрытомнасці напаілі дурніцу, і яна перад вёскай на выгане сканала. Як потым Русялёва Марыля ні прасіла ў бацюшкі, труп нехрышчонай хаваць на могілках ён не дазволіў. Жаласлівыя бабкі пабедавалі над нябожчыцай і тут жа на выгане пахавалі яе. Мужыкоў сваіх прымусілі зрабіць агароджу на магілку, а сірацінy-хлопчыка аддалі да заможнага гаспадара Станкевіча пасвіць гусей. Дамовіліся, вядома, што Станкевіч завядзе сірату ў Крынкі ахрысціць.

Рос сірата моцным і дужым. Калі, пасучы каровы, грыбоўскія пастухі пачыналі дужацца, Станкевічаў парабак даваў рады не толькі равеснікам, але і хлопцам-пераросткам. А, бывала, тры браты Аўхімюкі ўзлазілі яму на плечы, і ён пёр іх праз вёску.

Станкевіч сам быў католік і ўсё ніяк не мог вырашыць, куды ж завезці малога парабка — да ксяндза ці бацюшкі. Аж, нарэшце, махнуў рукой. Сірата гэтак і застаўся нехрышчоны. Людзі прыдумалі імя самі.

— Паўтарак! — празвалі асілка ў Грыбоўшчыне.

## 2

У той самы час, калі за гусямі ў Станкевіча бегаў Паўтарак, у Клімовічавага Лаўрэна рос яго аднагодак Альяш.



Страшаўскія хлопцы з пакалення майго дзеда ў Студзянскім лясніцтве рэзалі лес, а ў Грыбоўшчыне сталаваліся. Жыццё яшчэ нічым не прыкметнага Альяша прайшло на іхніх вачах. Праз многа гадоў, ужо сталымі людзьмі, яны ахвотна пра яго расказвалі.

Са страшаўцамі Альяш пускаў тыя самыя сосны, хадзіў разам з імі на фэсты ў царкву і касцёл, быў на ігрышчах і вечарынках.

З дзецьмі тады не няньчыліся. Як і ўсе страшаўцы, Клімовіч Лаўрэн лупцаваў, трымаў у паслушэнстве і жорсткасці сваіх сыноў. Затое калі ім, бедным, выгадаваным у горычы ўніжэння, з нязлзейсненымі марамі, надломленымі душамі і няўменнем шанаваць людзей, удавалася вырвацца з-пад кантролю, яны наводзілі на суседзяў жах.

Суботнімі і нядзельнымі вечарамі, захлынаючыся ад маладосці, лесарубы, а з імі, вядома, і Альяш зацягвалі на ліпу чые-небудзь сані або затыкалі саломай удаве комін. Узброеныя бязменамі, урываліся на вечарынку, разганялі сапернікаў. Лавілі на вуліцы дзевак і завязвалі ім на галовы спадніцы...

А верхаводзіў над імі Паўтарак — дужы, неразважны: насуперак яму і слова не скажы.

Быў ён увесь падобны на камель дуба, які трывала паставілі на зямлю. Нібы выліты з аднаго кавалка магутны торс, мускулістыя і кароткія ногі, а на квадратовых плячах сядзела моцна пасаджаная галава з шырокімі сківіцамі.

Паўтарак мог узяць за рогі быка, закруціць яму на спіну галаву, і жывёліна, як падкошаная, падала на калені. А то ён яшчэ ўпіраўся ў ручку воза, і конь не мог зрушыць з месца. Назбыткаваўшыся гэтак з дзядзькі, Паўтарак браўся за кола і перакульваў тады воз — разам з палукашкам і саломай ляцеў на зямлю перапалоханы да смерці фурман.

Надышоў час навабранства. Забралі ў войска страшаўцаў, якія працавалі тады ў Студзянскім лясніцтве. Пайшоў служыць і Альяш Клімовіч. У салдаты не ўзялі адно Паўтарака. «Па прычыне тупасці і хранічнага сіфілісу», — напісалі яму ў дакументах урачы.

## 3

Ішлі гады.

Вярнуўся з войска мой дзед. Вярнуліся і астатнія нашы лесарубы, ды толькі часам успаміналі пра тое, як у Грыбоўшчыне разганялі вечарынкі ды палохалі людзей. Усе пераажаніліся, падмянілі пастарэлых бацькоў на гаспадарках, гадавалі сваіх дзяцей і гэтак жа сама, як дзяды і прадзеды, пасціліся перад вялікімі святамі, хадзілі ў царкву ці касцёл ды з жанкамі паддаваліся ажыятажу вакол мошчаў «Іудзеямі ўбіеннага Заблудаўскага младзенца Гаўрыіла».

Гэтае ўзаконенае ўрадамі каралёў, а потым цароў жульніцтва ў нашай мясцовасці зарадзілася яшчэ ў 1690 годзе, калі манахі пад Заблудавам знайшлі цела шасцігадовага хлопчыка. Прымірыцца з сапраўднай прычынай смерці людзям было нецікава. Хтосьці выказаў здагадку, што хлопчык памёр не сваёй смерцю — яўрэі, мабыць, бралі з яго на мацу кроў. Байка, як кажуць, вырасла з камара на казла, і па вёсках папаўзла страшэнная чутка. Заблудаўскую легенду адразу падхапіла царква. Малога нябожчыка аб'явілі вялікамучанікам. Як і за памяццю майго дзеда, вялізныя натоўпы сялян, перадзе якіх ішлі папы, у суправаджэнні казакаў урачыста неслі палакіраваную карычневым лакам дамавіну з мошчамі ад Заблудава да Крынак, з Кры-

нак — да Ваўкавыска, з Ваўкавыска — да Свіслачы, Слоніма і Наваградка... Тысячы пасталоў і ботаў узнімалі дарожны пыл, над людскім патокам шапацелі харугвы. Развяваючы на ветры доўгія космы, нечалавечымі галасамі, як у бочку, раўлі малітвы і трапары тоўстыя папы, а сотні вёрст парэзаных каляінамі дарог бабы высцілалі кужэльным палатном.

Пусцелі вёскі, спатыкаць мошчы збягаліся старыя і малыя. Да гасцінцаў паўзлі калекі з надзеяй выздаравець, спяшаліся няшчасныя і пакрыўджаныя, каб знайсці супакой. Ашалелыя ад глыбокай веры мацяркі паказвалі сваім дзецям, як Габрусёк з дамавінкі ківае ім ружовым пальчыкам.

Багамазы завальвалі Гродзеншчыну абразкамі Заблудаўскага дзіцяняці, а вучні царкоўна-прыхадскіх школ зубрылі оду:

Святой Гавриил, угодник Христов,
Какие ты муки принял от жидов...

Аж не верыцца, страшна падумаць, што і маё Страшава было тады ва ўладзе гэткіх забабонаў.

Дзед мой па бацькавай лініі пасварыўся за нешта са старастам, і той не дазволіў бабе Палосі выслаць пад ногі працэсіі завоец палатна. Аб ганьбе бабе Палосі вясковыя кабеты напаміналі да самай смерці. Гэтак жа да смерці пакараная жанчына ўсё апраўдвалася, што пацярпела праз мужа.

Бацька на вялікі пост выпіў у Гарадку з кампаніяй хлопцаў ды закусіў каўбасой. Не паспеў дайсці ён дадому, а вестка аб яго ўчынку ўжо ўскалыхнула Страшава. Мужчыны выйшлі хлопцам насустрач і не ўпусцілі іх у хату. Напалоханыя не на жарты, хлопцы пайшлі на балота, залезлі ў стог і сталі чакаць, покуль ачысцяцца ад скаромнага і выйдзе з іх хмель.

Так мае землякі і жылі.

Цяпер ужо іншыя страшаўскія юнакі, а з імі і бацька пускалі ў Студзянскім лесе выносныя сосны ды гэтак сама хадзілі на вечарынкі, затыкалі дзеля жарту ў хатах каміны. Толькі сталаваліся ў другой вёсцы — у Грыбоўшчыну было небяспечна і заглядаць.

## 4

Сын дурніцы з немцам Вілем з Саколкі сабраў бандытаў, якія ўцяклі з гродзенскай турмы, стварыў шайку. Гэта далей — за Беластокам, Ваўкавыскам і Гроднам людзі адны адным апавядалі пра яго, як пра рыцара, бытта ён выступае супраць багатых, а бедным яшчэ і дапамагае. На самай справе Паўтарак не разбіраў ні брата ні свата.

Пранырліваму, крыважэрнаму і дурному, калі нап'ецца, бандыту аднолькава было, ці рабаваць папа, ці сцягнуць з галавы ў цёткі хустку, а таму, хто сказаў слова супроць,— паламаць рукі і ногі.

Паўтараку нехта ўвёў у вушы, што ён павінен помсціць за сваю маці. Паўтарак перапыняў чыю-небудзь дзеўку на дарозе і валок на выган да магілы гвалціць. Іншы раз бандыты блакіравалі паліцэйскі ўчастак, сам жа Паўтарак, узяўшы для перасцярогі чалавек пяцьшэсць, урываўся ў крынкаўскі рэстаран, браў за ножкі стол, паднімаў яго над галавою і пытаўся:

— Ну, хто тут з вас татко?! А-а, зарвало?! Цурык!..— кідаў ён, як праклён, завучанае ад Вілі нямецкае слова і са страшнай сілай апускаў цяжкі стол на каго папала.

Ні жывыя ні мёртвыя, госці збіваліся ў куток ды крадком мацалі



сіняні, а бандыты, паклаўшы перад сабой браўнінгі і кінжалы, займалі іхнія месцы.

Моцны, бы корч, з тварам, знявечаным хваробай, якая перайшла ад маці, амаль бязносы Паўтарак біў нажом у стол і крычаў:

— Хайкель, завядзі шафу, што іграе!.. «Барыню» давай!.. Не, спружыну, жыдзе, круці сам!.. Вы, мае татачкі, марш танцаваць!.. Жыво!.. Краля, раздзявайся!.. Вілі, пагуляй з ёю, дзетка!.. Цурык!..

А гарады Прынёманшчыны ўжо ўскалыхвала завіруха 1905 года.

Рэвалюцыянер Голуб у Гродне на Саборнай плошчы застрэліў начальніка жандармерыі палкоўніка Зубава. Неўзабаве на тую ж плошчу помсціць за брата выйшаў малодшы Голуб. У час тэзаімянінства «яго імператарскай вялікасці» хлопец выскачыў з натоўпу, прарваўся праз сонм папоў і равінаў, адштурхнуў разгубленага губернатара і пачаў гаварыць з трыбуны рэвалюцыйную прамову, покуль яго не засеклі шаблямі казакі.

У бліжэйшых мястэчках рабочыя наладжвалі першыя сходкі, мітынгі. Толькі іхніх імкненняў сяляне яшчэ не разумелі. Усе машыны паводле кансерватыўнага мужыка былі чортавай выдумкай, а гарадскі люд без зямлі — галадранцы. У вёсцы панаваў непахісны аўтарытэт бацюшкі, ксяндза і цара. У цэрквах і касцёлах маліліся за ўпакой палкоўніка Зубава, праклінaлі душы братоў Голубаў, зачытвалі зварот вышэйшага духавенства:

«...Захаваць і абараніць царскую ўладу памазаніка божага, не даць на папранне ворагам — сацыялістам і бунтарам, безупынна маліць бога, бо толькі цэрквы і касцёлы — месцы, дзе павінны аб'яднацца бедныя і багатыя, пан і слуга, дзе ўсе знойдуць падтрымку, сілу і ўзаемную любоў».

Хто выступаў супроць устаноўленых парадкаў, станавіўся асабістым ворагам цёмнага мужыка. Слова «цацаліст» было лаянкай і абазначала тое самае, што антыхрыст.

У мястэчках бунтароў перасаджалі. Не паспакайнела толькі на вёсках. Ні прыставы, ні жандармерыя, ні сотні гродзенскіх казакаў не маглі даць рады Паўтараку. Хітры бандыт адчуваў небяспеку, як звер. Шайка выслізгвалася ад пагоні і знікала ў лясным гушчары, каб потым з'явіцца там, дзе найменш яе чакалі.

Нехта пусціў пагалоску, што Паўтарак — пакаранне боскае за братоў Голубаў, маці якіх паходзіла з Грыбоўшчыны. І людзі да шайкі памалу прыцярпеліся. Зносілі пакорна бандытам выкуп. Паілі гарэлкай. Не выпускалі з сяла дачок. Калі хто трапляў бандытам у лапы, стараўся потым не пікнуць. Былы гаспадар Паўтарака, Станкевіч, перабраўся з сям'ёй жыць у Гродна...

## 5

У свой час вярнуўся з войска і Альяш. Бацька знайшоў яму нявесту. Альяш ажаніўся і таксама стаў гаспадарыць.

У эканамічным застоі, які панаваў тады ў вёсцы, Альяшовыя равеснікі цяпер жылі, нібы адбывалі павіннасць. Паролі плугам неўрадлівыя палеткі, касілі марную траву на трафяніску. Выглядалі лесніка і ездзілі ў лес чым-небудзь пажывіцца. Пакорна наведвалі царкву ці касцёл. У святы заглядалі ў чарку ці збіраліся пад плотам на камені і апавядалі, як чорт завалок п'янага Вінцука ў дрыгву. Шкадавалі цара, які не ведаў, што чаўпуць яго чыноўнікі. Расказвалі пра тое, што вытварае Паўтарак у вёсках, а «цацалісты» ў горадзе. Абгаворвалі выпа-



дак з заблудаўскім Гаўрыілам. Знаходзіліся сведкі, што на ўласныя вочы бачылі ў крынкаўскіх яўрэяў бочкі з панабіванымі ў іх цвікамі. У гэтыя бочкі яўрэі садзяць хрышчонага чалавека, качаюць па цвіках і гэтак бяруць на мацу кроў.

Майстра на выдумку Чарнецкі Банадык прынёс навіну, што крынкаўскі аптэкар уставіў сабе жалезную сківіцу: «Учора ён пасварыўся з сынам, а сын у злосці і страшыць яго: «Вось зараз як дам па зубах!» Аптэкар выняў сківіцу, паставіў на стол і кажа: «На, сынок, бі!..»

Банадыкоў сусед расказваў, што настаўнік царкоўна-прыхадской школы, якому Паўтарак у рэстаране выпараў вока, уставіў шклянное.

— Але ці будзе ім бачыць? — усумніўся Базыль Аўхімюк.— Не веру, ніколі не паверу, шкляное — не сваё!

— Вядомо! — падхапіў Пятрук Майсак.— Во Хрыстос не ведаў ні парашкоў, ні пілюляў, а якія цуды рабіў — сляпыя станавіліса відушчымі! Цяпер і лекараў столькі развялося, і грошы дзяруць бязбожно, ды не чуваць штось, каб адзін зрабіў такое!..

Толькі аднаго Альяша Клімовіча не цягнула сюды, на камені каля плота, дзе збіраліся мужчыны. Але і дома карысці з яго не было. Дзяцей ён не любіў, з жонкай жыў кепска — яна сварылася з-за кніжак.

У салдатах Альяш быў дзеншчыком у афіцэра і навучыўся чытаць. Вярнуўшыся з войска, ён пачаў заглядваць у царкоўныя фаліянты. Яго зачаравалі стараславянскія тэксты.

У войску Альяш бачыў адны кпіны. Распусны афіцэр, у якога ён быў на службе, пахіснуў Альяшову веру да адукаваных людзей. З гардасці Альяшу захацелася стаць папярок. Абмежаваны, аднак не пазбаўлены пачуцця справядлівасці, вясковы чалавек старажытныя тэксты ўспрымаў слова ў слова, паверыў ім па-мужыцку—грунтоўна, раз і назаўсёды.

У бабак і дзядзькоў, якія «святога пісання» чытаць не маглі, Альяш пастуупова пачаў выклікаць пашану. Увага сялян пасяліла ў самалюбівым чалавеку ўпэўненасць, што ён — не такі, як усе. Неўзабаве нелюдзімы дзядзька Клімовіч стаў апавядаць суседзям, што, калі ён пасвіў на начлезе коней, раптам яго азарыла незямное святло, на небе з'явілася маці божая ды аб'явіла, што бог даручае яму пабудаваць на ўзгорку царкву і тое месца будзе святым, а ён стане пракрокам-цудатворцам. Калі развіднела, на дрэве вісела ікона маці божай з Чанстахова. Альяш спалохаўся, ікону з гарачкі закапаў, але яна зноў апынулася на дрэве.

Такія байкі тады былі надта распаўсюджанай з'явай, у іх нават была якаясьці пільная неабходнасць.

Страшаўскі Клемус шмат гадоў упарта і падрабязна расказваў, як перад ім з'явіўся пан Езус і аб'явіў яго святым. Некалькі пакаленняў страшаўскіх дзяцей ведалі напамяць, што сказаў Клемусу сын божы і дзе здарыўся цуд.

Як і Клемусу, так і Альяшу магло здацца, што перад імі адкрыўся цуд. А можа ўсё гэта яны выдумалі, але столькі разоў паўтаралі хлусню, што нават самі паверылі ў яе. Так ці інакш, але мае вяскоўцы дакладна памяталі, калі Альяш пачаў правіць легенду, і пасмейваліся з яго, як пасмейваліся і з Клемуса.

Смяяліся дарэмна. Неўзабаве на ўзгорку пад лесам Альяш і праўда пачаў капаць роў для падмурка і вазіць камені.

Дзіўна паводзяць сябе часамі людзі.

У перапоўненай залі варта кашлянуць ці пазяхнуць аднаму чалавеку, як пачынаюць за ім кашляць і пазяхаць астатнія: гэта ж не выдумка, што за мяжой некаторыя дырэктары тэатраў наймаюць спецыяльных рагатуноў, каб тыя заражалі смехам усю залю.

З'яву такую вучоныя называюць «псіхалагічным рэхам».

Навіна пра з'яўленне Альяшу маці божай і аб яго рабоце перакінулася на суседнія вёскі ды памчала па іх тым самым тысячагалосым «псіхалагічным рэхам». Імчала ўжо з дапаўненнямі.

— От дзіво! — казалі адна адной цёткі.— Калі глядзець з вёскі — восім чалавек капае фундамент пад царкву, а зойдзеш на ўзгорак — адзін. Адыйдзешся — зноў восім!..

— Святая сіла памагае!..

І на ўзгорак ля Грыбоўшчыны збегліся бабы з Нетупы, Гуран, Вострава, Ляшчыной.

Альяш якраз паехаў па каменне. Узгорак увесь быў перакопаны і завалены будматэрыялам. Пад навесам блішчэў абраз маткі божай з Чанстахова. Праваслаўны Альяш быў сынам полькі, і каталіцкі абраз баб не здзівіў.

— Во тая, што падказвае яму, як храм будаваць! — прашаптала цётка Піліпіха з Празнікаў.— Праз яе маці з Альяшом гаворыць з таго свету!..

Бабы пасталі на калені і пачалі ціха маліцца. Але раптам здрыгануліся ад нямога крыку Руслёвай Хрысціны:

— Ой, глядзіце, на небе зноў ЯНА!..

— Дзе? Дзе-е?...— з забабонным страхам, баючыся самі сабе прызнацца, што нічога не бачаць, зашапталі бабкі.

— Глядзіце, ля хмаркі!.. Вунь той, кучаравай!..

— У ядвабнай ша-аце, з дзіцяткам на руках, ах, бо-ожа!..—вар'яцела ўжо ад шчасця Піліпіха.

— Яшчэ і ўсміхаецца да нас, родная!.. Няўжэ не бачыце?! Глядзіце ж!..— паказвала трэцяя бабка, ды так шчыра, быццам хапала цуд за ногі.— Такая, як на Альяшовым абразу!..

Старэйшая дачка Руслёвай Марылі, Хрысціна, расчуленая ад радасці, усплясквала рукамі:

— Ах, заступніца ты наша!.. Дзякуй табе, што ашчаслівіла сваім яўленнем нас, гаротных, цяпер выслухай ты сірот сваіх!..

Сотні змярцвелых ад цуда людзей, якія пакаленнямі чакалі збавення, загіпнатызавана працягнулі ў неба рукі.

— Зрабі нам... Спусці на нас... Дыхні ў раны нашы, каб пазажывалі яны... Ах, якая я шчаслівая, што цябе ўбачыла! — надта спяшаючыся, што вось-вось цуда не стане, малілася Піліпіха.

Цётка не вытрымала і заплакала.

Затое Руслёва Хрысціна перадыхнула, і з вуснаў таленавітай гаварухі паліліся словы:

— Пакутніца ты наша, дзева Марыя, падзякуй госпаду богаві за любоў святую да нас і сына адзінароднаго, катораго паслаў ён нам на збавенне грахоў нашых!.. Маці божая, якая ў муках раджала, у цярпеннях выкарміла і на крыж Галгофскі праводзіла дзіцятко сваё, абарані нашыя сем'і, прымі нас у лік дзяцей сваіх, вазьмі пад сваю апеку маладыя і старыя сэрцы нашыя і спашлі на нас сілу і шчасце духа твайго святого, каб мы маглі справамі сваімі ўсцешыць сына твайго, першароднаго, збавіцеля нашаго любімаго!..

Хрысціна глыбока ўздыхнула і загаварыла да неба зноў:

— Сваімі божымі далонькамі, якія датыкаліся ран божых, благаславі — і дзетак нашых, і ўнукаў, і мужыкоў добрых і няўдалых, і суседзяў апастылых, і чужых тых грэшнікаў на ўсім абліччы зямным, хто не ведае волі божай, бо, павер, кожная душа хоча ратунку!.. Скажы госпаду,— цягнула яна ва ўзнёслым экстазе,— няхай і ён пройдзе каля нас ціхімі крокамі, пачуе малітвы нашыя і асвеціць нас прамяністым тварам святла свайго ды сагрэе святасцю сваёй, а мы будзем удзячны і служыцімем яму, покуль смяротны пот не залье нашыя скроні, не ўскалане нас прадсмяротная ікаўка, а кроў не застыне ў жылах, не пагаснуць нашыя вочы і дыханне, амін!

— Амін! — як адзін чалавек выдыхнуў натоўп.

Баязлівае маўчанне абарвалася, людзі заварушыліся, пачуўся плач, енкі і крык:

— То дайце ж мне даслу-ухаць, ЯНА гавоо-рыць нам штось!

— А я толькі бачу, але нічога не чую!

— Дзе, цё-отко?! Пакажы-ыце! Хто-о, што-о гаворыць?!.

Нечы прарэзлівы дыскант заглушыў усіх:

— Сціхнімо, бабы!.. Адной Хрысціне дано чуць голас багародзіцы!... Змоўкнемо, няхай адная і ўслухаецца!

На ўзгорку адразу запанавала мёртвая цішыня.

— Слухайце, цётка Хрысціна, добра і нам пераказвайце!..

Руселіха з той жа ўзнёслай ад радасці ўсмешкай, з блуднымі ад узбуджанасці вачыма, устаўленымі ў неба, пачала скарагаворкай і з паўзамі перадаваць:

— О!.. Спасіцельніца гаворыць, бытта ўласць ...Што ўладу бог перадае... нашаму Клімовічу і аб'яўляе яго божым чалавекам!

— Ах-х!..— выдыхнуў натоўп.

— Выходзіць, гэто праўда?! — пачуўся ціхі голас.

— Яму-такі!...— падхапілі бабы.

— Ціхо-о, не перашкаджаймо ёй!..— закрычаў нехта.

І святыя словы Хрысціна пераказвала далей:

— Што Альяш у бога тут — намеснік!.. Пабудуе... пабудуе божы храм!.. Наказвае, каб Альяша мы слухаліса, бо чалавек гэты прывядзе нас да царства нябеснаго!..

Натоўп застагнаў, заварушыўся.

— Будзем мы яго слухаць, царыца нябесная, мілая ты заступніца нашая!.. І споўнім усенькую волю яго, што б ні пажадаў!.. А скажы госпаду і яго сыну, што мы не пашкадуем ні сябе, ні жывата свайго, ні дзетак сваіх, ні мужыкоў, каб...

З-за хвойніку выплыла воблака пылу — Альяш вёз каменні.

— А-ей, бабы, дальбо, мусі, нехрыст Паўтарак са сваёй шайкай ідзе! — устрывожана абарваў нехта Хрысціну.

Секунду, аслупянелыя, усе маўчалі, а тады немым голасам завішчэлі дзяўчаты:

— Ах, божа, ратуймосо!

І бабы, падабраўшы спадніцы, ламанулі ў вёску.

## 6

З гэтага дня жанчыны пачалі дапамагаць Альяшу варочаць каменні і капаць зямлю. Руслёва Хрысціна, Пятрук Майсакоў з Грыбоўшчыны, Піліпіха з Празнікаў ды яшчэ некалькі чалавек нават пакідалі свае сем'і, зракліся гаспадарак і пабрылі па вёсках збіраць на царкву грошы.

Альяш нечакана аб'явіў, што прадае свае поле і балота. Жонка і падросткі-дзеці запратэставалі, узбунтаваліся, але Альяш адлупцаваў

усіх да сінякоў і зрабіў па-свойму. Пакінуўшы сабе з дзевяці толькі адзін гектар, Альяш прадаў зямлю, а вырučаныя грошы паклаў у агульную касу. Затым на ўсю суму накупіў цэглы, вапны, наняў рабочых, і тыя неўзабаве заклалі фундамент, пабудавалі сцены.

Засталося зрабіць купалы і аформіць будынак з сярэдзіны. На гэта патрэбны былі новыя сродкі. Зборшчыкі вярталіся ні з чым — у далёкіх вёсках Альяша ніхто яшчэ не ведаў.

— І гаспадарку звёў, і царквы не пабудаваў! — пасмейваліся з Альяша вяскоўцы.— З торбай па свеце пойдзе!..

Альяшу і на самай справе трэба было нешта прыдумаць.

Сярод багамолаў Рускай імперыі побач з Распуціным грымеў тады цудатворац Іаан Кранштацкі — протаіерэй Андрэеўскага сабора. Цяпер мы ўсе ведаем, што гэта быў буйны распуснік, бабнік, анархіст, а разам з Пурышкевічам — душа чарнасоценнага «саюза Міхаіла Архангела». Да ўсяго ён меў талент ачароўваць слухачоў пропаведдзю, валодаў гіпнозам, а для старых быў богам, і тысячы людзей валілі да Іаана, каб набрацца сілы ў змаганні з нядоляй.

Дзядзька Клімовіч загарэўся жаданнем таксама схадзіць да протаіерэя за дапамогай.

Летам 1906 года, калі пакасілі балота, Альяш узваліў на плечы мяшок з харчамі, і Руселіха, Піліпіха, Майсак ды іншыя багамолы праводзілі яго да вакзала ў Гродна. Адмахаўшы пеша пяцьдзесят вёрст, раніцой на другі дзень яны былі каля горада і селі над Нёманам снедаць. Была якраз пара канікулаў, і на рэчцы ў лодках каталіся хлопцы з дзяўчатамі, на беразе тырчэлі з вудамі рыбакі.

Паказаўшы на байдарку, Майсак загаварыў да Альяша:

— У такую лодку ні сена не накладзеш, ні мяшка бульбы не ўкінеш...

— Для распусты гэто!..— буркнуў Клімовіч.

— Хібо што!.. Або вунь рыбу вудзяць... Якая карысць з гэтакай работы!

— І па-мойму, як ужэ лавіць, то так, як ловяць яе ў Студзянскіх сажалках — кломляй або сеткай,— падтрымаў Альяш Майсака.— А то стаяць невядома колькі, пакуль павісне што на гэтую пугу... Дурнота адна, разбэшчанасць!

Рэшткі хлеба людзі ўкінулі ў торбы, і ўся кампанія пакрочыла на вакзал. Горад яшчэ спаў, і цяпер пачалі абурана бабы:

— Сонца ўзнялосо, а яны ўсё яшчэ ў пасцелях вылежваюцца! — дзівілася Піліпіха.

— У нас спіна паспее забалець да гэтай пары, так ужо наробішса!

— Бо жывуць з чужога мазаля і выядаюць усё смачнае, што ты вырадуеш ці зробіш! — растлумачыў Альяш.

— Ох і жыву-уць! — падхапіла Хрысціна.— Гэто ж яны булкай і цукрам кожны дзень ласуюцца, а ты купіш якога кухана ў нядзелю, то не ведаеш, як дома дзяліць!

— Адрыгнецца ім усё гэто!..

Жанчыну, якая праслужыла ў паноў гадоў з дзесяць, расчулілі ўспаміны:

— Бабы, каб вы адно пабачылі, дальбо,— сабакі ў іх ядуць смачней, чым нашы дзеці!.. У маіх быў кабель, то не кожную каўбасу еў!.. І ў аддзельным пакоі жыў!..

— У хаце?! — здзівілася Піліпіха.

— Дальбо!

— У іх нават і нужнікі ў пакоях! — заўважыў Альяш.— А паедзем, бывало, на манебры, і мой «ваша благародзя» бярэ з сабой лужаны гаршчок. Ноччу, падло, на двор лянуецца выйсці, раніцою яму вынось... Цьфу!..

— Ліхо іх ведае, як толькі панскія насы церпяць?!—здзівілася Хрысціна і з гонарам аб'явіла: — Свайго Жучка я нават і ў сені не ўпускаю, а дзеці ў мяне змалку прывучаны бегаць у прыстаўку!

— Праўда, бабы, не ўсе і тут на выгодзе жывуць.

Альяш і яго праважатыя выходзілі на перон. Зводдаль чмыхаў і пыхкаў параю паравоз. Замурзаныя змазчыкі рыхтавалі яго ў дарогу — абстуквалі малатком прыземістую машыну, закручвалі гайкі. Ля буфета пад брызентавым навесам тоўпіліся пасажыры першага і другога класа — элегантныя вайсковыя з шаблямі пры баку, свяшчэннікі і прыказчыкі з саквояжамі ды ўзбуджаныя яўрэі, якія заўсёды некуды спяшаліся. Важна, бы генерал на пастаменце, тырчэў сярод перона прыстаў у малінавых абшлагах.

Спалоханыя жанчыны глядзелі на ўсё гэта з насцярожанай цікаўнасцю.

— Ля, ён і праўда — увесь з жалеза!..— дзівілася Руселіха.— А дым і зверху і знізу валіць — фу, якое страхоцце!.. Альяш, а як ён ідзе?..

— У гэты жывот устаўлены вялікі кацёл. У ім грэюць ваду, каб кіпела. Пара з катла б'е па калёсах і штурхае цягнік!..

— А-а!..— хорам здзівіліся жанчыны з таго, як проста створана пачвара, і адразу страцілі да яе цікаўнасць.

— Каб што добрае прыдумалі, а—гэто!.. Чортавы фокусы!.. Ад іх уздоўж чыгуначнага палатна ўсе вёскі, лясы пагарэлі!.. Нават трава не расце, каровы перасталі цяліцца!..

— Бо-ожа, якая бяда на людзей!..— завохкалі бабкі.— Яшчэ паморак які-небудзь і да нас дойдзе!..

— Чаму ж свіней выкасіло так у нашай вёсцы? Усё ад гэтых фігляў!.. Чыноўнікі дапалі да грошай і, думаеш, храмы за іх будуюць?... Калі Пакроўскі сабор у Гродне пачалі, а вунь — у рыштаванні стаіць усё!.. Іхнія выдумкі давядуць, што шылам хлеб будзем есці!.. Трэ было б пеша дабірацца да Кранштата, ды не паспею да жніва вярнуцца.

— Далёко, Альяшку!..— паспачувала яму Піліпіха.— Ты ўжэ пацярпі на гэтым смярдзючым д'ябле, памолішса там і за нас, а мы памятаць будзем, як стараешса для вобчаства!

Латочніца з нафарбаванымі вуснамі паднесла пакет з гарэлкай.

— Купі, мужычок, у дарогу!.. Ліманады вазьмі, радзімы!..

Альяш зыркнуў на яе з-пад ілба:

— Памый свае лупы ў той лужыне!

Латочніцу нібы вадой змыла.

— А мо ўзяў бы ў дарогу сабе бутэльку якога-небудзь пітва, грошай табе мы ж сабралі...— асцярожна параілі бабы Альяшу.

— Не люблю забаўкі, лепш — вады напіцца.

Хрысціна прызналася:

— А мне здаецца, каб наесціса ўдоваль булкі з ліманадай, то больш у жыцці, дальбо, нічого не хацела б!

— Бо ты целу даеш брацъ верх над душой,— растлумачыў Альяш.— А ў мяне бог е, таму я над целам стаю!.. І трымаю яго так, як сказано ў пасланні апостала Паўла: «Чалавек павінен есці мало і толькі тое, што ваздзелае сваімі рукамі».

— А хібо я што кажу?.. Але, правільно робіш!.. Людзі — не жывёла, ім трэ стрымлівацца!.. Ты — вучаны і праведнік, а я — цёмная і грэшная баба, нічого з сабой не магу зрабіць.

Дзяжурны пазваніў на пасадку.

Альяш падняў мяшок, накіраваўся да цягніка. Цёткі, бегучы трухам за ім, пачалі прасіць:

— Умалі ты ўжэ, Альяшку, цудатворца Іаана, каб ён закінуў слоўцо перад госпадам богам — няхай прыйдзе, нарэшце, пагібель на Паўтарака!

— Дальбо, праўда!.. Як мы там не саграшылі за тых Голубаў, але няхай ён ужэ злітуецца, няхай адменіць кару. Скупілі мы даўно сваю віну, хопіць з нас мучэння!..

Альяш шпурнуў мяшок у тамбур і палез у вагон.

## 7

Кранштацкаму «цудатворцу» тады было ўжо амаль восемдзесят гадоў. Час, калі Іаан Кранштацкі раз'язджаў па вёсках і гарадах Расіі, а коннікі прабівалі яму калідор цераз натоўп, мінуў. Цяпер гэта быў знямоглы стары — азызлы і поўны, бы калода. Дзень і ноч Іаан маліўся, настырных ходакоў прымаў зрэдку. У такіх выпадках бедных разам з багатымі заводзілі ў залю, і пачыналася агульная гутарка.

Дабіўся, каб трапіць на прыём, і Альяш.

— Царкву будую, святы ойча!..— аб'явіў ён, калі пасля нейкага генерала дайшоў чарод і да яго.— Прадаў сваю зямлю... Восем гектараў, і будую во...

— У Гродзенскай губерні, на граніцы з Польскім царствам, айцец Іаан,— удакладніў памочнік.

Протаіерэй не верыў сваім вушам.

— Чуеце?! — здзівіўся ён.— Чалавек не па шчасце дзеля сваіх дочак сюды прыйшоў, як гэты генерал, не моліць, каб сусед яго згарэў, як моліць тая памешчыца, не сабе здароўя просіць, як іншыя, а пра ачышчэнне людскіх душ думае!..

Альяш меўся яшчэ расказаць, як не хапіла ў яго грошай, як выбіўся з сілы і ўжо страціў надзею, бо пачалі смяяцца мужыкі, але прысутныя ў зале глядзелі на яго з такой пашанай, што ён раптам адчуў у сабе нейкую дужасць.

Шчыра зацікаўлены протаіерэй чакаў, каб барадаты беларус сказаў што-небудзь яшчэ, але той маўчаў.

— Нават зямлю сваю прадаў?! — ажывіўся Іаан.— Гэта ахвяра пахвальная, мужыкі!.. За табой по-ойдуць!..— задумаўся ён.— Толькі, ведаю, не спадабаешся ты сваім бацюшкам, зайздросціць будуць яны твайму поспеху!.. Але ты, мужык, не слухай іх — рабі сваё, упарта ідзі па вызначаным табе божым духам шляху!..

Протаіерэй хацеў сказаць пра папоў нешта яшчэ, але, мусіць, асцерагаўся, каб не прычапілася кансісторыя.

— Усё рабі так, як падказвае табе тваё сумленнае сэрца — і блажэнны будзеш, сын мой, як блажэнны твае думкі і дзеянні!

Старац перахрысціў пілігрыма, нават пакланіўся, а за цудатворцам пакланіліся грыбоўшчынскаму дзядзьку усе, хто быў у залі.

— Ды ўсяліць бог у цябе сілы для тваёй пачэснай справы, ды захавае тваё здароўе,— урачыста скончыў старац.— Амін!

— Амін! — з пашанай прашаптала трыццаць чалавек.

І протаіерэй пачаў слухаць другога барадача — чалавека з Паволжа, які ўжо скардзіўся, што на свіней паў паморак.

Альяш прынёс цудатворцу некалькі рублёў у ахвяру. У канцылярыі протаіерэя грошы прынялі і выдалі Аляшу па ўсёй форме квітанцыю — на гербавай паперы з царкоўнымі знакамі. З такім бласлаўленнем самога Іаана Кранштацкага дзядзька Альяш і адправіўся дамоў.



А ў Грыбоўшчыне за гэты час разыгралася драма.

## 8

У вёсцы жылі тры браты Аўхімюкі — тыя, на каторых Паўтарак некалі дэманстраваў сваю сілу. Самы старэйшы брат, Іван, служыў у царскім войску, але потым захварэў на сухоты, і яго камісавалі. Базыль і Валодзька заставаліся на гаспадарцы.

Сядзеў сабе аднойчы Іван на лавачцы перад хатай ды грэўся на сонцы, а яго браты пілавалі дровы. Аднекуль з'явіўся п'яны Паўтарак, хапіў хворага за галаву і пачаў нагінаць яе да ног і кпіць:

— Ага, егдзіў на мне некалі па вёсцы?!

Прыляцеў на падмогу Валодзька, але бандыт піхнуў яго локцем, і хлопец апамятаўся пад плотам.

— Прызнавайся, егдзіў?!.

Іван пачаў вырывацца, потым прасіць:

— Не збыткуй, мы ж дзецьмі тады былі, што ты ўзду-умаў, пусці-і!..

— Не падабаецца?! Цурык!..— прыйшоў Паўтарак у лютасць.— Зараз я табе яе ў с... усаджу!

Валодзька зноў падляцеў да яго, але нічога не мог зрабіць. Сярэдні Аўхімюк, Базыль, з жахам пабачыў, што Іван ад натугі ўжо нават пасінеў і ў яго пацякла кроў з рота. Ён закрычаў старэйшаму брату:

— Ваня-а, пацярпі-і!..

І сам шмыгнуў у хату. Там, выхапіў з шафы дубальтоўку, праткнуў ствалом шыбіну;

— Ну, нягоднік, маліса, будзе цяпер табе крышка!..

Паўтарак узняў галаву і папярэдзіў:

— Кінь гэтым ігранца!

— Ого-о! — узвёў Базыль куркі: — Даўно я чакаў такога моманту...

Паўтарак хапіў наўкол брата і аб'явіў з выклікам:

— Страляй цяпер!

— А-а, хаваешса за іх, маладзец супроць аве-ец!!. Збаяўса?!

— Хто-о, я-а?! — Паўтарак адапхнуў ад сябе перапалоханых Базылёвых братоў і ўсім сваім каржакаватым корпусам павярнуўся да акна, узяўся паўбокі: — Ну, паглядзім, які ты адважны!..

Базыль давёў мушку і бабахнуў бандыту ў жывот двума зарадамі.

— М-м, то ты гэ-этак?! — ахутаны белым дымком, узвыў Паўтарак.

Задыхаючыся ад болю і падтрымліваючы акрываўленымі пальцамі вантробы, бандыт палез у хату.

— Я ўсё ваша гняздо-о спляжу!..— хрыпеў ён.— Усіх я вас зараз... Цурык!.. Угробіць мяне не так лё-огко, цурык!..

Валодзька прыпёр з хлява касу. Абяссіленага ад страты крыві Паўтарака браты збілі з ног і перарэзалі яму горла.

## 9

У той самы дзень Аўхімюкоў забралі ва ўчастак у Крынкі, а ўсю акругу агарнула радасць. Багамолкі, аж не помнячы сябе, бегалі ад хаты да хаты і цвярдзілі:

— Ага, усявышні паслухаўса просьбы Альяша, выбавіў нас ад бяды!

— Гэто — знак божы! Дараваў усім нам бог за Голубаў!..

— Якое шчасце, што чалавек божы сярод нас жыве!..

— Пабачыце, як цяпер будзе ўсім нам добра пад яго апекай!..

Піліпіха, Руселіха, Майсак пабралі ў Востраве царкоўныя харугвы, склікалі бабаў, мужыкоў, і натоўп адправіўся ў Гродна спатыкаць святога чалавека, што ўратаваў вёску. Людзі чакалі яго на вакзале трое сутак і з песнямі ды малітвамі павялі ў Грыбоўшчыну.

Вестка пра тое, што Іаан Кранштацкі прызнаў грыбоўшчынскага прарока, абляцела сёлы. Багамолы здалёк прыходзілі да Альяша і каб паглядзець на святую паперку са знакам цудатворца. Умомант людзі стварылі легенду.

— Пагаварыў Іаан Цудатворац з нашым Альяшом, пакланіўся яму, блаславіў на будаўніцтва дый кажа: «Ты, Ілля, не гневайса, але грошай ад цябе я не прыму. Як выйдзеш за Кранштат, аддай іх першаму чалавеку, каго напаткаеш!» Альяш так і зрабіў — трапіўся яму салдат. Хлопец надто ўзрадаваўса: «Прыдаліса твае рублі мне, ойча!.. Я растрату ў казне зрабіў і тапіцца ў Фінскі заліў ішоў ужэ!..»

## 10

Ішоў год за годам. Альяшова жонка падарвалася на рабоце і памерла. Сын, пасварыўшыся з ім, пайшоў добраахвотнікам на фронт. Дочкі павыходзілі замуж і адракліся ад бацькі... А ён рабіў сваё. Нават у часы сусветнай бойні раз'язджаў па імперыі са скарбонкай.

Грамадзянская вайна сабраныя Альяшом рублі абясцэніла. Між Грыбоўшчынай і СССР пралягла граніца — нястомны Альяш пачаў усё спачатку. Яго сябры — Майсак Пятрук і Данілюк Аляксандр адправіліся нават у Канаду на лясныя работы і праз два гады прывезлі на царкву долары...

І вось за сабраныя такім чынам сродкі ў 1926 годзе Альяш Клімовіч, хоць застаўся без зямлі і сям'і, але храм такі пабудаваў. Выйшла звычайная цэркаўка, што белым ячкам цяпер прыгажэла на ўзгорку.

Будавалі яе самавукі-дойліды — людзі з бліжэйшых вёсак — без ніякіх, вядома, чарцяжоў, прыглядаючыся больш да Крынкаўскага касцёла, таму і ёсць у ёй нешта ад готыкі. Альяш Клімовіч апраўдваў гэта тым, што да яго ў сне прыходзіла маці божая і загадвала будаваць менавіта так. Гэтая пагудка яшчэ больш ускружыла галаву вясковым маладзіцам ды кабетам.

# РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## 1

Ішоў 1928 год.

Маршалак Пілсудскі канчаткова замацаваў клерыкальна-буржуазны лад. Па ўсёй краіне паны далі каманду: на службу браць толькі каталікаў, у афіцэры — палякаў, натарыусы нават купчую на зямлю афармлялі толькі тым, хто хадзіў маліцца ў касцёл.

У Заходняй Беларусі паліцыя разагнала нацыянальныя арганізацыі, іхніх кіраўнікоў садзіла ў турмы. Беларускія школы, клубы былі пазакрываны. У варшаўскім сейме міністр асветы Скульскі аб'явіў:

— Запэўняю вас, паны паслы,— праз дзесяць год у Польшчы і са свечкай не знойдзеце ніводнага беларуса!

Цёмных і абяздоленых нашых сялян, якія не мелі традыцый падпольнай барацьбы і засталіся без кіраўнікоў, агарнула апатыя, песімізм. Аднак энергію людзям трэба было некуды дзець. Наступілі спрыяльныя ўмовы для хваравітай праявы духоўнага жыцця.

...Успрынядце грыбоўшчынскага дзіва для мяне ішло праз падзеі ў сям'і.

У нашай хаце жыла бацькава сястра Хімка. У 1915 годзе яна разам з усімі паехала ў бежанства аж у Казань. Калі ж наступіў час вяртання, цётка, пакінуўшы дачку і сына ў Расіі, прыехала ў вёску адна. Дзяцей думала забраць потым, ды нечакана ўстанавілася цвёрдая граніца — у Казань больш не пускалі.

Спачатку Хімчын сын пісаў, што вучыцца на лётчыка, а дачка — на доктара, але сувязь з дзецьмі паступова знікла, і Хімка ўжо даўно не мела вестак ад іх. Затое даходзілі жудасныя чуткі з Расіі: быццам там аруць на жанчынах, а дзяцей, бо няма чым карміць, забіваюць, высушваюць, мелюць на муку і пасыпаюць ёю палі сельскіх камун..

Поўная непакою і вінаватасці, асуджаная вёскай, што пакінулэ дзяцей адных на чужбіне, цётка Хімка пачала ўпадаць у містыку. Яна чакала нейкага цуда.

Аднойчы прыбягае дадому, а за ёю чарада дзяцей, і крычыць:

— Паслухайце, брат і брацiха!.. То ж на святым узгорку ля Грыбоўшчыны ўзнікла святая царква з цудатворнай іконай божай маці на грушы!..

— І ты бачыла? — высмеяў яе бацька.

— Людзі кажуць!

— Толькі іх слухай! — сурова адчытаў яе брат.— Няма табе іншага занятку?! Жыла б сабе ў Расеі з дачкой ці сынам, як пані, мо і ўнукаў гадавала б цяпер, а так здзяцінела ўжэ зусім, лётаеш па вёсцы ды байкі выдумляеш!

Але Хімка нават не пакрыўдзілася — да братавых нападак прызвычаілася даўно — і падалася на вуліцу. За ёю сыпнулі дзеці.

Дзеці за Хімкай прападалі. Сын яе меўся прылецець у Страшава на «ераплане», і цётка абяцала: «Яшка абавязкова кожнага пакатае па небе». У Хімчыным сундуку ляжаў партрэт барадатага Мікалая II і стосік папяровых грошай з двухгаловым арлом. Цётка запэўніла малых, што вось-вось вернецца на прастол цар, яна разбагацее, і малыя тады зажывуць...

На вуліцы Хімку чакалі суседкі. Кабеты загаварылі пра такія навіны, што ў малых закружылася галава.

— Чула і я! — падхапіла вестку Сахарыха.— За адну ноч царква там, кажуць, вырасла з зямлі, як грыбочак!

— Ну,— пацвердзіла ўжо і Кірыліха.— Раніцой людзі паўставалі, глядзь у вокны, а там — дзіво!..

Хімка пасмяялася:

— І царква прыгожая, кажуць, бы лялька!.. А правіць у ёй прарок Альяш!..

— Бабы, той самы чалавек, што з нашымі мужыкамі ў Студзянскім лесе сосны пускаў!

— Ах, бо-о!..

Усе яны былі ўдовамі, мужыкоў іхніх забрала імперыялістычная вайна. Жанчынам трэба было хутка паміраць, а ні разу іх ніхто не па-

шкадаваў, не сказаў добрага слова, не выслухаў. Не толькі нашая цётка Хімка не мела радасці ад дзяцей: Кірылішын Валодзька і Сахарышын Юляк займаліся палітыкай, паліцыя іх цягала па турмах і пастарунках.

Пакаленні гэткіх цётак у мінулым знаходзілі суцяшэнне ў царкве. За тысячагадовую гісторыю рэлігія выпрацавала традыцыі, якія глыбока ўвайшлі ў свядомасць людзей. Усё было прадбачанае. У маўклівага селяніна, каторы цяжка працуе на полі, з'яўлялася нястрыманая, як сверб, цяга да чагосьці духоўнага, жыла неабходнасць час ад часу перад кім-небудзь выліць душу. Сваякі, сябры для гэтага занадта блізкія, селянін лёгка давяраў свой сакрэт і боль асобе аўтарытэтнай, але пабочнай — папу, які цярпліва слухаў, супакойваў, знімаў грахі і даваў парады. Але мянялася жыццё, мяняліся норавы, звычкі, традыцыі.

Бабкі спахапіліся, што бацюшка з нашага прыходу вельмі ім далёкі. Свяшчэннік да цётак не хаваў гідлівасці, мыўся ў нейкай там лазні, кожную суботу ездзіў у далёкі горад, а покуль сесці за стол снедаць, спецыяльнай шчоткай чысціў сабе зубы.

Аднойчы Хімка прадала дзве курыцы і панесла бацюшку грошы:

— Ацец Уладзімір, гэто за здраве майго Яшкі, каб ён там не лётаў надто высоко, не выхіляўса з вераплана свайго над Казанню!. Я яго ведаю — яшчэ малым усюды нравіў залезці! Памаліса за яго, ацец Уладзімір!.. Памаліса заадно, каб маю Маню хворыя любілі і галава ад лякарстваў ёй не балела!..

Бацюшка не стаў Хімку слухаць, нават зазлаваў.

Кірыліха і Сахарыха аб сваіх сынах, бязбожніках, з ім нават баяліся гаварыць. Затузаныя бабкі, бы за славутую саломінку, схапіліся за вестку з Грыбоўшчыны, яны ўраз паверылі ў тое, што выдумалі самі, а іхнія збедаваныя і ўстрывожаныя душы пацягнула да Альяша.

— Во, цяпер уздыхне-ем! — узрадавалася Кірыліха.

— Вядомо! — гаварыла Сахарыха.— Бо прарок — свой мужык! Такі цябе і выслухае, зразумее, і дапаможа, нават вылечыць, залечыць тваe раны, а беднаму яшчэ і грошык дасць на дарогу!

— Свой свайго зразумее! — ківала галавой Кірыліха.

— Кажуць, жонаў-міраносіцаў склікае да сябе! — заявіла Сахарыха.— Мая стрыечная сястра з Меляшкоў — тая, што мужык з хаты выгнаў за блуд,— ужэ адправілаunion да яго!..

— То і мне мо падацца ў міраносіцы?..— задумалася Хімка.— Усеадно я адная...

— Ідзі, не думай вельмі. Святой, Хімачка, станеш!..

## 2

Памалу вестка аб цудзе ахапіла вёскі і хутары, як лясны пажар. І не мела значэння, што навокал былі сведкі, якія ведалі падрабязна, як узнік храм і што за прарок з'явіўся ў ім.

Людзі павалілі ў Грыбоўшчыну.

Нашая Хімка пачала рыхтавацца ў паход пасля таго, як прысніўся ёй прарочы сон.

— Ах, сніцца мне, бабы, — апавядала яна раніцой,— што я нібыто сяджу за сталом у мамы і трымаю пяро, а перада мной во так сшытак ляжыць. І хтось мне кажа з-за спіны: «Пішы і глядзі, не азірайса!..» Я абмакнула пяро, толькі хацела паднесці да паперы, ды чарніло — кап! на чыстую старонку — вядомо, як перастала хадзіць у школу, трыццаць пяць гадоў не трымала ручкі!.. І я, бы маленькая, нагнулася ды кляксу злізнула. Цяпер перад сабой бачу ў люстэрку, што мой язык — чорны, бы тарфяніско!..

— Ох і на кепскае ж гэто, Хімачка, прысні-ілaсо!..— паспачувала ёй Агата і ўсхліпнула: — Што цябе чакае, бе-едную!..

— Але слухайце далей, цётку Агато, што яшчэ будзе!.. Тады той нехто з-за спіны зноў кажа: «Пішы!» А я: «Дай мне новы сшытак, бо гэты мокры!..» Бачу, ён мне цераз плячо падае другі сшытак, а язык мой ужэ пабялеў!.. І во я пішу, не азіраюсо. Тое штось я напісала на левай старонцы, а правая, а пра-авая ў мяне — белая. Кажу: «Скончыла, але яшчэ столькі месца чыстаго, што рабіць?» А голас: «А ты добра падумай!» Прачынаюса, і, ведаеце, бабы, мяне раптам бы пчала ўджаліла, так асяніла здагадка. Спісаная папера — сорак тры гады майго жыцця, усе мае беды і мэнкі. Клякса — мой цяжкі грэх, кінутыя на чужбіне дзеці. Чыстая старонка — другая палавіна жыцця!.. Бог знімае грэх,— ачысціў язык, наказвае ісці да Альяша і пачынаць жыццё нанова!.. І мне адразу стало так фай-іно, лё-огко на душы,— ужо радасна апавядала Хімка,— як пасля споведзі бывало да замуства. І я падумала — божа, раз ты адкрыў мне ў сне вочы, цяпер табе буду вернай ва-век!.. Пайду, на каленях папаўзу ў Грыбоўшчыну, стану і я жаной-міраносіцай!

Пару дзён таму назад бабы самі раілі Хімцы ісці ў Грыбоўшчыну, а цяпер іх агарнуў забабонны жах. Яны павохкалі над Хімкай, нібы над страчаным чалавекам, нібы над святой, ды разышліся па хатах, каб расказаць мужыкам пра дзіва. Але цётку Хімку гэта ўжо не цікавіла — яна занялася зборамі.

З глінянай місы зачарпнула жменю солі і так церла свае жоўтыя і шырокія, як лапатачкі, зубы, што яны аж пабялелі. Потым вымыла галаву, старанна пашмаравала валасы маслам і сплялa косы. Тады намачыла ногі, нажом пашкрэбала пяты. Нацягнуўшы свой лепшы андарак, Хімка нарыхтавала торбачку з ежай, склала цёплую хустку, палічыла свае грошы і загадала мне з Валодзькам:

— Хлопцы, бяжыце на скрыжаванне дарог пад Дубава і ўзірайцеса. Калі зноў будуць ісці ў Грыбоўшчыну, тым пэндам мяне клічце!

Сама яна ўпала на калені перад абразом, пачала чытаць з малітвенніка акафіст божай маці.

Мы з Валодзькам стаялі за вёскай можа з гадзіну.

Нарэшце з Дубаўскага лесу выплыла нешта жывое, пачало выцягвацца і распаўзацца па полі — ішлі кобрынцы. Дзядзькі ў пасталах з торбачкамі цераз плячо, наперадзе неслі абразы і харугвы з шаўковымі махрамі. Святыя лікі глядзелі з харугваў ганарліва і некуды ўдалечыню, сонечныя зайчыкі бліскалі ад абразоў. Людзі нешта заспявалі.

Покуль мы клікалі Хімку, кобрынцы прайшлі да вёскі ўжо з паўдарогі. Песня якраз скончылася, і дзед у пасталах з новымі аборамі паверх кужэльныхануч і ў касаваротцы з такога ж палатна не надта гласна кінуў у натоўп:

— Радуйся, лучь солнца мысленного! Ну, паўтарайце за мной!

— Радуйся, лучь солнца мысленного! — адказаў яму бязладны хор незнаёмых цётак і дзядзькоў.

Цётка Хімка забрала ў нас клункі, цмокнула кожнаму ў шчаку і нырнула ў воблака пылу, прыстроілася да калоны.

— Радуйся, как гром врага устрашающая! — крычаў дзед.

— Радуйся, как гром врага устрашающая! — падхапіла Хімка, як

песню, першы рэфрэн, а мы заганарыліся цёткай: усе словы малітвы яна ведала напамяць, паўтараць ёй будзе лёгка.

— Радуйся, лучезарный свет ты источаешь!..

— Радуйся, лучезарный свет ты источаешь!

Пілігрымы ўваліліся ў вёску. Высыпалі з хатаў і застылі ля платоў страшаўцы. Міма іх тупалі дзесяткі пасталоў. Саплі чужыя людзі. Стары кобрынец у касаваротцы зачынаў зычным, маладжавым голасам. Дружныя і моцныя галасы зараз жа паўтаралі, а будынкі з ляскатам адбівалі рэха.

— Радуйся, скверну грехов отнимающая!

— Радуйся, скверну грехов отнимающая!

— ...св отнимающая!

Рэфрэн быў падобны на рытмічныя выбухі нейкага адчайнага енку, пранізваў аж да сэрца. Страшаўцы нерухома слухалі, узіраючыся на працэсію.

Ачмурэлыя ад гэтай манатоннай песні, з бліскучымі вачыма багамолы прайшлі Страшнёўскі брук, узнялі зноў пыл на гасцінцы і павалілі туды, дзе спадзяваліся знайсці збавенне ад нэндзы, бяды і гора.

## 3

Калі такая працэсія падыходзіла да нейкага сяла, яе там ужо чакалі дзве-тры багамолкі. Мясцовыя гаротніцы з разбуджаным, як у цёткі Хімкі, болем, з няяснай надзеяй, склаўшы ў экстазе рукі, падалі ніцма перад працэсіяй і заміралі. Потым паднімаліся, ускідвалі клункі на плечы і пляліся за ўсімі.

Людскія патокі зліваліся ў цэлыя рэкі народу. Акрамя свае мары, надзеі, крыўды, багамольцы неслі ў Грыбоўшчыну гаротныя залатоўкі, у фурманках валаклі божаму чалавеку мяшкі аўса і пшаніцы, торбачкі круп, звойцы кужалю і дубленыя кажухі, ручнікі і дываны...

На алтар ахвяры аддавалі самае лепшае і каштоўнае.

Людзі везлі не проста ручнікі, а — з душой і сэрцам адмыслова вышытыя шэдэўры, вартыя сусветнай выстаўкі народнага мастацтва. Ваўняныя дываны былі вытканыя на восем, дванаццаць, а то і на дваццаць чатыры ніцельніцы...

Самі елі мяса альбо не, але ў саламяных фасовачках везлі Альяшу яшчэ і вэнджаныя каўбасы, у палукашках — звязаных бараноў і авечак.

Вялі таксама хворых, калек, а па хатах ляцела вестка:

— Нямко з-пад Навагрудка загаварыў!

— Маладзіца з Бельска не мела дзяцей, Ілля над ёй памаліўся, і яна зацяжарыла!

Памятаю, прыходзяць да нас Кірыліха з Сахарыхай і расказваюць. Першаю пачынае Кірыліха:

— Хлапец з Бельска ад нараджэння меў бельмы, прывялі яго ў Грыбоўшчыну, і вочы адразу сталі чыстымі, чыстымі, бы расінкі!

— А да калекі з Дзярэчына святы Ілля толькі дакрануўся, калека адкінуў кульбу і пайшоў!..— дадае цётка Сахарыха.

— Так адразу!..— усумнілася мама.

— Бо — раз-два, і нага адрасла!.. — ўдакладніла Кірыліха. — У тым месцы, дальбо, у яго толькі шрам застаўся, каб людзі памяталі, што бог стварыў цуд!

Яе старэйшы сын быў цяжка хворы. Каб лячыць яго, не хапіла б і ўсяе Кірылавай гаспадаркі.



Бачачы, што мама яшчэ сумняваецца, цётка пачала горача яе пераконваць:

— Манька, паглядзела б, што там робіцца!.. Бы тых дроў, усякіх кульбаў валяецца ля царквы!.. Нават возікі на калёсах ад равэраў пакідалі... А сляпыя, што сталі бачыць, цэлую гару з сініх акуляраў насыпалі. А яшчэ дзіво: хто туды ідзе, ногі, бы валавам наліваюцца ад стомы, а назад — як на крыллях нясе іх божая сіла!

Кірыліха ў Грыбоўшчыне ні разу не была, мама хацела пра гэта сказаць, але ўспомніла яе калеку Васіля і прамаўчала.

Легенды пра цудадзейнасць Альяша тэлеграфам без дроту маланкава разыходзіліся па ўсёй Прынёманшчыне. Даходзілі і ў далёкае Палессе, за Вілейку і Нарач, нават — аж у Заходнюю Украіну, на Валынь.

Грошы да Альяша цячы не пераставалі. Раз у суткі святы айцец сваю выручку запіхваў у конскую торбу, вёз у Крынкі для падліку, а тады ў збанках закопваў пад хвойкай. Застаўшы пастушкоў, калі тыя яго манеткамі гулялі ў «арла і рэшку», Альяш пачаў выручку хаваць у гумно. Аднак і тое месца было не надзейнае.

Два вясковыя вартаўнікі аднойчы схаваліся ад дажджу ў Альяшоў будынак. Адзін з іх незнарок адкінуў снапы, а там — банкноты. Покуль другі муляўся — браць ці не, той нагроб сабе ў кішэню сем тысяч злотых (потым добрую хату пабудаваў у Саколцы), а святы нават не заўважыў прапажы.

Жулікаваты пляменнік пацягнуў у Альяша тысяч дзесяць.

Царкоўным вартаўніком Альяш наняў Фэлікса Станкевіча. Хітры Фэлюсь аднаго разу старога напалохаў чортам і выграб усё, што за святочны дзень знеслі багамольцы.

Крынкаўскія гандляры адзін перад другім куплялі ў прарока падарункі, вазамі вазілі дабро з вёскі. Іншыя аж біліся за права лічыць штодзённы Альяшоў збор.

З Гродзенскай настаўніцкай семінарыі, з Беластоцкай гандлёвай школы туды зачасцілі студэнты на заробкі. Хлопцы нейкі час мелі выгодную крыніцу нажывы. Адзін мой знаёмы дзякуючы Альяшу скончыў нават сярэднюю школу.

Грашовыя ахвяры пілігрымы складвалі ў горбачкі перад абразамі. Студэнт на каленях дапаўзаў да божай маці, старанна біў паклоны і губамі стараўся захапіць як найбольш залатовак. Тады выбіраўся на двор, перакладваў грошы ў кішэню і наравіў зрабіць другі заход. З усяе Польшчы хлынулі ў Грыбоўшчыну зладзеі і жулікі.

— Матко, абнавіць вам абраз? — прыставаў іншы да гаспадыні, трымаючы ў бутэльцы нейкую вадкасць і пэндзаль.— Будзе свяціцца, аж ззяць і танна каштуе!

— У нас сваіх цудаў хапае! — выправоджвалі гэткіх цудатворцаў мужыкі.

Мабыць, толькі «абнавіцелям» у Грыбоўшчыне і не шанцавала. Затое іншым прайдзісветам пажыва тут была немалая.

Аднаго разу ў Гуранах да Касцюкевіча Мірона зайшоў малады і рухавы паўпанак з Беластока і прадставіўся гаспадару:

— Я — Вацак. Патрэбен конь на цэлы дзень. Дам пяць злотых!

З палявой работай Мірон якраз управіўся, конь вольны, пяць злотых не валяюцца.

— Бочка ў цябе знойдзецца? — бойка пытаўся далей Вацак.

— Хібо тая, што гуркі зімой былі?! — падумаў услых Мірон.

— Абы не працякала, валачы!..— энергічна закамандаваў госць.

Яны заехалі ў Вострава да калодзежа і набралі поўную бочку вады. Паўпанак уліў у яе бутэльку сіропу, кіёчкам памяшаў.

— Едзь пад царкву!

На святым узгорку іх адразу абступілі.

— Пяць грошаў за шклянку! — аб'явіў Вацак і закрычаў: — Што вы, як быдла?!.. Ану, выстраіцца мне ў калейку!

За трэцім заездам у Вострава прайдзісвету не хапіла сіропу, але людзі плацілі і за несалоджаную ваду.

Побач з тым месцам, дзе гандлявалі калодзежным пітвом, шчоўкаў затворам фотаапарата, браў задатак і нават выпісваў квітанцыі ды абяцаў праз тыдзень фота Вацакаў сябар. К абеду «фатограф» раптам склаў сваю трыногу, падышоў да Вацака, нешта шапнуў. Вацак дастаў жменю манет, працягнуў фурману:

— Бяры сваю долю і валяй дамоў!..

Мірон набраў манетак роўна на пяць злотых.

— Ідыёт!.. — пацісну́ў плячыма махінатар, пазіраючы на Касцюкевіча.

Абодва паўпанкі ўвайшлі ў царкву, расштурхалі бабак, дабраліся да абраза божай маці і на вачах у людзей напхалі сабе кішэні купюрамі.

Покуль ашаломленыя святататцтвам бабкі апамяталіся і загаласілі, жулікі былі ўжо на вуліцы. На цвінтары ўзняўся лямант. Мужчыны кінуліся за зладзеямі, але тыя ўжо зніклі ў хвойніку.

Гэта быў звычайны эпізод, пра яго да вечара забыліся.

Аднак у прарока і пасля пакраж заставаліся сумы не малыя. На здаровы розум, з такімі сродкамі Клімовіч і праўда мог бы што-небудзь карыснае зрабіць народу — пабудаваць школы, бальніцы, дапамагаць бедным, але ён ад гэтага быў далёкі.

Нават калі хто з вяскоўцаў прыходзіў да Клімовіча пазычыць на карову, бо дзеці раслі без малака, ён грошай не даваў.

Аднойчы яго зяця завезлі ў Беластоцкую бальніцу выразаць «сляпую кішку», і да Альяша раніцой прыбегла ўсхваляваная дачка.

— Дзень добры, тату!.. Ну, як жывеце вы тут?! — акінула яна позіркам бедную хаціну.— Столькі гадоў дома не была!.. Ой якое ў вас усё чо-орнае і бру-уднае!.. Не мыеце нічога, нават не падмятаеце, чаму-у?!

Толькі цяпер яна ўбачыла дзвюх кабет-міраносіц, якія за бацькавым ложкам перабіралі свае транты, і абурылася:

— Няўжэ не могуць дапамагчы вам гэтыя кватарантκі?!

— Калі ваш тато не хо-очуць, каб мы прыбіралі яму! — уставіла вінаватая цётка Хімка, якая тады якраз начавала ў Альяша.

— Ланно, потым навяду парадак, цяпер я да вас па справе!

Дачка суцішыла голас і папрасіла:

— Тату, дайце грошай. Дахтары патрабуюць дзвесце злотых за аперацыю і гавораць, калі не заплачу напярод, да Волеся і падступацца не стануць.

— Нікому не даю! — закруціў галавой бацька.

Дачка і не спадзявалася, што стары адразу споўніць просьбу, не пакрыўдзілася. Падсела да яго на лаву:

— Каб быў які хваравекі, а то — гэткі здаровы мужчына!.. Ніколі не хварэў!.. Богам малю — дайце, тату!.. У вас жа і так раскрадваюць іх, хто хоча!.. Не шкадуйце дзеля такой справы!.. Дахтарам што?! Памятаеце Балейку з Гарадка?.. Ён не заплаціў, так жонка і памерла на калідоры ў бальніцы.



Стары зацята маўчаў.

— Загіне Волесь, застануцца сіроты, што ж я з імі рабі-іціму, у-гугу-у!..— паспрабавала яна разжаліць яго слязьмі.— Вы мяне замуж аддалі без ніякага пасагу, то пашкадуйце хоць цяпер, што для вас значыць дзвесце злотых!..

— Не магу, Вольга, царкоўныя яны, не мае, грэх мне іх раздаваць! — уздыхнуў ён цяжка і хвіліну памаўчаў.— Дасць бог — чалавек твой не памрэ. Валасінка не спадзе з галавы нашай без волі боскай...

Ашалелая маладзіца нейкі час тупа глядзела на бацьку.

— А-а, то вы ўсё такія ж са-амыя?! — раптам яе прарвала.— Так слухайце, цяпер я вам скажу праўду!.. Вартаўнік ваш, Фэлюсь Станкевіч,— злодзей!.. Ён вас абакраў!.. Ніякага чорта ў царкве не было тады!.. Фэлюсь упусціў вам чорнага пеўня праз акно!.. Вы з царквы пабеглі, а ён забраў грошы і перадаў швагру! А швагер адразу купіў малатарню, астатнія паклаў на кніжку і цяпер з вас смяецца!.. Праз гэтую царкву вы зусім здурэлі!.. Што каля вас робіцца — не бачыце.

Альяш сумеўся.

— Як са мной гаворыш?! Вучыць мяне ўздумала?!

Багамолкі, апусціўшы галовы, маўчалі. Адчуўшы, што бацьку не ўпросіш ні плачам, ні ўгаворамі, Вольга пачала крычаць:

— Слухайце, я не скончыла яшчэ!.. Праз яе вы і маму загналі ў магілу!.. І Толік праз яе на вайну пайшоў!.. З-за яе часамі і я пачынаю ў бога не верыць!.. Бо, здаецца, калі б ён быў там на небе, то даўно паслаў бы пяруны на вашу паршывую царкву!

— Госпадзі, Іісусе!.. — перапалохана захрысцілася міраносіца з Меляшкоў.— Даруй ёй грэх яе!..

— Не гняві бога! — падняўся з лавы Альяш.

— Кажыце сабе, што хочаце, я вываліла, што думала!

— Як гаворыш з родным бацькам, пытаю?!

— Які вы мне бацько?! Ці вы мяне хоць адну зіму ў школу з іншымі дзяцьмі пусцілі?.. Ці вы мяне, як была малой, хоць на воз куды з сабой узялі?..

— Папракаць мяне ўздумала?! Ты павінна мне ў ногі кланяцца! Даўно я цябе крапівой не сцябаў, распуста!..

— Во-во, ці хоць раз я ад вас добрае слова пачула?.. Ці вы мне калі хоць раз булку купілі?!

— Пра булкі загаварыла?! Не аб душы, а вунь пра што ўспомніла, аб распусце?! — закрычаў разлютаваны Альяш.— Плявузгаць на роднага бацьку прышла?! Хібо я пры сваім так пасмеў бы? Хібо я бацькоў сваіх...— ён азірнуўся, каб хапіць што-небудзь у рукі, але ж раздумаў: — У-у, параспускалі вас усіх гарады, бога забыліся!.. Мало я цябе, малую, дзяжыў, заменак ты!.. Марш, вырадак, з маёй хаты, марш адгэтуль, бязбожніца!

— Ат, нічога, бач, ужэ вас не пераменіць! — устаючы, уздыхнула раптам паспакайнелая Вольга, і голас у яе зрабіўся цвёрды.— Можаце не выганяць, пайду сама! — накіравалася Вольга да дзвярэй!..

— Яшчэ грошай царкоўных дай ёй, бачылі вы?!

— Годзі ўжэ, не трэ!.. Пайду прасіць у крынкоўскага Хайкеля!

— Ідзі, ідзі, бязбожніца!.. Крыжа на табе няма!.. Бальніцы захацеласо?! Давядуць вас гарады са сваімі выдумкамі, пачакайце, усе ў пекле будзеце!

Ля парога Вольга прыпынілася і з гразьбою сказала яшчэ:

— І пайду. Пайду да чужых людзей, наймуса служанкай, найму-

са да найгоршай работы, а Волеся выратую! Адно запамятайце, тату: і ўнукам закажу, каб не прызнавалі і нават не глядзелі ў ваш бок!..

Вольга бліснула злымі вачыма на багамолак:

— Заставайцеса тут з гэтымі сваімі дурніцамі!.. Цьфу на вас, за Волеся, за Толіка, за маму, і пракляну я вас на векі вечныя!

Вольга бразнула дзвярыма і пайшла.

Жанчыны кінуліся супакойваць старога. Хімка, якая потым у нашым доме апавядала пра гэтую сцэну, асцярожна ўставіла:

— То, Альяшку, бог не пакрыўдзіўся б, не пакараў бы мо цябе за такое!.. Усё ж такі — роднае дзіця, свая крывінка!.. Даў бы ты ёй, што яна прасіла!

— Я ім—крынкаўскі ліхвяр, па-твойму? — вызверыўся прарок.— Я ім — працэнтнік! Ого, чаго захацелі!.. Адно пачні пазычаць, і пабягуць да цябе галадранцы, казначэем зробішса на вёсцы!.. Адзін табе верне, другі — не, пачнецца зайздрасць, абгавор, хібо не ведаю іх?!

— Я так толькі сказала, табе відней,— перапалохалася, каб не выгнаў з хаты, Хімка.

— І праўда, Ілля,— падлашчылася Сахарышына швагерка.— Гадуй, гадуй дзіця, і ад яго табе потым ніякай ні пашаны, ні дапамогі, толькі — крыўда ды сорам!

— Сама бачыш, як шануюць цяпер яны бацькоў!..

...Людзі з Грыбоўшчыны памятаюць толькі адзіны выпадак, калі Альяш парушыў сваё правіла.

Ехаў ён у Пачапкоўскае лясніцтва. Мікалай Чарнецкі, што араў пры дарозе, заўважыў — з Альяшовага воза штосьці ўпала. Араты крыкнуў фурману, выйшаў на дарогу ды падняў конскую торбу.

— Але і цяжкая яна ў вас! — здзівіўся Чарнецкі, узважваючы на руках Клімовічаву торбу.— Вы свайго буланчыка, дзядзьку Альяш, чыстым *аўсом* корміце ды *яшчэ солі* сыплеце!

— Ты глядзі, як жа ў мяне вы-валіласа?! — замітусіўся стары.

Альяш развязаў вузел, і Чарнецкі ледзь не абамлеў, убачыўшы столькі грошай.

— Бяры сабе тры жмені за гэто! — прашаптаў Альяш, быццам іх хто-небудзь мог на полі падслухаць.

Чарнецкі збянтэжыўся.

— Бяры, бяры!..— таксама разгубіўшыся, угаворваў Альяш Мікалая.— Хату сабе накрыеш дахоўкай!.. У Стоках цяпер вырабляюць надто добрую — ніякі вецер не паб'е...

Але і гэты выпадак здарыўся потым, калі Альяша вынесла на вяршыню славы, і ён да таго падабрэў, што пачаў нават мяняць натуру.

Альяшова багацце разыходзілася абы-як. Альяш купляў вялізныя распяцці з пазалочанымі ланцужкамі, цэнтнеры свечак, сярэбраныя кадзілы, размаітыя царкоўныя рэчы. Пасылаў людзей па абраз Жыровіцкай божай маці, у апраўе з чыстага золата.

Клімовіч быў поўны забабонаў і містыкі. Каб упэўніцца ў гэтым, нармальнаму чалавеку дастаткова было на яго раз зірнуць.

## 4

Прарока давялося мне бачыць яшчэ ў дзяцінстве і запомніць яго на ўсё жыццё. Толькі спатканне з ім выклікала трагічны пералом у маёй псіхалогіі і патрабуе падрабязнага апісання. Бо пра Альяшову эпапею я цяпер апавядаю рэтраспектыўна, з пункту гледжання цвярозага і сталага чалавека, а ў дзяцінстве я глыбока верыў у бога, у замагільнае жыццё. Я і ў думках не дапускаў, што настане час і мяне не будзе.



Бацюшка маляўніча апавядаў нам аб тым свеце на ўроку рэлігіі, а ў нашых суседзяў — у Клемусавага Сцяпана і Малога Рыгарулькі ляжала на сталах біблія, там пра ўсё было напісана і паказана на страшных малюнках.

Я быў упэўнены, што ў вялізных катлах са смалой будзе кіпець настаўнік Янкоўскі, які высмеяў мяне перад класам, што я не ведаў, як па-польску называецца матылёк. Будзе там смажыцца і стары Ціванюк, што цкаваў мяне сваім Рэксам у садку, і паліцыянты, бо яны не раз забіралі майго бацьку і некуды вывозілі... Ну, вядома, будуць у смале кіпець і яўрэі,— а чаго яны бяруць з хлопчыкаў кроў і пякуць з яе мацу на свой вялікдзень?!

Я сабе выразна маляваў, як на небе, акружаныя варонамі, чэрці бяруць віламі грэшнікаў ды ладуюць на фурманкі. Вароны зларадна верашчаць, чэрці грэшнікаў перасыпаюць соллю, чырвонымі мурашкамі ды паганяюць коней да вялізнай адтуліны, з якой валіла смалянiстая пара і дыхала жэрла вулкана. Стары Ціванюк, паліцыянты, Янкоўскі лямантуюць, просяць літасці. Чэрці аж узмакрэлі, умурзаліся, пааблмвалі сабе вілы, але не паддаюцца — злыдні плюхаюцца ў кіпячую вадкасць...

Так ім і трэба, хіба можна, каб на свеце была несправядлівасць?

Адным словам, вера ў бога ў некаторых дзяцей — апора маралі. Я быў упэўнены, што без раю і бога на зямлі запануе змрок, хаос і жыць будзе немагчыма.

Яшчэ я ведаў ад цёткі Хімкі, што за мной неадступна ходзіць невідочны ангел-храніцель, таму і ўміраць было не страшна. А чаго баяцца? Гэта свінню бацька перад тым, як нарабіць з яе каўбас, вядзе за гумно рэзаць, а яна, дурная, наравіць яшчэ пачухацца аб вушак. Мяне пасля смерці чакаў рай — жыццё, як у дачнікаў з Гродна, што прыязджаюць летам у вёску: хадзі сабе ў трусіках ля рэчкі, лаві сліма-коў, рыбак ды еш шакалад колькі хочаш. Калі мяне крыўдзілі бацькі, я марыў хутчэй памерці.

Таму і ў Альяша я паверыў з радасцю. У маім уяўленні паўстаў шыкоўны палац са шкла, які іскрыўся, бы празрысты лёд у марозную раніцу. У тым палацы я ўжо бачыў прарока — магутнага волата, бы Ілля Мурамец, які насіўся на дыване-самалёце па паверхах, а над галавой яго зіхацеў арэол, як яснасць наўкруг поўні.

Жыць стала яшчэ больш цікава.

Цяпер я не прапускаў магчымасці, каб не паслухаць таго, што гаварылася аб Грыбоўшчыне. А ў нас пра яе гаварылі кожную раніцу, кожны дзень і вечар. Найбольш пра яе ведала Нюрка, якая хадзіла з хаты ў хату і ткала дываны: дзяўчына зарабляла сёстрам на пасаг. Да кросен наняла яе і мая маці.

Нюрка паходзіла з белавежскай вёскі Забагоннікаў, з курнай хаціны. Такіх я ўяўляў сабе худымі, як смерць, чорнымі ды засмоленымі, бы качагары, тым часам Нюрка была чырванатварая і здаровая, сацінавая кофта на ёй свяцілася белізной, над грудзьмі красаваліся вышытыя васількі, а з-пад берда ў дзяўчыны выходзілі дзіўныя ўзоры аленяў, шашачак — зялёных, жоўтых, бардовых...

Белізна вышытай Нюрчынай кофты, бляск намазаных маслам валасоў паступова мяне ўпэўнілі, што Нюрка — святая, я не спускаў з яе вачэй. Хаваўся ў цёмны куток і глядзеў на дзяўчыну-анёла, упіваўся яе голасам і выглядам. А нахіленыя над кроснамі жанчыны гаварылі пра рай. Нюрка мела дакладныя звесткі. Я таксама разбіраўся,

хто куды трапляе і за што: за знішчаную вужаку бог адпускаў чатыры грахі, за ссечаную крапіву — пяць, дапаможаш старому — адзін...

Я старанна вёў падлік сваіх грахоў, падлічваў кожнага забітага ў лесе гада, знішчаную на вёсцы крапіву: выходзіла, што не пусціць мяне з Нюркай у рай не мелі права.

— Лоні абнавіўся абраз і ў нас! — адкусіўшы нітку, апавядала ўжо пра іншае дзяўчына. — Гаўрыіл абнавіўся. Развесіла я бялізну на плоце, вярнулася, а штось ззяе на ўсю хату!.. Мы з мамай—глядзь, аж гэто абраз! Альяш падарыў маме і тату два, благаславіў іх і кажа: «Наце, на вашу жызню будуць вам: табе — Гаўрыіл, а табе, Ганна, маці божая...»

— А чаму яны ўсё абнаўляюцца, скажы ты мне, Нюрка? — ні то жартам, ні то ўсур'ёз пацікавілася мама.

— Гэто такая тайна божая. Такая е сіла божая... А як вы хочаце?.. Або часамі на чалавека зыйдзе сіла божая, ён і сам не ведае, што тады скажа. Як на Альяша. Яму так адкрыто, што ён кожнаму ўказвае на грэх. Я сама бачыла. Якаясь гарадская маладзіца падышла да благаслаўлення, а ён ёй: «Ты свае валасы падвітыя выкінь і шпількі павыкідай!..» А яна і праўда падвіла сабе іх, бо кароткія былі. І так ён кожнаму праўду ў вочы кіне — ці пра твой блуд які, грэх ці фальш...

Жанчыны хвіліну памаўчалі.

— Штось нашай Хімкі даўно няма з Грыбоўшчыны,— успомніла мама.— Трэці тыдзень моліцца там... Як дзеці ёй перасталі пісаць, так месца сабе не знаходзіла, і гаспадарка зрабілася для беднай нямілая!.. Мо назаўсёды там застанецца?.. Але ж хто стане тады гектары яе абрабляць, нам і на свае часу не надто хапае.

— Міраносіцы работу там ма-аюць!.. І нашыя дзяўчаты з Забагоннікаў пайшлі туды,— уздыхнула Нюрка і задумалася:— Альяш бярэ іх у «святыя дзевы». Вытку вам гэты дыван і пайду таксама туды.

— Пойдзеш?! — паспачувала ёй мама.

— А чаму не пайсці, падумайце, цётку Маруся... Дзяўчаты нашыя добро там маюць. Толькі многа псалмаў даводзіцца развучваць ды спяваць, але ж памяркуйце, хібо гэто работа? Жывуць у цяпле...

«Як буду я без Нюркі!» — агарнуў мяне жах і адчуванне непапраўнай страты.

— Цётку Маруся, а Ілля хутко будзе і праз ваша Страшава ехаць!

— Адкуль ты ўзяла гэто?

— От пабачыце, — таямніча намякнуў мой анёл. — Ведаю, што кажу...

— Чаго чорт панясе яго сюды? — не паверыла мама.

— Так яму падказвае!..

## 5

Паступлова вёску пачала разбіраць ліхаманка, што вось-вось прыедзе Альяш. Па ўсіх хатах толькі і гаварылі пра гэта. Мужчыны гразіліся падстроіць прароку фокус, але іхнія жанкі чакалі святога, бы архірэя. Цётка Кірыліха параіла выслаць перад ім кужэльнае палатно, як рассцілалі перад заблудаўскім Гаўрыілам. Бабы так і гэтак абгаварылі прапанову і вырашылі, што мужчыны не дадуць гэтага зрабіць. Тады даўмеліся паслаць малых у лес наламаць яловых лапак, каб выслаць дарогу.

Але прарок з'явіўся ў вёсцы нечакана, і было ўжо не да галінак. Бабы пасыпалі з хаты і здранцвелі. Сталі збірацца і мужчыны. Мы з



братам якраз вярталіся са школы, надышлі на зборышча і ўставіліся на святога вялікімі ад здзіўлення вачыма.

Альяш быў ніякі не волат. На фурманцы сядзеў сабе сухенькі дзядзька з доўгай барадой ды цьмянымі вочкамі. На ім была саматканая світка, кужэльныя нагавіцы ды звычайныя сялянскія боты.

Яшчэ больш уразіў дыван-самалёт, якім святы кіраваў.

Маленькі буланы конік цягнуў воз з тоўстымі драўлянымі восямі. Нашыя дзіцячыя душы ўразіла, што замест атос у Альяшовым возе былі лазовыя віткі. Хамут да аглабель прымацаваны быў вяровачкамі. Ніякіх табе набэдрыкаў — адзін падхвоснік, на голых дошках пад Альяшом — старая конская торба.

На Страшаўскай дарозе Альяш гаварыў мала, неяк ціха і спакойна, больш слухаў, як чагосьці чакаў ці насцярожана выглядаў...

«Гэто той святы-ы?! — не мог я прыйсці ў сябе.— І праўду казаў бацька, што бабы так сябе ўгаварылі!..»

Якія ўжо страшаўскія мужчыны былі бязбожнікі, як яны ні зласлалі на дзядзьку з Грыбоўшчыны, аднак перад нечаканай беднасцю і дзівацтвам разгубіліся і яны. Мужчыны збіраліся яму напомніць, як разам некалі разганялі музыкаў, ушчамлялі катам лучыну ў хвост ды цешыліся, што ашалелыя каты носяцца па вуліцы, як завязвалі на галовы дзеўкам спадніцы, але цяпер толькі зводдаль стаялі ды моўчкі пляваліся.

Затое страшаўскія бабы шалелі. То з плачам, як па нябожчыку, то з енкам і візгам жанчыны кідаліся перад возам на калені, білі паклоны ды нешта гаварылі і гаварылі, з шалёнымі вачыма лезлі цалаваць прароку рукі, полы світкі, боты, піхалі яму на благаслаўленне сваіх дзяцей, абразы і нарабілі лямату на ўсю вёску.

А мяне агарнулі мукі расчаравання.

Падвечар таго самага дня новая хваля вандроўнікаў, што ішлі ў Грыбоўшчыну, зноў затапіла наша сяло. Солтыс развёў іх па хатах начаваць. Нашаму дому прыпала сем бабак з-пад Бельска.

Бацька прывалок рэзгіны гарохавіння і выслаў падлогу ў вялікай хаце. Мама назбірала трэсачак, распаліла ў пліце.

— Цётко, што будзеце есці? — спыталася яна ў старэйшай.

Жанчына папрасіла каструлю, ячневых круп і з моцным украінскім акцэнтам заявіла:

— О цэ тількі будэ ісці нашэ брінне цела!..

Мама наліла ў каструлю вады і паставіла на агонь, а сама пайшла даіць каровы. Госці пад галовы сабе прымасцілі клункі, апусціліся ў гарохавінне на калені маліцца.

Вярнулася з дайніцай мама. Яна працадзіла малако, заглянула ў каструлю і спахапілася, што каша пустая, літасціва паківала галавой і плюхнула ў страву з паўкварты сырадою, тады адліла яго ў кубачак для Валодзькі і панесла банку апускаць у калодзеж.

Ля парога дагнала яе Нюрка і шапнула з жахам:

— Цётко, што вы нарабілі?

Папярэдзіла ткачыха позна. Багамолы ўсё бачылі, і мамін учынак іх нібы апарыў. Нейкі час яны абурана маўчалі, а тады, як па камандзе, усхапіліся, пабралі свае клункі. Старэйшая жанчына кінула праклён:

Яко ісчезает дым ды ісчезнэт,
Яко тае воск от лыца вогня,
Тако да погыбнут бэсы
От лыца любящего бога!
Фу, фу, сатана, сгынь!..

Бяльчане з гідлівасцю абышлі пліту і пакінулі хату. Разгубленая, вінаватая мама кінулася за імі.

— То пачакайце, звару вам зара друго-ой, ці ж можна не еўшы?!

— Не чапай, чорт іх бяры, калі яны здзяцінелі, бы іхні Альяш! — закрычаў бацька.

Мама не паслухалася і вылецела на двор. Аднак колькі іх ні ўпрошвала, кабеты ў хату не вярнуліся,— пакладаліся спаць пад нашу грушу.

Па нейкім часе бацькі задумаліся, што рабіць з ячневай кашай. Самі ўжо павячэралі, пакінуць яе да раніцы — скісне. Вываліць у цэбар свінням — грэх, яна ж на малацэ.

— Нюрка, ты — маладая, з'еш і яе, каб не марнаваласа! — добразычліва папрасіла мама.

— Што вы, цёця Маруся, я бульбы з расолам добра наеласа!

— А-ей, табе, маладой дзеўцы, нічога не значыць паесці яшчэ раз!.. Бяры, бяры, у ёй малака ж столькі!

І Нюрка села на парог з каструляй і ўсю падчысціла.

Неўзабаве я лёг спаць. Мяне мучыла расчараванне. Альяш — суцэльнае ашуканства, як абнаўленне абразоў. Праўду бацька нам заўсёды цвярдзіў.

## 6

На другі дзень мы з братам спаткалі паміж Страшавам і Гарадком пілігрымаў, якія ішлі ў Грыбоўшчыну, на каленях. У людзей былі пачырванелыя ад бяссонніцы вочы, перасохлыя і патрэсканыя вусны.

Калі дзівакі ўпаўзалі ў вёску, мы здагадаліся іх палічыць. Мала-цілі па страшаўскім бруку пазбіванымі каленямі, падмяталі яго падранымі нагавіцамі і пакідалі на каменнях крывавыя сляды сто восемдзесят тры чалавекі.

Дзядзька Салвесь, наш сусед, стаў іх лаяць і сарамаціць:

— Вы — што, маленькія?.. Як вы, дальбо, можаце на людзей глядзець? З вас дзеці смяюцца во!..

— Фу, фу, адыдзі ты, сатана! — асіплымі галасамі агрызнуліся на яго бліжэйшыя фанатыкі.

Дзядзька не пакрыўдзіў і мухі, але тут і яго разабрала. Ён хапіў пугу, уляцеў у самую гушчу пілігрымаў і пачаў іх сцёбаць. Надзіва, людзі нібы ўзрадаваліся. Мармычучы малітву, яны падстаўлялі плечы пад пугу і паўзлі далей.

Грэшнікі пачалі свой нялёгкі старт аж на Палессі. Напаўгалодныя і брудныя, яны прайшлі на каленях чатырыста кіламетраў. Якой сілай волі, якім гартам трэба валодаць, каб тыднямі на адным хлебе і вадзе вытрымліваць гэткія пакуты.

А колькі такіх выбухаў народных эмоцый бяследна згарэла ў змроку мінуўшчыны! Ох, як асцярожна трэба ступаць нагамі. Зямелька наша складаецца не з пясчынак, а — з высушаных на пыл трагічных памылак прашчураў нашых, і высяцца на ёй не горы і ўзгоркі, а— застылыя сталактыты, якія ўзніклі ад няздзейсненых мараў, слёз, цярпення, болю, надзей і летуценняў збядованых душ...



# РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## 1

У Грыбоўшчыне Альяш мусіў выходзіць да народа па некалькі разоў на дзень. Цяжка і разабрацца, чаго было больш — самаашуканства цёмнай масы, гульні наіўных, містыкі старажытных традыцый ці — звычайнага авантурызму і шарлатанства ў гэтых «яўленнях прарока народу».

Зблізку ўсё выглядала так.

Пад царкву на фурманках і пеша сцякаліся і сцякаліся новыя людзі. На выдзеленую пляцоўку пілігрымы клалі падарункі: клункі з палатном, мяхі са збожжам, звязаных бараноў, прыводзілі нават кароў. Барадатыя дзядзькі ў кажушках заносілі прозвішчы ахвярадаўцаў у прыходныя кніжкі і кожнаму пачціва гаварылі:

— Рука дающая да не оскуднеет, храні цябе гасподзь, браток!..

— Будзеш ты, сястра, пад апекай царыцы на небясі, і будуць дзеткі твае і гаспадар твой, да не оскуднеет дающая рука твоя, амін!

Ашчаслівленыя, што задатак на збавенне ўдалося спіхнуць у дастойныя рукі, людзі з палёгкай садзіліся на ўзгорку, выцягвалі самлелыя ногі. Хто не даваў зароку пасціцца, вымаў яйкі, сыр, салёныя гуркі, бутэлькі малака і браўся сілкавацца.

— О-о, яны сабе балявадь, бессаромныя, расселіся! — напала на іх нейкая клікуша.— А рэдзькі з соллю, а хлеба з вадой не хочаце?

Пілігрымы вінавата і паспешліва хавалі ежу.

З народам покуль што гутарылі «няштатныя агітатары». Іх ніхто не назначаў і не выдзяляў, яны ўзнікалі стыхійна і неслі ўжо службу з дакладнасцю заведзеных механізмаў. Гэта былі цёткі і дзядзькі, якія дваццаць гадоў таму назад пачыналі з Альяшом збіраць грошы на царкву. Ды і сярод пілігрымаў траляліся такія.

У напружанай цішыні на ўзгорку старэйшая дачка Русялёвай Марылі, Хрысціна, гаварыла да багамольцаў:

— Як браты Голубы паднялі на прастол руку, так бог нас і пакараў!.. З-за паганага нехрыста Паўтарака жыцця нікому не было! Маці божая, што ў нас твары-выласо!.. І ніхто яму не мог даць рады — ні паліцыя, ні стараста, ні народ!.. Дужы быў, асілак,— ад дзесяцярых мужыкоў вырываўса!.. Калі быў яшчэ хлопцам, сушку ў лесе сабе пакладзе на плечы і валачэ дахаты!.. А пасталеў — хітрасці набраўса...

— А потым шайку сабраў такіх жа галаварэзаў і па гарадах пайшоў! — гучэў над узгоркам маладжавы голас Хрысціны.— Так было страшно, так страшно, што бабы з вечара, паверце, і на двор не выходзілі, дальбо!.. Божа, што перажылі мы!.. І во заходзіць Альяш у Кранштаце да Іаана, а цудатворац пакланіўса яму, блаславіў і кажа: «Мне абраз Казанскай божай маці ўказаў, што ты е божы чалавек. Вяртайса ў Грыбоўшчыну і служы верна народу, злыдзень ад дзісейшага дня будзе пакараны!» Прыходзіць Альяш у вёску, а галава нехрысця ўжэ і з плячэй скацілаcа!

Старая Піліпіха бажылася — на ўласныя вушы чула, як ноччу Альяш гутарыў з богам і дамаўляўся, каб дождж выпаў.

— Рано ўстаю, а ўсё змочано, расце так файно, аж буіць!.. І ніхто на вёсцы нават не здагадваецца, хто стварыў гэткі цуд! Спатыкаю яго на вуліцы дый кажу: «Ілля, я ж усё слухала, пра ўсё ведаю!..» А ён: «Ну і няхай сабе!.. Адно памятай: ніко-ому не кажы, няхай людзі маюць ураджай і радуюцца!..»

Наталля Клімовіч паведамляла, які Альяш просты:

— I арэ, і косіць, і тое самае есць, што ўсе, толькі мяса ў рот не бярэ, не каштуе і гарэлкі. Адно моліцца і моліцца за людзей...

Але ўсіх заглушыў моцны голас Аляксандра Данілюка з Каменя.

— Людзі некалі жылі ў садзе Эдземскім, бяды не ведалі. Ды парушылі наказ божы, з'елі забаронены яблык і спазналі зло!.. І з той пары пачалі забіваць адзін аднаго, брат пайшоў вайной супроць брата, сын — на бацьку, сваяк — супроць сваяка, на зямлі настало гора і слёзы!

— Ах, божа, саграшылі як! — уздыхнула нейкая бабка.

— Тады бог паслаў на іх патоп, каб адумаліся! — голас Данілюка загучэў званчэй: — Не дапамагло, і ён пачаў пасылаць месію. Іаана Хрысціцеля. Майсея. Ісуса Хрыста. Георгія Пабеданосца... Мно-ого іх пабывало на грэшнай зямлі, і апошнім быў Іаан Кранштацкі.

Покуль прамоўца маўчаў, бабка зноў пачала шкадаваць:

— От каб, дурныя, не з'елі той яблык, от жызня цяперака была б!..

На яе зашыкалі, і Данілюк пачаў гаварыць далей:

— Вы думалі, Іаан Кранштацкі памёр?! А чаму, калі Іаана неслі на могілкі хаваць, над труной яго ішла па небе зорка?.. Яна паказвала людзям, што Іаан уваскрос і апусціўся на зямлю ў вобразе звычайнага мужыка, ісцінно вам кажу. Усімі хвалёны наш прарок, Ілля, е другі цудатворац Іаан, памазанік божы, зноў народжаны Хрыстос і айцец нябесны... Любіце вы яго, брацця і сёстры, паважайце і маліцеса!

З выгляду — ні то доктар, ні то настаўнік, з голым, як калена, чэрапам, з набухлымі жыламі на шыі і старанна паголеным тварам, Данілюк, надзеўшы звязаныя нітачкай акуляры, адкрыў біблію і пачаў чытаць.

## 2

А за кулісамі гэтага мітынгу ішла ліхаманкавая работа. Заклапочаныя бабы і мужчыны шмыгалі туды-сюды.

— Дзе Хімка?! — пыталася ў Майсаковага Пятрука курносая жана-міраносіца з Меляшоў.— Трэбо свечкі запальваць ды няма чым! Кудысь пайшла па запалкі і прапала. Да гэтай пары і ў Крынкі можно было б схадзіць!

Расчэсваючы пяцярнёй бараду, Пятрук прабурчаў:

— Колькі вы іх нішчыце — не напасешса!.. Я ж вам выдаў учора па дзесяць скрыначак, яны таксамо грошы каштуюць! Дома, у сваіх Меляшках, нябось, кожную запалачку на дзве палавінкі калола, а тут і берагчы ўжэ, думаеш, не трэбо?

Маладзіца ведала, што не можа не падабацца мужчынам — нават гэтаму барадачу. Расчырванелая ад цеплыні, поўная захаплення сабой, так і гэтак паварочваючыся перад Майсаком з маладой гуллівасцю, агрызнулася:

— Паспрабавалі б вы самі запаліць палавінкамі, калі людзі падпіраюць, а ў цябе тысяча свечак!

Але той не слухаў — да яго падляцела босая растрапаная багамолка:

— Дзядзьку Пятрук, заблудаўцы ўжэ ідуць!.. Перавалілі Пляньты!.. Яшчэ не ўправілася з гэтымі, што рабіць будзем, чаго стаімо?!

— Ладно, схаджу туды сам! Заблудаўцаў трэ патрымаць пару гадзін на выгане ля Гуран!..— расчэсваў шэрую бараду Майсак.— Яны дарогай ідуць, а я паджгаю балоцечкам, паспею перапыніць. Данілюк на цвінтары канчае, клічце Іллю, няхай ідзе ўжэ.

— Пятрук, там пастаўскія сектанты жалезную біблію прывалаклі, а з-пад Валожына — абраз! — падышла з запалкамі Хімка.— Хочуць, каб мы іх у царкву забралі.

Хімка яшчэ не скончыла, як сектанты былі ўжо тут. На чале невялічкай групкі валожынцаў ішоў босы дзяцюк. Густая і рыжая барада яго была перасыпана сівізной — выдавала, нібы на вялізную брылу мёду нехта белых нітак нацерушыў. Босыя дзядзькі за ім на дручкахнасілках валаклі абраз з намалёванымі дзядамі.

— Айцец Пятро, прымі яго ў нас! — пачціва папрасіў рыжабароды.

— А, Сямён!..— пазнаў яго Майсак.

Валожынскія мужыкі апусцілі на зямлю насілкі. Вялікі абраз пераліваўся аранжавай і ўльтрамарынавай алейнай фарбай.

— Пасярэдзіне Хрыстос, а гэто?.. — ўставіўся ў абраз Майсак.

— Святая тройца, айцец Пётр... — вінавата падказаў рыжы.

— Ці не ты, Сямён, злева?

— Я, айцец... А трэці — Міхайлоўскі Ломнік... У Вільне нас малявалі за дзвесце злотых...

— Яе, Сямён, не вазьму,— спакойна разважаў Майсак.— Забірай назад! Хоць зімой ты і босы ходзіш, пасцішса, аднак рано табе, браток, у святыя!

— Ах, божа, людзі патраціліса дарэмно!.. — успляснула рукамі Хімка.

Рыжабароды самазванец, як школьнік, якога злавілі на фіглях, з жулікаватай разгубленасцю ўхмыляўся, а яго спадарожнікаў гэтая размова быццам не датычыла. Яны перадавалі з рук у рукі спатнелае вядро, з прагнасцю загнаных да смерці коней пілі ваду і з панурай і насцярожанай цікаўнасцю азіраліся.

— Што, так будзем і стаяць? — пагнаў сваіх баб Майсак.

Гэта была хоць і саманароджаная і нідзе не зарэгістраваная, але ўжо добра наладжаная арганізацыя.

## 3

У той самы час, калі на цвінтары ішла падрыхтоўка, Альяш спрачаўся з майстрамі, з чаго лепш адліваць званы. Ён сядзеў на калодзе ля печы і нахмурана касіў вочы на гасцей. Гэта былі славутыя на ўсю Польшчу браты Кавальскія з Пярэмышля. Дзе Грыбоўшчына, дзе той Пярэмышль, аднак Кавальскія разнюхалі добры заробак, прымчаліся сюды і другія суткі цярпліва тлумачылі ўпартаму «пану Клімовічу», што званы адліваюць з бронзы і што работа ліцейшчыка вельмі тонкая, бо кожны звон павінен мець сваю танальнасць, можа не раз прыйдзецца перарабляць яго, што ўсё гэта будзе каштаваць дорага.

— Але як для пана, то зробім вельмі танна: шэсць тысяч за галоўны — прапанаваў старэйшы Кавальскі.

— Усе чатыры будуць з малінавым звонам — маланку заглушаць! — абяцаў яго брат. — Акорд гарантуем, па корпусу дамо малюнак — святы Ілля на калясніцы...

— Задорага, панок, — непарушна цвярдзіў гаспадар. — Пяць тысяч!.. Сходную цану даю.

— Пане Эльяш, адальем з чылійскай медзі, волава дадамо даваеннага, пару фунтаў серабра дабавім!

— А гаму пан Эльяш сам праверыць камертонам!
— Ат, зубоў мне не загаворыце! — абарваў бесцырымонна Кавальскіх прарок. — Бачыш ты, разумнікаў! Ён мяне малюнкам цешыць!.. Што, палезу на званіцу глядзець на вашы малюнкі?! Людзей туды павяду паказваць?.. Які дурань палезе! Добра даю, панкі, вам! Такія грошы!.. Колькі цяпер ладная карова каштуе ў Крынках на кірмашы? Сто злотых. Пяцьдзесят кароў за звон вам мала?.. З усяе Грыбоўшчыны згані табун быдла, і гэтаго вам мало?
У хату ўляцелі задыханыя дзеці і адно перад адным закрычалі.
— Дзядзьку Альяш, ідзіце ўжэ, вас клічуць!
— Хутчэй, там зноў сабраліса!
— Многа іх? — нездаволена спытаўся прарок.
— Мно-ого!..
— І цёцю хворую прынеслі. На пярыне...
Альяш уздыхнуў, цяжка падняўся з калодкі.
Кавальскія выйшлі за гаспадаром, пазнімалі пінжакі, гальштукі, паляглі на траву і церпяліва пачалі чакаць кліента, а прыгорблены Клімовіч грузнай хадой паплёўся праз вёску да царквы. З-за платоў узіраліся на Альяша грыбоўшчынцы. Першыя дні для аднавяскоўцаў увесь гэты спектакль быў вялікім дзівам, але цяпер усе глядзелі на свайго прарока з павагай і як бы са страхам. Толькі Альяш не забываўся, як гэтыя самыя людзі, калі ён на будаўніцтва царквы прадаў гаспадарку, абазвалі яго вар'ятам. І Альяш адчуваў, як агортвае яго помслівая радасць.
У рыжым кажусе, з вязанкай новых матык яму насустрач ішоў высокі і сухі, як драль, Базыль Аўхімюк — адзіны чалавек у вёсцы, з кім Альяш лічыўся.
— Дзень добры! — павітаўся ён з сябрам.
— Здароў, прарок! — спыніўся Базыль, дабрадушна ўсміхаючыся ў рэдзенькія і прапаленыя самасадам вусы.
Побач стаялі дзеці. Малыя, паразяўляўшы раты, глядзелі на дзядзьку ды лавілі кожнае слова. Дзядзькі для іх былі багамі. Адзін — некалі перамог страшнага бандыта, другі — уславіў вёску, яна хоць і маленькая, а з-за царквы відаць яе нават з Крынак, Шудзялава...
— Ну, то як маешса? — спытаўся Базыль.— Горбішса ўжэ, бачу, і ногі валачэш!.. А як мне, на дзесяць месяцаў старэйшаму?! Нічого, гадоў з пятнаццаць мы з табой яшчэ паскрыпім!..
— І не думаў пра гэто! — ухіліўся ад пытання прарок. — Зрабіў?.. — Альяш дакрануўся да жалязяк са свежымі слядамі накавальні і гартоўкі. — Тваё бабы таксамо ўжэ распанелі, рукамі не хочуць выбіраць бульбу!.. А некаторыя і жыто касой пачынаюць касіць! — уздыхнуў ён. — Адна распуста пайшла!..
— Дурное ты, Альяш, правіш! — пасур'ёзнеў Базыль. — Памятаеш, калі мы былі дзецьмі, усе плуга баяліса, бо думалі, што ад яго збожжа расці перастане!.. Валамі бацькі поле абраблялі, усё палохалі адны адных, што конь капытамі зямлю здратуе!.. Ажно, бачыш, хоць на дзеравяных восях ездзіш ды з лазовымі віткамі замест атос, а сахой і ты не арэш, буланчыка ў плуг запрагаеш!.. І пасталы абуваць не хочаш, як тваё багамолы... З таго часу, як прыйшоў з войска, боты, нябось, юхтавыя носіш, ха-ха!..
Альяшу было непрыемна перад дзяцьмі.
— Што матыка, то не кіпцюры, не скажы!.. Параблю да іх чаранкі, і нагінацца трэ будзе менш. От, меў час, накінуў кажух на плечы, каб сонца ў авечую скуру пякло, а не ў маю, і схадзіў у Плянты да каваля, узяў тры штукі за пуд жыта, восенню як знайду!..



Базыль кінуў матыкі пад плот, дастаў капшук, крэсіва, пачаў круціць самакрутку.
— Ну, а ты ўсё са сваімі багамоламі забаўляешса?! — прыжмурыў ён вока на сябра з вышыні свайго росту і паслініў цыгарку.
— Што зробіш, людзі патрабуюць!..
— Праходзіў каля тваёй будыніны, цябе ўжэ там чакаюць!.. Э-э, папы, кудлы, прапілі цэркві, панам прадаліса, і няма ім веры ў народзе!.. Няшчасныя людзі цягаюцца па белым свеце, праўды шукаюць, не ведаюць куды туліцца, а ты іх дурыш!.. Ой, з агнём іграеш, Альяш! Давядзе твая гульня да кепскаго, памянеш яшчэ мае словы!.. Адумайса, покуль не позно. Адно вёску насмяшыш!..
Альяш, угнуўшы голаў, паплёўся далей.
— Ідзі, ідзі!.. — Базыль пачаў выкрасаць агонь.
— Разумны надто, — буркнуў прарок ды натрапіў на малога, які падвярнуўся пад ногі: — Чаго вушы распусціў? Марш дамоў, гіцлю! Валэндаюцца, байструкі!..

## 4

Натоўп на цвінтары раптам заварушыўся.
— Ідзе! — прабегла па людзях электрычная іскра, цёткі і дзядзькі дружна пападалі на калені і перапалохана ўтаропіліся ў прыгорбленую фігурку старога.
Альяш спыніўся, сумным позіркам абвёў пляцоўку з падарункамі, палаткі гандляроў, людзей, якія стаялі на каленях, і замёр.
У напружанай цішыні сіратліва і трывожна забляяла стрыножаная авечка, з кузні ў Плянтах даляцелі рытмічныя пераборы кавалёў, а недзе ў бясконцай высі, так жа бесклапотна і бадзёра, як тысячу, як дзесяць тысяч гадоў таму назад, званілі раўнадушныя да чалавечых клопатаў і бяды невідочныя жаўрукі.
Дагэтуль пры спатканні з багамольцамі Альяш не адчуваў да іх ніякай спагады, абыходзіўся з імі бесцырымонна і рэзка. Пасля сустрэчы з Базылём ён паглядзеў на пілігрымаў неяк па-іншаму. Альяш уздыхнуў, са спачуваннем паківаў галавой і ціха прамовіў:
— Мае вы бабы, мае вы мужчынкі, мае вы чадо!.. Туліцеса, як авечкі, не ведаеце якога бога шукаці!.. Папы, кудлы, не любяць нас, не лю-убяць!.. Цярпець усіх нас не могуць. Я ведаю, ім — абы малебень адправіць і грошы вырваць!.. Няма ў іх веры, няма-а!.. Прапілі яны веру, прапілі-і, прабалявалі і панам яе прадалі!
— Ох, прадаюць нас, прадаю-уць! — прашамкала бяззубым ротам і цяжка ўздыхнула сухенькая бабуля.
— А чаго ты ад іх хацела?! — павярнуўся да яе Альяш, нібы тая з ім не згаджалася.— Нават у біблії пра гэто напісано! Адзін чалавек ішоў калісь з Ерусаліма і трапіў да бандытаў. Тыя з яго здзерлі вопратку, пакалечылі, паздзекаваліса і пакінулі ледзь жывого. Праходзіў бацюшка, паўзіраўса на пабітаго ды пашоў сабе далей. Гэтак само прашоў міма левіт-дзячок. А убачыў яго просты мужыксамаранін, спыніў свайго асла, перавязаў чалавеку раны, завалок слабога ў пастаялы двор, пакінуў яму нават яшчэ і грошай на лячэнне.
Людзі на цвінтары асмялелі. Словы прарока іх адразу зблізілі. Альяшовую думку падхапіў многагалосы хор:
— Ратуй нас, няшчасных! — крычалі некаторыя са слязамі замілаванага захаплення і надзеі.

— Цябе для гэтаго Іаан Кранштацкі блаславіў!.. — прыставала бяззубая бабка.

Уздым масы перадаўся ўмомант і Альяшу, у яго па-маладому заблішчэлі вочы, ён зрабіўся порсткі і загаварыў мацней:

— Папы вас палохаюць, што, калі не будзеце слухаць, то зоркі з неба паспадаюць!.. Няпраўда!.. Кожная зорка загарыцца ў вашых сэрцах, і яе агонь напоўніць вашы душы. Вы толькі мне аднаму верце. Я кіем удару па моры — вада расступіцца, і я павяду вас па сушы!.. — збялелы Альяш у парыве эфекта ўзмахнуў рукамі: — Павяду, пабачыце!..

Акрыялыя і падабрэлыя людзі, гэтыя барадатыя, з высмяглымі і патрэсканымі вуснамі дзядзькі, са зморшчанымі тварамі бабулькі, свежыя маладзіцы, у якіх з-пад хусцінак былі відаць старанна расчасаныя на рад валасы, узіраліся ўжо на грыбоўшчынскага Майсея з адданасцю, спадзяваннем, і гэта прыдавала ім натхнёнай велічы. Да прарока пацягнуліся рукі, з глыбіні душ паляцелі просьбы:

— Вядзі нас, Альяшку, у зямлю абетаваную!

— Айцец Ілля, злітуйся над намі!

— Гора нам!.. Толькі ты можаш ўратаваць нас!..

— Столькі да цябе ішлі, не адганяй ты ўжэ нас, грэшных! — расплакалася цётка.

Альяш глядзеў на людзей і не знаходзіў патрэбных параўнанняў з біблії і слоў, каб растлумачыць, куды ён збіраецца іх весці і што паказаць. Выпаліўшы завучаную прытчу пра міласэрнага самараніна, звёзды і мора, Альяш запнуўся. На ўспамін нічога не прыходзіла, нібы дзядзька ўпёрся раптам у глухі плот...

Альяш паглядзеў на царкву. Гэта была яго мара, твор усяго жыцця, яго сэнс. Альяш уздыхнуў і стаў апавядаць пра званы. Пачаў жаліцца на майстроў.

— Думаю так: трэ нам павесіць звонкія, каб іх нават у Гарадку было чуваць, і ў Бераставіцы, і ў Саколцы... Адзін трэ пудоў на шэсцьдзесят адліць, а тыя — меншыя... Ды майстры, халера, вельмі многа грошай хочуць. Шэсць тысяч злотых за галоўны!.. Я ім кажу: «З усяе Грыбоўшчыны згані вам кароў і то не хопіць на адзін звон!» Гарадскія жулікі абодва, хібо ім нашаго мужыка зразумець?.. І даведаліся аж у Пярэмышлі ля Карпат. Дурань мне, што малюнак на званах зробяць. Хто іхнія малюнкі разглядаціме, наверх палезеш з-за гэтаго?.. Трэ каб добро званілі!

— О-го! — здзівіўся нехта. — Шэсць тыся-ач!..

Людзі, пасмялеўшы, загаманілі, бы на вясковым сходзе.

— Залама-алі, брат, паны-ы! — Не паскупі-іліса, дурных знайшлі!

— Нічо-ого, на званы збярэ-эм! — прыгроб пяцярнёю раскудлачаныя валасы худы, жаўтлявы з твару мужчына. — Калі мы іх у сваю царкву куплялі, плацілі па сто злотых за пуд. Ну, то за шэсцьдзесят... Так яно і выдзе!

— А ты, Ілля, не шкадуй грошай на такую справу, не шкадуй! — закрычалі з тлуму бабкі. — Каб фа-айныя былі, размалёваныя. На ўсіх званах малюнкі е!

Нейкі дзядзька ўсхапіўся на ногі, замахаў доўгімі рукамі.

— А я скажу — от што!.. Эканоміць нам на званах — грэх!.. Праўду вам кажу!.. — дзядзька адчайна крыкнуў дыскантам і зноў укленчыў на мурог.

Натоўп загудзеў. Хіба можна сумнявацца? Калі трэба для такой справы, — сродкі яны збяруць і не такія.



— Толькі каб званілі, як на небе! — выказала пажаданне цётка Піліпіха.

— А што думаеш?.. Давядзецца плаціць!.. — Альяш перайшоў да справы: — Цяпер вы мне скажыце — чаго хочаце?

Разгубленыя людзі хвіліну памаўчалі. Усім было так добра, што яны ўжо і забыліся, чаго сюды прыйшлі.

Якраз у гэты момант шасцігадовая дзяўчынка, што стаяла ля маладзіцы, з дзіцячай непасрэднасцю спыталася:

— Дзядзя-а, а праўда... А праўда, дзядзя, што царква з зямлі вырасла?..

У натоўпе пырснулі смехам. Бабулькі азірнуліся на маладую маці:

— Прывяла ў святое месца і бахура свайго...

— Усякую распу-усту сюды вало-очаць!..

— Звіні, Альяшку, чалавек божы, звіні!.. — пачала прасіць спалоханая маладзіца. — Малая яна яшчэ ў мяне ды надта ж дасціпная. От, усё ёй, дурненькай, трэбо ведаць, перапытаць. Такая ўжэ нарадзілася!.. Манечка, што табе я казала дома?!

Але Альяш і не збіраўся бянтэжыцца. Ён на хвіліну задумаўся, як бы заглянуў у сябе, уздыхнуў і не надта голасна сказаў:

— Вядома, з зямлі!.. Цэгла ж і дзерава — з зямлі выходзяць, а то як жа!..

Натоўп з палёгкай уздыхнуў, захапляючыся мудрасцю прарока.

— Так чаго вы ад мяне хацелі б?! — паўтарыў Альяш пытанне.

— Хворыя мы, Альяшку! — паскардзілася цётка з перавязаным вокам. — Няма долі...

— Дачку я пахаваў. Бацюшка за тры злотых не захацеў ісці на могілкі, патрабаваў, каб я два дні яшчэ яму адкасіў... Мёртвай усяроўна, вядома, але ж я мусіў згадзіцца. А да цябе прышоў шукаць справядлівасці. Чаму яны нажываюцца на нашай бядзе?

— А за хрысціны як дзяруць!

— Жыцця не маем. Прыехалі сіквестратары, за падаткі апісалі ўсё і пакінулі нас без нічого: ні свіначкі, ні кароўкі...

— І ў нас таксамо каморнікі лютуюць.

— Веру нашу ганьбяць! У нас пропаведзь чыталі па-польску, а хто крычаў супроць, паліцыя пабрала. Скажы, Ілля, прэзідэнту пра гэто, ён цябе паслухае...

— Трэцюю ўжэ царкву ў Гродне нявечаць... А каля Хэлмна і Седляц пяцьсот штук іх закрылі.

— Калі гэтак пойдзе, ніводнай не застанецца!

— Цяжко нам, Ілля, прышлі да цябе скардзіцца, во!

Прарок памаўчаў, як бы ўзважваў просьбы.

— А хібо Хрысту было ле-епш?! — выбухнуў ён нечакана. — Ці лепей было яму, пытаю ў вас?

Стары патаптаўся, як бы выбіраў месца, як бы збіраўся з думкамі.

— Ах, Альяшка, няўжэ-э!.. — падтакнула нейкая бабка. — Ён столькі за нас выцярпеў, бедны, што нам грэх і скардзіцца.

— Вы лепш паглядзіце, да чаго распусцілі дзяцей сваіх!.. — без лагічнай сувязі з мукамі Хрыста, пад уплывам таго, што было на душы, крычаў ужо прарок. — Не шануюць нас з вамі, бэсцяць!.. Хібо гэтак абыходзіліса мы са сваімі бацькамі?!

— То ж з хаты выганяюць, Альяшку! — горка заплакала бабка з перавязаным вокам. — Хто дзе бачыў, каб мацеры даводзіласо падаваць у суд на родных дзяцей. Каб судзіцца са сваімі сынамі?!

— І выганяць такія, чаго ад іх чакаць, калі гарадскую распусту пераняли. Мы пры сваіх старых вылаяцца не смелі!

Альяш аж тросся, вочы заблішчалі, і на твары з'явіліся шэрыя плямы.

— Настане, ужэ хутко настане тое, што ў святым пісанні сказано: «будзе горкі плач і скрыгат зубоў, горы на нас палезуць і каменні ўсіх нас пакрыюць!..»

Перапалоханыя бабкі ўжо плакалі наўзрыд.

Альяш супакоіўся, сумна падумаў аб нечым і махнуў рукой:

— Ат, пойдзем лепш у цэркаўку, памолімсо.

Пілігрымы з палёгкай уздыхнулі, загулі, заварушыліся і, зачараваныя прастатой легендарнага прарока, пачціва расступіліся.

Альяш накіраваўся да дубовых дзвярэй. Цётак, што стаялі з краю, раптам ахапіла шалёная адданасць да святога — яны кінуліся цалаваць яму ногі.

На прыступках Альяш перавёў дых, насцярожана азірнуўся.

— Выдумалі нешто!.. Я такі самы чалавек, як усе. Абраз цалуйце!

Ён з-за халявы вывалак даўжэзны ключ, са старэчай няўклюднасцю адамкнуў пудовы замок, адчыніў цяжкія дзверы і зайшоў у царкву.

Праз акенцы ў купале цадзілася цьмянае святло. Зіхацелі падсвечнікі з тоўстымі, як жаночая нага, свечкамі, — па дваццаць пяць злотых за штуку, размаляваныя залатымі абадкамі. Пад абразамі, абвешанымі вышыванымі ручнікамі, гарэлі аранжавымі агеньчыкамі лампады. Густа пахла вымытая і пасыпаная аерам і сітнікам падлога.

Альяш падышоў да алтара, апусціўся на адно калена і пачаў шаптаць малітву.

На душы ў яго было самотна. Ён не мог забыцца пра гутарку з Базылём.

Тым часам у царкву ўваліліся самазваныя памочнікі і пачалі запальваць свечкі. Павіднела, можна было распазнаць абвязаныя стужкамі і шнурочкамі букеты ў збанах перад абразамі.

— Пачакайце, здаровыя, — распараджалася ў дзвярах Хрысціна.— Хай калекі першымі заходзяць.

Пілігрымы паслухмяна спыніліся, і ў царкву, паскрыпваючы мыліцамі, увайшоў інвалід. На дошцы з ролікамі пакаціўся абрубак чалавека — ён, як вёсламі, адштурхнуўся рукамі ад зямлі і лёгка перанёс сябе цераз парог. Прайшла высокая сухая дзяўчына з бельмі, як папера, шчокамі і ліхаманкавым позіркам. Увалаклі на брызенце нерухомую бабу. Збядованая маці ўнесла хлопчыка, тварык у малога абліваўся потам. Ён цяжка дыхаў. Жанчына туліла сына да сябе і штосьці яму шаптала, цалуючы ў лоб. Упаўзло яшчэ з дзесятак хворых і калек.

Цяпер, збіўшыся ў дзвярах, у царкву павалілі пілігрымы. Пачуліся енкі, крык:

— Ну, куды, куды прэце, як быдло?!

— Свінні, а не людзі!.. Чалавек да вас па-харошаму, стараецца, як найлепш, а вы?.. Дай волю такім!

## 5

Нарэшце людзі супакоіліся. Жоны-міраносіцы склалі рукі да малітвы, а па іх прыкладу пачалі маліцца ўсе. Мармытанне соцень вуснаў злілося ў суцэльны гук, прытупіла боль, разбудзіла надзею, дадало нейкай сілы.



Перастаў маліцца прарок, перасталі жоны-міраносіцы, сціхлі і людзі. Да прарока папаўзла першая цётка.

— Што табе баліць? — не надта ветліва спытаўся ў яе Альяш.

— Галава, Альяшку!.. Ратунку няма, так мэнчыць.

Клімовіч сціснуў далонямі цётчыныя скроні, зашаптаў нешта і ўголас сказаў потым:

— Ідзі, выздараўлівай ды маліса богаві! І я буду маліцца за цябе. Мусі, паганая кроў застыла пад чэрапам!..

— Дзякуй, божы чалавек!.. Каб даў табе сілы і здароўечка! І дзеткі мае будуць маліцца за цябе, усім, усім я... Дай залаценькую сваю ручаньку, я яе — о!.. М-м...

— Ну, добро, добро, я не архірэй! — Альяш адарваў ад яе вуснаў далонь і, адпіхнуўшы цётку, закрычаў: — Ды ты ідзі ўжэ!..

Вынырнула тая самая бабка з перавязаным вокам і ўжо, як перад родным чалавекам, расплакалася:

— То ж, падумай, айцец, сыноў я так любіла, гадавала, не дасыпала начэй, а яны выраслі, пажаніліся і паказалі фігу!.. Пабілі нас з мужыком. Ён злёг, а я да цябе за парадай!.. З Крушынян мы, ты маго ведаеш — Макаль, з табой разам да войска прызываўся!

Цётка, мабыць, чула пра канфлікт Альяша з дзяцьмі і была ўпэўненая, што знойдзе ў ім зразуменне і падтрымку, але прарок нечакана на яе наваліўся:

— Бо зямлі не апісала сынам, таму яны і грызуць цябе!

— Ага, які ты!.. — натапырылася бабка адразу. — Так мы ж яшчэ з бацькам жывыя!.. Як памрэм, няхай тады дзеляць тыя гектары!

— Што-о?.. А паглядзі, як робяць крынкаўскія жыды, — даросламу дзіцяці дадуць столькі дабра, каб яно само быць магло. Аддзеляць, а потым яшчэ і дапамагаюць. А ты з Барысам як зрабіла?

Прарок дапякаў цётку, адчуваў нейкі боль, нібы дапякаў хто яго самога, і яму рабілася лягчэй.

— Няма чаго табе тут плакацца, што пасеяла, тое і жнеш, ідзі! А табе чаго?

— Сляпы я, Ілля-прарок!.. — Альяшу ў грудзі тыцнуў мужчына з падзёўбаным воспай тварам. — Сляпы ад нараджэння!.. Так хочацца ўбачыць сваіх. Зрабі цуд, божы чалавек!

Хімка падставіла паднос. Прарок плюнуў у яго, абмакнуў палец і памазаў калеку вейкі.

— Калі ўсявышні злітуецца!.. Ідзі, вытрымлівай пост і маліса.

Трымаючы сына за рукі, бацькі ўвялі высокага хлопца. Той упіраўся, набычана круціў галавой і раз-пораз хіхікаў, быццам яго ззаду казыталі.

— Пятру-ук, Пятручо-ок, не брыка-айса, гэты дзядзько цукерачак табе дасць! — угаворвала яго маці.

— А от і не пайду!.. Гэ!.. Гэ-гэ!..

Альяш узяў у Хімкі з падноса медны крыж, плашмя стукнуў хлопца па галаве і грозна закрычаў:

— Выйдзі, сатана!

Людзі знямелі. Вар'ят жахліва тузануўся назад, але яго не пусқалі. У напружанай цішыні Альяш закрычаў мацней:

— Выйдзі, табе кажу, сатана!

— Га!.. Га!.. — выдыхаў паветра хлапец ужо са страхам, нібы

яго штурхалі ў кіпяток і ён з апошняй сілы трымаўся, каб туды не ўваліцца, а вочы яго бегалі, як у зацкаванага ката.

— А вы не ў ціятр папрыходзілі, не маўчыце! —закрычаў Альяш на людзей. — Мо я грэшны і бог мяне не паслухае!.. Мо хто больш дастойны е сярод вас і гасподзь пачуе яго! Сатана, выйдзі!.. Паўтарайце ўсе за мной.

— Вы-ыйдзі!..— папрасілі людзі хорам.

— Сатана, выйдзі! — падаў Альяш каманду зноў.

— Выйдзі, сатана! — закрычалі ўсе дружней з нядобразычлівым абурэннем да нячыстае сілы і замерлі.

— А куд-дой? — каўкнуў перасохлым горлам хворы.

— Кудой зайшоў! — стары не зводзіў з яго вачэй.

— Я не вылезу тудой! — плаксіва прамовіў ненармальны.

— Выйдзі, нячысты!

— Выйдзі! — ужо з затоенай пагрозай гыркнула, як адзін чалавек, уся зала.

— Гэ!.. Гэ!.. Я праз галаву залез!..

— А я табе кажу, кудой забраўся, тудой і вылезеш! — замахнуўся прарок на хворага цяжкім крыжам.

— Не! Не-е!..— завішчэў вар'ят, як маленькі.— Я выйшаў, дзядзьку, не трэ-або!

Юнак уткнуў галаву ў мацерыну кофту. Жанчына яго суцяшала:

— Ну, добра, Пятручок, добра ўжэ, супакойся, маленькі мой!

Хворы быў увесь успатнелы і рахманы, бы грудное дзіця, яго плечы ўздрыгвалі ад пакоры і плачу. Людзі адыходзілі ад жаху.

Цётка з захапленнем прашаптала:

— Бач, і на гэты раз сатана такі паслухаўся!

— О-о, Альяш толькі гаворыць, што не ўсё можа, а сілу мае вялі-ікую! — з гонарам сказала другая.

— Дзякуй табе, айцец, за выздараўленне! — ледзь вымавіла ад бязмернага шчасця маці і, абнімаючы рахманага сына, які ўвесь дрыжэў і плакаў, пачала прабівацца з мужам да дзвярэй.

А да Альяша з сарамлівай усмешкай паўзла Тэкля з Празнікаў, гладкая, каравокая маладзіца з расхрыстанай кофтай на грудзях. Усе ведалі, што яна кінула на вёсцы мужа, старога бацьку і круцілася з маладымі мужчынамі.

— Табе чаго?

— Адпусці мне, грэшнай, мае віны!.. Закінь слоўцо перад госпадам богам за мяне, распутніцу, чалавек божы!

Альяш, нарэшце, пазнаў яе, схапіў жанчыну за нос, павадзіў улева і ўправа і пасараманіў:

— Няма чаго табе тут рабіць...

— Айце-ец, пашкадуй, не праганяй!..— Тэкля паспрабавала абняць яго за калені.

— Ты чаго прышла сюды — хвастом круціць? — адступаючы, прарок распаляў сябе ўсё больш.— Ідзі з царквы, і каб тваёй нагі не было тут!

— Не баяцца бога, швэндаюць усялякія тут! — падлашчылася да Альяша жанчына з перавязаным вокам.

— Гнаць такіх трэбо і сабакамі цкаваць! — падтакнула другая.

Альяш азірнуўся.

За ім прытаілася вялікая чарга. Хрыпеў хворы хлопчык, асветленая васковымі свечкамі маці ручніком выцірала ў малога з лобіка пот. З брызента бліскучымі вачыма глядзела на Альяша нерухомая





кабеціна, і гэтак жа чакала цуда каля яе сухотніца. Перад абразом крыўлялася дурніца.

Не зводзіў з Альяша вачэй чалавек-абрубак. Пакорна чакалі свaёй чаргі кабеты, што папрыводзілі сваіх дзяцей-калек — іхнія спацелыя ілбы адбівалі бляск свечак...

У тую пару Альяша яшчэ не збіла з тропу слава, ён не страціў яснасці думкі і на сваю цудатворную сілу глядзеў з развражлівай практычнасцю грыбоўшчынскага мужыка. Ну, калі застыне кепская кроў чалавеку ў галаве ці баку, дапамагчы ён можа — хіба ён горшы за знахара ў Плянтах?.. Нават можа хапіць яго сілы, каб згінула з вока бяльмо ці выйшла з дурнога нячыстая сіла. Але ж ці можа ён што зрабіць, каб у калекі вырасла нага? Такое моцы не было нават і ў Іаана Кранштацкага. Меў яе толькі Ісус Хрыстос, які мог і мёртвага ажывіць, і буру спыніць. Хіба ж дурным бабам гэта ўталкуеш?!. Дома Альяша чакалі майстры з-пад Карпат. Яшчэ што-небудзь пакрадуць — хіба можна верыць гарадскім?! На балоце ў пракосах парылася неварочанае сена. А ў царкву ўсё ціснуліся людзі. Ужо нельга было варухнуць і локцем, а ў прагрэтым, з млосным пахам расплаўленага воска паветры цяжка было дыхаць.

І будуць так лезці, покуль ён тут. Павыціраюць бакамі свежыя сцены, паабдзіраюць фарбу на калонах, перакуляць падсвечнікі, нарobяць на падлозе тлустых плямаў...

Альяша разабрала злосць. Не сказаўшы нікому ні слова, стары порстка ўсхапіўся, нырнуў за алтар і выбраўся на двор.

## 6

— Чаму ён пайшоў? — расчаравана пыталіся адзін у аднаго багамольцы.

— Бог яго ведае!.. А так харашэ гутарыў з усімі, цуды свае вытвараў!..

— Мо пакрыўдзіўсо за што?

І пілігрымы самі сабе стварылі тлумачэнне. Збядованая маці бязрукага хлопчыка ўразіла ўсіх адкрыццём:

— Гэто празнікаўская блудніца пагасіла ў ім цудатворную моц, таму Альяш і зазлаваў!

— Ах, курва паршывая, падумайце, што выдумала!.. І на святого чалавека ўжэ пазарылаcа!..

— Тут яна, во, яшчэ і моліцца бытто!.. Хопіць табе, падкалодная змяя, прыкідвацца!

І бабы, якія за сотні вёрст валаклі сваіх калек, разлютаваліся. Накінуліся на Тэклю, парвалі на ёй адзенне. У царкве ўзняўся віск, лямант.

— Лю-удзі, што вы гэто ўздумалі?!.— заступілася за Тэклю цётка Хімка.— Грэх вялікі будзе, калі вы ў храме што кепскае ёй зробіце!

Яна схапіла маладзіцу за руку, павяла за алтар і праз тыя ж дзверы, якімі выйшаў Альяш, выпусціла яе на двор.

— Я нікуды не пайду-у адгэтуль! — упала на мурог і завыла Тэкля.— Чарвяком буду тут поўзаць, як сабака ногі яму буду лізаць, але ачышчэнне за віну сваю выпрашу!..

— Годзі ўжэ, не ўбівайся! — суцяшала яе цётка Хімка.— Я таксамо закіну перад Альяшом слоўцо!.. Ты адно не адступай, гасподзь літасцівы!

Хімка знайшла прарока і прыстала да яго:



— Падумай, ці ты маеш права праганяць маладзіцу, Ілля!

— Гэту распусту? — ускіпеў Альяш.

Аднак і Хімка нечага тут навучылася.

— Успомні, Альяш, калі іудзеі прывялі Ісусу Хрысту блудніцу на расправу, ён нават галавы не падняў на іх. Сын божы і далей пісаў сабе перстам на пяску, толькі сказаў: «Каго вы судзіце?! Кіньце ў яе камень той, хто без граха!» З той пары стала яна жыць з усімі ў міры. Не, Альяш, ты не маеш права праганяць, ты яе прымеш, і жыць яна будзе з намі, месца ўсім хопіць.

Пасля вячэры Хімка з Меляшкоўскай пайшлі ў царкву мыць падлогу. Альяш, сцягнуўшы боты, апусціўся перад іканастасам на калені. Пасля малітвы прарок устаў і азірнуўся.

Яго ложак быў засланы, салома пад пасцілкай узбітая пухкай падушкай. У кофце без рукавоў стаяла Тэкля і шкрэбла сабе калена. Альяш кінуў на яе вокам і, адварочваючыся, закрычаў:

— Ты — што, д'ябал цябе сюды прыслаў?! Сарочку падняла і чухаешса?! Распусты захацела?!

— Не праганяй, святы чалавек, мне няма куды ісці! — упала Тэкля перад ім на калені.— Пашкадуй мяне, грэшную, і спасі!

Альяш пачаў маладзіцу ні то вінаваціць, ні то дапытваць, ні то караць:

— У горадзе, нябось, разбэсцілаcа?!

— У Гродне,— праенчыла яна.

— З афіцэрамі!

— На Фолюшы! — Тэкля нагнулася да самых яго ступакоў.

У Альяша з новай сілай абудзіўся пакрыўджаны дзяншчык.

— І раздзявацца прымушалі?! — закрычаў ён не сваім голасам.

— Прымушалі, святы айцец!

— І на стол танцаваць узнімалі?!

— На сурвету грошы клалі і па іх хадзіць трэ было!.. Але я грошай ніколі не брала, ён потым іх забіраў!

— Аднак грашы-ыла з імі?!

— Было! — стукаючы кулакамі ў гліняную падлогу, закрычала Тэкля ў адчаі: — Было, было-оох-ха-ха-ха!..— зайшлася плачам маладзіца. — І хлопчык у мяне нарадзіўсо! Ён забраў малое, калі я не магла хадзіць, завёз у Ласасянку і ўтапіў, бы кацяня!.. Ы-ых няшчаслівая я, няма мне літасці, святы чалавек!..

Альяш стаяў разгублены.

— Набі мяне, святы айцец, як паршывую суку, ты ж — мужчына!.. Набі-і, мне лягчэй будзе!

Тэкля хапіла Альяша за ногі і ўжо закрычала з усяе моцы:

— Ну, лупі, чаго стаі-іш!.. Моцно, з усяе сілы ўдар мяне хоць адзін раз!.. Не хочаш?! То ратуй мяне, грэшную, малітвай, малі бога, няхай даруе мне ві-іны, ты — святы, ты — можаш!..

Альяш і сам не разумеў, што з ім адбывалася. Адно было ясна — крычаў толькі для прылiку, і Тэклю выкінуць не можа. Ён нерашуча патаптаўся, адштурхнуў маладзіцу і загаварыў ужо цішэй:

— З распуснікамі скруцілася?! Дзіця роднае, сучка, загубіла?! Не біць, а — закінуць табе на шыю пастронак і задушыць цябе мала! На калені, сатана д'ябальская!.. Цэлую ноч будзеш маліцца во тут! І каб не дакраналаса ні да чаго ў мяне, поскудзь паршывая!..— Альяш падышоў да іканастаса: — Нічого, вытрываю і гэту д'яблаву спакусу.

Ужо разумеючы, што атрымала перамогу, з падлогі жаласліва папрасіла Тэкля:

— Не праганяй мяне, святы чалавек, мне зусім няма куды ісці!

— На кухні, каля цабэрка будзеш спаць!

— Нават у сабачай будзе жыць буду, калі загадаеш, мо вымалю ў бога літасць!..

...Хімка з Меляшкоўскай вярталіся з царквы позна. У Альяшовай хаце стаяў такі крык, што аж звінелі шыбы.

— Ох, разышоўса як!..— стаіўшыся, прашаптала Меляшкоўская.

— Няхай пакрычыць на яе, няхай! — прамовіла Хімка.— Калі я расказала Альяшу пра свой грэх, ён і мяне гэтак бэсціў.

— І я яго прасіла, каб пабіў, расказаўшы пра свой блуд! — задумалася Сахарышына швагерка.— Палегчало мне адразу!.. О-о, сілу ён ма-ае, паспыта-ала яе і я, паспыта-ала!..

— Колькі людзям дабра робіць! — удзячна ўздыхнула Хімка.

Кабеты пастаялі на падворку, паслухалі яшчэ, як сварыцца Альяш, і пайшлі шукаць сабе іншы начлег.

А на другі дзень бабы разнеслі па вёсках і хутарах новую легенду пра Альяша:

«Яго нават распутніца не змагла ашукаць!.. Альяш паглядзеў на яе дый кажа: «Хоць ты і ў шоўкі апранутая і сама надто ж прыгожая, але ты е д'ябал і ад мяне адыдзі!» А тая, кажуць, як зарагоча, заіржыць!.. Людзі — глядзь на яе ногі, а там — капыты, носам пацягнулі — серай смярдзіць!..»

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

З лёгкай Хімчынай рукі ў Грыбоўшчыну зачасціў шмат хто і з нашай вёсачкі.

Прычыны былі розныя.

Малы Рыгарулька перад маім бацькам разважаў так:

— Ты, Нічыпар, ведаю, смяешса, што еду ў Грыбоўшчыну. Святы Альяш ці не — хто яго ведае. Калі і на самай справе — недзе там бог е?.. Вунь яўрэі ў Гарадку, не тое, што мы з табой, неадукаваныя,— усе школы паканчалі, а ў бога верацы!.. То ты вазьмі ў мяне біблію, пачытай! Там напісано, што перад канцом свету з'явіцца на зямлю прарок Ілля. Я табе нават пакажу месца!.. Што, думаеш, дарма паперу марнавалі б на няпраўду, дарма час трацілі б на пісаніну?.. Біблію пісалі людзі ву-учаныя, будзь пэўны, яны ўсё ведалі наперод!.. Калі людзі не ілгуць, то і Альяш — той самы прарок. Што ён— просты мужык?.. Бо і святы Восіп быў столярам!.. А калі ашуканство гэта — толькі і страты той, што праедуся ў Грыбоўшчыну, плаціць за гэто нікому не трэбо!.. А калі выявіцца, што Альяш усё ж такі ад неба, то мне будзе лепш, як таму, хто не ездзіў!

— Тады мо і мяне возьмеш пад абарону, слоўцо перад богам закінеш? — ухмыльнуўся бацька.

— Зноў з мяне смяешса?! — разззлаваўся Рыгарулька.— Ты нібы ўсё ведаеш, разу-умны такі, збытку-уеш з кожнаго, а от скажы — на чым Зямля павешана?

— Як гэто — паве-ешана?!.— сумеўся бацька.



— А так! На чым вісіць яна на небе,— на вяроўках ці пачэплена на які жалезны гак?

— Вяроўка гэтакі цяжар не вытрымае, Рыгор, нават — канапляная!..— разбірала бацьку весялосць.— Разляціцца ўдыхт!..

— Не вытрымае, прызнаеш сам?!.. Тады на чым жа?!. І хто яе павесіў?—дзядзька пераможнымі вачамі абвёў хлопчыкаў, якія прыслухоўваліся да дыспуту на астранамічную тэму: — Ага, маўчыш, бо не хочаш прызнацца, што не ведаеш, гонар цябе заядае!

— Ха-ха-ха-ха!..— пакаціўся бацька ад смеху.

Сур'ёзны Рыгарулька нават не азірнуўся, ускінуў на руку хамут і пайшоў запрагаць каня.

Парэмскага Езіка, з якім Альяш некалі снопікам затыкаў удаве комін, жонка датуль пілавала, пакуль мужык не здаваўся. Езік кожную нядзелю пасля снядання таксама браў збрую, ішоў на падворак, запрагаў каня, садзіў сваю жонку ў палукашак, у ногі ставіў кошык з курамі — падарунак прароку — і плёўся разам з другімі да святога месца, хоць сам, бязбожнік, глядзеў на ўсё, бы на нейкі цырк.

Людзі больш сталыя часамі ехалі туды толькі з-за таго, што не было куды падзецца. Газет па вёсках амаль не выпісвалі, радыёпрыёмнікі былі рэдкасцю, а цягнула да цікавага. І чалавек разважаў гэтак:

«Збожжа пасеяў, бульбу пасадзіў і нават абсажкаваў, да сенавання яшчэ далёка, што рабіць?.. Сходкаў паны, заразы, рабіць не дазваляюць, народ прэцца ў нейкае Грыбаво, — давай, махну туды і я!..»

І ішоў рыхтаваць фурманку ці чысціць ровар, як у нас называлі веласіпед.

### 2

Так ці інакш, у Грыбоўшчыну ехаць не пераставалі. З гэтага выпадку на святога Іллю ў нашу хату сабраліся мужчыны — дзень быў нерабочы. Дудзіка Мікалая на веласіпедзе пасылалі ў разведку. Мікалай вярнуўся толькі што з Грыбоўшчыны ўспатнелы і дакладваў:

— Ну ж і наз'язджаласо туды люду, каб вы бачылі!.. У Грыбоўшчынскіх калодзежах не стало вады, паіць коней водзяць за тры вярсты — у Студзянскія сажалкі! Вакол святого ўзгорка — непраходны абоз, толькі аглоблі тарчаць у небо, равароў колькі, а народу — што мурашнік!.. Рух, крык, гоман, мітусня — бы ў пятнаццатым годзе, калі валілі ў бежанство!.. Бачыўса са сваімі хлопцамі — з Плянтаўскімі Пракопчыкамі, Яўгенам Курзай з Нового Вострава... Яны толькі пацiскаюць плячамі. Калі і закажам у цэнтры лістоўкі, ніхто не стане іх чытаць, адно ў турму сябе аддамо!.. Каб палкі войска вывесці, то і затрымаў бы мо гэтае шэсце!..

Покуль хлапец прагна піў ваду, бацька заўважыў:

— Дзіво што наз'язджаласо. З аднаго Страшава адправіласо фурманак колькі, а падлічы ўсё вёскі!.. Знайшоўса адзін абармот і водзіць усіх за нос! — скрыгітнуў ён ад злосці зубамі.— Пабраць бы добрыя бізуны ды пачаць свянціць — дурнота з іх вылецела бы ў момант!

— Не дапаможа, Нічыпар,— запярэчыў Сахарышын сын Юляк.— Яшчэ больш будуць ехаць — ужэ як да святога вялікамучаніка.

— Ты не змог угаварыць родную сястру не пайсці туды! — напомніў бацьку Салвесь.

З сямі тысяч «кэпэзэбоўцаў» большая палова сядзела ў турмах, астатнія былі загнаныя ў падполле. Такім падпольшчыкам быў і Юляк. Гэты хлапец у бежанстве скончыў школу ў Казані.

— Да рэлігіі трэ адносіцца асцярожна,— тлумачыў задуманы Сахарышын сын далей.— Яна вырасла з туманнаго, неасэнсаванаго мышлення, зароджанаго пераплётам палітычных, культурных і эканамічных уплываў.

Пабачыўшы, што гаворыць незразумела, хлапец думку праясніў:

— Вазьму сваю маму. Я прайшоў гімназію, бачыў рэвалюцыю, перачытаў кучу кніжак, словам, атрымаў маральны зарад, таму ў любых умовах знаходжу правільны занятак для душы. Маму ў такім напрамку не выхоўвалі, але душа яе не можа цярпець пусткі і патрабуе свайго... Была ў вёсцы «Грамада», то і яна маладая бегала на сходы, меркавала, што будуць сеяць на панскіх гектарах, спявала з дзяўчатамі песні... Усё ёй было там блізкае і цікавае, нават у цэркву перастала хадзіць. Як не стало для душы занятку, маму і пацягнуло да Альяшовай рамантыкі!.. І яе сёння брат мусіў везці ў Грыбоўшчыну!.. Так што лягчэй за ўсё абазваць людзей дурнямі, але гэто не так!

— Маеш рацыю! — згадзіўся ўжо з ім бацька.— Грыбоўшчына — тупік, куды фашысты загналі народ!

— Слухайце, а Павел Бельскі з Пянькоў, што ў гуртку чытаў нам свае вершы, у Альяша цяпер служыць паэтам! — успомніў Мікалай.

Іншыя мужчыны таксама спахапіліся, што ведаюць «грамадоўцаў», якія прысталі да Альяша.

— Во, во! — падсумаваў Юляк. — Успышка рэлігійнага псіхозу ў Грыбоўшчыне ўзнікла як духоўная патрэбнасць.

## 3

Праваслаўнае духавенства не магло не бачыць, якую папулярнасць мае Клімовіч сярод паствы, але глядзела на прарока скрозь пальцы. Калі ж ён пабудаваў сапраўдную царкву, яно стала перад дылемай, што рабіць: сектант, раскольнік, а царкву яго нікуды не дзенеш.

Глядзелі на самазванца адзін год, глядзелі другі...

Каб не апынуцца ў дурнях, не адбіць ад сябе веруючых і налажыць лапу на Альяшова багацце, духавенства вырашыла дзейнічаць. Настаў дзень, і ў глухую вёсачку на шыкоўных лімузінах з Гродна прыкаціў архірэй — айцец Антоні са світай.

Сустракала яго дэлегацыя мужыкоў. Узяўшы ў адну руку архірэйскі жэзл, у другую — сярэбраную дараносіцу, што вёз у падарунак новаму храму, айцец Антоні выбраўся з машыны. Паголеныя дзеля такога свята, у новых, мо раз на год адзяваных касцюмах, у ботах, намазаных дзёгцем, грыбоўскія дзядзькі няўклюдна ўзялі шаноўнага госця пад рукі і павялі на святы ўзгорак, дзе з напружанай цікавасцю чакаў людскі мурашнік — добрых тысяч дваццаць сялян з Альяшом. Наперад архірэю забеглі падвучаныя Хімкай малыя дзяўчынкі ў белым адзенні і пачалі пялёсткамі жасміну ўсыпаць дарогу.

Стаяла цудоўнае, як на заказ, надвор'е. Дзень яшчэ быў наперадзе, прыпякаць толькі пачынала, у ласкавым небе таялі лёгкія хмурынкі. Да застылага ў напружанай цішыні натоўпу паволі рухалася працэсія. Дзяўчынкі ў белых сукеначках з дзіцячай грацыяй апаражнялі кошыкі, шчодра сыпалі пялёсткавы сняжок. На чале світы пратадзіяканаў і бацюшак, трымаючы дараносіцу і жэзл, па пялёсткавай сцяжынцы паважна крочыў архірэй. Залаты роспіс адзення ўладыкі, пасярэбраныя стыхары яго світы іскрыліся на сонцы, нібы абсыпаныя брыльянтамі, а дараносіца гарэла агнём, сляпіла вочы.

Маўклівы натоўп пасярэдзіне раскалоўся. У гэтай шчыліне дужыя мужыкі ўзяліся за рукі, утварылі ланцугі, і архірэй увайшоў у людскі калідор. Кожны чалавек хацеў нешта бачыць, ён пнуўся, як мог, наперад, таму па баках хвалявалася зыбкае мора галоў, ад нецярплівага трапятання незлічоных ног узняўся пазалочаны промнямі пыл і, як німбам, ахутаў працэсію.

Стыхійная маса напірала. Ужо здавалася, гэты маўклівы сялянскі гурт прарве ланцуг мужыкоў, захлісне, затопча архірэя і яго світу, ды на падмогу пайшла цётка Маруся — старога Руселя жонка. Бабцы было ўжо гадоў з восемдзесят, але яна раптам зычным і маладжавым голасам зацягнула:

Досто-ойна е-есть яко ва і-ісціну-у...

Хрысціна з сёстрамі, царкоўны хор і тысячы жанчын толькі чакалі сігналу, падхапілі песню, і іхнія галасы зліліся ў адзін выбух:

Блыжы-ыці ця, багаро-одзіцу!..

І просценькая мелодыя, адшліфаваная многімі пакаленнямі такіх жа спевакоў, магія незразумелых і старажытных слоў адразу ж супакоілі людское мора.

Мелодыя мацнела і стала такой магутнай, што, здавалася, запоўніла неабсяжны акіян глыбокага неба, дасягнула сонца, а ўдзельнікі ўрачыстасці не чулі нават пад сабой грунту, — поўныя надзеі і магутнай сілы, якая наліла іхнія душы, яны нібы апынуліся ў прагрэтай ласкавымі і шчодрымі промнямі нябеснай высі.

Архірэй увайшоў у царкву, прыклаўся вуснамі да Альяшовага абраза — маці божай з Чанстахова, не падаўшы выгляду, што яна каталіцкая. Павольна ўзяў з блюда крыж, а ў гэты момант бацюшка з Вострава, айцец Якаў, накінуў на яго ліловую мантыю, і архірэй пачаў службу.

Неўзабаве два дзесяткі бацюшак у раззалочаных рызах на чале з архірэем, як належыць, учынілі таінства. Яны гэтак жа ўрачыста, прыгожа, без запінкі, зладжана — нібы ўсім спектаклем кіраваў нябачны дырыжор — адспявалі, адмаліліся, паволі і велічна абышлі з красным ходам царкву ды абкурылі ладанам яе сцены і, нарэшце, прысвоілі імя — святога Іллі.

Айцец Антоні выязджаць з Грыбоўшчыны не спяшаўся, прабыў у ёй некалькі дзён.

Архірэй загадаў зараз жа зрабіць скарбонкі на грошы і расставіць пад святыя абразы ды каля ямаў, адкуль пілігрымы набіралі ў хустачкі святы пясок. Побач з цэркаўкай выбраў месца для філіяла Гродзенскага манастыра.

Хімка з Меляшкоўскай у Альяшову хату, пасля таго, як сюды прыбілася Тэкля, начаваць не прыходзіла, і да кансісторыі дайшлі чуткі аб непрыстойных паводзінах старога. Узяўшы з Альяша абяцанне, што ён зараз жа адашле ад сябе маладзіцу, не будзе дакранацца да прыходскіх грошай, айцец Антоні прыступіў да наступнай цырымоніі.

Два архімандрыты падвялі да ўладыкі Альяша ў адной бялізне, архірэй тры разы кінуў ножніцы на зямлю, а тады пастрыг дзядзьку ў манахі і даў яму імя — Іаан.

Службу ў царкве архірэй даручыў весці бацюшку з Вострава — айцу Якаву, будынак загадаў Альяшу здаць пад распіску протаіерэю сабора ў Крынках, у памочнікі Альяшу прыставіў ігумена Серафіма, якога прадбачліва захапіў з Гродна.

Зрабіўшы ў вёсачцы столькі пературбацыі, уладыка адправіўся дамоў.

## 4

Айцец Серафім з манахамі пасяліўся ў вёсцы і быццам бы стаў дапамагаць Альяшу. Ад архірэя не адстаў каталіцкі епіскап, ён для раўнавагі адправіў туды «Жывыя Ружанцы» *. Вёска цяпер мела новую тэму для плётак.

Да Чарнецкіх зачасціў вечарамі сам ігумен Серафім — малады і прыстойны мужчына з чорнай густой барадой і буйнай белізны зубамі. Часу для размовы з госцем гаспадары не мелі, бо трэба было якраз даіць кароў, карміць жывёлу: ігумен церпяліва вазіўся з малымі.

Забаўляўся айцец Серафім з дзяцьмі Чарнецкіх да той пары, покуль не з'яўлялася Зоська з «Жывых Ружанцаў», якая рыхтавалася ў манастыр. Апранутая ў вышываны кракаўскі кажушок, не ўзнімаючы на мужчын вачэй, будучая манахіня частавала малых ласункамі, бралася рабіць ляльку з анучак, а Серафіму ў гэты момант прыспічвала адпраўляцца дамоў.

Калі выходзіла потым і Зоська, цётка Надзя для цікавасці выглядала на двор і бачыла заўсёды тое самае. Ля хлява таптаўся ігумен. Зоська ішла да яго. Абое браліся за рукі і знікалі ў цемры.

— Яшчэ з такімі фо-окусамі! — бурчэў Іван і пляваўся: — Бытто не можно сустракацца без пасрэднікаў!.. Ходзяць сюды і час нам толькі аднімаюць!

— А табе шкада, што ходзяць! — бараніла святую пару цётка Надзя. — Ды як жа яна апраўдаецца перад начальніцай, калі тая спытае, дзе была?

— А хібо што!.. — дзівіўся Іван.

— Дайшло, дзякуй богу, можна падумаць, што ты ніколі не быў маладым!.. Не выдавай іх, глядзі, калі ігуменша заўтра спытае!..

Покуль праваслаўны ігумен так рамантычна праводзіў вечар, пакінутыя без нагляду манахі ў вясковай глушы заблудавалі і запілі да таго, што пачалі валяцца пад платамі. Гэтак яны паводзілі сябе вечарам. Але днём абавязак перад кансісторыяй выконвалі акуратна: усе падарункі, якія народ валок праpоку, манахі старанна апрыходавалі ды адпраўлялі ў Гродна. І атрымалася неўзабаве, што Альяш ды яго памочнікі цяпер не мелі нават грошай на соль і нафту. Падстрыга спахапіўся, што яго абдурылі.

Як біблейнага Адама, так і Альяша да рашучых дзеянняў падбіла жанчына.

Выйшла аднойчы Надзя Чарнецкая з вядром набраць вады. У цёмным манашскім клабуку на галаве, у доўгім падрасніку, падперазаным вяроўкай, сам гаспадар у агародчыку касіў буланчыку канюшыну, а яго Тэкля, абхапіўшы рукамі штакеціны, залівалася горкімі слязамі.

Чарнецкая падышла бліжэй і паслухала.

* Каталіцкая арганізацыя з адданых касцёлу фанатыкаў.



— Альяшку мой лю-убы, галубок мой ненагля-адны, сіроцінка мілая, дзіцятко ро-однае!.. — жаласліва, не тоячыся перад суседкай, выводзіла маладзіца. — Чаму нельга мне нават уха-аджваць за табой, сціраці тваю кашульку, наварыць табе е-есці?

— Адстань, не скуголь, як сука! — цыкнуў на яе Альяш.

Але Тэкля румзаць не пераставала.

— І чаму ты паддаешса іхняй ула-адзе? Айцу Серафіму так можно з Зоськай спатыкацца, а мне з табой забарон вы-ышаў?! Хібо яму пара каталічка, а мы з табой і ве-еры адной!

— Што табе за дзело да іх?—зноў кінуў Альяш, толькі касой махаў ужо не так роўна.

Тэкля цягнула сваё:

— А каб таго архірэя параліч разбіў, якую ён на цябе чорную адзежы-ыну напяліў, як ён цябе на смех людзям вы-ыставіў, бы таму Самсону, ручанькі і ножанькі твае пазвя-азваў!.. Абдурылі нас буржуі, абдуры-ылі, кудлы твае пастры-аглі, крыльцы саколіку яснаму падсе-еклі!..

І Альяш не вытрымаў. Ён раптам спыніўся, ні то Тэклі, ні то самому сабе сказаў:

— Што-о, апранулі мяне ў гэтыя лахманы і думаюць—купілі ўжэ?! Яшчэ і камандаваць будуць?! З кім гаварыць, з кім жыць загадваюць?! Я ўжэ нічога не варт?! Ужэ нічога не варт?! У сваёй царкве не маю права зайсці за кліpac нават!.. Малакасос Серафім будзе мяне павучаць, як з народам гаварыць маю?! А хто ён такі, адкуль узяўсо?! Дзе тады быў, калі ўсё гэта я сваімі мазалямі, гарбом сваім, жыламі сваімі будаваў?! Пачакайце, паны-шкурадзёры, устрою ж я вам фокус, мяне яшчэ Кранштацкі цудатворац вучыў, як вам не паддавацца!..

Чарнецкая выразна чула — Альяш мацюкнуўся. Потым шпурнуў касу на канюшыну і порстка пабег з агародчыка.

## 5

Неўзабаве стары прымчаў пад царкву і паслаў дзяцей па манахаў.

Калі Серафім з брацціямі з'явіліся на цвінтары, а на бясплатнае відовішча збеглася палова вёскі, Альяш Клімовіч сарваў з сябе падраснік, скінуў клабук і патаптаў іх. Не паспелі людзі апомніцца, як ён ужо схапіў кій і пачаў лупцаваць манахаў.

— Вон, каб вашай нагі больш тут не было!.. Вон з Грыбоўшчыны, не паганьце святого месца, бязбожнікі і цацалісты!.. Вы са сваімі архірэямі ды папамі веру прадалі і мяне падбіваеце ўжэ на гэто?!. А дулю бачылі! П'янкі тут, гіцлі, развялі, блуд?! Зайдзіце да свайго ўладыкі ў Гродне ды скажыце яму, што я больш яму не Іаан!.. Дурня знайшоў?!—Альяш падняў з зямлі парваны падраснік, кінуў манаху: — І лахманы гэтыя аддайце яму!

— Аддам, айцец Альяш!..— лепятаў перапалоханы ігумен.

Пазбягаліся з навакольных вёсак багамольцы. Раззлаваны Альяш ім аб'явіў, што адкрывае сваю веру «Іллянцаў». Паводле яго, новага вучэння для кантакту чалавечай душы з богам папы, архірэі, манахі і кансісторыі—лішнія, мужыкі і самі могуць даць рады ў храме, без пасрэднікаў.

— Мужыкі ўсе бедныя? — пытаўся ён у перапалоханых багамольцаў. — Бедныя — гэто праўда... Затое ўсе роўныя і праведныя, бо

не жывуць за чужы труд, не ведаюць распусты, таму вышэйшыя над панамі і бацюшкамі і бліжэйшыя богу!

— От, праўда!..— з радасным гонарам спахапіліся бабы і мужыкі.— Вядомо, бліжэйшыя!

— А за хрысціны, споведзь і шлюб ніякіх грошай браць не будзем! — абвяшчаў «прарок» далей. — Хіба хто сам пакладзе на храм, колькі захоча!

А ўслед за Альяшом пачаў гаварыць ягоны «міністр прапаганды» Аляксандр Данілюк.

— Як пасадзілі нам на шыю манахаў, як зняважылі айца Іллю, так у мяне і рукі апусціліса. І скажу вам, брацця і сёстры, як на споведзі,— пацягнуло нават да выпіўкі, пачаў я лаяцца ды паддавацца ляноце!.. І не мог нічога з сабой парабіць, наваліласа на мяне погань,бо не хапало ўлады прарока.

— І нам не хапало! — закрычалі багамольцы.

— Таму правільно айцец Ілля, наш прарок, зрабіў, што прагнаў манахаў! Як дом стары патрабуе адновы, так і вера наша за дзве тысячы гадоў надто састарыласа, рассыпаецца і патрабуе адновы. Ісцінно вам кажу! І гасподзь бог паслаў нам праз айца Іаана Кранштацкаго прарока, каб святую веру, якой пакланяліса нашыя дзяды і прадзеды, калі яшчэ не было ні папоў, ні архірэяў, ні паноў, а жылі толькі аратыя скатаводы,— аднавіць, адрамантаваць!

— Першыя свяшчэннікі, — крычаў Данілюк і на шыі ў яго надуваліся жылы,— не верылі ў прышэсце Хрыста і былі пакараны яшчэ ў старажытным Рыме. Другія свяшчэннікі з архірэем Антоніем прадаліся Пілсудскаму, дапамагалі панам закрываць святыя цэрквы, нявечаць праваслаўную веру, спрабавалі нас прымусіць гаварыць па-польску і не верылі ў прызначэнне Іллі, таму ўсявышні іх таксамо сурово карае...

— Так ім і трэ-эбо! — дружна падтакнуў натоўп.

— Брацця і сёстры, радуйцеса і весяліцеса — вера наша ўваскрасае! — урачыста скончыў сваё выступленне Данілюк.— У нашых душах запанавало зноў ачышчэнне, таму павіншуем мы адзін аднаго са святам і вазлікуем!

— Здзе-ейсніласо! — закрычалі ў натоўпе.

З ап'янелымі ад шчасця, з заплаканымі вачамі бабкі кінуліся цалавацца. У царкве гучна зацмокалі вусны, пачуліся радасныя воклічы:

— Віншуем цябе, сястрыца!

— Віншую цябе, брат мой!

— Дзякуй табе, прасвятая багародзіца, што спаслала на нас сілу і благадаць духа твайго святого!.. Хрыстос уваскрэс.

— Ваісціну васкрэс!

## 6

Учынак Альяша ашаламіў багамольцаў, у свядомасці якіх лозунг — царква без папоў — выклікаў ужо цэлы пераварот. Людзі шалелі ад радасці.

Сельскія настаўнікі закідвалі пісьмамі ўстановы і рэдакцыі, у якіх апісвалі, як заядлыя «іллінцы» пазабіралі са школаў дзяцей ды адправіліся з імі ў Грыбоўшчыну, як утварыліся дзіцячыя хоры, дзе школьнікі развучвалі гімны Альяша. Але спыняць пажар «новага вучэння» ўрад і не думаў. Ён нават не заўважаў тых сацыяльных



ды класавых матываў, якія ляглі ў аснову гэтага руху, і пачаў падтрымліваць Альяша.

Увесці ў праваслаўнай царкве польскую мову спрабаваў «арцыбіскуп» і метрапаліт гнезненска-познанскі, кардынал і прымас польскі, доктар Аўгуст Хлёнд. Атрымаўшы падрабязныя рэляцыі ад епіскапаў і ксяндзоў пра тое, якія страсці разгарэліся ў беларускіх вёсках, кардынал зразумеў, што настаў момант, калі сам усявышні падсоўвае магчымасць яму ўзяць рэванш. Цяпер ён праваслаўе мог аслабіць іншым спосабам. Хлёнд адправіўся на аўдыенцыю да «начальніка панства» — маршалка Пілсудскага, і ў выніку з'явілася пастанова:

> «За будаўніцтва святыні і выдатныя заслугі перад Рэчпаспалітай узнагародзіць пана Эльяша Клімовіча з вёскі Грыбоўшчына Сакольскага павета ордэнам «Адраджэння Польшчы».

Неўзабаве Альяшу прыйшла па пошце і ордэнская кніжка і запрашэнне — выкупіць ордэн вартасцю дваццаць злотых у беластоцкім магазіне рэгаліяў, а паліцыя атрымала загад — арыштоўваць тых, хто хоць словам абразіць Альяша.

## 7

«Новае вучэнне» тым часам разрасталася. Знаходзіліся ўсё новыя фанатыкі, якія таксама пакідалі сем'і, адракаліся гаспадарак ды прыбывалі ў Грыбоўшчыну служыць прароку. І калі спачатку да Альяша хлынулі галоўным чынам жанчыны, натуры найбольш эмацыянальныя, то цяпер ішлі мужыкі.

«Новае вучэнне» патрабавала новай арганізацыі. У святога неўзабаве з'явілася верная кагорта «трэціх свяшчэннікаў». З іх арганізаваліся «святая тройца», «святая пяцёрка», «сядміца», «дванаццатка», у якія ўвайшлі — Якаў, Енах, Багаслоў, Пятро і Павел, хоць на самай справе былі гэта дзядзькі—Волесь, Макар, Васіль... Гэтыя людзі прысвоілі сабе старазаветныя імёны, адпусцілі бароды і перад народам стараліся адпаведна сябе трымаць. Яны нават падбіралі інтанацыю, тэмбр голасу, рухі.

Да смірнага і непітушчага Клімовіча пацягнуліся алкаголікі, буйныя фантазёры і аферысты, таленавітыя валацугі, прыроджаныя спевакі, паэты і графаманы. Адчуваючы, што сродкі тут неабмежаваныя і жыць можна прыпяваючы, у «штабе» прарока кожны з іх знаходзіў сабе месца і занятак. Зрэшты, іншыя зусім не імкнуліся к Альяшовай кампаніі і вялі жыццё незалежна, сустракаліся з прарокам тады, калі хацелі, як, напрыклад, былы саліст Ісакійскага сабору ў Петраградзе Мікалай Рэгіс.

Адны складалі Альяшу гімны і частушкі, другія сустракалі пілігрымаў бязглуздымі прамовамі, трэція, узяўшы такія-сякія грошы на начлег і харчы, рыхтаваліся ісці ў праваслаўную Польшчу прапаведваць новае вучэнне. Ролю кіраўніка гэтымі апосталамі ўзяў на сябе міхайлоўскі Ломнік. Гадоў сорак ён вазіў з Міхайлоўскіх фабрычак на склады ў Беласток сукно, а перад старасцю, адпусціўшы сабе бараду, прыйшоў дапамагаць Альяшу. Густым басам, якім столькі гадоў паганяў коней, мудры стары даваў апосталам настаўленне:

— Будзьце асцярожныя, лішняго нічога не гаварыце—добра вяроўка доўгая, а рэч кароткая. Спыняйцеса на тым, што зацікавіло ва-

шаго слухача, і на пытанні адказвайце словам божым. Пры размове будзьце ветлівымі, не хвалюйцеса, не абурайцеса, з сябе не выходзьце, калі нават абражаць cтануць—карона з галавы не спадзе, губляць не маеце чаго. Майце конскую вытрымку, сабачае цярпенне і прыхільную рахманасць ягняці, тады чаго-небудзь даб'ецеса, а цяпер— з богам!

І апосталы разыходзіліся.

У іншай лясной і глухой вёсачцы, куды навіны даходзілі са спазненнем на год, такія апосталы замянялі сённяшнія тэлевізары. Даведаўшыся, хто завітаў, бабы зляталіся з прасніцамі, калаўротамі, ступамі, вязаннем, і зімовымі доўгімі вечарамі спрактываныя жаночыя пальцы скублі кудзелю, вязалі панчохі ці абдзіралі крупы, а ўражлівыя душы, як губка, убіралі кожнае слова місіянераў. Апосталы апавядалі тое, што народ прагнуў пачуць. Альяшовыя пасланцы плялі гісторыі маляўніча, наколькі ў іх хапала фантазіі. Цёткі так папрывыкалі слухаць, што без такога гаварунка не маглі працаваць.

Настаў час, калі ў многіх вёсках людзі перасталі хадзіць у царкву. На сходзе ў кансісторыі бацюшкі напалі на свяшчэнніка з Вострава — царква з яго прыхода бунтуе веруючых. Прыперты да сцяны айцец Якаў іх пераканаў, што ўсяму вінен жулік і прайдзісвет Альяш, што айцец Якаў падаў на яго ў «пастарунак» матэрыялы і хутка ім зоймецца паліцыя.

Паступова сталі пуставаць праваслаўныя храмы і ў мястэчках. Адной нядзелі сарвалася служба і ў нашым прыходзе. Здарылася гэта ў дзень святога Іллі.

Прозвішча бацюшкі з Гарадка было Вінаградаў. У той дзень ён адзеў для абедні рызу, выйшаў з-за царскіх дзвярэй і аслупянеў. У царкве тырчэла некалькі бабак ды царкоўны вартаўнік і званар.

— А дзе народ? — абурыўся свяшчэннік.

— Вядомо, дзе! — ухмыльнуўся вартаўнік сабе ў вусы.— Дзісь жа фэст у Грыбоўшчыне, айцец Уладзімір!

Вінаградаў улавіў у голасе вартаўніка Шарамэты сімпатыю к бунтару.

— Чаго вы ходзіце к адступніку?!—напаў ён на дзядзьку.— Ён жа ў змове з д'яблам!

І бацюшка пачаў расказваць Шарамэце, што даведаўся ў кансісторыі.

— Жулік і шарлатан ваш Альяш, няўжо і ты не разумееш?! У Альяшовым доме — патаемнае акенца прарублена. Хітрун садзіць побач з сабой падкупленых мужыкаў, тыя ўзіраюцца на дарогу і падказваюць, хто едзе ў Грыбоўшчыну. «Гэта Мікалай Налівайка са Скраблякоў вязе дачку хворую на сэрца да вас, а той—Іван Казёл з Меляшкоў...»

— Ах, бо-ожа, што робіцца!..— дзівіліся бабкі.

— Гэтым і ашуквае вас, цёмных ёлупаў, бо дакладна ведае пра селяніна, а вы яму і верыце! Ён ужо цэлыя мяхі золата мае і гарэм маладых распусніц завёў, бы турэцкі султан, даруй мне госпадзі, што вымаўляю непрыстойныя словы ў храме тваім!

Бабкі ўжо набожна хрысціліся, але Шарамэта толькі хітра ўсміхаўся. Быў і ён у Грыбоўшчыне, спатыкаўся не раз з тым мужыком і бачыў, які там гарэм, у яго жыве празнікаўская баба і гатуе яму страву — дык Альяш жа не жанаты!.. Затое званар добра ведаў, што цяпер Гарадоцкая царква засталася без грошай.



— Не, айцец Уладзімір, сілу святую Альяш мае, вы не кажыце! — запярэчыў Шарамэта асцярожна.— Бывае, што царква яго закрытая на замок, а ў ёй—спевы!.. Мая жонка на ўласныя вушы чула, калі ў мінулы фэст начавала ў Грыбоўшчыне! Анельскія галасы гучалі ўсю ноч!.. Пагаварыце вы з маёй Юлькай, сама вам раскажа— прыкладвала вуха да сцяны!

— Ёлупень! — зазлаваў бацюшка. — Цяпер ёсць такія апараты з пласцінкамі!.. Можаш іх накруціць і спаць ісці, усё роўна іграць будзе! Прыходзь пасля абедні да мяне, пакажу, грамафонам называецца!

Дзядзька пераканаўся, што з папом спрачацца дарэмна.

«Мяхі золата ў Альяша знайшоў, калі ён нават віткі лазовыя да аглабель сам вяжа, падмёткі сам сабе падбівае!.. Ну, ну, няхай будзем ёлупамі! — казаў дзядзька сам сабе.— Альяш—гэто не ты, што не ўмееш ні каня запрэгчы, ні дроў накалоць. Пабачым, як яшчэ заспяваеш, якая стане твая матушка, калі людзі не пойдуць да царквы з паўгода?!»

Паступова пачалі пуставаць цэрквы ў Крынках, Бераставіцы, Саколцы, Свіслачы, Ваўкавыску... Толькі ў вялікіх гарадах ідэі «новага навучэння» покуль што ніякага поспеху не мелі. Але Альяша гэта не надта хвалявала.

Прарок на сходы сваёй абшчыны болей не пайшоў, пакінуў усё вырашаць там Данілюку і Ломніку. Альяш быў занадта абмежаваны і бездапаможны, каб уплываць на магутны выбух людской самадзейнасці, якая разгарнулася вакол яго асобы. Покуль «апосталы» на чале з міхайлоўскім багамолам падтрымлівалі ажыятаж вакол яго імя, Альяш займаўся гаспадаркай.

Вычытаўшы ў Евангеллі ад Лукі пра гасцініцу, Клімовіч надумаў пабудаваць яе для пілігрымаў, а пры ёй—стайні і калодзежы для коней. Заняты гэтай справай, ён нязграбна ўзбіраўся на воз, падкладваў пад сябе конскую торбу з грашыма і адпраўляўся ў Студзянскае лясніцтва, Крынкаўскую цагельню ці ў крамы. Затое Альяшовых актывістаў аж падмывала дабрацца да вялікага горада, узбунтаваць народ і там.

## 8

Перад сёмухай некалькі кабет на чале з Тэкляй і зусім старэнькай, але даволі жвавай Піліпіхай змовіліся схадзіць у Гродна. Тэкля раздала бабам партрэты Альяша на кіёчках. Піліпіха ўзяла абраз, на якім «прарок» быў намаляваны з залатым вяночкам над галавой, а нашай Хімцы Данілюк даў лістоўкі з «залатымі словамі самога Іллі»... Стаяла сухое надвор'е. Каб не было горача, жанчыны ў дарогу выправіліся вечарам.

У гродзенскім саборы святой Пакровы (на вуліцы Ажэшкі) у першы дзень сёмухі грымела набажэнства. Сабор запоўнілі былыя царскія адвакаты, інжынеры і ўрачы. Людзям гэтым жылося добра— Польшча патрабавала спецыялістаў, гэтыя асобы былі свабодных прафесій і грошай бралі ў кліентаў колькі хацелі. Яшчэ былі ў саборы рускія памешчыкі, або тыя, хто з Расіі вывез золата... Аднак усе яны ведалі, што іхні дабрабыт будзе існаваць датуль, покуль Пілсудскі не вырасціць нацыянальных кадраў, не адбярэ зямлю для

асаднікаў, покуль не разыдзецца ўласнае золата. Царква для іх была нібы клубам, у якім яны дадавалі адзін аднаму бадзёрасці, надзеі, дзе адчувалі блізкі локаць сваёй вузкай калоніі. Апранутыя ў габардзіны і шоўк, яны ўзнёсла і задумана глядзелі на асветлены сотнямі рознакаляровых лямпачак алтар, на бліскучую рызу бацюшкі Генадзія Васільевіча Майсеева.

Настала хвіліна ва ўрачыстай абедні, калі пачцівы Генадзій Васільевіч зычным голасам зацягнуў:

Твое от твоих тебе прінося-аша-а,
От всех и от вся-а!..

У гэты якраз момант з узнятымі на кіёчках партрэтамі Альяша і ўвайшлі ў сабор грыбоўшчынскія бабы. Тэкля потым прызнавалася, што надта разгубілася, толькі адступаць было позна. Яна апынулася перад рускай дваранкай у капелюшы — жонкай палкоўніка Сямёнава. Маладзіца ўзяла ў Хімкі лістоўкі, стала піхаць мадам Сямёнавай і гаварыць:

— Сястра ва Хрысце, на, гэто—са святой вёсачкі Грыбоўшчыны, з таго Грыбава, дзе святы прарок!.. Ідзі туды, чаго тут стаяцьмеш з імі!.. Папы—ашуканцы, хібо не ведаеш?!. На небе адзін усявышні, а на зямлі — прарок і наследнік яго, Саваоф Ілля!..

Пышная дваранка, мадам Сямёнава, муж якой і на службе польскага ўрада атрымліваў за два месяцы столькі, колькі каштавала ўся гаспадарка Тэклінага бацькі, нават галавы не павярнула да басаногай сялянкі.

Гэтак сама важна, маўклівa, зачараваная таемнасцю літургіі, стаяла ўся публіка. З кліраса грымеў магутны чатырохгалосы хор:

Тебе по-ем, тебе благослави-им!..

Грыбоўшчынскія цёткі глядзелі на гэтых напышлівых паноў і паўпанкаў са злосцю. Ім успомнілася даўняя крыўда, калі яны былі ў горадзе служанкамі, дзе страцілі сваю прыгажосць, аддалі маладыя сілы і сэрцы на тое, каб гэтыя паны, паўпанкі з жанкамі мелі чыстыя кашулі, спакойныя нервы, напоўненыя страўнікі, каб былі дагледжаныя, накормленыя іхнія дзеці, бульдогі, сіямскія Ваські і сібірскія Муркі.

Для Тэклі ж гальштукі, бабачкі і белыя кашулі мужчын напомнілі тыя часы, калі п'яныя афіцэры, запусціўшы на грамафоне «Карабейнікаў», прапанавалі ёй танцаваць на стале, а самі з рогатам лічылі радзімкі на яе целе.

Але штосьці атрымалася не так, як бабы запланавалі.

У велічным багацці і прасторы храма, сярод анёльскіх гукаў, чужой публікі бабы здаліся самі сабе нават смешнымі, нічога не вартымі.

Тэклю агарнуў адчай: вернецца ў вёску, а там яе ўзнімуць на смех. Як глядзець тады людзям у вочы, паказацца Альяшу?! Яна нават крыж яго ўзяла!.. Маладзіцы захацелася панам хоць насаліць. Яна ўжо забылася, хто цяпер яна ў Грыбоўшчыне. Агорнутая нейкім бяздумным шаленствам, Тэкля стала падрыгваць усім целам, прытупваць і з віскам спяваць:

Ой, по-олным пол-на коро-обушка,
Есть и си-тцы и парча!..

У саборы наступіла раптоўная цішыня. Тэкля спалохалася яе яшчэ больш і змоўкла на паўслове.



Бацюшка з гневам павярнуўся да бунтарак. Як па камандзе, павярнулі да цётак галовы адвакаты, інжынеры, памешчыкі і расфуфыраныя дамы.

— Что за безобразие? — пачуўся зычны і абураны голас папа. — Как вы посмели сюда ворваться?! Кто вас сюда впустил? Марш отсюда, богохульницы!.. Немедленно убирайтесь вон из храма!

Баб ужо свідравалі сотні абураных вачэй, да іх скалілі залатыя зубы добра знаёмыя паны і паўпанкі, а на выпешчаных тварах застылі цікаўныя і паблажлівыя ўсмешкі. Жанчынам зрабілася сорамна і за свае босыя ногі, і за прапахлую кужэльную вопратку, і за растрапаныя валасы. Нібы іх голымі выставілі перад людзьмі на расстрэл.

— Староста, сейчас же выведите их из храма! — камандаваў Майсееў. — Выбросьте эту скверну прочь!

Да цётак падляцелі паслугачы.

— Буржуі, а от мы вас не баі-імсо!..— з роспачу віскнула Тэкля. — Усяроўно прарок Альяш — адзіны бог на зямлі! Настане, ужэ настае час, прызнаеце яго і вы!.. Прызнаеце, акаянныя!..

— І вы дачакаецеса пагібелі! — паспела закрычаць худая і касцістая Палагея Субета з Плянтаў.— Каб на вас пранцы напалі!..

— Не лезь, адстань, злыдзень!.. Не цапай мяне паршывымі рукамі, не купіў! — цвярдзіла разлютаваная Тэкля.

Нейкі мужык хапіў цётку Хімку паўпол.

— Ма-анечка, сыно-очак, дзе-еткі, рату-уйце сваю ма-аці!—вырвалася з крыкам яна, выпусціла лістоўкі,— паперкі белымі галубамі разляцеліся па саборы.

Найбольш ламантавала Піліпіха. Упаўшы на мазаічную падлогу, яна з галавой накрылася цёплай хусткай і заенчыла:

— Караву-ул, забіва-аюць!.. Людкe, караву-ул!..

Дужым мужыкам было не да бабкі, яны атакавалі маладзейшых. Утварылася калатэча. Тэкля, сарваўшы з шыі крыж, пачала адбівацца ім. Іншыя пусцілі ў ход абразы, на якіх быў намаляваны «прарок Ілля». Хімка скоранька хрысцілася і цвярдзіла:

— Дзеткі мае, гляньце, што ро-обіцца!.. Ах, Я-ашачка, ах, Манечка, чаму вы не ідзе-еце!..

Праз хвіліну бабы апынуліся на бруку.

## 9

Выбраўшыся на Індурскую шашу, жанчыны, каб перавесці дых, завярнулі да Нёмана. Піліпіха адразу паставіла пад куст абраз, укленчыла на траву і пачала біць паклоны ды маліцца. Астатнія мыліся ў рэчцы і прычэсваліся.

Потым кабеты паселі на мурог, узяліся за свае клункі, паступова развязаліся языкі.

Ужо закусваючы снеданне сітным хлебам з ліманадам, жанчыны ўспаміналі пра выпадак у царкве і рагаталі, быццам вярталіся з гулянкі.

— Ну ж і крычаў, ну ж і перапалохаўса бацюшка! — пераможна смяялася хударлявая Палося.

Рудая маленькая Тамара—яе брацiха—дадала:

— І паноў — аж халера брала!

— Адзін як хопіць мяне за рукі!..— успомніла Палося.— Але я

паўпанка, каб на яго пранцы, добро сперазала кіёчкам ад абраза! Кофту, заменак, парваў!.. У каго аграфка е, бабы, трэбо скалоць!.. Ох, і тут яшчэ сінякі!.. А пякуць як!..

Увесь у кропінках, бы вераб'інае яечка, курносы тварык Тамаркі ды зялёныя жывыя вочкі аж ззялі ад радасці. Яна хвалілася:

— А я сваяму праехалася кіпцюрамі па яго мордзе—як бараной!

— Мяне, ля, хапіў паўпол і папё-ёр!.. — жалілася Хімка. — Я — як вырвусо ад яго, як пабягу-у!..

— Нават ланцужок парвала ад крыжа!.. Ой, жанчыны, дасць мне Альяш!.. Як яго счапіць?! Аднак сарвалі мы ім, бабы, свято! — гаварыла Тэкля.— Мне ніколі не было так страшна, а няхай на яго, думала, паліцыю паклічуць!

— І паклікалі б, каб мы не ўцяклі! — разважыла Хімка.

— Затое памятаць будуць нас доўго! — уздыхнула Палося.

— Адну цётку Піліпіху не крануў ні адзін кавалер! — пырснула Тамарка.— Але ж вы, цётко, і нарабілі енку—на цэлую царкву!

Бабка старанна біла паклоны перад малюнкам Альяша ў глыбокай, як скрыначка, рамцы і нават не павярнула да іх галавы.

— От, заядлая ў сваёй веры яна! — з пашанай і захапленнем заявіла ўжо прыціхлая Тамарка.

— Ох, божа, чаго гэто я тут выседжваю, як на курорце, мяне ж дзеці чакаюць дома! — спахапілася хударлявая Палося.— Няхай на іх пранцы, гарадскіх, пагуляла і хопіць! — уздыхнула яна, устаючы.— Мужык заб'е, ён у мяне ў гэто нічога не верыць!..

Пра свае сем'і ды гаспадаркі раптам успомнілі і астатнія жанчыны і пачалі збірацца ў дарогу.

## 10

Гэты інцыдэнт быў настолькі нязначны, што, напэўна, не кожны прыхаджанін, які вярнуўся ў той дзень з царквы, палічыў патрэбным расказаць пра яго дома — ці мала тады траплялася дзівацтва?! Затое ў Грыбоўшчыне баб спаткалі, як гераінь.

Праз дзень-другі выпадак аброс неверагоднымі падрабязнасцямі і па вёсках разыходзіўся легендай.

— Чулі, што ў Гродне грыбоўшчынскія бабы натварылі?—перадавалі адна адной і страшаўскія бабы.— Кажуць, увесь горад перавярнулі ўверх дном!

— І не кажы! — пацвердзіла Кірыліха ды стала расказваць, быццам сама была там.— Ішоў якраз малебень. Тэкля з бабамі ўнесла партрэт Іллі і пачала слово казаць да народа. Бацюшка хацеў яе перапыніць, дык Альяшоў партрэт як засвеецца, бацюшка—як спалохаецца!.. З кадзілам і ў рызе на званіцу палез!—Бліскаючы вачыма, Кірыліха абвяла слухачоў:

— Далібо! А народ, які ў саборы ў той час быў, давай бабам у ногі кланяцца і гаварыць: «Мы даўно ведалі пра Іллю, але нас паны не падпускалі да яго вучэння! Дзякуем вам, мілыя сёстры, што свет нам адкрылі!..» І людзі — раз-два павыкідвалі свае абразы з храма, а павесілі з Альяшом.

— Уся вуліца, кажуць, завалена абразамі архімандрытаў, уладык і мітрапалітаў! — уставіў Рыгарулька.

А Кірыліха сыпала падрабязнасці, нібы з мяшка:

— А потым народ як разбушава-аў па горадзе!.. Айцец Антоні — полы ў рукі дый у староство махнуў, гаварыць па цiліфону з самім Пілсудскім, каб даў войска!..

— Во прыпяклі! — захапіўся Рыгарулька.

— Няхай і Пулсудскі цяперака свае вусы папакруціць у Варшаве, няхай ведае нашых! — умяшаўся ў гутарку і Клемусаў Сцяпан.— А што ён сабе думае — заваяваў нас ад Расеі і так яму гэто пройдзе? Па курортах сабе будзе толькі ездзіць?

— Ну!—пераходзячы на шэпт, цётка даверыла таямніцу: — І на ўсмірэнне выклікалі войско!..

— Учора наш Іван вазіў у Гродна бульбу, то ўласнымі вачамі бачыў каля сабора салдат! — спахапілася Сахарыха. — І каля іншых цэркваў круцяцца яны!.. Але ўсё чамусьці з дзеўкамі!..

— Баяцца, каб і туды не дабраліса, а дзевак бяруць для блізіру!— вырашыў Рыгарулька.— Бабаў у турму пабралі?

— Мусяць выпусціць, калі народ разбушаваў! — адказала Сахарыха.

Аднак Кірыліха і на гэта мела што сказаць.

— Падумайце, якая Тэкля стала малайчына! У Гродне да яе падляцеў малады і надто файны афіцэр. Падскочыў так, шпорамі ды шабляй—дзвэн, дзвэн ды гаворыць: «Ты, паненка, гэткая пекная, бы князёўна, дазволь я цябе выратую ад астрога!..» А яна «Нічого я не баюса, бо веру ў Іллю, няхай бяруць!..»

Вось так і нараджаліся адна за адной і ляцелі па вёсках легенды.

## 11

Яшчэ адну спробу аб'яднацца з «прарокам» зрабіў гродзенскі ўладыка, з такой мэтай і адправіўся ў Грыбоўшчыну.

На гэты раз айца Антонія мужыкі ўжо не спатыкалі, і малыя дзяўчынкі дарогу пялёсткамі не ўсцілалі. І на «святой гары» было зусім мала народу. Не кінуў сваіх пільшчыкаў і цесляроў, не пайшоў да высокапастаўленай асобы і дзядзька Альяш.

Архірэй паклікаў бацюшку з Вострава і пачаў малебен, адклаўшы размову з адступнікам на пасля.

У рытуале царкоўнай службы ёсць момант, калі архірэй павінен быў мыць рукі, а потым выціраць іх ручніком. «Трэція свяшчэннікі» ўладыку падсунулі пусты посуд, і айцец Антоні, як нейкі артыст, разыгрываў абмыванне на суха.

Госць да правакацыі быў падрыхтаваны і зрабіў выгляд, быццам нічога не здарылася. Іпадыяканы ў белых стыхарах схілілі над ім пазалочаныя рапіры, айцец Антоні скорагаворкай прачытаў пару абзацаў з евангелля і павярнуўся да людзей.

— Праваслаўныя брацця і сёстры! — пачаў ён.— Што б не было паміж намі, аднак усе мы застаемся авечкамі аднаго гурту — усе мы асобы адной веры. Што такое вера?.. Пра яе цяпер пытаюцца гэтак, як Понці Пілат некалі пра ісціну.

Духоўны саноўнік да важнасці, што адбівалася ў яго вачах і твары, прыдаў яшчэ цеплыню, сардэчнасць, а голасу—душэўную даверлівасць.

— Мы імкнемся к духоўнаму і маральнаму ўдасканаленню, што накрэсліў нам сын божы—Ісус з Назарэта. Святло яго на працягу двух тысяч гадоў гарэла перад людзьмі, і яны, азароныя ім, вучыліся славіць веру святую і айца нашага, іжэ есць не небясях. Для нас, праваслаўных, вера — вялікі дар божы грэшнаму чалавеку. Праз гэ-

тую веру мы ўсе ведаем, што з намі здарыцца і што быць павінна. Праз яе мы ведаем, куды ідзе, памёршы, чалавек і што яго чакае, ведаем, як нам праводзіць час надзённа.

— Адзінае Хрыстова вучэнне, якое прапаведвае праваслаўная царква—тое святло для нас, якое натхняе кожнага чалавека і прамянее нам пры штодзённых клопатах. Няма сумнення, брацця і сёстры, што праваслаўе — тая анельская гіпотэза для таго, хто сумняваецца, і яна ахоплівае ўсе выпадкі нашых паводзін. Мінуць стагоддзі, зменяцца пакаленні, а вучэнне праваслаўнай царквы...

Мажліва, з пункту гледжання царкоўнай рыторыкі прамова архірэя была на вышыні, але мужыкі слухалі яе, быццам кітайскую грамату.

Раптам у зале прагрымеў голас Ломніка:

— Людзі, што ён тут брэша!? Што нам ён тума-ан якісь разводзіць?! Столькі нагаварыў, а пра што?!

У царкве адразу загуло. З усіх бакоў пасыпаліся выкрыкі:

— Бачыш ты, дурняў знайшоў!.. Братоў і сясцёр тут шукае!

— Як у яго язык падвешаны, матаві-іло!..

— Хопіць нам зубы загаварваць!

— Ужэ прадаў цэрквы ў Гродне і нас прадаваць прыехаў?! Вунь якое пузо наеў нашым гарбом! Падаслалі цябе паны!..

— Школы канчаў, каб людзей ашукваць!..

— Прэч архірэяў і папоў!

— Чаго прыпёрса, кудла?!

І ў архірэя паляцелі гнілыя яблыкі і памідоры.

Ад спаткання з Альяшом яму прыйшлося адмовіцца.

## 12

Вярнуўшыся ў Гродна, айцец Антоні паспешна сабраў у кансісторыі свяшчэннікаў, служачых і стараст храмаў. Калі ўсе сабраліся, узбуджаны саноўнік зайшоўся ад злосці.

— Цёмныя мужыкі, нейкія сектанты, а як дзейнічаюць — бачыце?! Госпадзі, як народ паднялі!.. Якія яны папулярныя, як людзі ім вераць!.. Чаму не вераць гэтак нам—адукаваным?! Трэба разабрацца ў гэтым цячэнні і павучыцца ў іх!.. Чым вы займаліся ўвесь час?! Мяне ашуквалі, як апошняга ідыёта. Хіба ад таго, што прамаўчым, не стане праблемы?! Я і сам вінаваты, што прапусціў такое міма сваёй увагі, але я знайду ключ да гэтай загадкі!..

Да Альяша ў наступны дзень паехалі кансісторскія паны ў капелюшах, але Клімовіч да іх нават з хаты не выйшаў.

Хто ведае, што прыдумаў бы ініцыятыўны і рашучы архірэй Гродзенскай епархіі, каб абмежаваць уплыў мужыка з Грыбоўшчыны на праваслаўных парахвіян, толькі ўладыку развярнуцца не далі. За дзейнасцю айца Антонія насцярожана сачыў віленскі епіскап—Ромуальд Ялбжыкоўскі, а за яго плячыма стаяла магутная арганізацыя з тысячагадовым вопытам барацьбы з ідэйнымі праціўнікамі.

Калі стала відавочным, што гродзенскі ўладыка ўступае ў калізію з планамі каталіцкіх вярхоў, біскуп націсnуў адпаведны гузічак, і добра наладжаны механізм здзейнічаў. У каталіцкай газеце нечакана для ўсіх з'явіўся фельетон аб непрыстойных паводзінах архірэя Гродзенскай епархіі. Са спасылкай на сведкаў, з пералікам яскравых фактаў журналісты размалявалі айца Антонія гомасексуалістам.

Зганьбаваны ўладыка памчаў у Варшаву да айца Дзіянісія. Як



ён ні даводзіў бязглуздасць абвінавачвання, у скампраметаванага на ўсю краіну саноўніка мітрапаліт вымушаны быў адабраць сан і яго самога адправіць у манастыр.

Цяпер архірэем Гродзенскай епархіі стаў айцец Сáва. Новы архірэй пачаў раз'язджаць на тым самым «Хрыстлеры» з тонкімі спіцамі, але дарогу ў Грыбоўшчыну свайму шафёру загадаў забыць.

## 13

Акордам да легенды пра разгром духавенства альяшоўцамі прагучала ў нашай хаце апавяданне Хімкі.

Цётка з'явілася ў Страшаве, каб даведацца, ці прыйшло ад дзяцей пісьмо. Збегліся суседкі, засыпалі Хімку пытаннямі. Поўная шчодрай дабраты, унутранага задавальнення і годнасці цётка сядзела на лаве і таямніча ўсміхалася. Яе ўвогуле нельга было пазнаць. Куды падзеліся ліслівы позірк і згорбленасць, твар і рукі зрабіліся белыя, нібы ўвесь век жыла яна ў горадзе, адзенне на ёй было чыстае.

— А-а, паявілася такі?!—увайшоў у хату бацька.— Ну, здраствуй!.. То і ты, кажуць, бліснула ў вайне з кудламі?!. — не без гонару заўважыў ён. — Малайчы-ына!.. Я з панамі ваюю, а ты — з папамі ды архірэямі, ото ж узяліса мы з табой парадкі наводзіць!.. А-а, і не ведаў, што ты такая ў нас нарадзіласа заядлая!..

— Якая ўжэ е!.. — сціпла развяла рукі сястра.

Адпусціўшы Хімцы пару шпілек за тое, што яна вось ужо цэлы год прымушае абрабляць сваю зямлю, робіць яго сваім арандатарам, бацька зноў пахваліў:

— Так кудлатых разагнаць!.. У вёсцы толькі пра гэто і гавораць!.. Малайчы-ыны!..

Бацька прайшоўся туды-сюды па хаце. Вакол сядзелі бабы, і мужчынская годнасць не дазваляла пачынаць з сястрой інтымную размову — адклаў на пасля.

— Інцярэсно, а што далей думаеце вы рабіць?—пацікавіўся ён.— Папы ў спакоі вас не пакі-інуць!..

— На ўсё воля божая!..

— Ну, ну, надзейса на яго!.. Зрэшты, кажуць, у вас цудаў там много бывае!

— Чаму не, здараюцца!

— То звадзіла б туды і мяне, паказала б. Дальбо, столькі пражыў на свеце, а ніводнаго яшчэ не бачыў!

— Каб заслужыць цуд, трэ быць чыстым і дастойным. А ты? Калі свой лоб пераzжагнуў? Да споведзі калі хадзіў? Перад жаніцьбай, бо бацюшко шлюбу не даў бы!.. Ты ні ва што не верыш, нічого не ўбачыш, каб нават туды і прыйшоў!

— А як паверу?

— Бог шчодры, хапае ў яго святых дароў іншым, хопіць і табе.

— Гэ, такія казкі я ўжэ не раз чуў ад вашага брата, але ты зрабі мне такі цуд, каб яго ўгледзеў кожны!

— Усе не могуць быць вартымі бога.

— А ты ж толькі што гаварыла, што ён шчодры, літасці ў яго—мяшкамі, хопіць усім!

— Я пра адно кажу, а ты — пра другое!

— А-а, як ты выкручвацца навучыласа!.. Бачу, не дармо яны цябе там трымалі, не дармо хлеб ела!

— Ела, што бог паслаў!
— От, чорт вас, дуралеяў, разбярэ! — бацька махнуў рукой і пайшоў.
На гэты раз Хімка і вокам не павяла, што ўгнявіла брата.
— Залвіца, як ты жывеш там? — падзівілася мама.— Гэто ж — не дзень, не два, а столькі часу сядзець у той Грыбоўшчыне!.. Што рабіла там?
— Што ўсе жоны-мераносіцы,— сціпла адказала Хімка.
— Мая меляшкоўская пляменніца апавядала, што моляцца яны ўсё там, у царкве прыслужваюць ды людзей прымаюць!—уставіла Сахарыха.
— А пэўно ж, столькі народу валіць кожны дзень, клопат з імі вялікі! То расказвай, не маўчы! — не адставала мама.
Супольнымі сіламі пачалі яны разварушваць Хімку.
— Нам званы новыя прывязлі ды пачапілі,— загаварыла нарэшце яна.— Як удэраць, як удэраць, то такая ўрачыстасць— нібы ў сне!.. Бягуць адусюль людзі паглядзець і паслухаць, а ра-адуюцца, бы дзеці,— не бацюшкі, не хто другі, а самі сабе іх купілі, самі і ўстанавілі!.. А яны—бом! бом! бо-ом! адзін тоўсто гэтак, а тыя ўсё танчэй, танчэй ды гудуць, бы Яшкаў самалёт у нябеснай высі!.. І, паверце, бабы, наслуха-аюса, намалю-усо за дзяцей, выплачусо салёнымі слязьмі, ды та-ак мне на душы стане лё-огко, та-ак стане харашэ і добро, што больш нічого і не трэ!
— Ой, і мне часамі хочацца некуды схадзіць і адвесці душу!— пазайздросціла ёй мама і цяжка ўздыхнула.— Але твой брат ні ў што не верыць, узніме сварку і не пусціць!.. А тут яшчэ і часу шкода!.. Свіней кормім на праданне... Вунь Ігнаты купілі малатарню, трэ і нам падумаць аб ёй...
— Кі-іньце вы, Манька, за Ігнатамі гнацца! — пачала пераконваць брацíху Хімка.
— Мо і праўду ты кажаш, дальбо...
Мама разгубілася і на тую залоўку, якую калісьці лічыла за нішто, нават на вы не называла, цяпер глядзела з пашанай.
Жанчыны загаварылі пра дзяцей. Сахарышын Юляк і Кірылішын Валодзька якраз былі ў турме. Бабы пачалі Хімцы зайздросціць, што яна ў лепшым становішчы, бо, хто ведае, мо яе Яшка ў Саветах ужо ў генералах ходзіць, а іхнія хлопцы гніюць на цэментавай падлозе за кратамі ў Ваўкавыску. А калі нават і вернуцца, што іх чакае? У турме яны, кажуць, адны адных хоць вучаць нечаму...
На тыдзень па два разы хаджу ў пракляты Ваўкавыск! — паскардзілася Кірыліха.— Ногі да кален стаптала, толькі да сына не дапускаюць. Ці хоць ведае мой Валодзька, што так для яго стараюся?
— А маго Юлька, кажуць, надто збілі,— заплакала Сахарыха.— Паб'юць, паб'юць, а тады яшчэ ваду ў нос наліваюць!.. Пальцы прышчамлялі ў дзвярах... Здаецца, каб можно было, весь гэты збытак на сябе ўзяла б, няхай яму палегчало бы!.. Ноччу не магу спаць, і ў рот нічога не лезе... Калі ўсе палягуць, стану на калені перад абразом і малюсо, малюсо!..
— Доля матчына—няхай крые бог!.. Не дарам моляцца дзеве Марыі—уздыхнула Хімка.— У нас пра мацярок вельмі хорашэ гаварыў прапаведнік з Ліды. У нейкім царстве пасадзілі ў цямніцу хлапца. Маці пайшла па начальству, а самы галоўны ёй і кажа:
— «Не хадзі, не дуры нам галавы, бо нічого не дапаможа. Выйшаў царскі ўказ, заўтра ў дванаццаць гадзін прагучыць звон, і сына тваго на плацу казняць!»



Маці плакала, убівалася, ноччу галавы да падушкі не прытуліла, а раніцой падумала—ўратаваць зусім яго не магу, але хоць пару хвілінак жыццё сыну прадоўжу. Узбралася, бедная, на званіцу. Калі кат занёс сякеру над галавой асуджанаго і званар ужэ тузануў за вяроўку, яна падставіла рукі пад звон, язык жалезны ударыў па руках і звон не прагучэў. Так маці і трымала рукі, покуль іх не адбіло...
Бабы ўсхліпнулі насамі, пачалі выцірацца канцамі хусцінак.
Для мяне і брата Хімка была за няньку. Адчуваючы, у якой яна пашане, я напоўніўся гонарам і быў з ёю ўсім сэрцам, толькі хлапечае самалюбства не дазваляла выказаць уголас — мне ішоў ужо дзесяты год. Затое нецярплівы і маладзейшы на два гады брат дачакаўся, калі цётка змоўкне, і спытаў:
— Цёця, а вы больш у Грыбоўшчыну не вернецеса, праўда?
— Пайду, Валодзечка, пайду, дзетка! — Хімка прыгарнула пляменніка.— Бо я там у іх—міраносіца, без мяне ім нельга...
— А што вы там носіце?
Бабы засмяяліся, але цётка братава пытанне прыняла ўсур'ёз.
— Так богавы служкі называюцца!
— А-а!..— са шкадаваннем працягнуў Валодзька.
— Мушу туды ісці, сынок, бо мне сон такі прысніўсо і бог загадвае, каб я служыла дзядзьку Альяшу. Сніцца, бабы, мне, быдто я апынулася ў аблоках, але не магу аглянуцца, бо вішу і баюсо, каб не праваліцца. Хтось падае руку, цягне мяне на хмару, а рука такая дужая і цёплая... А потым кажа: «Ідзі за мной, адно не азірайса!» Мы некуды ідзем, а ён зноў: «Ці ты памятаеш сваё прозвішча?» А я думаю, думаю і ніяк не ўспомню прозвішча дзявочаго. Тады хтось падводзіць мяне да варот гэткіх, бы ў Казані былі ля гімназіі, дзе мой Яшка з вашым Юлькам вучыўса, але яшчэ большых, з такімі бліскучымі, як агонь, вісюлькамі, і кажа: «Чытай!» І я чытаю. Толькі адно слова: «С в е т а ч». Першы раз такое слова чую і бачу... Я адразу прачнулася, упала на калені і пачала маліцца.
У заканчэнне цётка Хімка аб'явіла:
— Сам бог, Валодзечка, наказвае мне быць светачам: хадзіць па людзях, насіць ім праўду пра вучэнне прарока.
Сахарыха ўздыхнула з зайздрасцю:
— Якая ты, Хімачко, шчаслівая!.. А так было табе цяжко!.. І праўду людзі кажуць, што пазачыняўшы чалавеку ўсе дзверы, усявышні хоць акенцо яму пакіне!

(Заканчэнне ў наступным нумары).





**раіса баравікова**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Валіць снег...

Валіць снег, што пасталы,—
Так у вёсцы кажуць —
Перад тым, як на сталы
Ежу доўга смажаць.
У печцы бульба, ў печцы сыр —
На полудзень будзе.
Пад нагамі снег, як жвір,
Што мінула — будзіць.
Пугай, пугай па каню,
Бомы па-над дышлем,
Не казаў бы «даганю» —
Можа б што і выйшла.
Эй, мяцеліла, круці!
Эй, гудзі, вятрыска!
Мне б дабрацца да Друці,
Там і вёска блізка.
Валіць снег, што пасталы,
Завіруха вее...
Падавайце на сталы,
Расчыняйце дзверы.

■

Вазьмі мяне у свае сані
І лейцы выпусці з рукі,
Сягоння коні будуць самі
Мяне вязці, лічыць шляхі.
Сягоння коні штосьці чуюць,
Пяюць падковы на нагах,
Я першы раз ў жыцці начую
У мяккіх студзеньскіх снягах.
Такая ноч! Такія зоры!
Звіняць бразготкі пад дугой,
Кахання дзіўныя узоры
У паветры піша голас твой.
Удыхаю сена асалоду
І снег хапаю на ляту.
Казалі мне: не йдзі па лёдзе,
А я на самым на лядку.



**марыя баравік**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Павяду цябе

Як запаліць возера свечкі,
Павяду я ў казачны вечар,—
Павяду цябе, невясёлага,
Ад шумлівых вуліц — прасёлачкам.

Праз яліны і праз сасонкі,
Дзе шапоча вецце спрасонку,
Павяду цябе коллем-голлем,
Павяду цябе полем-полем.

Павяду цябе жытам-жытам,
Каля берага неабжытага,
Павяду на споведзь начы,
Каб пачуць, аб чым ты маўчыш.

■

Іду сур'ёзная, іду дарослая,
Іду праз зімы, іду праз вёсны.
Іду нястомна, без адпачынку,
А ці пабачаць, што я — дзяўчынка?
Што я—бярозка, уся пад ліўнем?
Іду я сталая, іду наіўная.
Іду размытай крутой дарогай,
А ці сустрэнуць перасцярогай:
Ці спакваля не здасць мне сіла,
Каб дзе паводка не затапіла?



**валянціна хамчук**

# ГРОШЫ

## АПАВЯДАННЕ

● Мал. **П. Лысенкі.**

Печ адгароджвае кухню ад хаты. У куце над сталом — абразы, убраныя ручнікамі. Каля печы і ўздоўж сцяны стаяць два драўляныя ложкі, паточаныя шашалем. За крук, убіты ў бэльку, прывязана на вяроўках плеценая калыска. На ложку сядзіць Максім, малады селянін, рыжы і непрыгожы з твару, і калыша сына. У запечку бубніць малітвы стары — аднастайна, нудна, і Максіму здаецца, нібы чмель гудзе ў яго каля вуха, і ён ажно адмахнуўся. Потым з-за печы чуецца: «Акыш, халера на цябе! Апоўначы вылезеш з падпечка»,— і зноў тое ж надаеднае гудзенне. У канцы малітвы стары жагнаецца, старанна стукаецца аб дошкі запека лобам і, разгінаючы ў каленях ногі, злазіць на зямлю, пры гэтым крэкча і паціху лаецца. Потым асцярожна бярэ зімовую шапку, якую зняў перад малітвай і паклаў тут жа, каля сябе, з нейкай асаблівай любасцю аглядае яе і абмацвае яе і, нягледзячы на тое, што на двары лета, надзявае на галаву. Пасля ўжо, па дарозе ў гумно, дзе ён спіць у прыстаранку на саломе, ён яшчэ некалькі разоў мацае рукою шапку, каб яшчэ раз упэўніцца, што яна нікуды не дзелася, што яна тут, на галаве. Гэта самая звычайная шапка з кудзелі, абшытая зрэбным палатном, такія цяпер ужо ніхто не носіць. Але ў ёй зашыты грошы, пазелянелыя ад часу злотыя, якія ён зарабіў, калі яшчэ быў малады і наймаўся да паноў. Добра, што не распусціў іх раней. Цяпер хоць і не лічацца з ім ужо, як з гаспадаром, але да міскі дапускаюць. А не — дык маладайка Настуля і есці не дала б. «А дальбог, не дала б»,— мармыча ён сабе пад нос, адкрываючы гумно, і худыя старэчыя рукі трасуцца над замком.

Сутоньваецца. Цёплы летні вечар заткаў шарым павуціннем змроку куткі ў хаце, і яна выглядае яшчэ больш сумна і гаротна, чым днём. Толькі шыбы ў вокнах здаюцца чыстымі, сінімі, нібы вада ў рацэ на глыбокім месцы.

— Дзе Настуля? — запытаў Максім у бацькі, ставячы вёдры на лаўку.

— ...да свяціцца імя тваё... Пайшла недзе... да будзе воля твая,— адказаў стары, не перастаючы маліцца.

Максім адно крэкнуў ад крыўды і пайшоў на хату, сагнуўшыся ў парозе, каб не стукнуцца галавою аб вушак. Ён быў высокі, дужы і спрытны да работы,— за што ні браўся, усё так і кіпела ў яго руках. Светла-рыжыя, роўныя, як салома, валасы дагары зачэсваў. Не фанабэрыўся, ведаў, што непрыгожы: твар нібы птушкамі падзёўбаны — некалькі гадоў назад перахварэў Максім воспаю. Але любілі яго дзяўчаты, не глядзелі, што рыжы. Добры быў хлопец, ласкавы, сарамлівы крыху. А як абдыме сваімі дужымі рукамі, дык ажно сэрца ў дзяўчыны зойдзецца. Адно было дрэнна: зямлі ў Гаплюкоў — як курыцы сесці, а яшчэ на двух падзяліць трэба. Беднай выйсці замуж у такую гаспадарку — на ўсё жыццё ў ярмо ўпрэгчыся. Багатая ганьбавала.

Пятрук быў малодшы і зусім не падобны на брата: невялікі ростам, чарнявы, кучаравы, вочы лупатыя. Яго на сяле Цыганом называлі. Зух да дзевак, гультай і п'яніца, рукі меў заграбастыя, нават муку ў бацькі на гарэлку краў. З Настуляю ён пазнаёміў Максіма на гулянцы ў чужой вёсцы.

Прыгожая Насця, высокая, каса, як пранік, тоўстая і светлая, бы з лёну, а вочы сінія-сінія. І развучыўся Максім сам глядзець на белы свет: на што пакажуць яму гэтыя вочы, тое ён і бачыў. Нікога не слухаў, ажаніўся праз паўгода і толькі тады нібы ад сну ачнуўся, як маладая з-за стала пабегла ў каморку, а з сяней нехта прапанаваў гасцям выпіць за нованароджанага.

Устае Максім з ложка, адхінае рог хусткі, што прыкрывае дзіця, нахіляецца і ў апошніх промнях святла каторы ўжо раз уважліва разглядае дробны смуглявы тварык.

— Не мой. Але ж чый?

Цёмныя думкі ходзяць у галаве, і страшна Максіму адказаць на гэта пытанне.

Ужо месяц узышоў над лесам, круглы, жоўты, як спелая папяроўка, і на небе выскачылі дзве-тры зоркі. Толькі прыцямнее, кладуцца людзі спаць, каб не паліць дарэмна лучыну, ды і ўставаць назаўтра ледзь заднеецца.

Ціха ў вёсцы. На выган, у яму, дзе капаюць белы пясок, аглядаючыся, як злодзеі, па адным прабіраюцца Настуля, за ёй Пятрук.

— Сядай, бо яшчэ ўгледзіць хто.

Яна села зусім блізка, паўнаватая, прывабная.

— Хоць раз ты ўспомніў пра мяне, Пецечка? Мучуся з гэтым рыжым сабакам,— гаварыла Настуля, абдымаючы Цыгана.

— Яшчэ падзякуй мне, што замуж выйшла. Каму ты патрэбна была б з байструком,— адштурхнуў ён яе.

— Лепей бы я ў дзеўках засталася. Не магу я так, любенькі! Ён да мяне, а ты тут, побач, на другім ложку. Задушу яго калі ноччу!



Настуля заплакала амаль наўзрыд.
— Ціхо! — зашыпеў Цыган.— Даволі, што свякруху звяла ў магілу, голадам марыла, біла. Паказала ты ўжо сябе.
Яна выцерла рогам хусткі слёзы, адсунулася далей і запыталася пакрыўджана, з болем і недаўменнем:
— На што ж ты паклікаў мяне сюды?
Цыган высунуў галаву з ямы і яшчэ раз агледзеў выган. Нідзе нікога не было. Толькі месяц выглянуў на момант і зноў схаваўся за воблака.
— Брат брата на вілах трымае,— прамармытаў Пятрук, зноў прысядаючы ў яме.
— Што ты там бубніш?
— Нічого. На месяцы, кажу... Слухай, Насця, ты ведаеш, што ў бацькі е грошы?
Настуля насцярожылася: ліха яго ведае, гэтага Цыгана, ён да ўсяго лоўкі. Яшчэ ўкрадзе грошы, тады на яе зверне.
— Каб не было ў яго грошай, я даўно яму, бяззубаму чорту, у карыто налівала б, а не саджала за стол. Мо хоць як памрэ, то нам іх адкажа. Але хай у цябе дарэмно зуб не гарыць на гэтыя грошы: ён і спіць у шапцы.
Цыган зноў высунуўся з ямы і аглянуўся.
— Не тваё дзело! Ты адно дай заўтра вячэраць, як ужо сцямнее, а там я сам спраўлюся.
У Настулі вочы загарэліся: Цыган справіцца, ён каго хочаш ашукае.
— Пецечка, любенькі, усё зраблю. Усё, што скажаш. А колькі ты мне дасі за гэто?
— Ну, гэто пасля. Яшчэ рыбка ў рацэ, а не ў руцэ.
Пятрук устаў, пацягнуўся, аж косці затрашчалі, і пазяхнуў.



— Пецечка, палавіну,— абхапіла Настуля яго калені і прыпала шчакой да зрэбных нагавіцаў.— За тое, што памагала і што Максіму не сказала.
— Што? — Цыган аж сеў.— Максіму не сказала?!
Ён пасунуўся да яе і паднёс да твару свой чорны кулак.
— Сын жа, Пеця! Я для сына твайго. Ты ж усё роўна прап'еш,— шаптала яна, хапаючыся за гэты кулак.
— Не мой сын. Як дакажаш, што мой? Хто цябе ведае, з кім ты яго нагуляла.
Ён зноў падняўся.
— І хай адно яшчэ ад цябе гэто пачую! — пагразіў кулаком і, ужо вылазячы з ямы, кінуў цераз плячо:
— Дам дзесятую часць.

Назаўтра доўга Настулі не было з поля. Вярнулася, як пастух ужо кароў прыгнаў, і адразу паставіла вячэру варыць, а сама пайшла даіць карову. Малы плакаў, захлынаўся, аж Максім ускіпеў: «Маці,



ліхо на цябе!» Петрука не было. Ён перахапіў наспех ранішняй кашы з малаком і пайшоў на сяло да дзевак. Так і сказаў, што пойдзе на сяло да дзевак.

Павячэралі позна, амаль зусім сцямнела, але лучыну не запальвалі, так што стары, злазячы з запеку пасля малітвы, спатыкнуўся аб цэбар і, хапаючыся абедзвюма рукамі за шапку, каб не зляцела, успамянуў чорта.

— Здурэў, халера на цябе, з велькага малення,— залапатала Настуля.— Нябожчыца свякроў, супакой, божа, душу грэшную, на старасці піла і курыла, і гэты не лепшы. Палец аб палец не ўдарыць, адно хлеб пераводзіць. Каб зрабіў што калі сам, дак ого! Што ўбіў, тое ўехаў: не скажы, дык і курам есці не выставіць.

Стары, сцуліўшыся, нібы баючыся вось-вось атрымаць грымака ў плечы ад нявесткі, як мыш, прашмыгнуў на двор.

Пасля вялікае спёкі збіралася навальніца, пагрозліва гуло на захадзе. Было цёмна і парна.

— Крый божа перуноў, крый божа,— захрысціўся стары на захад, спыніўшыся ля дзвярэй гумна. Ён усё не здымаў замок, марудзіў: страшна было сёння аднаму начаваць у прыстаранку. Але ведаў, што не пусціць Настуля ў хату, няма дзе, скажа. Зімою хоць на печы можна, а цяпер дзе ж — на запеку зелле свінням на заўтра ляжыць. І то нявестка казала: «Падзякуй яшчэ, што на мяккім, як пан, высыпаешся, сена пераціраеш. Нядобра, дак на салому адпраўлю».

З такімі думкамі пачаў стары адчыняць гумно і не заўважыў, як нехта выскачыў з-за вугла, падляцеў з-за спіны, як чорт, сарваў з яго шапку і згінуў у цемры.

— Стой! — немым голасам заенчыў стары і кінуўся ўслед, выцягнуўшы перад сабою абедзве худыя, з задубелымі ад працы пальцамі рукі, нібы спадзеючыся схапіць злодзея.— Стой, злыдзень!

Ён пабег па мяжы паўз бульбоўнік, не бачачы нічога перад сабою. Бег, пакуль не ўпаў, зачапіўшыся за штыкеціну разваленага плота. Падаючы, ён моцна выцяўся галавою аб камень, што ляжаў на мяжы, і кроў ціха пацякла на сівое брыво. Тут праз хвіліну і знайшоў яго Максім, які кінуўся з хаты на крык.

Тыдні праз тры зусім аслабеў стары, ляжаў на запечку схуднелы, жоўты і сумнымі вачамі пазіраў праз пройму дзвярэй на хату, дзе ў покуце пад абразамі чадзіла лампадка. Ён ужо нават рукі не мог падняць да галавы, каб яшчэ раз упэўніцца, што шапкі сапраўды няма і ўсё гэта яму не прыснілася. Не хапала сілы ўстаць памаліцца, і ён лежачы шаптаў «Ойча наш» і гаротна глядзеў на покуць. Перад смерцю ён стаў вельмі набожны, і ўсе думкі яго былі пра жыццё на тым свеце. Аднойчы вечарам, калі ў хаце, як звычайна, быў толькі Максім каля дзіцяці, стары паклікаў сына да сябе.

— От, Максімко, хутко адыду.

— Пакінь, тата, няможна так казаць,— з жалем супакойваў Максім. Шкада было бацьку. Чула сэрца, што гэта самы найраднейшы яму чалавек у хаце — можа, адзіны, хто яго сапраўды любіць. Бачыў, што нядоўга жыць старому, і камяк стаяў у горле, калі казаў гэтыя словы.

— Не, сынок, усё ўжо,— з непрывычнаю пяшчотай гаварыў бацька.— Бог мяне пакараў. Ён усё бачыць, усё ведае і думкі нашыя.

Голас у старога быў слабы, дрыжачы, таму і гаварыў ён памалу, з перапынкамі.

— Страшно мне... ісці туды. Грэх на душы маю і збавіцца ад яго не магу. На сына думаю... на Петрука.



— Што ты! — спалохаўся, пацямнеў Максім. Аж засланіўся рукою.

— У магілу гледзячы гавару, не так сабе гавару. Змалку ён такі. Яшчэ горшае на душы маю, ды не скажу табе, Максім. Аднаму госпаду богу скажу... табе не дам мучыцца. Прыглядай за Настуляю... а малога шкадуй, не вінаваты ён ні ў чым... Малы яшчэ анёлачак, не мае граху...

Стары ўздыхнуў працяжна, тужліва.

— Ну ідзі, ідзі... калышы дзіця. Ідзі...

Жыта зжалі ў полі, звезлі ў гумны, абмалацілі. Клопату многа было, хутка трэба бульбу капаць. Дзіця ў хаце без дагляду крычала, а стары ляжаў, не было сілы нават павярнуцца. Толькі Максім падыходзіў пасля работы да бацькі, з лыжкі яго карміў, даглядаў, як малога. Пад канец верасня зусім дрэнна бацьку стала. Не еў, не піў, толькі было ў ім жывога, што нямы дакор у выцвілых вачах. І калі сустракаўся Максім з яго мутным позіркам, не мог вытрымаць, адварочваўся. Так і памёр стары ў адзіноце, нікога каля яго не было. Настуля хацела спачатку зрабіць яму падушку з сена (ці ж многа таго дабра, каб яшчэ нябожчыка на пярынах класці?), але спалохалася, што ноччу будзе прыходзіць з таго свету і жаліцца, што яму цвёрда спаць.

Быў хмурны, халодны дзень, калі яго хавалі. Наперадзе ішоў маленькі сухі поп у зашмальцаванай рызе. Жаласлівымі вачамі пазіраў на пачарнелыя хаты, на гнілыя платы з адарванымі штыкецінамі і думаў аб тым, які занядбаны люд, такі занядбаны, што і ўзяць з яго па-сапраўднаму няма чаго. За ім Пятрук з Максімам і яшчэ двое мужчын неслі на плячах труну. За труною ішло зусім мала людзей, пяць ці шэсць бабаў, якія спявалі ў хаце над нябожчыкам. Ніхто не галасіў. Настуля ішла моўчкі, панурыўшы галаву, і бабы дакорліваківалі ў яе бок: што гэта за пахаванне, калі і паплакаць няма каму. Толькі дайшлі да крыжа за вёскаю, пачаўся дождж. Труну паставілі на падводу, ззаду сеў поп, і павезлі за два кіламетры ў Свянціцу на могілкі. Могілкі былі неабгароджаныя, і летам сюды заходзілі каровы. На могілках расла маладая, сакавітая трава. Цяпер уся зямля была ўкрыта жоўтым кляновым лісцем, тырчэлі чорныя пахіленыя крыжы. Не марудзячы, апусцілі труну ў магілу, засыпалі зямлёй, у галавах прыладзілі драўляны крыж. Надзелі шапкі і, панурыя, папляліся пад дажджом дадому. Па дарозе з могілак Настуля прыпыніла Петрука.

— Пеця, а грошы... Ты дагэтуль не даў мне нічога.

— Грошы?! — вызверыўся Цыган.— Во табе грошы!

Ён скруціў дулю і падсунуў Настулі пад самы нос.

— Ты спакусіла, з'ядуха. Праз цябе бацько памёр. Ведаеш, колькі там было? Дзесяць злотых!

Цыган плюнуў на дарогу і ледзь не подбегам кінуўся даганяць брата. Вярнуўшыся дахаты, Настуля доўга сядзела каля дзіцяці і плакала.





*ніна гарагляд*

# МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

## УСПАМІН

Дзіцячыя забаўкі... Хто не еў салату з травы, хлеб з кары, не піў гарэлку з бярозавіка?! Хто не ўпрыгожваў галоўку васільковым вянком?!

На нашым «вяселлі» «маладой» заўсёды была прыгожая Верка. На пасаду ж «маладога» ніхто з дзяўчатак не згаджаўся. І мы амаль сілай прышпільвалі кветку нязграбнай Васіліне. Потым спявалі застольныя песні, дзялілі каравай і не звярталі ніякай увагі на слёзы «маладога»...

Часта прыязджаю ў вёску. Далёкімі ўспамінамі сустракае мяне гаманлівая дзятва. Сярод іх два Васілініныя сыны. А Верчынага няма ніводнага. Кажуць, яна недзе на Украіне і па сённяшні дзень усё яшчэ «маладая».



●

Як толькі грымне першы гром, мы, дзятва, лёгкімі птушкамі вылятаді з душных хатаў і куляліся, куляліся ў сыпкім пяску. Так вучылі нас рабіць бабкі, каб не баяліся грому...

Неразумнае маленства! Ці ж магло ты здагадацца, што ўсе няшчасці прыносіць не сварлівы гром, а ціхае лязо маланкі...

## ГОНАР

Дзядзька Піліп любіць хваліцца сваімі вучонымі сынамі. Два з іх недзе ў Брэсце афіцэры, трэці ў Магілёве інжынерам працуе. Толькі малодшы «падкачаў», застаўся ў родным калгасе трактарыстам. Ды што там... Кожны вечар дзядзька Піліп натопча смярдзючым тытунём люльку, разагне старую спіну і цягнецца на вуліцу, да мужчын, каб зноў хваліцца сваімі хлопцамі і задаволена ўхмыляцца. І ніколі, барані божа, не прызнацца, што ніводзін рубель з тых палучак не перапаў яму, акрамя як ад малодшага — трактарыста...

●

Ах, гэтыя паўліноўскія цёткі! Я іх адрозню кожную ад любой палескай і не палескай кабеты. Не, не па звонкай песні, не па гучным смеху, не па вострым языку... А па любай і смешнай вясковай гутарцы. Ёю гаворыць мая маці.





**яўхім кохан**



ПАЭЗІЯ

## Аўтабіяграфія

**Мне біяграфію пісаць,**
**Яе падзеі занатоўваць,**
**Як рану даўнюю кранаць,**
**Дачасна, з болем разбінтоўваць.**

## Памяць

**Старасць нават па гадах**
**Нам не ўзнагарода**
**За цяжкі пакутны шлях**
**У баях, паходах.**

**Колькі юных палягло**
**На крывавых гонях**
**І пабачыць не змагло**
**Нашага сягоння.**

**Аддалі ўсё маладой**
**Мэце. Не запляміць**
**Старасцю б душы сваёй**
**Маладую памяць.**

■

**Праслаўляць сваё юнацтва**
**Недзе ў нейкіх васемнаццаць —**
**Не складанае мастацтва.**
**Лёгка ў тым перакананца**
**Толькі ў шэсць і больш дзесяткаў.**
**Знак вышэйшага парадку:**
**Жыць, спяваць з юнацкай хваткай —**
**Вось сапраўдная загадка!**



*Сваю аўтабіяграфію ён уціснуў у чатыры вершаваныя радкі, але каб расказаць яе хаця б у асноўных падзеях, гэта была б цэлая эпапея — невыносна цяжкая, пакутная і захапляючая, як біяграфіі многіх людзей, якім на саміх сабе прыйшлося выпрабаваць самыя крутыя і бязлітасныя павароты гісторыі.*

*Амаль паўвеку таму назад, калі мы паступілі ў Слуцкую прафтэхшколу, мой друг быў ужо аўтарам надрукаваных вершаў. Гэта Кузьма Чорны заўважыў юнака-сялькора з вёскі Навадворцы, яго адметную здольнасць бачыць навакольны свет у новых, нечаканых паэтычных вобразах. Дэбют пачынаючага паэта быў адзначаны на старонках «Чырвонага сейбіта» адразу ж цэлаю падборкаю лірычных вершаў. Неўзабаве сустрэўшыся з аўтарам, Чорны трохі збянтэжана прызнаўся: «Па вершах я думаў, што Вы сталейшы, а Вы ж яшчэ такі зялёны...»*

*Яўхіму Кохану тады было шаснаццаць год, але выглядаў ён, як і многія гады пасля, нашмат маладзейшым: заўсёды з сарамлівай чырванню на твары і насцярожанай дзяцінай дапытлівасцю ў вачах.*

*У маладой паэзіі таго часу голас Кохана прыкметна вылучаўся. І хоць цяпер ён называе сябе — паэт без прыкмет, я разумею гэта як вельмі горкую самаіронію.*

*Далейшы лёс майго сябра быў не зусім лагодны да яго паэзіі. Юнак апынуўся ў самым віры жыцця, у якім перапляліся ўсе — і светлыя і змрочныя падзеі, якімі жыў народ і які ўласнымі мазалямі, у холадзе, у голадзе, але ў сваіх найлепшых спадзяваннях, а падчас і ў зняважлівай паняверцы самаахвярна клаў першыя цагліны ў падмурак будучыні.*

*Аднаго сумнага дня малады цясляр упаў з рыштаванняў. З бальніцы ён выйшаў у гіпсавым карсэце. Доўга аставаўся інвалідам. Адно пералічэнне прафесій, якімі авалодаў Кохан, сведчыць, што жыццё ён спазнаў дасканала: цясляр, сталяр, начны вартаўнік, малатабоец, грузчык, бетоншчык, землякоп, пажарнік, работнік хімчысткі, паштавік, журналіст, архівіст, гісторык...*

*У першыя дні Айчыннай вайны Яўхім Кохан ідзе на фронт, пачаўшы радавым ад Харкава да Сталінграда і Курскай дугі і закончыўшы ў Сілезіі камандзірам, адзначаным баявымі ўзнагародамі.*

*Усе пасляваенныя гады ён жыве ў г. Львове. Што было ўпушчана ў маладосці, прыйшлося набываць цяпер. У пяцьдзесят год ён канчае сярэднюю школу, а ў пяцьдзесят сем — інстытут. Шмат якімі клопатамі даводзілася займацца за гэты час, але паэзія нідзе не пакідала яго. З вышыні перажытага можна глянуць на яе часам і з горкай усмешкай, але ж сам ён добра разумее, як і мы, яго сябры, што без гэтай вернай і дарагой нам спадарожніцы наша жыццё страціла б яшчэ больш радасцяў.*

*Яўхім Кохан піша шмат. Паэзія для яго — гэта неабходнасць размовы з самім сабой, са сваімі сучаснікамі, гэта — дзённік яго душы. Шкада, што на паэтычнай паверцы ён вельмі рэдка падае свой голас.*

*Яўхіму Іванавічу споўнілася шэсцьдзесят.*

*Жадаю табе, дарагі Яўхіме, быць заўсёды паэтам!*

*Васіль ВІТКА.*

## Паэт без прыкмет

**Хоць паэтаў і густа і часта,**
**Толькі я — самы рэдкі паэт.**
**Ці на шчасце сваё, ці няшчасце —**
**Аніякіх дагэтуль прыкмет.**

## Паэзія

**Усё жыццё на скрыжаванні**
**Маланак, грому і цішы,**
**Надзей, спатканняў, развітанняў —**
**Бюро давядак для душы.**

## *Колер нашага сцяга*

Нямала льецца і цячэ
Крыві на свеце неабсяжным,
Дзе ўсход не выбліснуў яшчэ
І новы дзень чырванасцяжны.

Спяшае ранак заравы
Высока над зямлёй узвіцца
Чырвоным сцягам, каб крыві
Ніколі ў свеце больш не ліцца.

## *Будучыня*

Як на атлантавых плячах,
Плячах мільёнаў радавых,
Вялікай будучыні гмах —
І на тваіх, і на маіх.

І тым жыву я ўвесь наскрозь,
І моц мая, напэўна, ў тым,
Што я такі, такі, як ёсць,
Якога не схіснуць нічым.

■

Я да грому прывык
Сярод яснага дня.
Як затоены крык,
Для мяне цішыня.

Незаўважна прайду
І прадонне — ў той міг.
Я не веру ў бяду
Сярод бедаў усіх.

## *Сябры*

Дваіх на свеце знаю
Найлепшых я сяброў
І вам запомніць раю —
Каханне і Любоў.

Усё, што самі маюць,
Усё нам аддаюць,
Ні меж, ні мер не знаюць
І ўліку не вядуць.

## *Спадчына*

Адзін збірае барышы,
Хавае ў свой набытак,
Другі з уласнае душы
Складае вершы ў сшытак.



І кожны хоча ўцеху мець,
Сваё, як кажуць, хобі.
Каму звінець, каму ржавець —
Каму што даспадобы.

## *Вясна ў Карпатах*

Хоць нялёгка дайсці
Да вяршыні гары
Цераз выступы, схілы.
Завалы, яры,—

Як жа радасна потым
Азірнуцца вакол,
Кінуць вокам звысоку
І на даль, і на дол!

У жыцці даражэйшых
Не ведаю мэт,
Як самому пабачыць
Бясконцы сусвет

І пачуць, як каменьчык
Нікчэмна-малы
Нечакана сарвецца
Са стромкай скалы,

Абзавецца, гарэзнік,
З прадоння знарок:
— Паспрабуй, падарожны,
Ступі яшчэ крок!..

Вунь з даліны зялёнай
Выходзіць вясна
На спатканне жаданага
Яснага дня.

Хутка выблісне сонца
І разгоніць туман.
Хто я — сведка апошні,
Ці, як першы Адам,

Адкрываю радзімы сваёй
Вышыню,
Свайго шчасця радзіны
Упершыню?



*Маладыя літаратары Эстоніі*

***эйнар маазік***

# ХВАРОБА ХЕЙНА ЛААНЕТА

## АПАВЯДАННЕ

● Мал. **П. Лысенкі.**

Прайшло нямала год, перш чым я даведаўся, чаму мой школьны таварыш Хейна Лаанет паводзіў сябе іншы раз трохі нязвыкла.

Гэта не было яшчэ знакам хваробы. Праўда, Хейна часта прапускаў заняткі. Быў ён нездароўчы, і яго вызвалілі ад урокаў гімнастыкі. Слыў ён сярод нас кніжнікам. Шчыра кажучы, на гэтым грунце я з ім і здружыўся.

Была ў Хейна яшчэ адна асаблівасць. Гутарку ён пачынаў неяк заўсёды нечакана і нібы да самога сябе. І гэтак жа раптоўна змаўкаў, не дагаварыўшы. А потым, глядзіш, зноў пачынае, але зусім пра другое. Але з гэтым я скора звыкся.

Пасля сярэдняй школы нашыя хлопцы пайшлі хто ў інстытут, хто працаваць. І было дзівам, што Хейна паступіў ва ўніверсітэт, хоць мы крыху недаўмявалі, чаму ён выбраў менавіта юрыдычны факультэт. Я лічыў, што яму варта было б пайсці на філфак.

Праз месяцаў колькі да мяне дайшла нечаканая навіна, што Хейна спасцігла бяда. Перад экзаменацыйнай сесіяй у яго не вытрывалі нервы. Ён спачатку пачаў спяваць, а потым паламаў у інтэрнаце мэблю. Вядома, яго завезлі ў псіхіятрычную бальніцу, і ён там быў даволі доўга.

Выйшаў Хейна з бальніцы не вельмі здароўчым. Вучыцца яму забаранілі, і ён уладкаваўся на працу ў сельскай бібліятэцы — у вёсцы ціха, і там можна было спачыць душою, набрацца здароўя.



І як узрадаваўся я, калі аднойчы ён завітаў да мяне ў госці. Можа спярша я крыху сумеўся — проста ў мяне, як кажуць, спрацаваў рэфлекс даследчыка: змяніўся Хейна ці не?

Твар у яго, як і некалі, быў задумлівы, чарнявыя валасы, густыя і пруткія, як дрот, ускудлаціліся. А ў вачах застыў нейкі спакой.

І хіба мог я абысціся з госцем неяк інакш. Канечне, не. Пачаў гаварыць, што вось добра, што Хейна прыехаў, што не забыўся пра мяне, свайго даўняга таварыша.

— Чалавеку не збавіцца ад мінулага,— сказаў Хейна.— Як здань, яно ходзіць за мною...

Так ён гаварыў заўсёды, без ніякага ўступу, недзе з сярэдзіны. Я ўсміхнуўся, але, паслухаўшы болей, атарапеў. Дзіўнай здалася яго гутарка.

— Я ніколі не забудуся пра іх,— працягваў Хейна.— У аднаго папярок ілба быў шрам. Ён вельмі лаяўся і страшыў, і я яго баяўся больш, як астатніх. І ўсё-такі, сустрэўшы яго, я мог бы абазнацца: ён запомніўся мне менш, чым самы малады з іх, якога звалі Германам.

Нарэшце я даўмеўся, пра што гаварыў Хейна. Напэўна, яму ўспомнілася нейкая даўняя гісторыя. Але я яшчэ не ведаў, што праз якую гадзіну перада мною раскрыецца ўвесь трагічны лёс Лаанета. Толькі цяпер праз многа гадоў я зразумеў свайго школьнага таварыша.

Хейна зноў загаварыў, то забягаючы наперад, то вяртаючыся да таго, пра што расказваў. Вядома, яго не вельмі цікавіла, ці разумею я ўсё з гэтай блытанай гутаркі. Напэўна, яму і не так было важна, слухаю я ці не. Проста ён павінен быў выбавіцца ад гэтых страшэнных успамінаў, што мучылі, даймалі яго не адзін ужо год.

— Сабака нюхам чуе, дзе воўк. Так і чалавек чуе, дзе яго вораг. Бо калі раніцай я ішоў з аўтобуснай станцыі, у мяне было адчуванне, што абавязкова натраплю на гэтага чалавека. І сапраўды натрапіў — гэта быў ён... Я не абазнаўся, не!..

Хейна сціснуў абедзвюма рукамі спінку крэсла і закрыў вочы. Твар у яго сцяўся ад пакуты, і я адчуваў, што яму цяжка гаварыць пра тое, што здарылася некалі.

— Мне чамусьці ўспомнілася стрыечная сястра Мільда. Я даўно яе не бачыў. Але яна ўспомнілася мне, успомнілася, як яна трымала мяне за галаву, калі ехалі да доктара. Я быў тады ў паўзабыцці,— расказваў далей Хейна.— Перад вачыма стаяў нейкі як туман, я, бадай, нічога не чуў і нічога не бачыў. На твар мне штосьці капала. «Няўжо гэта дождж?—падумалася мне.—На небе ні хмурынкі». Потым чую: нада мною нехта плача. І зноў усё растае, гіне ў гэтым тумане. І зноў я ачынаюся і чую, як нечая рука папраўляе ў мяне пад галавою падушку. Я здагадваюся, што мяне вязуць на возе, што воз трасе на карэннях і што маю галаву падтрымліваюць Мільдзіны рукі. Я ведаю, што Мільда плача, што мы едзем праз Салулаанескі лес. Усё гэта стаіць у мяне перад вачыма, нават разгалістыя лапы, што густа і нізка спляліся над дарогаю, хоць вочы мае заплюшчаныя. У мяне было толькі адчуванне таго, што дзеялася кругом мяне. Ужо трохі пазней, калі я ачуняў і мне расказалі пра ўсё, перада мною паўсталі нейкія знаёмыя, нібы я іх бачыў у сне, малюнкі...

Я ішоў сёння наўпрост праз Вааротя, каб заскочыць у кнігарню і забраць выпісаныя кніжкі. І баяўся, каб не спазніцца на пасяджэнне выканкома. А хацелася абавязкова ўзяць кніжкі. Выйшаў на вуліцу Айа, а ўздоўж высокай агароджы пашыбаваў да кнігарні, стараючыся ўспомніць, калі яна адчыняецца: у восем ці ў дзевяць. Калі ў дзе-

вяць, то спазнюся на пасяджэнне, а як брыдка заходзіць у залу, калі ўсе ўжо ў зборы.

Праз агароджу бліскала сонца, і пад ногі клаўся то цень, то сонца, аж рабаціла ўсё ў вачах і кружылася галава.

Некалі ў дзяцінстве я вельмі любіў сам сабе загадваць жаданне. Заманецца, напрыклад, што-небудзь, і я спадзяюся, што дзеля гэтага даволі прайсці па ходніку так, каб нага не патрапіла на рыску між плітамі. Забаўка гэта з цягам часу забылася, а сёння, калі я ішоў уздоўж агароджы, дзе на ходніку ляжаў рабаваты цень, яна ўспомнілася зноў. І невядома чаму адначасна прыгадалася стрыечная сястрычка Мільда, і мяне ахапіў неспакой. Перад вачыма кружыўся гэты стракаты цень. Я заплюшчыў вочы, чуючы, як па твары бягуць сонечныя бліскаўкі. Гэтак сама было і тады ў лесе. Перада мною адразу адкрылася пустэча, што пачыналася адразу ж за хутарам Салулаане. Я, перапалоханы, спыніўся.

Доўгі час мая памяць цуралася гэтага хутара. Я змушаў сябе не думаць пра яго. А надоечы... мяне нешта з'юшчвала азірнуцца. Але я перасіліў сябе... Баяўся, што калі аглянуся, то ўбачу нешта страшнае.

Забыўшыся пра кнігарню, борзда завярнуў назад. Скіраваў на вуліцу Сакала, але нейкі як знiякавелы прыпыніўся тут. Не ведаючы сам, што ўжо раблю, вярнуўся назад. І не паспеў высунуцца з-за вугла, як убачыў яго. Ён паволі ішоў насустрач мне. У яго быў гэтакі самы абыякавы твар, які запомніўся яшчэ з таго разу. Ногі мае нібы ўраслі ў зямлю. Ён, здаецца, не ўзіраючыся на мяне, падыходзіў усё бліжай. Ён глядзеў толькі сабе пад ногі. Але я ведаў, што ён пазнаў мяне, згледзеў яшчэ на аўтобуснай станцыі і хадзіў услед. Праўда, бо чаму ён угнуў сваю галаву? Чаму? А я стаяў і не зводзіў з яго сваіх вачэй. Я ведаў, што ён знарок не глядзіць у мой бок.

Гэтак мы і размінуліся. Мяне яшчэ цягнула азірнуцца, але я ўжо не адважыўся. Толькі ў выканкоме адчуў сябе трохі спакайней. І ўжо там глянуў у акно. Пляц перад выканкомам быў пусты. Зводдаль па вуліцы снавалі прахожыя. Мне здалося, што адзін з іх... Але я добра не разгледзеў...

Ды, зрэшты, чаго яму было швэндацца за мною? Калі ён пазнаў мяне, то яму лепш было б сысці з маіх вачэй.

Ці хіба яго ратавала тое, што я ведаў толькі яго імя — Герман, і ўсё.

Хто з іх быў болей вінаваты — ён ці мой дзядзька? Гэта ж дзядзька і слова не вымавіў, калі я пайшоў з імі. Маўчаў. Вядома, кроў гусцейшая за ваду. Ды хіба ён знаў, што будзе потым. Канечне, бацька ўратаваў бы ад такое бяды — ён пайшоў бы сам.

Хейна змоўк. Заплюшчыўшы вочы, нерухома сядзеў. Акно было расчынена, на стале цікаў гадзіннік. З надворка пачуліся крокі, нехта пабег, нібы яго лавілі. Потым пстрыкнуў замок у дзвярах.

Хейна ўздрыгнуў.

— Машыністка прыйшла,— сказаў я, а сам падумаў, што ў хлопца бяда з нервамі. І ён нібы здагадаўся, пра што мне падумалася:

— Здані даўнейшага. Не ведаю, як і выбавіцца ад іх. Было неяк усё прайшло, а цяпер зноў вярнулася. Баюся ісці дадому. Пасля таго, як я вярнуўся з бальніцы, мне кожную ноч снілася гэтая дарога ў лесе. І Герман, і прыклад ружжа, і нават бляшка на прыкладзе, і як яна бліскала ў мяне над галавою. Я крычаў, прачынаўся, увесь змакрэлы ад поту. «Не знаю!» — крычаў я, але ніхто мяне не слухаў.

Дактары сказалі, што гэта з цягам часу пройдзе. І я спадзяваўся, верыў... А цяпер разняверыўся — усё вярнулася зноў.



Хейна выцер спатнелы лоб.

— Што Герман табе зрабіў? — спытаў я, думаючы, што гэта пойдзе на карысць — калі Хейна раскажа пра ўсё, можа яму будзе лягчэй.

Заплюшчыўшы вочы, Хейна маўчаў. Я не ведаў, чуе ён мяне наогул ці не?

— Калі ты першы раз сустрэў Германа?

— Летам сорак чацвёртага,— сказаў Хейна.— Месяцы за тры перад тым, як яны ўцяклі.

— Хто ўцёк? Герман?

— Немцы.

— А Герман — што? Немец? Хіба ты яго бачыў потым?

— Гэта былі эстонцы. У лясную глухамань, дзе жыў дзядзька, немцы і не патыкаліся. Яны былі з Амакайтэ — Герман і тыя.

Хто яго ведае, чаму я не ўцёк ад гэтага Германа, калі яны вялі мяне лесам. Пэўна, таму, што ён быў страшны — са шрамам праз увесь лоб і злы. Ён называў мяне ваўчанём і гразіўся, што застрэліць. Я спалохаўся яго яшчэ тады, калі мяне паклікалі ў святліцу і спыталі, ці ведаю я Харальда. Я сказаў — ведаю, бо як жа не ведаць стрыечнага брата. Ён спытаў: «Дзе Харальд?» «Быў дома,— сказаў я,— а цяпер зноў паехаў у Ярве торф рэзаць».

Герман усміхнуўся і сказаў сваім: «Глядзі ты, як яны малога навучылі».

Я зразумеў, што гэта значыць. Я ведаў, што мой стрыечны брат не рэзаў у Ярве торф. Яго прызывалі ў нямецкае войска, і ён уцёк у лес. Ніхто мне, вядома, пра гэта не гаварыў, але я быў кемлівы, каб разабрацца ў хітрай гутарцы дарослых, а найбольш у іхнім маўчанні. Харальд, напэўна, нідзе далёка ад дому не адлучаўся: дзядзька і мая стрыечная сястра напэўна ведалі, дзе ён хаваецца, і можа нават насілі яму есці. Герман сказаў, што яны возьмуць мяне ў лес: можа я памагу натрапіць на Харальдаў след.

Я, нібы просячы рады, глядзеў на дзядзьку, але ён моўчкі адвярнуўся.

— Адкуль мне ведаць, дзе Харальд? — нясмела вымавіў я.

Тады другі, што дагэтуль маўчаў, са злосцю крыкнуў:

— Так ужо і не ведаеш?

Я паціснуў плячыма:

— Харальд паехаў на работу.

— Глядзі ты яго — на работу,— перакрывіў Герман.

— Ну што ж, возьмем гэтае ваўчаня з сабою,— сказаў ён дзядзьку.

Дзядзька маўчаў.

Мне зрабілася страшна. Я, шукаючы ратунку, глядзеў на дзядзьку, але ён адвёў свае вочы. Пасля я зразумеў, што ён баяўся. Баяўся больш, чым я.

Я ж не вадаў, што чакае мяне. Палохалі панурыя твары прышэльцаў. Але гэтыя людзі былі ўсё ж сваімі, вясковымі, у такіх самых, як і мой дзядзька, даматканых суконных куртках шэрага колеру і гэтак сама, як і мы, па-эстонску гаварылі. Ды ні адзін сталы чалавек пакуль што не зрабіў мне нічога кепскага. Але я тады яшчэ слаба разбіраўся ў людзях. Не вельмі зважаў на іхнюю злосць і гнеў. Я ведаў, што мяне чакае нешта прыкрае, як было прыкра і сорамна мне, калі дзядзька, убачыўшы, што я бегаю па жыце, пачынаў сварыцца на мяне. І я адчуваў перад дзядзькам нейкі сорам, віну. А чым жа я ві-

наваты перад гэтымі людзьмі, калі папраўдзе нічога не ведаю пра Харальда?

— Ну што ж, хадзем,— сказаў Герман.— А ты, стары Тоомс, нічога больш не скажаш?

Дзядзька пакруціў галавою. Ён глядзеў недзе сабе пад ногі, на белую, вымытую яшчэ з раніцы Мільдай падлогу.

— Ладна,— сказаў Герман,— мы разок абыдзем лес, вернемся і пагаворым яшчэ.

Яны, пакінуўшы свайго, трэцяга, з дзядзькам, выйшлі разам са мною з хаты. Сцежкаю каля хлява выбраліся на поплаў, за якім зеленеў рэдзенькі хвойнік, што цягнуўся аж да самага Салулаанескага лесу. У гэты вялікі лес, што канчаўся аж каля самага балота Артузе, я, бывае, хадзіў. Баяўся толькі таго доўгага, на некалькі кіламетраў балота, бо ці доўга трапіць у багну, а памагчы не будзе каму.

Аднойчы вясною я адважыўся і пачаў скакаць з купіны на купіну між чэзлых крывых хвоек, пакуль не ўбачыў, што на купінах на сонейку грэюцца, скруціўшыся, змеі. Іх было так многа, што мяне агарнуў страх, і я борзда вярнуўся назад. Болей на гэтае балота я не патыкаўся.

Каля поплава яны спыніліся.

— Ну што, знаёмыя мясціны? — спытаў той, якога называлі Германам.

— Чаму ж не...— сказаў я.— Не адзін раз глядзеў адсюль на Салулаане.

— Ага, — зласліва ўхмыльнуўся Герман, — ці не казаў я...

І быццам ведаючы, куды трэба ісці, яны скіравалі на Салулаанескую дарогу.

— Я нічога пра Харальда не ведаю,— сказаў я.

— Ты не бойся,— суцешыў Герман.— У нас з ім будзе кароткая гутарка...

Я ведаў, што тых, хто ўцёк, ловяць, як дзікіх звяроў, потым абмундзіроўваюць, даюць у рукі вінтоўку і выпраўляюць забіваць другіх, покуль сам не натрапіць на смерць.

— Я нічога не ведаю,— упарта паўтарыў я.

— Хадзем, хадзем,— падганяў мяне Герман. Ён ішоў поруч, абыяк закінуўшы за плячо вінтоўку.

Яны прыспешылі крок, і я падумаў, што калі гэтак будзем ісці, то неўзабаве апынёмся каля балота Артузе. Рабілася млосна. Сонца стаяла над галавою, і цень ад дрэў быў малы. Я не мог дачакацца, калі пачнецца большы і гусцейшы лес — там можна будзе ўцячы. Ім добра было ісці, у іх абодвух былі — з доўгімі бліскучымі, як люстэрка, халявамі — боты, не тое, што ў майго дзядзькі. А я ішоў босы, спатыкаючыся і збіваючы аб карэнні пальцы.

А яны ўсё спяшаліся, і я ледзь не бег.

Той, якога звалі Германам, гаварыў больш спакойна і выглядаў не такі злосны, як стары, таму я і трымаўся каля яго. Але ён, здаецца, і не заўважаў мяне, і я рашыў, калі яны будуць зноў распытваць у мяне, махну ў гушчар.

Неўзабаве мужчыны прыпыніліся, каб закурыць. Я азірнуўся кругом сябе і ўбачыў, што каля соснаў усё заглушыў малады падлесак. Да яго было крокаў дзесяць, не болей. «Трэба ўцякаць цяпер,— думаў я,— пакуль мы не выйшлі да балота».

Мужчыны курылі і здаваліся нейкімі абыякавымі. «Наўрад ці пагоняцца яны за мною па лесе... Пэўна, вернуцца дадому і будуць чакаць там. А чаго мне сёння ісці ў хату, калі я магу пераначаваць



у хляве, што каля поплава. Не будуць жа яны цалюткімі днямі сядзець у дзядзькі».

— Паганае жыццё,— паскардзіўся стары.— На поплаве сенажаць скошана, не дай бог дождж — усё сена згніе... Палонных недзе пагналі, нам самім трэба шнырыць па лесе. А рускія можа ўжо за Нарвай...

Стары плюнуў, і я зразумеў, што яму не вельмі хочацца шукаць Харальда.

— Там цяпер эстонскія хлопцы стаяць,— сказаў Герман.

— Думаеш, утрымаюць фронт? — усумніўся стары.

Герман пацiснуў плячыма.

— Тыл трэба чысціць, а то будзем сядзець, як у змяіным гняздзе.

Падняліся і пайшлі далей.

«Калі мой бацька жывы,— разважаў я,— дык ён ваюе супраць немцаў. Ды можа яшчэ каля Нарвы. Чаму ж яны тады кажуць, што эстонскія хлопцы стаяць супраць рускіх? Выходзіць, што эстонцы з эстонцамі ваююць. Як і тут у лесе: адны пахаваліся, а другія ходзяць з вінтоўкамі і палююць на іх».

Пэўна, я думаў гэтак тады, бо сказаў ім:

— Там жа таксама эстонцы.

— Дзе? — спытаў Герман.

— Каля Нарвы, на другі бок...

— Там камуністы,— адказаў ён.

— Навучылі хлопца,— буркнуў стары.— Ці не казаў я — ваўчаня.

— А ты адкуль ведаеш, што там эстонцы? — зіркнуў на мяне Герман.

— Пастухі казалі...— адказаў я.

— Каб на яго д'ябал, чаго мы тут швэндаемся,— зноў пачаў бурчаць стары.— Адвядзём хлопчыка ў штаб, хай самі яго дапытваюць. Ён жа ўсё ведае...

— Абыдзем усё ж такі балота,— сказаў Герман.— Служба, як ні кажы...

У яго, як і раней, быў спакойны, роўны голас, але першы раз за ўсю дарогу я адчуў нейкі неспакой. Нутром адчуў, што стары толькі выконваў загад, а Герман лічыў за гонар злавіць тых, што схаваліся, як спадзяваўся ён, недзе ў балоце. Я зразумеў, што ён больш небяспечны за старога.

Мы моўчкі ішлі далей. Я падумаў, што калі не ўцяку цяпер, то потым будзе цяжэй. Пагорак, уздоўж якога вілася вузенькая сцежка, спускаўся ўсё ніжай і ніжай, елкі ўжо мяшаліся з хвойкамі, пачыналіся кусты. Дзе-нідзе былі відаць залітыя сонцам прагалы. Убачыўшы, што наперадзе кусты падыходзяць да самай сцежкі, я паціхеньку спыніўся, набраў поўныя грудзі паветра, нібы збіраўся даць нырца... І раптам учуў, як мяне моцна схапілі за руку.

— Ты чаго? — спытаў Герман.

— Ногі баляць.

Ухмылка скрывіла яго твар. Герман, пэўна, здагадаўся, што я хачу ўцячы.

Цяпер ён не выпускаў мае рукі. Спатыкаючыся, я трушком бег поруч з ім. Ногі мае траплялі на сухое ламачча і растапыраныя вострыя шышкі, я пазбіваў іх да крыві.

— Можа ты папраўдзе не ведаеш дарогі? Ну што ж, праверым: слова таннае, капейкі не каштуе,— дадаў.

Стары трухаў паперадзе.

6*

— Памятаеш, як мы хадзілі ў аблаву на падбітых рускіх лётчыкаў? — спытаў у яго Герман.

— Не, тады я не быў,— адказаў стары.

— А як мы іх прывалаклі ў валаснoe ўпраўленне, няўжо не помніш?

— Чаму не.

— Адзін з іх яшчэ саўсім зялёненькі быў. Выбег, як бычок, і проста мне ў рукі... Мы дарогаю іх здорава правучылі. А я гэтага маладзенькага... Дзесятаму закажа...

— Збілі вы іх тады на горкае яблыка,— буркнуў стары.— Крычалі на вас потым.

— Трохі паківалі пальцам перад носам... Адзін чорт — усе пайшлі карміць чарвякоў.

Герман пра гэта гаварыў спакойна, і мяне агортваў яшчэ больш страх. Я нават уявіў сабе, як ён біў гэтых лётчыкаў і якія ў іх былі скрываўленыя распухлыя твары.

Мы дайшлі да балота. Я з крыўдаю падумаў, што ўцячы мне не будзе як. Але, каб кінуўся тады са сцежкі ў гушчар, Герман зняў бы з пляча вінтоўку і стрэліў бы ў мяне. Абавязкова стрэліў бы.

Сцежка тут ужо згінула — людзі цераз балота не хадзілі. Калі і заглядаў хто сюды, то каб назбіраць ягад. Ды хіба чужы палезе ў гэтакую багну? Той, хто ведае балота, то можа яшчэ па багуне ды дзе па купінах прайсці. А чалавека чужога багна засмокча раней, чым ён паспее дайсці да тых журавін.

Мужчыны спыніліся.

— Глянь, ці не хадзіў тут хто? — сказаў Герман.— Можа ведаеш? — спытаў ён у мяне.

— Не, я ніколі тут не быў,— пакруціў я галавою.

— Дык куды пойдзем? — спытаў ён.

— Не ведаю...

Прыпякала сонца, з балота нясло ўдушлівым пахам багуну. Я зусім разамлеў. Пяклі, шчымелі паабдзіраныя ногі.

— Можа паспрабуем,— сказаў Герман.— Тут нібы сляды знаць...

Ён ступіў некалькі крокаў. Зашыпела, загайдалася ў яго пад нагамі багна. Ён расставіў рукі, каб не ўпасці, і пачаў паціху адыходзіць назад. Боты яго былі ў рудой гразі.

— Ну, малец, ты ў мяне глядзі!.. Чаму не сказаў, што тут можна праваліцца... Думаў, што я ўтаплюся, га?! — вочы ў яго былі злыя, а пад скурай на пашчэнках варушыліся жаўлакі.

Я моўчкі стаяў, і мяне разбірала злосць, што мяне вінавацяць няведама ў чым. Толькі пазней я здагадаўся, што Герман палез у балота знарок, каб раз'юшыць сябе, каб потым ашалелым быком кінуцца на мяне. Твар у яго расчырванеўся, вочы зрабіліся белаватыя, пустыя...

Каля балота яны і пачалі мяне біць: стары трымаў, а Герман біў, біў палкаю, якую тут выразаў.

Мяне да гэтага ніхто ніколі не біў. Яны, здаецца, хацелі спагнаць на мне сваю злосць, разлічыцца на мне за сваё мінулае і будучае.

Герман біў з усяе моцы і вельмі балюча, калі трапляў гэтай сукаватаю палкай па сіне. Сукаватая палка абдзірала спіну аж да жывога мяса. Я крычаў, як звар'яцелы, і стары пхнуў мяне тварам у мох. Я круціўся пад палкаю, як уюн, але што гэта памагала? Не ведаю, ці доўга яны мяне білі — я страціў прытомнасць.

Герман шапкаю зачэрпаў рудое балотнае вады і абліў маю скрываўленую спіну. Я ачуціўся.

Стары сядзеў і курыў. Ён быў нейкі пануры.





— Ану, уставай! — учуў я Германаў голас.
Ускочыў на ногі, хацеў закрычаць, але голас перасох, захрас недзе ў горле.
У мяне адняло мову.
Невыразна, як праз які туман, помню дарогу назад. Мянё вёў Герман, трымаючы за каўнер. Ён так моцна цягнуў яго ўгору, што ў мяне займала дых. Ногі падкошваліся.
Раптам Герман падняў мяне і пляснуў вобзем. Я не чуў — крычаў ён ужо ці не. Я толькі паспеў згледзець, як блснуў падкованы жалезкай прыклад вінтоўкі, бліснуў, і тады ўсё згінула...
Хейна змоўк. Твар яго сцяла пакута. Мне зрабілася страшна.
— Беглі дні, а мне ўсё здавался, што я ніяк не магу прабудзіцца ад сну. Я не ведаў, што вечарам Мільда запрэгла каня і павезла мяне да доктара. Я то ачуньваў, то зноў падаў у нейкую чорную прорву. Чуў, што каля мяне мітусіліся людзі. Адзінае, што бачыў я выразна, — гэта прыклад, падкаваны жалезам.
Два месяцы я не мог ачуняць. І не ведаў, што вайна пакацілася на захад, што нас вызвалілі. Аднойчы я адкрыў вочы і ўбачыў бацьку — ён схіліўся нада мною. Я не меў моцы, каб загаварыць, і толькі зашаптаў:
— Тата...
За два месяцы гэта было маё першае слова. Дактары спачатку думалі, што ў мяне назаўсёды адняло мову. І гэтае слова ўжо значыла, што я пачаў ачуньваць.
Потым да мяне прыходзіла Мільда. Яна выхадзіла мяне. Ад яе я даведаўся, што Герман са старым, вярнуўшыся на хутар, кінулі мяне сярод двара, арыштавалі дзядзьку і павялі ў воласць. Мільда прыйшла на хутар, калі ўжо там нікога не было, толькі я ледзь жывы ляжаў каля калодзежа. Яна збегала па каня і адвезла мяне да доктара. У яго я і быў гэтыя два месяцы. Калі бальніцу эвакуіравалі, ён забраў мяне дадому.
Бальніца была вясковая, ды і сам доктар вясковы. Ці многа ён мог зрабіць, не маючы яшчэ належнага лякарства. Але ён рабіў усё, што мог, бо калі бацька завёз мяне потым у Тарту, дактары з клінікі сказалі, што наўрад ці яны маглі б зрабіць нешта лепшае. Некалькі тыдняў я быў там, і дактары сказалі, што вучыцца мне нельга. Герман так моцна выцяў мяне прыкладам, што зашкодзіў мазгі. Ад гэтага і галава цяпер баліць, і цямнее ў вачах. Але ж падумай сам, як мне было ўседзець дома, калі хлопцы ўсе пайшлі ў школу. Пачаў прасіць бацьку, і той не стрываў — пусціў. Сам ведаеш, якая ў мяне была вучоба — я прапускаў заняткі...
Але самае горшае было тое, што начамі не спаў... Налягу на вучобу — і зноў з галавою нешта робіцца. Зноў перад вачыма стаяць яны — гэты стары і Герман. Зноў бачу, як бліскае жалезка на прыкладзе, як б'юць мяне, як таўкуць тварам у мох.
Я, здаецца, спіною цяпер чую ўсё. І гэта праўда, не махлюю... Вось і сёння я, здаецца, спіною ўчуў, што недзе блізка Герман.
Хейна, згорбіўшыся, сядзеў на крэсле.
— А я не ведаў, што столькі гадоў ты насіў усё гэта ў сабе.
— І ніхто не ведаў...
— Трэба было расказаць... Можа гэты Герман сапраўды дзе-небудзь тут...
Хейна падняў галаву і неяк іранічна зірнуў на мяне.
— Што з таго, калі ён сапраўды тут... Што з таго?
— Ён жа, можа, і цяпер...



— Гэта залежыць не ад яго.
— Ад каго ж?
— Магчыма, што і ад цябе,— сказаў Хейна, і ў позірку яго ўжо не было той іроніі, яго вялікія вочы зрабіліся сур'ёзныя.
— Колькі ж разоў можна ўсё гэта перажываць!? — раптам закрычаў ён.— Ну, колькі!?
Я, спалоханы, устаў. Але Хейна неяк счах, паволі падняўся з крэсла і падышоў да дзвярэй.
— Не магу я больш...
Павярнуўся да мяне, нібы хацеў нешта яшчэ сказаць, але толькі махнуў рукою і выйшаў. А ў мяне ў вушах усё стаялі яго словы: «Магчыма, і ад цябе...»
Прайшло некалькі гадоў, пакуль я даўмеўся, што ён хацеў мне сказаць. Напэўна, тое самае, што сказаў тады.
Нядаўна да мяне дайшла вестка, што яго зноў адвезлі ў бальніцу. На гэты раз — беззваротна. Назаўсёды.
І памяткай пра яго ў людзей застаўся гэты боль ад нянавісці і жорсткасці — цяжкі боль вайны.

Пераклаў **В. АДАМЧЫК.**



*Маладыя літаратары Эстоніі*

**матс траат**



ПАЭЗІЯ



## Сын зямлі

Я — нязграбны сын зямлі,
цяжкі і цвёрды, нібы граніт.
На халоднай паверхні сэрца майго
квітнеюць кволыя паўночныя кветкі,
і верас колкі зябка шапоча ад ветру
сырога.
Песня мая, чайка адважная,
крычы, крычы, крычы,
таму што даўно ўжо вычарпаны ліміт
лёгкадумна-мройлівых песень!

Кожная літара, кожны склад
хай, як вапняк, скаланаюць
вокны сонных сэрцаў людскіх,
каб, урэшце, скончыліся цішыня і спакой
і ў таго, хто храпе ў сне са смакам,
і ў закаханага,
і ў вартаўнікоў начных...

Я не ўмею і не магу
конікам-скачком стракатаць
ні пра вусны спякотныя,
ні пра ночы, вінам скарочаныя.
Я хачу прарвацца ў звонкія шэрагі
песень,
дзе ўрадлівае ворыва на месцы
куп'істага хмызу,
сціплым працаўніком,
які выводзіць плугамі свайго трактара
на маршчыністым абліччы зямлі сваіх
продкаў
паўдзённыя пісьмы сярэдзіны нашага
веку.

Пераклаў А. ГРАЧАНІКАЎ.



*Маладыя літаратары Эстоніі*

**арві сійг**



ПАЭЗІЯ



## Лес

Яшчэ тады, калі ніхто не ведаў
Пра горад,
(Хто мог думаць у глушы!),
Жылі ў леснічоўцы баба з дзедам,
Муж з жонкай. А навокал — ні душы.
Хлеб і пасцель дзялілі і работу.
Нічога не маглі прыдумаць лепш.
Так і жылі ў лесе без клапотаў
Хлеб і работа, верны сын і хлеб...

Нябёсы супакойвалі лясныя,
Не маглі і ў спрэчках забываць,
Што ўсё багацце іх—яны, жывыя.
Замены і не думалі шукаць.
...У бурны век наш
нас не цяжка раніць.
Як электрычнай скорасці штуршкі,
Спрачаюся з жыццём,
Каб зло тараніць,
Запальчыва сціскаю кулакі.

Жыццё глядзіць жанчынай маладою,
І скрозь вякі выразна мне чуваць:
— Багацце наша — гэта мы з табою.
Замены і не думаю шукаць.

Пераклаў Ю. СВІРКА.





*сяргей ясенін*

*

## паэзія

*

■

Адыходзім, нібы ў падарожжа,
Мы ў той край, дзе вечны супакой.
Хутка і мая чарга, быць можа,
Тленныя пажыткі браць з сабой.

Любыя бярозы па-над кручай!
Ты, зямля! Прастор мой дарагі!
Перад гэтай доляй немінучай
Не магу я не адчуць тугі.
Вельмі ўжо любіў я ўсё на свеце,
Што ў палон душу маю ўзяло.
Мір асінам, што, працёршы вецце,
Заглядзеліся ў рачное шкло.

Шмат я думаў у цішы маркотнай,
Шмат я песень аб сабе злажыў,
І на гэтай на зямлі гаротнай
Тым шчаслівы, што кахаў і жыў.
Тым шчаслівы, што на цёплых межах
Кветкі рваў, валяўся на траве
І звяр'ё, як пабрацімаў меншых,
Не лупіў, не біў па галаве.

Знаю я, што шыяй лебядзінай
Не звініць там колас ні адзін.
Вось таму і вее дамавіннай
На мяне тугой ад дамавін.

Знаю я, што ў тым краі не будзе
Ніў, заліўшых золатам палі.
Вось таму мне любы свет і людзі,
Што жывуць са мною на зямлі.

■

Адгаварыла восень залатая
Вясёлай мовай залатых бяроз.
І выраю, што ўдалеч адлятае,
Ужо нічый не дораг болей лёс.
Чым даражыць? Жыццё, як
вандраванне —
Прайшоў, зайшоў і дом пакінуў свой.
Аб адышоўшых мроіць канаплянне
З шырокім месяцам над заваддзю рачной.

Стаю адзін сярод раўніны голай,
А журавоў знікае чарада,
Аб маладосці думаю вясёлай,
Ды мне ў былым нічога не шкада.

Мне не шкада ні светлае хвіліны,
Мне не шкада пражытых марна дзён.
Гарыць агонь чырвонае рабіны,
Але нікога не сагрэе ён.

Не абгарាць рабінавыя кісці,
Пажоўкласць не загубіць асакі.
Так, як раняе дрэва ціха лісце,
Раняю я маркотныя радкі.

І калі час завеяю суровай,
Як смецце, іх зграбе ў адзін грудок...
Скажыце так... што залатою мовай
Адгаварыў бярозавы лясок.

■

Кожнай працы я жадаю ўдачы!
Рыбаку — каб з рыбай невады,
Сейбіту — каб плуг яго і кляча
Дабывалі хлеб на ўсе гады.

П'юць ваду са шклянак адмысловых,
З конавак таксама можна піць,
Можна піць са сподкаў жалудовых,
Калі дуб над рэчкаю стаіць.

Добра мне ў траве ляжаць духмянай
І ў падманную глядзецца гладзь,
І раўнівы позірк закаханай
На сабе, астылым, прыгадаць.

Драч рыпіць... рыпіць, рыпіць у лузе...
Вось чаму не смуціцца народ,
Што, з вясёлай працай у саюзе,
Апрасцеў пад ношаю турбот.

Толькі я забыў часы былыя,
І цяпер аб тым спяваю сам,
Сузіральнік марны — што чужы я
Дарагім мне нівам і лясам.

Нібы нехта некага шкадуе,
Нібы хто ад родных ніў адвык,
І таму над багнай лемантуе,
Плача ў сэрца ка́ня і кулік.

■

Я іду далінай. Набак збіта кепі,
У пальчатцы белай смуглая рука.
Ружавеюць далі ў неабсяжным стэпе,
Ціха гоніць хвалі сіняя рака.

Я ў жаданнях сціплы. Сэрцам бестурботным
Толькі б слухаць песні — адгукацца ім,
Толькі б дыхаць вольна ветрыкам лагодным,
Толькі б не згінацца станам маладым.

Выйду за дарогу я туды, дзе плёсы,—
Колькі там святочных мужыкоў і баб!

Штосьці шэпчуць граблі, штосьці свішчуць косы.
«Эй, паэт, паслухай, слаб ты ці не слаб?

Ты любіў бы працу так, як любіш долы.
Ці не час спускацца на зямлю з нябёс?
Ці вясковым хлопцам ты не быў ніколі?
Спрыт свой пакажы нам, праўдзі пракос».

Ах, пяро не граблі, ах, каса не ручка —
Ды радкі выводзяць і касы лязом.
Пад дажджом, пад сонцам гучна і не гучна
Іх чытаюць людзі сенакосным днём.

К чорту я скідаю свой касцюм англійскі.
Што ж, касу давайце, я вам пакажу —
Ці я вам не свойскі, ці я вам не блізкі,
А ці ўвагай вёскі я не даражу.

Ямы не зашкодзяць, пні не перашкодзяць.
Хараша касою ў ранішні туман
Тыя травяныя мне радкі выводзіць,
Каб і конь чытаў іх і вітаў баран.

А ў радках тых — песня, а ў радках тых — слова.
Вось таму і рады я за касільном,
Што чытаць іх можа кожная карова,
Плацячы за гэта цёплым малаком.

■

Невыказнае, сіняе, ўсцешнае...
Сціх прастор пасля грому і сцюж,
І душа мая — поле бязмежнае —
Поўна водарам мёду і руж.

Я ўжо іншы. Жыццё праляцела
І не вернецца, плач ці не плач.
Нібы тройка мая ашалелая
Па краіне прамчала наўскач.

Коні дол здраталі. Насмецілі.
Зніклі ў пыле пад д'ябальскі свіст.
А цяпер пад ляснымі веццямі
Нават чутна, як падае ліст.

Ці то бомы? Ці рэха? Спакойнымі
Б'ецца тонамі сэрца ў грудзях.
Стой, душа, мы з табой, нібы коннікі,
Праскакалі прызначаны шлях.

Разбярэмся са справамі нашымі
І з людзьмі і з краінай сваёй,
І даруем, дзе крыўдна зняважылі
Нас па нашай віне і чужой.

Толькі ў трыццаць гадоў прызнавацца мне
Горка ў марнасці п'яных забаў,
Як і ў тым, што ў свой час ад юнацтва
Вельмі мала я патрабаваў.

Але ж гнуцца дубочкі зялёныя
Гэтак сама, як гнецца трава...
Эх, юнацтва, юнацтва залётнае!
Залатая сарві-галава!

Пераклаў **Аркадзь КУЛЯШОЎ**.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА









# ДЫНАСТЫЯ

### З БЛАКНОТА ПІСЬМЕННІКА

Яны вельмі падобныя — бацька і два сыны Бокуцы. У гэтым, вядома, нічога незвычайнага няма: як гаворыцца, кроў — не вада. У патомных чыгуначнікаў нават аднолькавы прыжмур вачэй, нібы для таго, каб заўсёды ўглядацца ў дарожныя знакі, сігналы, каляю, якая бясконцай стужкай бяжыць пад колы лакаматыва.

Кажу пра гэта старэйшаму з дынастыі Яўгенію Аляксандравічу Бокуцу. Ён стрымана ўсміхаецца:

— Магчыма, і так. У нашай справе — глядзі ды глядзі... — І змаўкае.

Адчуваецца, у кабіне цеплавоза яму больш зручна, чым у гэтым утульным гасцінічным нумары перад незнаёмым чалавекам. Але трымаецца ён проста, з годнасцю, як і належыць рабочаму чалавеку. Не без гонару дадае:

— Наша чыгуначная радаслоўная налічвае сотні гадоў...

Бокуцы прыбылі на Усесаюзную сустрэчу працоўных дынастый з аршанскага лакаматыўнага дэпо імя Героя Савецкага Саюза Канстанціна Заслонава. Цяпер гэтаму прадпрыемству — аднаму са старэйшых у Беларусі — споўнілася сто гадоў, і да кожнага года яго векавой гісторыі мае дачыненне сям'я Бокуцаў.

Яўгенію Аляксандравічу — пад пяцьдзесят. Ён маладжавы, энергічны. У рухах хуткі, але не мітуслівы. Відаць, і гэтая рыса — вынік шматгадовай работы на транспарце: у часе рэйсу машыніст павінен быць гатовы да любой нечаканасці. Тым больш, калі возіш людзей. А Яўгеній Аляксандравіч — машыніст «шырокага профілю», гэта значыць, мае права працаваць на паравозах, цеплавозах, дызелях. Ён якраз і водзіць прыгарадныя цягнікі на Лепель, Барысаў, Слаўнае...

— Так, — працягвае ён, — цяпер ужо чацвёртае пакаленне Бокуцаў асядлала лакаматывы...

«Чацвёртае пакаленне» ўважліва прыслухоўваецца да нашай размовы. Гэта сыны Яўгенія Аляксандравіча — Валеры і Аляксандр — моцныя, ладныя хлопцы, якія свядома пайшлі па працоўнай дарозе сваіх продкаў. Імкнуся зразумець тое непрыкметнае, што схавана ад чужых вачэй і што вывела іх менавіта на гэтую жыццёвую дарогу.

Абодва яны нарадзіліся пасля вайны. Вучыліся ў адной і той жа аршанскай сярэдняй школы № 10. Атрымаўшы атэстат за сярэднюю адукацыю, Валеры прыйшоў у лакаматыўнае дэпо. Спачатку быў вучнем слесара, затым перайшоў на самастойную работу. Праз некаторы час скончыў курсы і стаў памочнікам машыніста паравоза. Пасля была служба ў Савецкай Арміі. З арміі вярнуўся на роднае прадпрыемства, удасканальваўся, вучыўся, працаваў... Цяпер яму дваццаць пяць гадоў, ён водзіць цеплавозы і мае дакумент, які пацвярджае права працаваць машыністам паравоза.

Прыкладна гэткі ж шлях, але трошкі пазней, прайшоў Аляксандр. Толькі на першым часе ён быў вучнем токара, а перад прызывам на вайсковую службу ўжо ездзіў памочнікам машыніста паравоза. Яму выпаў вялікі гонар служыць у Аршанскім ордэнаў Суворава, Кутузава і Неўскага гвардзейскім танкавым палку, які ў свой час выбіў фашыстаў з яго роднага горада. Хлопцу дваццаць адзін год. Цяпер ён зноў на працоўнай вахце, на цеплавозе. У яго добрая спецыяльнасць, неабмежаваныя магчымасці росту, і ўсё, як кажуць, наперадзе.

Нашто грашыць: ёсць яшчэ сярод выпускнікоў сярэдніх школ хлопцы, якія адзінай магчымай ступенькай у вялікае жыццё лічаць інстытут. Няўдача на ўступных экзаменах для іх — ледзь не сусветная трагедыя... Камсамольцы Валеры і Аляксандр Бокуцы адвяргаюць гэткую «філасофію» не словамі — справай сваёй. Вядома, яны таксама не супраць вучобы. Валеры, між іншым, рыхтуецца паступаць у Гомельскі транспартны інстытут.

— Наконт гэтага ў нас з Сашкам ёсць свае меркаванні, — сказаў ён. — Трэба прайсці «абкатку» ў рабочым калектыве...

Так дакладна і разам з тым вобразна выказаў галоўную думку. На транспарце бытуе такі выраз. Перад тым як упрагаць у работу, лакаматыў пускаюць у абкатку, у часе якой прыціраюцца дэталі, машына праходзіць выпрабаванне на трываласць.

Малодшы брат дадае:

— З дэпо не пайду. Стану машыністам цеплавоза. Тым часам скончу дзесяты клас вячэрняй шко-



Валеры Бокуц.

●

Самы малодшы з Бокуцаў — Аляксандр.



лы. А пасля — на завочнае аддзяленне, як Валера...

Такім чынам, для гэтых хлопцаў вышэйшая адукацыя — не самамэта, а падтрымка ў абранай ужо дарозе. Іх крок ухваляе і бацька.

— А чаму не сумяшчаць работу і вучобу, — кажа Яўгеній Аляксандравіч. — Часу паміж паездкамі хапае не толькі для адпачынку. На паравозах было як? Ад катла гарачынёй патыхае, а спіну вецер працінае, скразнякі гуляюць. Тут табе і радыкуліт, і раматус, і прастудныя захворванні. Бывала, зімой бацька збіраецца ў рэйс — кажушок або ватнік апранае, валёнкі ды шапку цяплейшую. У дваццатых гадах паравозным брыгадам такую спецвопратку выдавалі. Сундучок бляшаны з харчам у руку — і пайшоў. Мурзатыя, стомленыя вярталіся з паездак. А цяпер маладыя хлопцы чысценькія, пад гальштукамі з работы ідуць — жаніх, ды толькі: хоць за вясельны стол. І ў другім сэнсе жаніхі яны зайздросныя — добрыя грошы зарабляюць!..

Што праўда, то праўда. Паляпшэнне ўмоў працы на транспарце, прагрэс тэхнікі адбываецца на вачах. Поступ новага хлопцы адчуваюць на сабе: вадзілі паравозы, затым — цеплавозы. Цяпер у рэспубліцы паскоранымі тэмпамі ўзводзіцца Лукомльская ДРЭС, і ў перспектыве пераход на электрычную цягу. Значыць, трэба і да гэтага рыхтавацца...

Зноў задумваюся над вытокамі вось гэткай адданасці сваёй справе, працоўнаму калектыву. Прымаю пад увагу ролю грамадскіх арганізацый, сям'і, вуліцы ў фарміраванні светапогляду маладога чалавека. Прыходзяць у галаву такія паняцці, як пераемнасць пакаленняў, прыклад старэйшых і многае іншае, чым прынята тлумачыць паводзіны і ўчынкі людзей.

Як правіла, усе гэтыя фактары ў сукупнасці і даюць станоўчыя вынікі ў выхаванні новага чалавека. Але адкуль бяруцца прагульшчыкі, летуны, дэбашыры?.. Ёсць і камсамольцы, якія не шануюць гонар рабочага. Выходзіць, для іх гэта сапраўды вялікае паняцце засталося абстракцыяй, не ўсхвалявала, не закранула душу... Тут ужо віна выхавацеляў: ці то з-за ляноты, нявопытнасці, ці з-за прыхільнасці да траскучай фразы (і такое бывае) не змаглі ўвогуле правільныя палажэнні напоўніць канкрэтным зместам.





Яўгені Аляксандравіч Бокуц у рэйсе.

Няварта б, здавалася, у часе светлага свята, якім з'явілася Усесаюзная сустрэча прадстаўнікоў працоўных дынастый, успамінаць і тых, зусім не лепшых у вялікай і дружнай нашай рабочай сям'і. Але яны — свае. І пра іх баляць нашы сэрцы заўсёды, як баліць яно ў маці, калі ў яе няўдалае дзіця. І думаць пра іх абавязаны. І рабіць усё, каб скіраваць на правільную дарогу.

Дык вось, аб напаўненні агульнавядомых формаў уздзеяння на моладзь канкрэтным зместам. Менавіта ад гэтага залежыць канчатковы вынік. У гэтым лішні раз пераконвае жыццёвы шлях маладых Бокуцаў.

Пралетарская іх радаслоўная пачалася ў мінулым стагоддзі. Гэта тады з лясной глушы, ратуючыся ад голаду, прыйшоў у Оршу іх прадзед, Павел Пятровіч Бокуц і стаў майстравым у дэпо, якое толькі што адкрылася. Папрацаваў больш сарака гадоў. Сюды ж прыйшоў і іх дзед Аляксандр Паўлавіч і вадзіў цягнікі, пакуль былі сілы. У гэтым жа дэпо перад Айчыннай вайной шаснаццацігадовым вучнем слесара пачаў працаваць іх бацька. Прадзед і дзед памерлі задоўга да таго, як нарадзіліся Валеры і Аляксандр. Але хлопцы ведаюць пра іх жыццёвы подзвіг з вуснаў бацькі. У сям'і свята шануецца памяць продкаў-працаўнікоў. Натуральна, гэта адбілася і на адносінах дзяцей да сваіх бацькоў. Любоў, павага — усё гэта садзейнічала развіццю добрых пачаткаў у дзяцей: і «мікраклімат» у доме камуніста Бокуца, і больш шырокія абсягі, што адкрываюцца за родным парогам.

Орша — горад, дзе жыў і змагаўся слаўны партызанскі важак, былы начальнік дэпо Канстанцін Заслонаў. Тут усё асветлена яго імем. Пра яго пішуць вершы, спяваюць песні, складаюць легенды. І хто з хлапчукоў у думках не паўтараў подзвіг гэтага гераічнага чалавека, вобраз якога ўвекавечаны ў брон-

завым помніку на прывакзальнай плошчы. Для Валерыя і Аляксандра памяць пра яго — нешта большае, бо ў тым апошнім баі быў Жэня Бокуц, які васемнаццацігадовым хлапчуком стаў партызанам. І калі настаў час камсамольцам Бокуцам спасцігаць ваенную навуку, напэўна, іх праслаўлены зямляк крочыў з імі ў адным армейскім страі, напамінаючы пра галоўную доблесць мужчыны — быць абаронцам сваёй Айчыны. Напэўна вогненнае юнацтва бацькі, адзначанае ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі, памагала гартаванню характару воіна, абавязвала стаць выдатнікамі баявой і палітычнай падрыхтоўкі, класнымі спецыялістамі.

Усё ў жыцці ўзаемазвязана. Народная мудрасць сцвярджае: «Што пасееш — тое і пажнеш». І невыпадкова. Выступаючы на гэтай сустрэчы, Валеры падкрэсліў: «У выхаванні камуністычных адносін да працы важную ролю адыгрывае сям'я». Фраза, вядома, не надта што свежая. Але за ёй...

... На думку хлопчыкаў, якія пачалі сваволіць, бацька заснуў ужо вельмі недарэчы — сонца свеціць, а ён... Аднак мама іх не падтрымлівае: «Валера, Саша, ну як вам не сорамна. Тату ж у ноч на працу. Перад паездкай яму трэба адпачыць». І раз, і другі, і трэці скажа. У дзіцячых галовах нешта ж ад гэтых слоў застанецца.

Пасля яны бачаць, як тата збіраецца на работу. Калі ёсць час — падкіне аднаго, другога пад столь, што-небудзь смешнае раскажа. Ля брамкі азірнецца, памахае рукой і гэтак паважна, не спяшаючыся пойдзе ў бок дэпо. А калі маці разбудзіць крыху пазней, тады ён спяшаецца, злуецца, і не махае рукой ля брамкі, і зусім не важнічае, а бяжыць як на злом галавы. І тады яны думаюць: «Вось якая яна, «работа»!..

...За сталом размова пра бацькаву работу, пра маміну — яна, Вера Нікіфараўна, таксама працуе ў дэпо. Пра тое, колькі заробяць і што купяць на гэтыя грошы. Сашка чаравікі зусім разбіў, гуляючы ў футбол. Валерка кашулю падраў. На зіму паліто трэба новае, валёнкі...

...У суседавых дзяцей з'явіўся веласіпед. Валерка і Сашка ў адзін голас зацягнулі: «Тата, купі нам «Арлёнка». І хаця сямейны бюджэт не дазваляе адразу зрабіць пакупку, але бацька абнадзейвае: «Што ж, можна і «Арлёнка». Папрацавалі мы добра. Як дадуць прэмію, адразу купім».

І гэтак ва ўсім. З дня ў дзень. У свядомасці падлеткаў закладваецца: работа — гэта і хлеб, і валёнкі, і веласіпед... Ім хочацца даведацца, якая ж яна, гэтая «работа», калі на ёй усё ў доме трымаецца: чаму бацька ідзе на змену, як на свята. Пазней яны папросяць бацьку паказаць ім сваю «работу». Ён возьме іх з сабой у рэйс. І яны ўбачаць агонь, што гоніць жалезнага волата. Будуць захапляцца бацькам, які так проста падпарадкоўвае сабе гэтую сілу. І захопіць іх прастора родных сіне-зялёных далячыняў.

Пасля сплывуць гады, але застанецца песня першага рэйсу, якая і прывядзе іх у «родавае» дэпо. А прыклад бацькоў, таварышаў па працы, наватараў навучыць добрасумлення адносіцца да справы, высока цаніць рабочае майстэрства, змагацца за гонар свайго прадпрыемства. Яны ўзмужнеюць і прыйдуць да цвёрдага перакапання: работа — галоўнае ў жыцці, усталяванне і працяг самога жыцця.

Так узняліся Валеры і Аляксандр Бокуцы на вышыню працоўнай славы. Як роўныя між роўных, яны ўдзельнічалі ў Данецку ў вялікім савеце працоўных дынастый краіны. Гэта і да іх звяртаўся са словамі прывітання Герой Сацыялістычнай Працы Аляксей Рыгоравіч Стаханаў, які адкрываў сустрэчу. На гэтае свята прыбылі праслаўленыя ўдарнікі першых пяцігодак, гвардзейцы працоўных бітваў за сацыялізм: Марыя Дземчанка, Марыя Вінаградава, Валянціна Гаганава, вядомы данецкі шахцёр двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Іван Іванавіч Брыдзько, дынастыя алтайскіх хлебаробаў Героя Сацыялістычнай Працы, кавалера трох ордэнаў Леніна Сямёна Яфімавіча Пятніцы... Сярод удзельнікаў сустрэчы — шахцёры, металургі, будаўнікі, чыгуначнікі, хімікі, сельскія механізатары, хлапкаробы, работнікі сферы абслугоўвання, паляўнічыя... — прадстаўнікі рабочага класа і калгаснага сялянства ўсёй нашай шматнацыянальнай Радзімы. Нябачна тут прысутнічалі тыя, каго ўжо няма ў жывых, але чые справы ніколі не забудуцца ўдзячнымі патомкамі. У цяперашні час у Данбасе шырыцца працоўнае суперніцтва за права валодаць прызамі імя герояў працы першых пяцігодак шахцёра Мікіты Ізотава, сталявара Макара Мазая, трактарысткі Пашы Ангелінай.

У Славянску, дзе пабывалі ўдзельнікі злёту, Бокуцы пазнаёміліся з адным з першых стаханаўцаў краіны, цяпер начальнікам Паўднёва-Заходняй чыгункі Пятром Фёдаравічам Крываносам. Адсюль урачыста правodзілі ў рэйс цяжкавагавы састаў, упрыгожаны маляўнічым транспарантам: «Першай Усесаюзнай сустрэчы працоўных дынастый — камсамольска-маладзёжны эшалон!» Вага цягніка складала 4.300 тон пры норме 3.700. Экіпаж цеплавоза прыняў ад П. Ф. Крываноса запалены факел як сімвал пераемнасці працоўнай славы і адправіўся ў дарогу па маршруце, якім у 1935 годзе вёў свой першы цяжкавагавы састаў на «вялікім клапане» малады тады машыніст Славянскага дэпо Пётр Крыванос.

І былі яшчэ хвалюючыя сустрэчы на гасціннай данецкай зямлі. Засталіся незабыўныя ўражанні ад свята ў дзень нараджэння камсамола на галоўнай плошчы шахцёрскай сталіцы ля помніка Уладзіміру Ільічу Леніну, дзе сабраліся сівыя ветэраны, праслаўленыя ў працы і баях за Радзіму, і моладзь сямідзесятых гадоў — новае пакаленне будаўнікоў камунізму, якое прысягнула на вернасць светлым ідэалам роднай партыі.

З высокай трыбуны Усесаюзнага форума працоўных дынастый асабліва хвалююча прагучалі словы Валерыя Бокуца: «Тут, на сустрэчы, я пазнаёміўся са сваімі калегамі, маладымі чыгуначнікамі Данецкай магістралі. З цікавасцю даведаўся пра іх вопыт арганізацыі спаборніцтва пад дэвізам: «Грузавым цягнікам — хуткасць пасажырскіх!» Дома я раскажу таварышам пра тое, як данецкія камсамольцы водзяць цяжкавагавыя саставы на высокіх хуткасцях. Абавязкова возьмем на ўзбраенне гэты вопыт...» А сыноўняя вернасць падказала вынашанае ў сэрцы: «Ад імя маладых рабочых дэпо я запэўніваю нашых бацькоў, што мы ніколі не звернем з іх шляху, шляху, які пракладзены вялікім Леніным».

Удзельнікі сустрэчы раз'ехаліся. Вярнуліся да сваіх спраў і Бокуцы — дэлегаты Аршанскага лакаматыўнага дэпо, паўпрэды беларускай камсамоліі.

І зноў — праца. Магутныя машыны, паслухмяныя ўмелым рукам, паскараюць і паскараюць свой бег... Грукочуць колы, і рэйкі спяваюць сваю бясконцую песню.

**Аляксандр ЧАПІЖНЫ.**

Фота Э. Трыгубовіча.



# ДАЗОРЦЫ ПЯТАГА АКІЯНА

## «КУХНЯ» НАДВОР'Я

Добрае надвор'е для чалавека — залог добрага настрою. Нашы планы на бліжэйшы дзень у нейкай меры залежаць ад надвор'я. Як жа бывае прыкра, калі замест абяцанага сіноптыкамі сонца ліне дождж! Вось табе і прагноз! Дык чаму ж бюро надвор'я часам памыляецца?

На зямлі няма кутка, дзе б зусім не было вятроў ці дзе б яны дзьмулі заўсёды ў адным напрамку і з пастаяннай хуткасцю. У царстве паветранай стыхіі, у неаглядпай прасторы пятага акіяна ў любую пару года лютуюць вялікія і малыя віхуры. Гэта гіганцкія паветраныя віры. Унутры адных паветра рухаецца супраць стрэлкі гадзінніка. Гэта цыклоны. У іншых — па стрэлцы гадзінніка. Гэта антыцыклоны. Цыклон нясе з сабою дождж ці снег, антыцыклон — добрае надвор'е.

Пяцьдзесят метэаралагічных станцый і сто восемдзесят назіральных пастоў у розных кутках нашай рэспублікі ўдзень і ноччу назіраюць за капрызамі прыроды. Згодна міжнароднай дамоўленасці, метэаролагі ўсіх краін у адзіны для ўсіх час і па агульнай праграме вядуць назіранні некалькі разоў у суткі. Толькі так можна атрымаць агульную карціну надвор'я на нашай планеце. Кожны назіральнік дасць адказы на адпаведныя пытанні: ці ёсць туман, навальніца, дождж, які напрамак і хуткасць ветру, якая канфігурацыя і вышыня воблакаў і г. д.

Метэаралагічныя станцыі — перадавы дазор службы надвор'я. Яны няспынна вядуць назіранні і сабраныя звесткі праз кожныя тры гадзіны перадаюць у Беларускі тэрытарыяльны гідраметэаралагічны цэнтр. Яшчэ некалькі гадоў таму назад збор і апрацоўка гэтай інфармацыі з месцаў рабіліся, можна сказаць, уручную, назіральнікамі-сіноптыкамі. Цяпер жа, з развіццём навукова-тэхнічнага прагрэсу, беларускія метэаролагі карэнным чынам перагледзелі метады сваёй работы. На тэрыторыі Беларусі ствараецца аўтаматызаваная сістэма гідраметэаслужбы.

## НЯБАЧНЫЯ ШЧУПАЛЬЦЫ

Хто быў у Мінску, той, мусіць, заўважыў на даху абсерваторыі вялізны срабрысты шар. Унутры шара знаходзіцца антэна метэаралагічнага лакатара. Яна ўвесь час круціцца і сваімі нябачнымі промнямі-шчупальцамі абмацвае неба ў радыусе трохсот кіламетраў вакол горада. Такіх лакатараў у рэспубліцы тры — у Мінску, Гомелі і Брэсце, але іх гіганцкія чашы-антэны ахопліваюць усё неба Беларусі. І перш за ўсё яны бачаць воблакі, якія, паводле К. Паустоўскага, з'яўляюцца дакладнымі сігналамі азбукі Морзе аб надвор'і.

Звычайна мы мала звяртаем увагі на воблакі. Яны хутка з'яўляюцца на небе і гэтак жа хутка знікаюць. Толькі спецыялісты-метэаролагі яскрава разумеюць, якую вялікую ролю ў жыцці нашай планеты адыгрываюць воблакі і што яны невыпадкова з'яўляюцца і знікаюць на небе. З дапамогай лакатараў дакладна вызначаюцца месцы размяшчэння вялікіх воблачных палёў, навальнічных і ліўневых ачагоў, хуткасць і кірунак руху воблакаў і г. д.

Каб лепш пазнаёміцца з работай метэаралагічнага лакатара, зойдзем у аддзел радыёлакацыйных назіранняў. Каля пульта лакатара дзве дзяўчыны — Валянціна Пархоц і Ніна Зайцава. Тут жа дзяўчаты, што прыехалі на практыку з іншых гарадоў. Трэба адзначыць, што ў гэтым аддзеле працуе пераважна моладзь — выпускнікі Іванаўскага радыёлакацыйнага і Харкаўскага гідраметэаралагічнага тэхнікумаў. Але ёсць і такія, што прыйшлі сюды пасля заканчэння сярэдняй школы і тут атрымалі спецыяльнасць.

Ніна націскае на клавішы лакатара, уключае экран кругавога агляду, які бесперастанку асвятляецца рухомым светлавым промнем. Як толькі



Фотааператар Ларыса Трыфанава прымае інфармацыю аб воблачнасці са штучнага спадарожніка Зямлі.



Старшы радыётэхнік Тацяна Пазухіна кіруе радыёлакацыйнай метэастанцыяй.

промень напаткае на сваім шляху воблачнасць, узнікае ўспышка, і, калі добра прыглядзецца, у глыбіні экрана можна ўбачыць у шмат разоў зменшанае воблака. Нават канфігурацыя яго добра бачна на экране. Гэта тыя воблакі, што вандруюць над Беларуссю ў радыусе трохсот кіламетраў вакол Мінска.

Напарніца Ніны Валянціна Пархоц бярэ цэлулоідны празрысты шаблон і накладае на экран. Потым абрысоўвае на шаблоне гэтую воблачнасць, а з шаблона месца размяшчэння воблачнасці пераносіцца на паперу. Адначасова вызначаецца магутнасць воблакаў, іх тып: навальнічныя, ці ліўневыя, ці зусім без ападкаў.

Потым уключаецца другі экран метэаралагічнага лакатара. Ён дае малюнак воблачнасці ў разрэзе. Па малюнку можна меркаваць аб вышыні воблакаў, іх таўшчыні, вызначыць іх верхнюю мяжу. У першую чаргу метэаролагаў цікавіць воблачнасць, якая нясе снег, дождж, навальніцу, град.

Так, не выходзячы з лабараторыі, супрацоўнікі абсерваторыі бесперапынна бачаць воблакі і маюць пра іх усю неабходную інфармацыю, якая перадаецца для апрацоўкі ў гідраметцэнтр. Дваццаць чатыры разы ў суткі радыёлакатары нябачнымі шчупальцамі правяраюць неба не толькі над Беларуссю, але і над Літвою, Украінай, Польшчай і інш.

Тут жа, у лабараторыі, на спецыяльнай установцы займаюцца вывучэннем атмасфернай электрычнасці. Апаратура дазваляе заўважаць навальніцы за некалькі сотняў і нават тысяч кіламетраў ад Мінска.

## НЯБЕСНЫЯ РАЗВЕДЧЫКІ

У гэтым жа аддзеле ёсць лабараторыя, якая атрымлівае розныя звесткі пры зандзіраванні атмасферы. Ідзём на верхні паверх. Тут, пад самым дахам, устаноўлены аэралагічны радыёлакатар. Ён аўтаматычна назірае за палётам радыёзонда, прымае ад яго сігналы і ператварае іх у лічбавы код.

Каля радыёлакатара дзяжурыць Наташа Шабека. Ёй дапамагаюць студэнты-практыканты. Штодзень чатыры разы на суткі ў неба запускаецца шар з прымацаванай да яго маленькай аўтаматычнай метэастанцыяй. Радыёперадатчык перадае на зямлю велічыні ціску, тэмпературы, вільготнасці. Гэта так званы радыёзонд. Траекторыя радыёзонда дазваляе, апрача ўсяго, вызначыць кірунак і хуткасць ветру на розных вышынях. Усе гэтыя звесткі прымае радыёлакатар і адразу ж перакладае на мову лічбаў.

Глядзім паказанні радыёзонда. Самая нізкая тэмпература паветра была на вышыні трынаццаці кіламетраў — мінус пяцьдзесят восем градусаў. У другой калонцы лічбаў закадзіравана хуткасць ветру. Такая інфармацыя вельмі патрэбная для авіяцыі, бо адразу ж пасля атрымання звестак ад радыёзонда складаецца тэлеграма і па тэлетайпе перадаецца ў гідраметэаралагічны цэнтр.

## АУТОГРАФЫ СПАДАРОЖНІКА

Светлы будынак Беларускага гідраметцэнтра яшчэ не страціў паху свежай фарбы. На шырокім шкляным цокалі ўзвышаецца гмах са светлай цэглы, на даху бачны віты сілуэт антэны для прыёму інфармацыі спадарожнікаў Зямлі.

Заходзім у адзін з пакояў, дзе збіраюцца гэтыя звесткі. Тут размешчана прыёмна-спадарожнікавая апаратура і некалькі фотатэлеграфных апаратаў. Неўзабаве пачнецца прыём фотаінфармацыі з космасу. Пра час пралёту спадарожніка папярэдне паведаміла ўжо Масква.

Дзяжурная змена займае свае месцы. Тут у асноўным моладзь. Фотаапаратар Валодзя Філіпчык надзявае навушнікі і садзіцца каля пульта кіравання машыны, якая прымае сігналы. Ларыса Трафімава і Валя Бе-



Апаратар Людміла Бяляева, вучаніца зандыста Рэгіна Дзмітрыева і зандыст Людміла Смірнова з дапамогай радыёлакацыйнай станцыі «Метэарыт» сочаць за станам атмасферы.

ражнова — фотаапературы. Яны сочаць за работай фотатэлеграфных апаратаў. Уключаецца машына, і в космасу даносіцца прыглушанае папіскванне — набліжаецца спадарожнік. Спіральная антэна на даху павольна паварочваецца, ловячы спадарожнік у поле радыёбачання. На пульце ўключаецца адзін тумблер, другі, трэці... На круглым экране забегалі зеленаватыя хвалі... Сеанс прыёму пачаўся. Бывае, што ён працягваецца больш за дваццаць мінут. Атрыманыя з космасу радыёсігналы ператвараюцца ў фотаздымкі, на якіх бачны воблакі, што навісаюць над рознымі раёнамі Еўропы, Азіі, Афрыкі. Негатывы праяўляюцца, і карта воблачнасці адпаведнай часткі зямнога шара гатова.

Чатыры разы на дзень прымаецца спадарожнікавая інфармацыя. Гідраметцэнтр цяпер рыхтуецца да прыёму здымкаў у інфрачырвоным выпраменьванні. Гэта дазволіць фатаграфаваць воблачнасць над зямным шарам нават уначы.

Фотаздымкі воблачнасці над асобнымі раёнамі зямнога шара трапляюць да сіноптыка-дэшыфравальшчыка. Ён расшыфроўвае іх і рыхтуе фотамантаж з 10—12 кадраў. Так складаецца вялікая карта воблачнасці. На ёй адзначаны канфігурацыя воблакаў, межы лёдавага і снегавога покрыву. Маючы такую карту, сіноптык можа вызначыць віды воблачнасці ў любым пункце нашай краіны, што нельга зрабіць, маючы толькі адну метэаралагічную сетку станцый.

## НАЗІРАЛЬНІКІ-АЎТАМАТЫ

Мы пазнаёміліся з работай аўтаматычнага абсталявання, што вядзе разведку ў небе. Спусцімся цяпер на зямлю. Тут каля гідраметцэнтра на метэаралагічнай пляцоўцы знаходзяцца спецыяльныя датчыкі, якія аўтаматычна рэгіструюць кірунак і хуткасць ветру, вышыню воблакаў, тэмпературу паветра і г. д. Усе назіранні ператвараюцца ў электрычныя сігналы, што ідуць у аўтаматычную метэастанцыю. Як жа працуе такі электронны робат?

Восем разоў за суткі ён без умяшання чалавека збірае звесткі аб надвор'і і перадае іх у гідраметцэнтр.

Надыходзіць вызначаны для збору і перадачы інфармацыі час. Гадзіннік уключае электронную апаратуру метэастанцыі. Запальваюцца кантрольныя лямпачкі. Недзе ўнутры пацокваюць шагавыя шукальнікі, прыглушана гудуць механізмы. За акном на метэаралагічнай пляцоўцы адчыняюцца вечкі невялікіх скрынак, у якіх стаяць датчыкі: гэта станцыя падала ім каманду «Падрыхтавацца да работы!» Ідзе аўтаматычнае апытанне датчыкаў на пляцоўцы.

Прайшло некалькі мінут, і з тэлетайпнага апарата аўтаматычнай метэастанцыі пачынаюць ісці звесткі — лічбавы код. Адначасова гэтыя ж звесткі наносяцца на перфастужку: яны пойдуць для апрацоўкі на электронна-вылічальнай машыне. Кіраўнік аддзела метэаралагічных назіранняў Марыя Іосіфаўна Крахмальнікава адразу ж перакладае лічбавы код на звычайную чалавечую мову.

— Гідраметцэнтр Беларусі, — расказвае яна, — пераходзіць на аўтаматызацыю назіранняў і апрацоўку іх. Справа гэтая пакуль што для нас новая. Таму адначасова з аўтаматычнымі звесткамі мы вядзём збор і апрацоўку назіранняў старым спосабам, г. зн. праз кожныя тры гадзіны паказанні з прыбораў здымае назіральнік. Потым параўноўваем вынікі старога і новага спосабаў. Для праверкі. Калі будзе апрацавана ўся аўтаматызаваная сістэма гідраметэаралагічнай службы Беларусі, неабходнасць у такой праверцы адпадзе. Наша аўтаматычная станцыя працуе без чалавека. У зададзеныя праграмай часы яна сама выключаецца, сама збірае звесткі, апрацоўвае іх і перадае ў цэнтр сувязі. Да станцыі можна падключаць трыццаць два датчыкі. Неўзабаве яна будзе працаваць аўтаматычна і ў рэжыме шторму. Што гэта азначае? Калі, напрыклад, нечакана падзьме вельмі моцны вецер, насунецца туман ці навіснуць нізка воблакі, станцыя адразу ж сама ўключаецца, аналізуе сітуацыю і перадае звесткі сіноптыкам у гідраметцэнтр. Цяпер мы, не выходзячы з памяшкання, можам у любую мінуту зрабіць патрэбныя назіранні.

Марыя Іосіфаўна націскае кнопку на панелі станцыі: трэба даведацца пра сілу і кірунак ветру. Запрацавалі механізмы ўнутры машыны, і праз некалькі мінут пачуўся выразны пошчак тэлетайпа: адказ ёсць.

У нашай рэспубліцы працуе ўжо сорак чатыры аўтаматычныя метэастанцыі, якія восем разоў на суткі перадаюць у Мінск звесткі аб надвор'і.

## ЦЭНТР СУВЯЗІ

У тэлетайпнай зале гідраметцэнтра беспërастанку цокаюць апараты. Іх тут каля двух дзесяткаў. Прымаюць звесткі аб надвор'і ад беларускіх аўтаматычных метэастанцый і лакатараў, паведамленні іншых гарадоў нашай краіны, іншых краін свету. Каб прадказаць, якое будзе надвор'е заўтра, трэба ведаць, якое яно было ўчора, сёння ў іншых месцах Еўропы і Азіі. Мэтэаролагі, хоць самі і гавораць на розных мовах, тут добра разумеюць адзін другога, бо карыстаюцца моваю лічбаў — міжнародным метэаралагічным кодам. Інфармацыя ідзе суцэльным магутным патокам. Спярэшчаныя калодкі лічбаў, папяровыя аркушы і белыя змейкі перфастужак, што выпаўзаюць з тэлетайпаў, прызначаюцца для апрацоўкі на ЭВМ. Здаецца, проста немагчыма разабрацца ў гэтым бясконцым патоку лічбаў. Але сіноптыкі робяць гэта параўнальна лёгка, карыстаючыся паслугамі электроннавылічальных машын «Мінск-22» і «Мінск-32».

У ЭВМ уводзіцца ўся беларуская інфармацыя, што паступае ў гідраметцэнтр па ўсіх каналах сувязі. «Разумныя» машыны сарціруюць яе, калі патрэбна, перапытваюць, аналізуюць і, нарэшце, даюць звесткі ў выглядзе міжнароднага кода, якія адразу ж па тэлетайпе перадаюцца ў вузел сувязі. Тэхнік-нанасіцель усё наносіць на карту надвор'я. Далей карты паступаюць на стол інжынеру-сіноптыку. Такія бланкі-карты з дадзенымі аб надвор'і трапляюць потым у факсімільную залу. Іх закладаюць у спецыяльныя апараты і перадаюць па правадах розным адрасатам, дзе іх прымаюць і ўзнаўляюць другія апараты.

У дапамогу мінскім метэаролагам-сувязістам прыходзіць найноўшая электронная апаратура. Малады спецыяліст, выпускнік Ленінградскага электратэхнічнага інстытута сувязі Эдуард Куноўскі расказвае:

— Цяпер у нас адбываецца тэхнічнае пераўзбраенне гідраметэаслужбы. Прадугледжана стварэнне ў 1971—75 гадах аўтаматызаванай сістэмы абмену інфармацыяй. Распрацоўваецца апаратура, з дапамогай якой будзе магчыма атрыманую інфармацыю адразу ўводзіць у электронна-вылічальныя машыны. Змантыраваны ўжо хуткадзеючыя электронныя апараты, якія забяспечаць прыём і перадачу інфармацыі па існуючых каналах сувязі ў дваццаць пяць разоў хутчэй, чым гэта робіцца зараз.

На стале сіноптыка мы бачым тыя шляхі надвор'я, па якіх ідзе да нас і дождж, і снег, і навальніцы, і град, і добрае надвор'е. Па ўмоўных знаках можна меркаваць, дзе цяпер цыклоны і антыцыклоны, з якой хуткасцю і ў якім напрамку рухаецца паветра. Сіноптыкі параўноўваюць надвор'е мінулых сутак ці паўсутак, улічваюць тыя змены, што адбыліся за гэты час, і робяць свае меркаванні наконт надвор'я, якое чакаецца на бліжэйшыя суткі. Праз кожныя шэсць гадзін па фотатэлеграфе Масква перадае ў Мінск карты надвор'я не толькі нашай краіны, але ўсяго паўночнага паўшар'я. Кожныя тры гадзіны метэаролагі радзіруюць у эфір пра стан надвор'я ў розных раёнах Беларусі. Гэтыя сігналы прызначаны для іншых гарадоў, краін і зацікаўленых арганізацый.

Сіноптык кожны дзень вымушаны вырашаць усё новыя і новыя задачы.

Метэаралагічныя абставіны вельмі зменлівыя, і нельга знайсці дзвюх дакладна падобных адна на другую картаў надвор'я. Кожная карта — гэта новы варыянт, новая непаўторная задача для метэаролагаў. Пра цыклоны і антыцыклоны многае ўжо вядома, і ў пераважнай большасці выпадкаў магчыма навукова-правільна прадказаць далейшыя змяненні надвор'я для любой тэрыторыі. Але ўсё ж шмат што застаецца яшчэ неразгаданым, не ўсё яшчэ можна растлумачыць дакладна і з дастатковай паўнатой. З'явы ў атмасферы вельмі складаныя. У кожным асобным выпадку ўлічыць усё яшчэ немагчыма, бо атмасферныя працэсы выключна складаныя, многія заканамернасці іх яшчэ не выяўлены. Аднак вучоныя ўжо распрацавалі і распрацоўваюць больш дакладныя метады прагнозу па гідрадынамічных ураўненнях. Прадказаць правільна надвор'е — вельмі адказная задача. Нездарма акадэмік Вавілаў вызначыў такія тры галоўныя праблемы сучаснай навукі: авалоданне ядзернай энергіяй, выяўленне хваробы рака і прагноз надвор'я.

Васіль СВЯТЛОЎ.

Фота В. Ждановіча.

# НАШ ПРАКТЫКУМ

**ФІЗІКА**

Уступныя экзамены па фізіцы праводзяцца ў адпаведнасці з «Праграмай уступных экзаменаў для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы СССР», якая прадугледжвае грыбокае веданне школьнага курса і ўменне чотка і ўпэўнена прымяняць атрыманыя веды на практыцы. Ніякіх дадатковых ведаў па элементарнай фізіцы, а таксама ніякіх звестак з курса агульнай фізікі ад паступаючых у ВНУ, у тым ліку і ў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага, не патрабуецца.

У кожнай ВНУ, вядома, свой узровень патрабаванняў на ўступных экзаменах. У тых навучальных установах або на тых факультэтах (у межах адной навучальнай установы), дзе фізіка з'яўляецца адным з асноўных прадметаў або з'яўляецца будучай спецыяльнасцю, экзамен па фізіцы, натуральна, больш складаны. Гэта не азначае, што ад абітурыентаў такіх ВНУ патрабуюцца нейкія дадатковыя веды, якія выходзяць за межы праграмы. Проста яны павінны паказаць больш глыбокія веды фізічных законаў, умець рашаць больш складаныя задачы, рабіць элементарныя вывады.

Абітурыентам на ўступных экзаменах неабходна праявіць адпаведную вытрымку і цвёрдасць. Не варта спяшацца з адказам, нават калі пытанне здалося простым і вядомым. Перш чым адказваць, спакойна абдумайце адказ. Калі выявіцца, што вы штосьці забыліся, не лічыце, што ўсё скончана. Экзаменатары ставяць перад сабой мэту перш за ўсё выявіць падрыхтоўку па прадмеце, а не праверку памяці. Калі ж якое-небудзь пытанне здалося нечаканым, цяжкім, не губляйцеся, спакойна сканцэнтруйце на ім увагу, паспрабуйце розныя падыходы да рашэння данага пытання.

Пры рашэнні задач на экзамене ніколі не рашайце адну і тую ж задачу працяглы час запар, калі яна не атрымліваецца. У выніку ў вас можа не хапіць часу на абдумванне іншых пытанняў. Лепш адкладзіце гэту задачу, займіцеся іншымі пытаннямі, а пасля, вырашыўшы іх, вярніцеся да яе зноў. Такі падыход дазволіць найбольш рацыянальна выкарыстаць час, які адводзіцца на экзамен.

Існуе некаторая агульная методыка рашэння любой задачы. Перш за ўсё неабходна добра засвоіць умову яе. Для гэтага неабходна некалькі разоў прачытаць умову ўважліва. Затым, азнаёміўшыся з умовай, устанавіце, да якога раздзела фізікі задача адносіцца (механіка, цеплыня, электрычнасць, оптыка, будова атама і ядра). І вам стане ясна, якія законы і формулы вам спатрэбяцца для рашэння гэтай задачы. Устанаўлівайце таксама, што дадзена і што неабходна знайсці. Ці дастатковая ўмова для знаходжання невядомага адразу або трэба яшчэ выканаць сякія-такія прамежкавыя дзеянні. Ці не рашалі вы раней задачу, якую можна разглядаць як частку прапанаванай задачы.

Для большай нагляднасці неабходна намаляваць чарцёж, калі гэта магчыма. Затым трэба паспрабаваць скласці план рашэння. Нарэшце, вы ажыццяўляеце план рашэння, кантралюючы кожнае дзеянне. Робіце аналіз атрыманага адказу: ці ўсё правільна ў задачы з боку размернасці, ці не выклікае ён пярэчання з пункту гледжання здаровага сэнсу, ці нельга як-небудзь інакш праверыць атрыманы вынік.

Разгледзім канкрэтны прыклад:

1. Куля масай 9 г, якая ляціць гарызантальна з хуткасцю 400 м/с, прабівае бервяно таўшчынёй 30 см і вылятае з яго з хуткасцю 100 м/с. Якая сярэдняя сіла супраціўлення руху кулі ў бервяне?

Рашэнне. (Механіка. Механічная энергія, работа. Закон захавання і ператварэння механічнай энергіі).

$m = 9$ г $= 9\cdot10^{-3}$ кг;
$V_1 = 400$ м/с;
$S = 30$ см $= 0{,}3$ м;
$V_2 = 100$ м/с.
$F_c$ — ?




Да таго, як трапіць у бервяно, куля валодала кінетычнай энергіяй

$$W_{1к} = \frac{mV_1^2}{2}$$



Пасля вылету з бервяна яе кінетычная энергія становіцца роўнай

$$W_{2к} = \frac{mV_2^2}{2}.$$

Змяненне кінетычнай энергіі кулі

$$\Delta W = W_{2к} - W_{1к} = \frac{m}{2}\left(V_2^2 - V_1^2\right).$$

За кошт змены (змяншэння) кінетычнай энергіі праводзіцца работа супраць сіл супраціўлення пры прабіванні бервяна куляй:

$$-A = F_c \cdot S = \Delta W.$$

(Работу сіл супраціўлення лічым адмоўнай).

Зураўнення

$$-F_c \cdot S = \frac{m}{2}\left(V_2^2 - V_1^2\right)$$

знаходзім велічыню сілы супраціўлення

$$F_c = \frac{m}{2S}\left(V_1^2 - V_2^2\right).$$

$$F_c = \frac{9\cdot10^{-3}\text{кг}}{2\cdot0{,}3\ \text{м}}\left(400^2\,\frac{\text{м}^2}{\text{с}^2} - 100^2\,\frac{\text{м}^2}{\text{с}^2}\right) = 2250\ \frac{\text{кг}\cdot\text{м}}{\text{с}^2} = 2250\ \text{н}.$$

Кожны фізічны закон справядлівы толькі пры адпаведных умовах, і, калі не ўлічваць гэтага, то пры прымяненні гэтага закона можна прыйсці да няправільнага выніку.

Абітурыенты не заўсёды правільна разумеюць закон захавання колькасці руху і не заўсёды ведаюць, у якіх выпадках ён справядлівы.

Колькасцю руху матэрыяльнага пункта называецца вектар

$$\vec{K} = m\vec{V}.$$

Вельмі часта мы сустракаемся з рухам адначасова некалькіх цел, г. зн. сістэмы цел.

Колькасцю руху сістэмы з'яўляецца геаметрычная сума колькасцяў руху асобных цел, якія ўваходзяць у даную сістэму:

$$\vec{K} = m_1\vec{V_1} + m_2\vec{V_2} + \ldots + m_n\vec{V_n}.$$

Механічную сістэму, на якую не дзейнічаюць знешнія сілы, называюць замкнутай. Для замкнутых сістэм справядлівы закон захавання колькасці руху.

Для замкнутай сістэмы вектар яе колькасці руху застаецца нязменным (па велічыні і напрамку).

$$m_1\vec{v_1} + m_2\vec{v_2} + \ldots + m_n\vec{v_n} = \text{const} \quad (1)$$

Для некаторых незамкнутых сістэм можна запісаць падобную роўнасць. Дапусцім, што на сістэму дзейнічаюць знешнія сілы перпендыкулярна некаторай восі x. У гэтым выпадку пастаяннай застаецца колькасць руху сістэмы ў напрамку гэтай восі.

$$m_1V_{1x} + m_2V_{2x} + \ldots + m_nV_{nx} = \text{cosnt} \quad (2)$$

Роўнасць (2) у адрозненне ад (1) з'яўляецца скалярнай.

Разгледзім прыклад.

2. Куля, якая ляціць гарызантальна з хуткасцю $V_0$, удараецца ў цялежку з пяском, якая стаіць на гарызантальных рэйках, і засядае ў ёй. Знайсці хуткасць цялежкі пасля ўдару. Куля мае масу m, а цялежка — масу M. (Супраціўленне паветра і трэнне колаў цялежкі аб рэйкі не браць пад увагу).

Выкарыстоўваючы закон захавання колькасці руху

$$mV_0 = (M+m)V,$$

вучні знаходзяць шукаемую хуткасць V. Аднак на пытанне: «Чаму колькасць руху сістэмы куля — цялежка захоўваецца?» — не заўсёды даюць правільны адказ. Часта адказваюць: «Таму, што куля і цялежка ўтвараюць замкнутую сістэму», што, вядома, няправільна. Трэба адказваць так: «На сістэму куля — цялежка дзейнічаюць наступныя знешнія сілы: сіла цяжару кулі, сіла цяжару цялежкі і сілы рэакцыі рэек; але паколькі гэтыя сілы перпендыкулярныя напрамку руху цел, то яны не могуць змяніць колькасці руху сістэмы ў гарызантальным напрамку».

Усім вучням добра вядома формула лінзы

$$\frac{1}{d}+\frac{1}{f}=\frac{1}{F},$$

дзе d — адлегласць ад лінзы да прадмета (крыніцы святла S), f — адлегласць ад лінзы да адлюстравання S′, F — фокусная адлегласць лінзы.

Аднак часта робяць памылкі, якія звязаны са знакамі складаемых. Каб пазбегнуць падобных памылак, варта карыстацца наступнымі простымі правіламі:

а) адлегласць d лічыцца дадатнай, калі крыніца S — сапраўдная, і адмоўнай, калі гэта крыніца — уяўная;

б) адлегласць f лічыцца дадатнай, калі адлюстраванне S′ — сапраўднае, і адмоўнай, калі гэта адлюстраванне — уяўнае.

в) адлегласць F лічыцца дадатнай, калі лінза — збіраючая, і адмоўнай, калі лінза — рассейваючая.

Адмоўным можа быць як f, так і d, бо ўяўным можа быць не толькі адлюстраванне S′, але і крыніца S.







Разгледзім рашэнне задачы на прымяненне формулы лінзы.

3. Уяўная крыніца знаходзіцца ў галоўным фокусе збіраючай лінзы. Дзе знаходзіцца яе адлюстраванне?

**Рашэнне.**

У гэтым выпадку $d<0$, а $F>0$;

$$|d|=|F|;\ f=?$$

Выходзіць,

$$-\frac{1}{d}+\frac{1}{f}=\frac{1}{F};\quad -\frac{1}{F}+\frac{1}{f}=\frac{1}{F};$$

$$\frac{1}{f}=\frac{2}{F};\quad f=\frac{F}{2};$$




Атрымліваем $f>0$. Гэта значыць, што адлюстраванне ў даным выпадку з'яўляецца сапраўдным.

**Васіль БОНДАР,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

# КАЛІ ПРАЦУЕШ НАД ПАДРУЧНІКАМ...

Падручнік — асноўная кніга вучня. Над ёй даводзіцца працаваць і ў школе, і дома.

Галоўнае ў рабоце з падручнікам — гэта засваенне матэрыялу. Засвоіць матэрыял, пісаў акадэмік А. М. Несмяянаў, гэта значыць зрабіць яго сваім.

Але бывае і такое, што прачытанае вучань запамінае, але не можа растлумачыць, пераказаць таго, пра што чытаў. Здарылася гэта таму, што вучань зубрыў, механічна засвойваў матэрыял. Такое чытанне падручніка прыводзіць да верхаглядства.



Як жа працаваць над падручнікам, каб абдумана, свядома аваладваць ведамі? У першую чаргу неабходна пазнаёміцца са структурай друкаванага тэксту. У кожным раздзеле, параграфе аўтар падручніка вылучае асноўную думку, даказнасць якой даказваецца прыкладамі, фактамі ды іншымі довадамі. Звычайна аўтары падручніка самі дапамагаюць вызначыць галоўнае ў тэксце, падкрэсліўшы гэта ці больш прыкметным шрыфтам, ці разбіўкай літар. Часта словы «дык вось», «такім чынам», «гэта значыць» і іншыя ўжываюцца для таго, каб звярнуць увагу чытача на асноўную думку, на вывады і абагульненні. Напрыклад, у падручніку А. Пёрышкіна «Курс фізікі» галоўная ідэя артыкула «Распаўсюджанне гуку» сфармулявана аўтарам пасля слоў «дык вось» і выдзелена тлустым шрыфтам: «Гукавыя хвалі распаўсюджваюцца ў цвёрдых, вадкіх і газападобных целах, але не могуць распаўсюджвацца ў беспаветранай прасторы». Гэтая думка пацвярджаецца:

а) доследам з гадзіннікам-будзільнікам, які змешчаны пад каўпаком паветранай помпы;

б) доследам з кішэнным гадзіннікам і драўлянай дошкай;

в) доследам з металічнай лыжкай, прывязанай да вяроўкі, дроту, гумавага шнура;

г) назіраннямі рыбакоў, якія сведчаць, што рыба чуе словы і крокі людзей на беразе рэчкі.

Асноўная думка сумесна з доказамі і ілюстрацыйным матэрыялам складаюць сэнсавую групу. Колькі асноўных палажэнняў у параграфе, столькі і сэнсавых груп. Пры чытанні важна ўмець выдзяляць асноўныя палажэнні ў тэксце. Для гэтага трэба навучыцца разбіваць тэкст на сэнсавыя часткі. Прычым у аснову падзелу не варта браць абзацы (хаця часта яны супадаюць і з сэнсавымі часткамі).

Працуючы над падручнікам, варта складаць план. Гэта добры сродак для аналізу вывучаемага матэрыялу. Псіхалогія сцвярджае, што для трывалага запамінання і засваення матэрыялу трэба, каб у працэсе ўспрымання і асэнсавання ўдзельнічалі як мага болей відаў памяці. Пры чытанні працуе зрокавая памяць, пры запісе яе дапаўняе маторная.

Запісы рабіць яшчэ варта і таму, што пры паўтарэнні матэрыялу яны вельмі дапамогуць. Нават можна абысціся толькі імі, не звяртаючыся да падручніка.

Пры рабоце над падручнікам ці кнігай абавязкова сустрэнуцца незразумелыя словы, пэўныя выразы. Каб зразумець думку аўтара, нельга прапускаць ніводнага незразумелага слова, ніводнага сказа. Абавязкова трэба высветліць іх сэнс.

Многія захапляюцца тэхнікай, літаратурай, мастацтвам, жадаючы ведаць болей, чым даюць падручнікі. З гэтай мэтай трэба звяртацца да дадатковай літаратуры, самастойна падбіраць кнігі, вывучаць іх, каб пашырыць школьныя веды ў пэўнай галіне навукі.

З чаго пачаць працу над кнігай? Паперпершае, неабходна ўважліва пераглядзець змест, каб пазнаёміцца з пералікам разглядаемых у ёй пытанняў. Змест — гэта план кнігі. Па-другое, трэба пазнаёміцца з анатацыяй, якая пераважна змяшчаецца на адваротным баку тытульнага ліста. Анатацыя — гэта кароткі змест кнігі. Карысна прачытаць і ўступ да кнігі.

Значыцца, папярэдні прагляд кнігі дае магчымасць высветліць яе галоўную ідэю і кароткі змест. Метадам папярэдняга знаёмства з кнігай карыстаўся У. І. Ленін. Н. К. Крупская расказвала, што Уладзімір Ільіч, перш чым чытаць кнігу, абавязкова знаёміўся са зместам, прадмовай, а затым бегла перагортваў старонкі. Ужо на гэтым этапе працы ён знаходзіў галоўнае ў кнізе.

Самастойна працуючы над кнігай, важна навучыцца весці канспект. З гэтым можна справіцца паспяхова, калі ўмееш складаць план, бо ён з'яўляецца асновай канспекта.

Трэба звярнуць увагу і на такі прыём работы над падручнікам ці кнігай, як чытанне тэксту з алоўкам у руках. Кожны можа набыць звычку адзначаць на палях кнігі важныя месцы ўмоўнымі знакамі, паметкамі, падкрэсліваннем. Простым мяккім алоўкам можна падкрэсліць цікавыя думкі, характэрныя выказванні і стылістычныя прыёмы аўтара. Метадам падкрэслівання карыстаўся У. І. Ленін. Ён падкрэсліваў месцы ў кнізе прамой рыскай, хвалістай, ставіў фігурныя, квадратныя дужкі, пытальнікі і клічнікі. Па ўмоўных знаках, зробленых Уладзімірам Ільічом, можна бачыць, з чым ён быў згодзен, што здавалася яму каштоўным, супраць чаго пярэчыў.

Навыкі працы над падручнікам і кнігай набываюцца толькі ў працэсе самой працы. І калі напачатку будуць цяжкасці, не варта губляцца. Настойлівасць у працы над друкаванымі крыніцамі вядзе — абавязковая ўмова поспеху.

**Іван КАЛБАСКА,**
**кандыдат педагагічных навук.**

# ГОРАД СТУДЭНТАЎ, ГОРАД ВУЧОНЫХ

Гучыць студэнцкая песня «Віват акадэмія». Яе спявае студэнцкі мужчынскі хор у старой актавай зале. Старадаўняя універсітэцкая традыцыя—так пачынаць кожны навучальны год—на гэты раз набыла новае значэнне. Пад гэтым дэвізам у Тартускім універсітэце праходзілі ўсе мерапрыемствы, прысвечаныя пачатку заняткаў: першы сход, першыя лекцыі, першы студэнцкі баль. У дружную ўніверсітэцкую сям'ю ўлілося 1008 новых студэнтаў. Цяпер ва ўніверсітэце займаюцца 4340 юнакоў і дзяўчат і на завочным аддзяленні—2200. Студэнтам васьмі факультэтаў і завочнікам чытаюць лекцыі 575 выкладчыкаў па 25 спецыяльнасцях.

Мінула ўжо 339 гадоў, як у горадзе Тарту з'явіліся першыя студэнты. З таго часу нельга ўявіць сабе гэты горад без студэнтаў. Столькі ж гадоў назад тут з'явіліся першыя вучоныя.

На ўсесаюзнай гістарычнай канферэнцыі, якая праходзіла тут, Тарту і яго ўніверсітэт былі названы «Альма-матар» усёй эстонскай навукі.

І гэта праўды так. Побач з універсітэтам—інстытут заалогіі і батанікі, інстытуты фізікі і астраноміі, жывёлагадоўлі і ветэрынарыі Акадэміі навук ЭССР. Цэнтрам падрыхтоўкі спецыялістаў для сельскай гаспадаркі рэспублікі стала Эстонская сельскагаспадарчая акадэмія, якая створана на базе ўніверсітэта ў 1951 годзе.

У Тарту праходзяць усесаюзныя і міжнародныя навуковыя канферэнцыі і сімпозіўмы; Тарту стаў цэнтрам падрыхтоўкі маладых вучоных рэспублікі.

Свой пачатак Тартускі ўніверсітэт бярэ ад створанай у 1633—1656 гадах «Акадэміі Густавіяна». Архіўныя дакументы сведчаць, што на чатырох яе факультэтах тады выкладалі 30 прафесараў-дактароў. Вучоны савет прысвойваў вучоныя ступені па розных спецыяльнасцях. У 1690—1710 гадах атрымаўшая назву «Акадэмія Караліна» мела 28 прафесараў.

У 1802 годзе ў Тарту быў адкрыты Юр'еўскі ўніверсітэт, які стаў заваёўваць шырокую папулярнасць. У Тарту едуць вучыцца і абараняць дысертацыі перадавыя людзі з розных куткоў Расіі, Германіі, Польшчы, Фінляндыі. Росквіт універсітэта адносіцца да 30-х гадоў мінулага стагоддзя. На ўвесь свет праславілі свой універсітэт такія вялікія вучоныя, як астраном В. Струве, мінеролаг М. Энгельгарт, эмбрыёлаг К.-Э. Баэр, фізік Э. Ленц, батанік Э. Русаў, хірург М. Пірагоў і многія іншыя. Тут у канцы мінулага стагоддзя выраслі і такія выдатныя эстонскія вучоныя, дзеячы літаратуры і культуры, як Эрнст Петэрсон, Фрыдрых Крэйцвальд, Густаў Суйтс, Антон Хансен Тамсарэ, Людвіг Пуусеп, Тэадор Ліпмаа і іншыя. Тады ж з выхаванцаў Тартускага ўніверсітэта 250 абаранілі доктарскія дысертацыі і сталі прафесарамі.

Шматнацыянальны па сваім складзе, Тартускі ўніверсітэт стаў адным з цэнтраў рэвалюцыйнай думкі ў Расіі. Марксісцкія гурткі студэнтаў і выкладчыкаў падтрымлівалі сувязь з Масквой. Восенню 1900 года ў Тарту прыехаў малодшы брат У. І. Леніна Дзмітры Ульянаў, тут ён закончыў медыцынскі факультэт універсітэта.



Галоўны будынак Тартускага ўніверсітэта.



Дзмітры Ульянаў быў членам савета студэнцкіх арганізацый.

У часе першай сусветнай вайны ўніверсітэт эвакуіраваўся ў Варонеж, дзе затым на яго базе быў створаны Варонежскі ўніверсітэт.

У перыяд буржуазнай Эстоніі ва ўніверсітэце было восем факультэтаў. Тут панавала правінцыяльнае зацішша, і толькі асобныя вучоныя ў асобных галінах ведаў змаглі ўзняцца да ўзроўню тагачаснай сусветнай навукі.

У 1969 годзе ў традыцыйныя ў Тарту студэнцкія дні ля гары Таме быў закладзены камень будучай ганаровай сцяны. На старонкі гэтай каменнай кнігі будзе занесена ўся гісторыя Тартускага ўніверсітэта, будуць запісаны імёны ўсіх яго слаўтых выхаванцаў.

Калі ў 1944 годзе пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў універсітэт зноў адчыніў свае дзверы, матэрыяльная база яго была зусім знішчана. Аднак за пасляваенныя два дзесяцігоддзі ўсё было адноўлена, і ўніверсітэт дасягнуў свайго небывалага росквіту. Побач з такімі вядомымі факультэтамі, як медыцынскі і філалагічны, узніклі юрыдычны, эканамічны, фізкультурны. Да традыцыйнага матфака дадаліся аддзяленні геаграфіі, хіміі, фізікі і інш.

У бягучай пяцігодцы колькасць студэнтаў дзённага аддзялення ўзрасце да пяці тысяч. На многіх факультэтах створаны аддзяленні для падрыхтоўкі спецыялістаў саюзнага значэння, у тым ліку па спецыяльнасцях матэматыкі, фізікі, рускай мовы і літаратуры, спартыўнай медыцыны і г. д.

У ТДУ распрацоўваюцца многія актуальныя навуковыя праблемы, з іх чатырнаццаць маюць усесаюзнае значэнне. На асноўных факультэтах працуюць 17 праблемных лабараторый. Вакол іх цяпер групуюцца маладыя навуковыя сілы са студэнцкіх навуковых гурткоў. У свой час такім асяродкам ва ўніверсітэце быў калектыў вучоных на чале з пафесарам Людвігам Пуусепам, які набыў сусветную вядомасць у галіне нейрахірургіі. Да прафесара прыязджалі вучыцца студэнты з розных раёнаў краіны, пад яго кіраўніцтвам яны рабілі першыя крокі ў навуку. І калі мы гаворым пра паслядоўнікаў прафесара Пуусепа ў Тарту, то маем на ўвазе ў першую чаргу яго вучня, цяпер дэкана медыцынскага факультэта, загадчыка кафедры нейрахірургіі прафесара Эрнста Раудама, яго калег і вучняў, якія вучацца ў свайго прафесара ўменню бачыць праблему і шукаць шляхі яе вырашэння. Менавіта студэнты прафесара Раудама на рэспубліканскіх і ўсесаюзных навуковых конкурсах атрымалі шмат дыпломаў і ўзнагарод.

САЮЗ НЕПАРУШНЫ



**Помнік пісьменніку Ф. Рэйнгольду Крэйцвальду ў Тарту. Ён быў выхаванцам Тартускага ўніверсітэта.**

Цэлую плеяду маладых вучоных выхаваў прафесар Артур Лінкберг. Пачатыя ім работы ў галіне хірургіі крывяносных сасудаў працягваюць яго паслядоўнікі. Па прыкладзе былога рэктара ўніверсітэта прафесара Фёдара Клемента група таленавітых студэнтаў, цяпер маладых вучоных, захапілася праблемамі люмінісцэнцыі. Цяпер вучань Клемента дацэнт К.-С. Рэбане кіруе кафедрай эксперыментальнай фізікі, Ч. Лушчык, другі яго вучань, узначальвае сектар Інстытута фізікі і астраноміі Акадэміі навук ЭССР. У сваю чаргу яны вядуць навуковыя гурткі, дзе студэнты прыахвочваюцца да навукі.

У навуковым студэнцкім таварыстве ўніверсітэта 68 гурткоў, якія аб'ядноўваюць 1600 студэнтаў. Студэнты, што цікавяцца навуковай работай, заняты ў праблемных лабараторыях, выконваюць даследаванні на дагаворных пачатках для прадпрыемстваў горада і г. д. Такім чынам, ва ўніверсітэце ствараюцца належныя ўмовы для пад-



Новая астранамічная абсерваторыя ў Тыраверы.

рыхтоўкі маладых навуковых кадраў.

На думку старшыні савета навуковага студэнцкага таварыства кандыдата медыцынскіх навук Т. Сулінга, развіццю навуковай работы садзейнічае прыняты студэнтамі дэвіз: «Рабі сам». Ён, гэты дэвіз, ва ўніверсітэце распаўсюджваецца на ўсё студэнцкае жыццё. З другога боку, гэта называецца самакіраваннем. У цэнтры самакіравання камітэт камсамола ўніверсітэта ўкладвае разнастайныя формы работы з моладдзю: будаўнічыя атрады, удзел у размеркаванні стыпендыі, нагляд за інтэрнатамі і г. д.

Камсамольцы на справе даказалі кіраўніцтву ўніверсітэта, што студэнцкі актыў можа зрабіць многае. Рэктарат, партыйная і прафсаюзная арганізацыя адобрылі ініцыятыву камітэта камсамола аб арганізацыі студэнцкага самакіравання — цяпер выпрацаваны асноўныя палажэнні самакіравання, і яно зацверджана загадам рэктара. Цяпер універсітэцкая камсамолія афіцыйна мае такія функцыі, як размеркаванне стыпендый, месцаў у інтэрнатах, удзел у вырашэнні лёсу студэнтаў пры выключэнні з універсітэта і г. д.

«Да гэтага часу студэнцкае самакіраванне больш займалася правядзеннем афіцыйных мерапрыемстваў, — зазначае сакратар камітэта камсамола Март Кубо. — Цяпер мы будзем займацца і арганізацыяй вольнага часу студэнтаў, работай у клубе, гуртках, кафэ і г. д. Адным словам, самім трэба рабіць і самім несці адказнасць за даручаны ўчастак работы. Бывае ж часам яшчэ, што маладыя людзі ахвотна крытыкуюць іншых, а самі стаяць збоку і пазіраюць. А трэба і самім больш актыўна ўключацца ў грамадскае жыццё, і справы пойдуць на лад...»

Прадстаўнікі студэнцтва будуць цяпер з большай актыўнасцю ўдзельнічаць і ў пасяджэннях вучонага і метадычнага саветаў. Гэта ў сваю чаргу з'явіцца добрай школай для тых, хто пасля заканчэння ўніверсітэта атрымае накіраванне на работу, якая патрабуе прыняцця самастойных рашэнняў.

Пасля першага балю пачаліся дыспуты і вечары танцаў у новым студэнцкім кафэ, вечары паэзіі ў студэнцкім клубе. Ідзе дзейсная падрыхтоўка да традыцыйных студэнцкіх дзён і фестывалю дружбы народаў.

Аднак Тарту — не толькі горад студэнтаў, але і горад вучоных. Варта адзначыць, што прэмію ЭССР у галіне літаратуры за 1970 год атрымаў дацэнт універсітэта Сяргей Ісакаў за даследаванне «Праз гады і адлегласці», якое прысвечана братнім сувязям Эстоніі з саюзнымі рэспублікамі. Рэспубліканскіх дзяржаўных прэмій былі ўдастоены калектывы ўрачоў пад кіраўніцтвам А. Кліймана і А. Лінкберга за каштоўныя працы ў галіне хірургіі. Прэмію года атрымаў таксама акадэмік Х. Керэс з Інстытута фізікі і астраноміі Акадэміі навук ЭССР.

Як ужо сказана, у 1951 годзе з універсітэта выдзелілася Эстонская сельскагаспадарчая акадэмія. Тут навуковай дзейнасцю ахоплены ўсе 27 кафедраў і 4 навукова-даследчыя лабараторыі. Яны распрацоўваюць тэмы, звязаныя з ураджайнасцю і развіццём раслін, праблемы ўрадлівасці лугоў, догляду жывёлы і г. д.

Навукова-даследчы інстытут жывёлагадоўлі і ветэрынарыі быў утвораны ў Тарту ў 1947 годзе. З 1956 года ён падпарадкоўваецца міністэрству сельскай гаспадаркі Эстонскай ССР. У інстытуце 6 аддзелаў і 2 навуковыя лабараторыі.

База інстытута — доследныя гаспадаркі, якія займаюць больш трыццаці чатырох з паловай тысяч гектараў зямлі, маюць статкі буйной рагатай жывёлы, свіней, авечак, курэй. Вучоным створаны ўсе ўмовы для навукова-доследнай работы, праверкі доследаў і ўкаранення іх вынікаў у вытворчасць. У інстытут па вопыт прыязджаюць з усёй Эстоніі, з розных раёнаў краіны і з-за мяжы.



Савецкая Эстонія. У краі сланцавікоў і хімікаў.





Свята песні на пеўчым полі.

Заснаваны ў 1949 годзе Інстытут батанікі і заалогіі Акадэміі навук ЭССР з'яўляецца цэнтральнай навуковай установай па вывучэнні актуальных праблем біялогіі, у тым ліку такіх, як рацыянальнае выкарыстанне расліннага і жывёльнага свету, зямлі і выпрацоўка біялагічных асноў іх аховы і аднаўлення.

Галоўным аб'ектам даследавання з'яўляецца жывая прырода. Біялогію як навуку сёння характарызуюць, зыходзячы з агульнага аб'екта даследавання, калектыўны характар доследных работ, адзінства даследчых напрамкаў, комплекс праблем. У выніку гэтага і поспехі біялогіі трэба разглядаць комплексна. І ўсё ж можна вылучыць два асноўныя напрамкі: папуляцыйная генетыка і акалогія. Гэтымі праблемамі займаюцца нашы біёлагі. У папуляцыйнай акалогіі цэнтральнай з'яўляецца праблема біяпрадукцыі. Вывучэнне, параўнальнае даследаванне — зараз адна з асноўных міжнародных праблем, і ім прысвечаны работы тартускіх біёлагаў.

Дасягнутае ў лабараторыях вучоных шырока ўкараняецца ў практыцы — у сельскай гаспадарцы, лесазнаўстве, рыбаводстве і ва ўстановах аховы здароўя. Найбольш актуальнымі праблемамі сёння з'яўляюцца гаспадарчае выкарыстанне водных, зямельных і мясных рэсурсаў, арганізацыя, распрацоўка тэарэтычных асноў і ажыццяўленне мер па ахове роднай прыроды. У рэспубліцы над вырашэннем гэтых праблем занята больш чатырохсот біёлагаў, у тым ліку больш трыццаці дактароў навук.

Развіццё дакладных навук у Тарту мае сваю гісторыю, якая звязана з універсітэтам. Аднак поспехі, дасягнутыя ў гэтай галіне, выходзяць далёка за межы горада. У 1949 годзе быў заснаваны Інстытут фізікі і астраноміі Акадэміі навук ЭССР. За гэты час тут шмат зроблена па вызначэнні важнейшых навуковых напрамкаў, падрыхтоўцы і выхаванні кадраў, стварэнні лабараторый, умацаванні сувязі з практыкай.

У 1963 годзе ўступіла ў строй у Тыраверы астрафізічная лабараторыя. На ўскраіне Тарту будуецца комплекс будынкаў Інстытута фізікі і астраноміі, адно з першых звенняў якога — лабараторыя крышталяў — ужо два гады як прынята ў эксплуатацыю. У бягучай пяцігодцы працягваюцца работы па напрамках, якія ўжо вызначыліся — фізіка цвёрдых цел, люмінісцэнцыя крышталяў, тэарэтычная фізіка і эксперыментальная астрафізіка. Выдатныя поспехі маюць усе шэсць сектараў інстытута, а таксама прыборабудаўнікі. Даследаванні ў галіне тэорыі цвёрдых цел узначальвае віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук ЭССР акадэмік К. Рэбане, у галіне гравітацыйнай і тэорыі рэлятыўнасці — акадэмікі Х. Керэс, Г. Наан. Эксперыментальнымі даследаваннямі цвёрдых цел у сувязі са з'явамі люмінісцэнцыі кіруе член-карэспандэнт Акадэміі навук ЭССР Ч. Лушчык.

Адным з вядучых навуковых напрамкаў у галіне астраноміі сталі дынаміка і эвалюцыя зорных сістэм, касмалогія, нестацыянарныя зоркі, фізіка вышэйшых пластоў атмасферы і г. д.

Імёны тартускіх вучоных-астраномаў члена-карэспандэнта Акадэміі навук ЭССР, дактароў фізіка-матэматычных навук Г. Кузьміна і Ч. Вільмана, кандыдатаў фізіка-матэматычных навук Х. Сапара, Ю. Роса, О. Авастэ, Г. Жэлніна вядомы далёка за межамі рэспублікі.

У сувязі з хуткім развіццём дакладных навук у нашай краіне і ва ўсім свеце жыццё паставіла і перад тартускімі вучонымі новыя адказныя задачы. Нашы дзеячы навукі павінны ісці ўпоравень з даследаваннямі, якія вядуцца ў іншых навуковых цэнтрах краіны. У навуцы прымаюцца пад увагу толькі тыя дасягненні, якія вытрымліваюць параўнанне з даследаваннямі ў іншых рэспубліках, з поспехамі вучоных свету. Інстытуту фізікі і астраноміі Акадэміі навук ЭССР сёння па шэразе галін належаць кіруючыя пазіцыі ў краіне. Ёсць тут і дасягненні сусветнага значэння.

...Кожнае лета ў Тарту з'язджаюцца экскурсанты, госці. Іх вабіць у першую чаргу ўніверсітэт, навуковыя ўстановы, а таксама наш тэатр, тэатр-камбінат «Ванемуйне», дзе паказваецца балет, драма, опера і аперэта.

Як без універсітэта не ўяўляеш Тарту, так нельга ўявіць сабе горад без «Ванемуйне».

**Сільвія ВІСАК,**
**супрацоўніца тартускай газеты «Эдазі».**




# 1972

## КРАСАВІК



Леанід Прокша.



Л. А. Барысаглебскі.

**1**

25 гадоў назад (1947) выйшаў першы нумар газеты «Аўтазаводзец».

**4**

30 гадоў з дня арганізацыі (1942) І Беларускай партызанскай брыгады пад камандаваннем М. Ф. Шмырова (Бацькі Міная).

**6**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Л. Я. Прокшы, беларускага пісьменніка.

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Л. А. Барысаглебскага, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара кафедры тэарэтычнай фізікі БДУ імя У. І. Леніна.

**7**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) А. С. Мішарова, доктара медыцынскіх навук, прафесара, загадчыка кафедры дзіцячай хірургіі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

**10**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) У. А. Лагуна, беларускага мастака-жывапісца,

А. С. Мішароў.



У. А. Лагун.



**12**

Дзень касманаўтыкі.

**15**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) М. У. Нікановіча, беларускага пісьменніка. Загінуў у 1944 г.

**18**

85 гадоў з дня нараджэння (1887) Анатоля Дзеркача (А. Р. Зіміёнкі), беларускага пісьменніка. Памёр у 1937 г.

60 гадоў назад (1912) у Мінску, Магілёве, Гомелі, Гродне, Віцебску і іншых беларускіх гарадах адбыліся палітычныя стачкі ў знак пратэсту супроць Ленскага расстрэлу.

**22**

**Дзень памяці У. І. Леніна.**

**Красавік**

20 гадоў назад (1952) Міністэрствам вышэйшай адукацыі СССР прынята рашэнне аб адкрыцці ў Мінску Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.

15 гадоў з часу выхаду (1957) першага нумара часопіса «Вясёлка» — органа ЦК ЛКСМ Беларусі.

30 гадоў назад (1942) адбыўся першы сход Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы».



Мікола Нікановіч.



Анатоль Дзяркач.



ТАРАСУ ХАДКЕВІЧУ — 60 ГОД. Больш сарака пяці з іх аддадзены актыўнай працы ў журналістыцы і літаратуры.

Сённяшні чытач ведае Тараса Хадкевіча як празаіка, аўтара аповесцяў «Братэрства», «Вяснянка», «Рэха ў гарах», рамана «Даль палявая». Але пачынаў ён з вершаў, што друкаваліся яшчэ ў 1926 годзе на старонках часопісаў «Малады араты» і «Маладняк». Можа таму ў ягоных творах так багата рамантыкі і паэзіі.

На працягу чатырох дзесяцігоддзяў Тарас Хадкевіч актыўна выступае ў перыядычным друку з нарысамі, карэспандэнцыямі, артыкуламі, замалёўкамі. Журналісцкая праца спрыяла глыбокаму вывучэнню жыцця, знаёміла пісьменніка з цікавымі людзьмі, працаўнікамі горада і вёскі, якія потым станавіліся героямі яго твораў.

І сёння Тарас Хадкевіч не ў запасе, а на пярэднім краі. Разам з ім жывуць і працуюць героі яго кніг — цудоўныя людзі, будаўнікі камуністычнага грамадства.

«Маладосць» шчыра віншуе Тараса Канстанцінавіча з шасцідзесяцігоддзем і зычыць яму вялікага плёну на літаратурнай ніве.



● Алесь ЗВОНАК

# МАЛАДОСЦЬ ТАЛЕНТУ

Стварыць творчы партрэт народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі пад сілу толькі сталаму даследчыку, бо творчы набытак яго за 45 гадоў літаратурнай дзейнасці складае нямала тамоў.

У сваім кароткім нарысе я абмяжуюся толькі некаторымі штрыхамі да гэтага партрэта. Раблю гэта з тым большай прыемнасцю, што знаёмства маё і далейшая шматгадовая дружба з Петрусём Броўкам адбыліся на самым пачатку яго, як і маёй, творчай дзейнасці.

Было гэта ў 1925 годзе. Працаваў я тады адказным сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына» і кіраўніком Полацкай філіі «Маладняка». Там, у адной са сваіх журналісцкіх камандзіровак, і сустрэўся я ў мястэчку Ушачы на нейкай нарадзе з самым актыўным нашым карэспандэнтам Петрусём Броўкам. Было яму тады 20 гадоў. Малады старшыня сельсавета ўразіў усіх сваёй нейкай вясёлай, жыццярадаснай, захапляючай энергіяй, тым гарачым тэмпераментам, які застаўся галоўнай рысаю яго характару, як і яго творчасці, на ўсё жыццё...

Гэта былі незабыўныя дваццатыя гады, гады пошукаў свайго месца ў тым бурлівым струмені маладой беларускай савецкай паэзіі, які біў крыніцаю з вякамі скаваных нетраў роднае беларускае зямлі... Ужо шырокую вядомасць набылі тады такія паэты другога пакалення пасля Купалы і Коласа, як Міхась Чарот, Алесь Дудар, Андрэй Александровіч, Уладзімір Дубоўка, Анатоль Вольны, Язэп Пушча і дзесяткі іх равеснікаў і паплечнікаў... Існавала такая група паэтаў і пісьменнікаў і ў Полацку.

Я добра памятаю першы прыход Петруся Броўкі ў рэдакцыю. Вышэй сярэдняга росту, блакітнавокі, з адкрытаю шчыраю ўсмешкаю на твары, у доўгім, прабітым кулямі, падпаленым салдацкім шынялі з чужога пляча малады камсамольскі работнік паклаў на стол свой першы верш. Вось ён:



Пятрусь Броўка — старшыня Мала-Долецкага сельсавета. 1924 год.

Ой не шапчы, мая бярозка,
Журлівым шопатам галінаў,
Пайду сягоння ў поле позна —
Сустрэну любую дзяўчыну.
Сустрэну ў полі дзве бярозкі,
У вечар росны,
Вечар мглісты,
І будуць пець зялёным лісцем
У полі белыя бярозкі.
Чуць свет, чуць сонейка устане,
Пайду з касой на луг мурожны.
Трава квяцістая, густая
Будзе губляць сваю прыгожасць.
А сонца яркае устане,—
Трава завяне ў пракосах,
І я пайду па лузе босым,
Хай сонца з сэрцайкам спявае.
Дык не шапчы, мая бярозка,
Ў ліпнёвы вечар мне не сумна—
Вітаю свету новы росквіт
І Беларусь, маю красуню!

Забягаючы наперад, хачу адзначыць, што нездарма чатырохтомны збор твораў Петруся Броўкі, выдадзены да 60-годдзя паэта выдавецтвам «Беларусь», якраз і пачынаецца гэтым вершам. Відаць, дорага паэту тое пачуццё маладосці, якім напоўнены гэтыя не такія ўжо і дасканалыя ў сэнсе майстэрства радкі, відаць, дарагія яму ўспаміны пра сваю мілую Полаччыну, якая ўпершыню навеяла цудоўны гэты ў сваёй наіўнай свежасці паэтычны вобраз маці-Радзімы.

Прыгадваючы сваё бязрадаснае дзяцінства, дзяцінства сялянскага хлапчука з беднай вялікай сям'і, паэт гаворыць аб гэтым у сваёй аўтабіяграфіі так:

...«Але колькі было ў гэтым і прыгажосці! Да гэтага часу памятаюцца бясконцыя сцежачкі і дарожкі на лугах і палях вакол роднай вёскі, задумлівы гоман сасновага лесу, баравыя астравы сярод бяздоння адвечных балотаў. Безліч птушыных галасоў, напевы ветру, шум калматых ялін, нават шэпт лугавых траў навечна напоўнілі сэрца...»

Усё ўбачанае, падслуханае, адчутае і перажытае з гадоў дзяцінства, юнацтва, сталасці ўлілося потым у шырокае рэчышча глыбока лірычнай, шырока эпічнай, жывой і імклівай плыні паэзіі Петруся Броўкі, дапамагло яму ў стварэнні манументальнага паэтычнага вобраза сваёй сацыялістычнай Радзімы—Беларусі.

Ужо ў першых вершах маладога паэта было тое галоўнае, што потым стала характэрным для ўсяе творчасці Броўкі — беззапаветная адданасць свайму народу, яго высокім ідэалам, служэнню якім ён прысвяціў усяго сябе без астатку.

Я не буду падрабязна пераказваць біяграфію паэта. Яна шырока вядома чытачу, вывучаецца ў школах, у вышэйшых навучальных установах, надрукавана ў кнігах. Скажу толькі, што жыццёвы шлях паэта не аддзяляецца ад таго шляху, які прайшоў беларускі народ за больш як паўстагоддзя існавання савецкай улады.

«Я не магу не прыгадаць усяго гэтага,—гаворыць сам паэт,—калі думаю, што прывяло мяне на шлях паэзіі... Але хіба я мог бы стаць паэтам, калі б не савецкая ўлада? Яна, як і многіх другіх паэтаў, узняла і выхавала мяне, узбагаціла жыццёвым вопытам, натхніла на ўсё жыццё».

Таму цалкам верыш паэту, яго шчырасці і непасрэднасці, калі чытаеш такія яго радкі, што ідуць ад самога сэрца:

Не пытайся пра гэта,
Бо адказу не дам.
Як зрабіўся паэтам,
Я не ведаю сам.
Свой радок на паперы
Не чакаў я спаткаць,
Проста сэрца без меры
Захацела спяваць...
...Я спяваў пра барозны,
Што за дзень узарэш.
Я чытаў гонкім соснам
Просты, шчыры свой верш...
...У радках—што хваліцца—
Не было пекнаты,
Чуў алешнік і быццам
Падпявалі лісты.
Ды з высокай сялібы,
На бярозе старой,
Бусел клёкатам нібы
Пагаджаўся са мной.
Ну, а далей, а далей,
Як і ў многіх другіх,
Разгарнуліся далі
Дум, пачуццяў людскіх...

Як нагадваюць па сваёй думцы, па сваёй шчырасці і сціпласці гэтыя радкі вядомыя купалаўскія:

Я не паэта, о крый мяне божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі—Янка Купала...

Нездарма так палюбіў маладога паэта вялікі Янка Купала. Але гэта прыйшло не адразу. Гэтаму прызнанню, як і прызнанню народнаму, папярэднічалі гады творчага станаўлення паэта, гады творчых пакутлівых пошукаў свайго мастацкага крэда, як любілі гаварыць у дваццатыя гады, а прасцей кажучы — сваёй творчай манеры, свайго почырку, сваёй індывідуальнасці...

Гэта пачалося тады, калі малады паэт, на рахунку якога было яшчэ не шмат твораў, перайшоў з камсамольскай работы ў акружкоме камсамола ў рэдакцыю газеты «Чырвоная Полаччына» і пачаў друкаваць свае паэтычныя творы ў газеце і ў дадатку да яе—альманаху «Наддзвінне».

Гэта прыйшло тады, калі малады паэт, усвядоміўшы, што для сапраўднай творчай працы патрэбны веды, адукацыя, кругагляд, у 1928 годзе пераязджае ў Мінск і паступае ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта, дзе ізноў сустрэліся мы, як старыя сябры, хоць і належалі да розных літаратурных груповак.

Ён многа піша. Ён падпадае пад уплыў так званых беларускіх футурыстаў на чале з паэтам Паўлюком Шукайлам, які быў кіраўніком так званай «Літаратурна-мастацкай камуны», але гэтая групоўка праіснавала нядоўга. Пятрусь Броўка, імкнучыся пазбавіцца той траскатні і псеўданаватарства, якія былі характэрнымі для гэтай групоўкі, пакідае яе і пераходзіць у БелАПП (Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў), якая стала пазней творчым ядром Саюза пісьменнікаў.

«У гады першай пяцігодкі,— успамінае Пятрусь Броўка,— мы пісалі пра ўсё. Хадзілі на заводы, бічавалі прагульшчыкаў, гультаёў, рвачоў. Часта выходзіла рытарычна... але я ніколі не шкадаваў працы, аддадзенай лозунгам і агіткам. Працуючы над імі, даводзілася быць у віры жыцця і многае пазнаць...»

Творчай данінай паэта гэтаму часу, бурным спрэчкам аб лёсе пралетарскай літаратуры, аб метадзе дыялектычнага матэрыялізму ў мастацкай творчасці і многае іншае, чым жыла тады наша мастацкая інтэлігенцыя, з'явіліся кнігі паэта «Гады, як шторм», «Прамова фактамі», «Цэхавыя будні», «Паэзія» і празаічны твор — аповесць «Каландры».

Гады вучобы, Беларускі ўніверсітэт, таварыская сувязь з шэрагам вядучых паэтаў таго часу, вялікая грамадская работа, паездкі па краіне, шматмесячная праца на Добрушскай папяровай фабрыцы, вынікам якой з'явіліся кнігі вершаў і аповесць «Каландры»,—усё гэта напаўняла маладога паэта адчуваннем сваёй злітнасці з часам, сваёй адданасці ўсенароднай справе пабудовы сацыялізма, сваёй неабходнасці народу як мастака слова.

Вясна чалавецтва і вясна рэспублікі, пра якую пісаў паэт у сваіх вершах, супалі з творчай вясной паэта. Вядома, не ўсе кветкі вясны цвітуць аднолькава ярка: адны хутка адцвітаюць, другія доўга красуюцца на сонцы, цешачы чалавечае вока. Так і паэзія Броўкі, створаная ў гэтыя гады, не аднолькавая па сваёй мастацкай якасці. Тут і водгулле грамадзянскай вайны, высокі пафас яе, тут і агітплакат, тут і модная ў тыя часы індустрыяльная тэматыка «цэхавых будняў»—неабходны атрыбут «пралетарскай паэзіі» тых гадоў.

Але, як усякая вясна, і творчая вясна паэта Броўкі паступова і верна пераходзіла ў багатае ўраджайнае лета, дзе важкімі каласамі выспела сапраўдная паэзія, сапраўдны талент паэта Броўкі...

Я памятаю, як пасля некалькіх гадоў вучобы ў Маскве і Ленінградзе прыехаў я ў канцы 1934 года ў Мінск і адразу трапіў на нейкі вечар у Доме пісьменніка на былой Савецкай вуліцы. Невялічкая зала Дома пісьменніка была напоўнена дарэшты моладдзю, студэнтамі, інтэлігенцыяй горада. І пад невысокаю столлю яе грымелі радкі:

...Толькі сэрца агню
Аніяк не пагодзіць,



**Студэнцкія гады.**

Да зубоў тады злосць
Пераела ўсіх нас.
Мы клялі вас тады,
Мінеральныя воды
І абвеяны снегам
Суровы Каўказ!
. . . . . . . .
Чулі вы,
Што такое бурун?!
Гэта рвуцца дарогаю
Бур дынаміты,
Гэта значыць—жывому
Ў дарозе каюк!
Гэта скача зямля
Найсвяцейшага Віта,
Адчуваючы быццам
Пагібель сваю.
Мы ж прайшлі гэта пекла,
Хоць і шмат пагублялі,
Непахісна пранеслі
Чырвоны штандар,
Яшчэ больш гартаванымі
У полымі сталі!
...Так з'явіліся мы ў Кізляр.

Малады, поўны запалу і тэмпераменту голас, усхваляваны рытмічны набег слоў, вобразаў, гарачых радкоў зачаравалі мяне, тады ўжо даволі спакушанага паэзіяй маладога чалавека, абавязковага наведвальніка ўсіх літаратурных вечароў у Маскве і Ленінградзе, прыхільніка паэзіі Асеева, Лугаўскога, Пракоф'ева... І хоць тэма грамадзянскай вайны была ўжо даволі шырока асветлена ў савецкай паэзіі, броўкавы радкі прыемна ўразілі мяне сваёй навізной, сваёй глыбокай чала-

вечай усхваляванасцю, сваёй непаўторнай свежасцю... Гэта былі радкі яго паэмы «Праз горы і стэп». І па бурнай рэакцыі слухачоў на прачытанае, і па тым яскравым уражанні, якое зрабіла на мяне паэма і сам паэт, я зразумеў, што ў беларускай паэзіі з'явіўся яшчэ адзін сапраўдны паэт, дастойны прадаўжальнік «Босых на вогнішчы» Міхася Чарота і «Безназоўнага» Янкі Купалы. Гэтая ж паэма з'явілася і першым крокам замацавання Броўкі ў эпічным жанры, у жанры паэмы, менавіта яна вывела Броўку на шырокую дарогу эпічнай творчасці, што пазней неаднойчы парадуе чытача шырынёю творчага размаху, глыбінёю адлюстравання ці то гістарычнага мінулага, ці то сучаснасці.

Высокая патрабавальнасць да сябе і сваёй творчасці—лепшыя спадарожнікі сапраўднага паэта. Яны заўсёды спадарожнічалі Броўку. Гэтае пачуццё і дапамагло паэту перамагчы схематызм і рытарычнасць сваіх ранніх твораў перыяду «цэхавых будняў» і сцвердзіць сябе як сапраўднага мастака.

Калі ў адным з ранніх вершаў, напісаных у 1933 годзе, паэт, звяртаючыся да роднай зямлі, гаварыў:

Мы жывем за бацькоў,
За дзядоў і за прадзедаў,
Многа дадзена нам,
Многа спросіцца з нас...,

і таму:

Мы павінны зрабіць,
Што вякамі было недароблена,
Нават песні зкажыць,
Якіх свет не складаў!—

то праз трыццаць гадоў гэтае пачуццё адказнасці перад сваім народам, перад вялікім нашым часам не толькі не зменшылася, але набыло яшчэ большую сілу. Так, у адным з вершаў апошніх гадоў Пятрусь Броўка гаворыць пра паэзію, якой яна павінна быць. Ёй трэба

...нібы арлу ўзлятаць, крыяць,
Мінаць цясніны, кручы.
Падобнаю да салаўя,
Заўсёды быць пявучай.
Не знаць прыпынку анідзе,
Ні днём, ні ноччу цёмнай.
Быць, як асілку, між людзей
Магутнай і нястомнай.
Імкнуцца праўду расказаць
Заўсёды сэрцам чыстым,
Каб, як дзіцячая сляза,
Быць шчырай і празрыстай...

Такое разуменне задач паэзіі і сцвярджаецца ўсёй творчай практыкай Петруся Броўкі.

З першых сваіх крокаў у паэзіі ён аддае ўсяго сябе служэнню народу. У ранніх вершах і паэмах яго апяваецца і ўслаўляецца гераічная праца народа, цудоўная прырода роднага краю. Так нараджаюцца яго першыя паэмы «Прамова фактамі» і «Праз горы і стэп», дзе адлюстравана героіка грамадзянскай вайны, так нараджаюцца вершы пра цэхавыя будні, а таксама і першы празаічны твор «Каландры» аб жыцці рабочага класа рэспублікі і, нарэшце, вялікае эпічнае палатно «Кацярына», дзе ў вобразе простай беларускай сялянкі паказаны цяжкі шлях беларускага народа, які спазнаў радасць свабоднага жыцця толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Так нараджаецца поўная нянавісці да вайны і гарачай любові да Радзімы паэма «1914», якая заклікае народ да барацьбы за мір... Так нараджаюцца яго вершы, поўныя адчування шчасця і глыбокага патрыятызму ў дні, калі Заходняя Беларусь уз'ядналася ў адзіную беларускую дзяржаву з Беларуссю Савецкай. Як паэт-грамадзянін Пятрусь Броўка адгукаўся на ўсе падзеі свайго часу, на ўсе велізарнейшыя змены ў жыцці нашай краіны, нашага народа.

*Але была яшчэ адна з'ява, якая* адыграла рашаючую ролю ў фарміраванні светапогляду, эстэтычнага кірунку паэта, якая наклала свой адбітак на ўсё яго жыццё, на ўсю творчасць,—гэта шчырая дружба з нашымі народнымі паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У сваім вершы, напісаным у 1931 годзе і прысвечаным Янку Купалу, паэт гаварыў, адрасуючыся да найпершага свайго творчага настаўніка:

Да вас, надыходзілі мужнасць і гарт,
І чулі мы голас бадзёры і юны:
Вы клікалі нас, маладых арлянят,
На песню, па сонца, па шчасце камуны.

Па закліку Купалы вучыліся мы ўсе, маладое камсамольскае племя паэтаў 20-х і 30-х гадоў, змагацца за сапраўдную песню, патрэбную народу ў яго працы, за сонца будучыні, за шчасце камуны, як гаварыў паэт. Так, менавіта дзякуючы мудраму Купалу расправіляла крылле маладая беларуская паэзія для таго ўзлёту, якім яна здзіўляла сваіх братоў па пяры з братняй сям'і нацыянальных літаратур.

Я добра памятаю, ды гэта і не забудзеш, пакуль жывеш, тыя цёплыя сустрэчы ў маленькім доміку, што патанаў у кветках на былой Кашчэнскай вуліцы, у гасціннай сям'і Янкі Купалы. Творчая моладзь цягнулася ўсёй душою да гэтага такога шчырага на ласку і такога патрабавальнага да паэтычнага слова чалавека. Там чыталіся новыя вершы, там абмяркоўваліся ўсе творчыя навіны дня, там выносіўся таварыскі прысуд таму ці іншаму паэтычнаму дзярзанню. Але нязменнаю была купалаўская добразычлівасць, мяккая бацькоўская тактоўнасць і гарачая непрымірымасць да любое крыклівае або фальшывае ноты. Нязменнымі гасцямі на гэтых купалаўскіх вечарах былі паэты Пятрусь Броўка і яго сябар і паплечнік Пятро Глебка. Колькі разоў бывалі нашы паэты і ў купалаўскіх Ляўках, дзе творчы ўзлёт Купалы ўражваў усіх сваёй сілай і нечаканым прылівам творчай энергіі, што заражала ўсіх.



Георгі Маркаў, Пятрусь Броўка і Леанід Собалеў.

Петруся Броўку, як і яго настаўніка, ніколі не пакідала адчуванне маладосці веку, светлы аптымізм і вера ў магутныя сілы народа. Таму такі шырокі дыяпазон яго творчасці і такі шматгучны грамадска-палітычны рэзананс яго твораў. З поўным правам можна сказаць, што сакрэт поспеху і шырокай папулярнасці паэта ў масах чытачоў якраз і заключаецца ў яго глыбокай народнасці. І ідзе яна, гэтая народнасць, не ад вонкавага запазычання фальклорна-песенных традыцый, не ад лубачнага прымітыву, які так часта выдаецца за народнасць, а ад мастацкай яснасці і прастаты, ад той даверлівай інтанацыі, з якою паэт вядзе сваю размову з сябрам-чытачом. А гэтымі якасцямі сваёй шматграннай паэзіі Пятрусь Броўка ў значнай ступені абавязаны настаўніку і старэйшаму другу—Янку Купалу.

Шырокім эпічным размахам сваёй творчасці Пятрусь Броўка ў значнай ступені абавязаны і другому настаўніку—Якубу Коласу, з якім да самага канца яго жыцця падтрымліваў шчырую дружбу і пляціў за ласку і ўвагу з боку свайго старэйшага таварыша па пяры шчырай сыноўняй любоўю. Глыбокім прызнаннем гучаць радкі верша Броўкі, прысвечаныя Якубу Коласу:

Твой сад густы, расцвіўшы і высокі,
Там шум паэм, дзівосных песень сказ...
Я піў не раз іскрыстыя іх сокі,
З крыніц тваіх жывіўся я не раз.

Не раз яшчэ да гэтых невычэрпных крыніц коласаўскай эпікі будуць звяртацца нашы паэты, не раз звяртаўся да іх і Пятрусь Броўка. Хіба ж не коласаўская «Зямля» або «Сымон-музыка» паслужылі прыкладам і штуршком для стварэння ў даваенныя гады броўкавых паэм «1914» і «Кацярына»? Бясспрэчна, гэты жыватворны ўплыў, гэтая коласаўская яснасць і прастата верша, трапнасць і самабытнасць мастацкіх сродкаў у стварэнні паэтычных вобразаў і характараў з'яўляюцца і сягоння ўзорам эпічнай паэзіі ў нашай літаратуры, як узорам з'яўляюцца паэмы Броўкі «Беларусь», «Заўсёды з Леніным», «Голас сэрца».

У перадваенныя, перадналяўнічныя гады лёс склаўся так, што я надоўга страціў сувязь і з беларускай паэзіяй, якой я і сам служыў верай і праўдай, і з Броўкам, з якім заўсёды сустракаўся, як з добрым даўнім сябрам... А ў гады вайны, у гады вялікіх выпрабаванняў гэтая страта сувязі была яшчэ большай. Але і да мяне,

закінутага, як кажуць, на край свету, даляталі весткі аб сябрах, даходзілі і паасобныя творы маіх былых таварышаў па пяры і па юнацкіх марах і па высокіх ідэалах, якім служылі мы разам са сваімі музамі шчыра і аддана.

Так мне стала вядома, што паэт-патрыёт, паэт-грамадзянін, паэт-воін Пятрусь Броўка з першых жа дзён Вялікай Айчыннай вайны нёс на пярэдні край барацьбы з ворагам свае палымяныя радкі, поўныя нянавісці да ворага, глыбокай веры ў перамогу над ім. У вершы «Маці», напрыклад, напісаным у 1941 годзе, паэт гаварыў:

Не раз мы зносілі насланую бяду,
Не раз знішчалі мы драпежнікаў шалёных;
Змяце зямля і гэтую брыду —
І выйдзе Беларусь з палону!

Лірыка Петруся Броўкі ваенных гадоў была напоўнена вялікім пачуццём, страснасцю, болем і гневам. Паэт увесь свой талент, усё сваё гарачае сэрца аддае ў гэтыя гады стварэнню гераічнага вобраза Радзімы, велічнага вобраза Беларусі, якая ў агні і полымі народнага гора вяла змаганне не на жыццё, а на смерць. І ў самыя цяжкія хвіліны вайны паэт непахісна верыў у светлы дзень вызваленай ад фашысцкае нечысці Радзімы—Беларусі.

У самыя цяжкія дні вайны Пятрусь Броўка стварае вершы, поўныя светлага аптымізму і веры ў заўтрашні дзень:

Хутка вызваляцца гоні
З-пад уціску, з-пад прымусу,
Будзем сеяць, беларусы,
На ўсход сонца чыстым зернем...
Смерць на захад мы павернем!
...Стане поле каласіцца,
Ляжа шоўкавым абрусам,
Будзем сеяць, беларусы.
Закрасуе буйна збожжа.
Нас ніхто скарыць не зможа.

Вельмі трапна сказаў пра творчасць Броўкі гэтых палымяных гадоў паэт Сяргей Грахоўскі: «Вершы Петруся Броўкі ваеннай пары нельга называць ні цыкламі, ні нізкамі. Яны—гарачыя абоймы, закладзеныя ў снайперскую вінтоўку». Гэта праўда.

Я памятаю, як у гады вайны я і многія мае таварышы працавалі на залатых капальнях далёкай поўначы, дзень і ноч выдаючы на-гара залатаносныя пяскі. Мы шмат разоў прасілі адправіць нас на фронт, але тут таксама быў фронт, тут таксама кавалася перамога, бо золата тады—гэта была зброя, гэта былі самалёты, гэта было ўсё, чаго патрабавала перамога. І я памятаю, як да мяне трапілі вершы Петруся Броўкі тых гадоў. Адзін з іх называўся «Землякам» (у арыгінале «Байцам-беларусам») у бліскучым перакладзе Веры Звягінцавай. Я чытаў тыя вершы ў бараку, дзе сабраліся забойшчыкі і падрыўнікі, геолагі і маркшэйдары, стваларыя і скрэперысты—адным словам, людзі ўсіх нашых горняцкіх прафесій. Многа там было і беларусаў. Я чытаў ім верш «Землякам». Скончыў чытаць. У бараку была цішыня. І я бачыў задуменныя суровыя твары сяброў-гарнякоў, бачыў на вачах іхніх слёзы...

Апроч лірычных вершаў тых гадоў, Броўка стварае некалькі буйных эпічных палотнаў. Гэта ў першую чаргу «Паэма пра Смалячкова» і паэма «Беларусь». У гэтых творах праявілася паэтычная сталасць вялікага майстра слова і сапраўднага грамадзяніна вялікай Радзімы. Горды і нязломны дух беларускага народа, які мужна, упарта, гераічна стагоддзямі змагаўся за сваю свабоду і незалежнасць і які ўступіў у апошнюю схватку з лютым ворагам, вобраз айчыны створаны паэтам з незвычайнай эмацыянальнай сілай і вялікай мастацкай праўдай. Я шмат разоў перачытваў яго паэму «Беларусь», і кожны раз яна гучала для мяне як новая, кожны раз яна абуджала ў сэрцы пачуццё любові і гарачай, шчырай удзячнасці таму, хто стварыў гэтыя радкі.

Як вобраз мора ў Айвазоўскага, як вобразы былінных герояў рускага эпасу ў Васняцова, як вобраз Расіі ў цудоўных пейзажах Шышкіна, так маляўніча, пералівамі розных фарбаў і іх адценняў іскрыцца пад ясным сонцам вобраз роднае прыроды, вобраз Радзімы ва ўсёй яе непаўторнай красе ў паэзіі Броўкі. Пры ўсім гэтым паэзія Броўкі пазбаўлена чыста пейзажнай, апісальнай лірыкі. Лейтматывам гучыць у ёй бессмяротная тэма працы, як сімвал чалавечага шчасця.

Яшчэ грымелі, адыходзячы на захад, грозныя раскаты гарматных залпаў, а паэт ужо заклікае народ да стваральнай працы. Ён піша паэму «Ясны кут» (1944), у якой паказвае імкненне савецкіх людзей да мірнага жыцця і аднаўлення разбуранай гаспадаркі. Тэма мірнай стваральнай працы знаходзіць свой цудоўны працяг у паэме «Хлеб», дзе паэт яскрава і праўдзіва ўзнаўляе вечную і неўміручую ў сваёй красе паэзію сялянскае працы.

Пасляваенны перыяд у творчасці Петруся Броўкі адзначаецца яшчэ больш шырокім размахам як за кошт пашырэння тэматычнага дыяпазону, так і ў сэнсе росту яго майстэрства, яго пранікнення ў глыбіні жыцця, чалавечых характараў, сапраўдных мастацка-філасофскіх абагульненняў.

У цэнтры ўвагі паэта яшчэ ў большай ступені, чым у ранейшых творах, становіцца чалавек пасляваеннай эпохі, чалавек працы, будаўнік, сейбіт, нястомны стваральнік і палымяны змагар за мір. Лірычны герой пасляваеннай пары ў паэзіі Броўкі—гэта перш за ўсё наш сучаснік, сціплы працаўнік, адухоўлены вялікімі ідэямі камунізму. І разам з тым—гэта чалавек, палка закаханы ў жыццё, у сваю айчыну, у зямлю бацькоў і дзядоў, які любуецца не толькі тварэннем рук сваіх, але і непаўторным харастаом родных мясцін, наддзвінскіх берагоў, найпрыгажэйшых у свеце азёр і пявучых лясоў роднай Беларусі. Тут знаходзіць сваё яскравае выяўленне глыбока нацыянальны характар паэзіі Петруся Броўкі і разам з тым яе інтэрнацыянальнае гучанне.

У пасляваенны час Броўка стварае цэлы шэраг новых паэм, раман «Калі зліваюцца рэкі», лібрэта оперы «Алеся», дзесяткі новых кніг паэзіі. Двойчы паэту была прысуджана Дзяржаўная прэмія. У 1962 годзе паэту за кнігу паэзіі «А дні ідуць...» прысуджана Ленінская прэмія, у тым жа годзе нададзена годнасць народнага паэта рэспублікі.

Святлом і сонцам прасякнута паэзія Броўкі гэтых гадоў. Звонам крышталёвых крыніц і басавітым пошумам бароў і пушчаў дыхае слова паэта. Гневам і болем напоўнены радкі яго незвычайнай паэмы «Голас сэрца», прысвечанай памяці маці, якая загінула ў печы Асвенціма. Яскравай, поўнай грамадзянскага пафасу і патрыятызму, адчування велічы ленінскага генія і цвёрдага поступу Кастрычніка па ўсёй планеце раскрываецца перад намі вялікая эпапея жыцця краіны сацыялізму ў паэме «Заўсёды з Леніным».

А колькі светлай сыноўняй любові, глыбокага, непадробнага пачуцця нясуць у сабе цыклы вершаў, напісаных за межамі Радзімы, падчас паездак паэта ў Амерыку і іншыя краіны. Колькі страснага запалу і заклiку да міру і дружбы паміж народамі ў яго публіцыстычных вершах, дзе паэзія Броўкі выходзіць за нацыянальныя рамкі, а мужны голас паэта набывае сапраўднае інтэрнацыянальнае гучанне.

У дні пяцідзесяцігоддзя Ленінскага камсамола я сустрэўся з ім на вуліцы Янкі Купалы. Вочы яго свяціліся маладым запалам. Ён у трох словах прыпыніў гаворку пра здароўе, звычайную для нашага ўзросту, але з якім запалам загаварыў ён пра гады нашага камсамольскага юнацтва, пра мілую нашаму сэрцу Полаччыну, а найбольш пра сваё любімае дзецішча—Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, дзе працуе галоўным рэдактарам.

Але галоўнае для паэта—творчасць, паэзія. Па-ранейшаму здзіўляюць сваёй маладосцю, свежасцю ўспрымання жыцця радкі яго паэзіі, якія часта трапляюць на вока са старонак газет, часопісаў, кніг. Толькі глыбейшым становіцца яго філасофскі роздум, мудрэйшаю—яго нямоўчная ліра.

З пасярэбранымі сівізною скронямі, з адкрытаю і добраю усмешкай, з ясным позіркам маладых, з іскрынкамі гумару, вачэй, з добрым сэрцам, поўным надзей, жыве на зямлі цудоўны чалавек, паэт, грамадзянін, наш добры друг і таварыш Пятрусь Броўка.


Пятрусь Броўка і Канстанцін Федзін.

● Георгі КОЛАС

# ГНЕЎ І ПАФАС

Калі ў трагікамедыі А. Макаёнка «Трыбунал» нямецкі камендант спытаўся ў Калабка, што елі яго дзеці пры савецкай уладзе — дзеці пастуха, той нібы адмахнуўся: «А што папала». «Як гэта — што папала? — не вытрымала маці.— Такіх асілкаў выгадавала! Што людзі елі, тое і яны».

Нам зразумела, што Калабок тут спецыяльна прыбядняецца, падыгрывае немцу — трэба ж яму неяк увайсці ў давер перад начальствам. І зразумела, чаму Паліна — а ёй не «іншы раз», як прынята пісаць, а і даволі часта бывала тугавата (жартачкі сказаць, дванаццаць чалавек дзяцей!) — не будзе ні за што пры немцах гаварыць аб перажытых цяжкасцях.

Гэта сцэна — пытанне і два адказы на яго — своеасаблівы ўзор драматургіі, бо ў кожным слове тут спрасаваны дзейсны зарад, які ўспламяняе ідэю п'есы.

І да чаго ж здорава потым абарваў Паліну Калабок:

— А ты не лезь са сваім языком! Сам ведаю, што сказаць!..

Прыслухайцеся: спрэчка не пра тое, **як было** на самай справе, а — **«што сказаць»!** Так бытавое пытанне становіцца плацдармам барацьбы светапоглядаў, героі п'есы праяўляюць кожны сваю стратэгію і тактыку і выяўляюць нам сябе.

Драматургія...

Калі гучыць са сцэны каменданцкае «Што кіндэр кушаль», менш за ўсё мы думаем аб майстэрстве пісьменніка Андрэя Макаёнка, аўтара трагікамедыі-лубка з такой урачыстай і строгай назвай — «Трыбунал». Мы думаем пра даваеннае дзяцінства дзяцей Цярэшкі Калабка, пра яго самога...

Тут я хацеў бы паведаміць чытачам такую рэч. Калісьці драматург таксама быў калгасным пастухом. Не для таго, вядома, паведамляю, каб тэатразнаўцы або пастаноўшчыкі яго камедыі адразу ж кінуліся вылоўліваць у Цярэшку нейкія рысы Андрэя Макаёнка: тут справа не ў аўтабіяграфічнасці, а ў тым, **як гэта было.** Аб гэтым — варта расказаць. Тады нам з вамі многае ў драматургіі Макаёнка ўбачыцца не тое што інакш, а — больш узбуйнена, у непарыўнай сувязі таго, што піша ён, з тым, чым жыве.

А было так.

Бацька Андрэя, арганізатар аднаго з першых калгасаў у Беларусі, быў панагульнаўскаму ўлюбёны ў самую ідэю калектывізацыі. Хутка стаўшы старшынёй сельскага Савета, ён з той жа апантанасцю стараўся праводзіць яе ў іншых сёлах. Потым трапіў у турму, быў выключаны з партыі — па чыімсьці нагаворы. Андрэйка аднойчы чуў, як нейкі дзядзька лаяў бацьку: так, маўляў, яму і трэба, аднарукаму чорту (бацька яшчэ з імперыялістычнай прыйшоў з перабітым сухажыллем у плячы).

А «аднарукі чорт» хутка вярнуўся. Быў голад. Трыццаць чацвёрты год. Вярнуўся радавым калгаснікам. З адной рукой баранаваў на чатырох конях васмю баронамі: «Каб не думалі, што я вас толькі агітаваў — ура!» І сынам, трынаццацігадоваму Андрэю і яго малодшаму брату, наказваў пасвіць свіней, ратаваць ад падзяжу. А дзеці былі галодныя і елі тое ж: траву, ліпавы цвет, крухмал, здабыты з леташняй гнілой бульбы.

Яны выстаялі, выжылі ў той цяжкі год.

А ў сорак трэцім немцы бацьку забралі — як актывіста. Маці была ў бальніцы, ён прыйшоў да яе: «Не залежвайся, заўтра да партызанаў, нехта на мяне данёс».

Але «чорны воран» з камендантам Шварцам прыехаў загадзя.

Ад чалавека, які сядзеў з бацькам у гестапа, Андрэй, вярнуўшыся пасля фронту і ранення дамоў, даведаўся, як стойка пераносіў бацька допыты, катаванні. Селядзец прымушалі есці, піць не давалі. Па вуліцы збітага вадзілі — як урок для іншых, каб застрашыць.

Так гэта было.

Яго бацька ведаў, што сказаць і чаго нельга гаварыць.

З тае пары не стала бацькі.

Калі ў творах А. Макаёнка ўзнікае тэма здрадніцтва, даносаў — яго партыйны гнеў зыходзіць з асабістых страт.

Калі ён гаворыць аб шматпакутных буднях пасляваеннай вёскі, яго партыйны пафас асабіста непрымірымы да пустапарожняй дэмагогіі бюракратызму.



Калі ў трагікамедыі «Зацюканы апостал» Макаёнак піша пра «чужыя землі», ён і тут не пабочны назіральнік, і асабісты боль з поваду праблем, узнятых у п'есе, ён спецыяльна агаворвае ў прадмове: «Але не скажу, што мая хата з краю».

Спрэчка ў «Трыбунале» аб тым, што дзеці елі,— такую спрэчку, напэўна, мог бы напісаць і хто-небудзь іншы з драматургаў. Але напісаў жа Макаёнак! Ён — не мог не напісаць гэтага.

Ён сацыяльны ў сваёй творчасці, і сацыянальнасць яго п'ес заўжды жыццёва абумоўлена рэальным бытам, вынікае з сутнасці народнага жыцця.

«Што людзі елі, тое і яны».
Як гэта проста сказана.
Як многа сказана!

Па-першае — людзі. Гэта як адказ-дакор Цярэшку, які прынізіў свой род (народ!) перад фашыстам. І адказ «месіі» — акупанту: мы, пастухова мнагадзетная сям'я, сябе не пачувалі абяздоленымі, не патрэбны нам даброты «новага парадку». І як абагульняючы падтэкст: «што людзі, тое і яны», — **заўжды з людзьмі** (як тут не ўспомніць добрую параду Паліны свайму сыну: «Да людзей ідзі, з людзьмі ўсё лягчэй..»).

А размова ж нібыта толькі пра яду...

Другая сцэна. З «Апостала». У ёй не проста размова, не спрэчка, а — дыспут аб такіх паняццях, як хлусня і праўда, рабства і свабода.

«Не прымушайце мяне жыць, як вы: з хлуснёй класціся спаць і з хлуснёй уставаць. Я не хачу, як вы!!!» — крычыць бацькам Малыш.

«А жраць ты хочаш? — абараняецца Бацька, і калі сын толькі заікнуўся пра вялікі свет, ён дадае ў прыпадку шчырасці: — Так, так, так! І вялікая хлусня! Ідзі туды са сваёй праўдай! Ідзі! Паглядзім, ці будзеш ты сыты сваёй праўдай».

Моцна сказана. І слоў больш, чым у Паліны, і якія гучныя словы: не проста «людзі», а — «вялікі свет»! А ў выніку? Усё — аб сытасці. Аб тым, з чаго і пачыналася п'еса,— з рэмаркі «Сучасная кватэра накормленага чыноўніка». І з перасцярогі: «Ва ўсякім разе, сёння яго сям'я сытая».

**А. Макаёнак ненавідзіць фірму «сытых»,** якія дбаюць аб уласнай сытасці. І сваю нянавісць пераплаўляе ў вобразна-публіцыстычную форму пікіроўкі з імі: правакуючы праціўніка на «спрытныя хады», даючы разгарненне яго мяшчанскай ініцыятыве, нават даводзячы да мяжы перамогі — і толькі тады знішчае яго, самараскрытага, насмерць. Пры гэтым аўтар пастаянна захоўвае выйгрышную пазіцыю, як фехтавальшчык, які вядзе бой на прыступку вышэй.

Тут мне хацелася б прыгадаць даўняга знаёмага з сатырычнай камедыі А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка», старшыню райвыканкома Сцяпана Васільевіча Каліберава. Да якой вышыні ўзнёсся ён на махінацыях са зводкамі аб хлебанарыхтоўках! «Ты тут, а словы твае лунаюць над зямлёй,— захапляецца жонка, праслухаўшы яго прамову па радыё.— І вецер іх не развее, і дожджык не размочыць». Але пры чым тут дождж і вецер, калі ў выступленні Каліберава мы толькі што чулі, што лідэрству раёна на хлебаўборачнай спрыяе надвор'е.

«Вось толькі аб надвор'і ты дарма»,— са смуткам гаворыць жонка.

Яе трывога зразумелая: якраз на апошнія словы Каліберава аб пагодзе грамавержац-аўтар і абрушвае гнеў нябёс.

«Што мне гром?!» — не сунімаецца напышлівы герой. І — марыць. Пра кар'еру. Сталіцу падавай яму! Але — разважае: «У сталіцу на адной уборачнай не ўедзеш. Патрэбны багаж больш салідны». Падышоў да карты раёна, што вісіць на сцяне. Вось вазьму і распрацую план такога будаўніцтва ў нашым раёне, каб на ўсю рэспубліку прагрымела. Напрыклад, канал паміж Дняпром і нашай Проняй».

Сама гэта фраза, якая супаставіла Дняпро і «нашу Проню», заключае ў сабе асаблівую камедыю — дзіўную, нейкае падабенства кентаўра, помесь гіпербалы з літотай. І дзеля таго, каб гэты «чалавек-конь» імгненна раздуўшы Каліберава капытамі лагічнай несумяшчальнасці маштабаў, тут не хапае хіба толькі дэталі, якая калісьці ўрэзалася ў маю памяць з «Запісных кніжак» А. Даўжэнкі аб старшыні, у якога ёсць карта свету, а карты свайго калгаса няма. Вось бы і павесіць у Каліберава абодва паўшар'і. Уявіце, як бы выглядаў герой на гэтым фоне са сваім праектам,— дзе там яна, «наша Проня»...

«Навошта нам канал?» — палохаецца жонка.

«Няхай ведаюць! — распаляецца Калібераў.— Няхай памятаюць: па маёй ініцыятыве ў гэтым раёне — вялікая будоўля».

Пытанне жонкі — «навошта ён **нам,** канал?» — зусім не сведчыць аб яе цвярозым стаўленні да праблем **гэтага раёна.** Усе думкі жонкі ўжо не тут, і толькі адно яе турбуе: а ці не прывяжуць Каліберава да гэтага канала яшчэ на гадок? «Што ты! — супакойвае ён.— Важна праявіць ініцыятыву».

Ці не аб такіх «ініцыятарах» («а вось вазьму і распрацую!») успамінае ў «Трыбунале» Калабок, калі ён хоча пераканаць сям'ю, што старастаю стаў не з фанабэрыі, не дзеля ўлады: іншыя, маўляў, да яе, да ўлады рвуцца, «каб такое запусціць, такое... Ну... Каб усе ахнулі і сказалі — вот ета да-а! А мы такога і не думалі...»

Цікавы факт. У вельмі паважаным выдавецтве «Искусство», якое выпусціла

п'есу тыражом у 60 тысяч, гэты тэкст адрэдагавалі так, што ніякіх асацыяцый ні з Каліберавымі, ні з «нашай Проняй» ён ужо не выклікае. Там узяты калібр зусім не макаёнкаўскі, драбнейшы: «Так неужто люди.. некоторые, которые рвались стать бригадиром там, учетчиком или даже самим завфермой... Так неужели они только етого и хотят? Только бы быть сытым, пьяным и под носом табакерка?»

Нават нібыта няёмка бачыць ювеналаў меч сатыры ў ведамасных ножнах толькі «брыгадзіраў там, учотчыкаў або саміх загадчыкаў фермы» — не вышэй...

Бо калі ўжо на тое пайшло, і сам Цярэшка Калабок, ідучы на пасаду старасты, наважыўся таксама такое «запусціць», каб усе ахнулі: «А мы такога і не думалі!» Вось што яшчэ яму карціць тут.

Магчыма, рукой рэдактара вадзілі клопаты аб тых, каму «Искусство» адрасавала сваё выданне — у рэпертуар мастацкай самадзейнасці? Але ж гэта, прабачце, самаашуканства, бо дзвюх сатыр не можа быць: адна, больш рэзкая — для прафесіянальнага мастацтва, другая, больш памяркоўная — для аматараў.

Быць рэзкім — абавязак сатырыка, такі ўжо гэта жанр. І трэба толькі памятаць, што сказаў пра гэта У. І. Ленін: «Каб быць рэзкім, трэба на гэта мець права, а права на рэзкасць дае тое, каб слова не разыходзілася са справай» (Творы, т. 27, стар. 165). Вось чаму я расказаў пра дзяцінства Макаёнка і яго бацьку.

Яшчэ магу дадаць, што калі той дзядзька лаяў яго бацьку, Андрэйка не сцярпеў: «Яшчэ раз пачую — спалю тваю хату!»

Бацька быў для яго ўвасабленнем партыйнасці. Ён прытрымліваўся прыкладу свайго бацькі на выгане, за партай і на фронце. Прытрымліваецца цяпер — у сваёй творчасці. І паліць агнём сатыры — усё, што зневажае памяць аб бацьку. Такім ён быў у сваіх «злосных» сатырычных камедыях «Выбачайце, калі ласка», «Каб людзі не журыліся», у сатырычных сцэнах «дабраватай» «Лявоніхі на арбіце». Такім ён застаецца і ў апошніх дзвюх трагікамедыях — «Зацюканы апостал» і «Трыбунал».

З кожнай новай п'есай удасканальваецца майстэрства, узбагачаецца палітра.

Помніцца, мы гаварылі з ім аднойчы пра Астроўскага, пра «Навальніцу», і ён амаль даслоўна стаў пераказваць той маналог, дзе Кацярына аб «маменьке» сваёй сумуе: «Встану я, бывало, рано... Потом пойдем с маменькой в церковь... А придем из церкви, сядем за какую-то работу... Потом к вечерне... Таково хорошо было!..»

— А потом...— Андрэй прыжмурыўся, як быццам намагаючыся ўспомніць.— Потом... потом...— І засмяяўся раптам, ужо з адкрытымі вачыма: — А потым прыйшоў Чэхаў, і так пісаць няможна стала. А як жа было хораша! Ды і сёння здорава, калі чытаеш самога Астроўскага. А «пад Астроўскага» — нельга. Ты разумееш?

Гэта была ў нас гутарка нават не аб творчасці Астроўскага ці Чэхава, а наогул аб творчасці: аб Пушкіне, які сказаў, што «дух веку патрабуе важных перамен і на сцэне драматычнай»; аб Лондане, які пісаў Анне Струнскай, што «...калі мастацтва і вечнае, то форма нараджаецца разам з пакаленнем». Аб Маякоўскім, Брэхце...

Макаёнак у кожнай сваёй новай п'есе шукае і ўсё больш знаходзіць тое, што належыць нашым дням — новай драматычнай літаратуры, сучаснаму тэатру. Аб гэтым некалькі больш падрабязна я ўжо спрабаваў гаварыць у артыкуле аб пастаноўках «Трыбунала» і «Апостала» на радзіме А. Макаёнка, у Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы (часопіс «Театр», № 10, 1971, газета «Літаратура і мастацтва», №№ ад 14 і 21 мая 1971 года).

А зараз я хачу расказаць аб тым, як ставяць Макаёнка ў тэатрах Украіны — у Харкаве, Палтаве, Кіеве.

Знаёмства было цікавым.

Першае — палтаўскі «Трыбунал» у тэатры імя М. Гогаля. На выездзе. У Апошне, на сцэне раённага Дома культуры. Артысты засмучаліся: ні адзін з крытыкаў не бачыў у іх гэтага спектакля на стацыянары — з эпічнай застаўкай комінаўзваной Хатыні, з музычным афармленнем. Асабліва іх турбаваў фінальны выбух. Аб ім трывожыліся ў аўтобусе, шукалі яму месца за кулісамі, і ў выніку ўсё-такі так ахнулі, што ўздрыганулася зала. Не з-за пагібелі Валодзькі ўздрыганулася, а ад выбуховай хвалі: двайныя рамы ў закулісным сектары засталіся без шыбаў.

У суцяшэнне палтаўчанам магу сказаць адно: у нас, калі на выездах, не лепш. Такі ж выбух я бачыў на спектаклі Бабруйскага тэатра ў адным з калгасаў Браслаўскага раёна.

А цікавай (і вельмі нечаканай!) мне здалася ў палтаўчан трактоўка п'есы, яе рашэнне. Рэжысёр В. Кашперскі паставіў не трагікамедыю і не лубок, а — бытавую драму, нават у нечым меладраму. І паставіў так, што пераканаў мяне (прызнаюся: меладраму не люблю),— так, пераканаў, што і падобны варыянт трактоўкі «Трыбунала» правамоцны. Палтаўчане вельмі шчыра, усур'ёз, без мудрагельства расказалі **верагодны выпадак:** бацька сям'і згадзіўся стаць нямецкім старастам, а ўласныя дзеці і жонка ледзь яго за гэта не загубілі.

Вельмі цікавы Калабок у маладога артыста Ю. Папова. Ён мне нагадаў сваім аблічам фігуру партызана з карціны беларускага мастака М. Савіцкага «Клятва». Тая ж непазбыўнасць болю чалавечага ў вачах. Тая ж апантанасць і звышчалавечая сіла духу ў несамавітай постаці. І нават неба, шэрае, свінцовае, тугое, якому клянецца партызан Савіцкага,— і гэта неба над сваім Цярэшкам Калабком сыграў Папоў.

Яго Цярэшка перакананы: вайна — занятак не для дзяцей і жанчын, а мужчынская справа. І яго канфлікт з сям'ёй—не **ўяўны,** як піша ў вельмі змястоўных і разумных заўвагах да ўпамянутага мной выдання трагікамедыі ў выдавецтве «Искусство» С. Саветаў.

«Зібралися отут... Яйця курку не вчать! — вось яго крэда.— Ану, розійдись! Не ваше діло до мого старостування!»

Галоўны яго клопат (скразное дзеянне) — у што б там ні было зберагчы сям'ю ад рызыкі, узяць усё на сябе. Таму, рыхтуючыся да сустрэчы каменданта і начальніка паліцыі, ён важна папярэджвае маці сваіх дзяцей: «Я тобі па-людські: за мене не турбуйтесь»,— і нецярплліва махнуўшы на дурніцу-бабу, сам рашуча бярэцца накрываць на стол.

Яго даклад-прамова — лекцыя пра ўладу («Я — народ!») — зноў-такі звернута не да немца і не да паліцая, а да Паліны і Надзі, якія сядзяць злева, ля дзвярэй у другую палавіну хаты. Стаўшы на лаўку на ўвесь рост, нібы спрабуючы засланіць сабою твары неразумных жанчын, ён убівае ім у галовы, што так паводзіць сябе з ворагам нельга: глядзіце, маўляў, як я — і хлусіць не хлушу, і выкрыць сябе не дам. Потым, ужо адзін на адзін з Палінай, ён зусім раззлуецца і скажа з горкай насмешкай, гледзячы на жонку: «Ну, держися, тепер, Гітлер. Тремти! Моя Паша грядет на тебе». Была ўсё Поля, Полюшка-Паліна, нават Пава, а «Паша» прагучала нібы «курыца — не птушка». На гэтым скончылася яго цярпенне, і далей Калабок — Папоў усё больш будзе пераконваць, шта меў рацыю: паспрабуй, давер ім справу, натвораць такога, што потым усім сялом не разбярэш...

Цярэшка Калабок у палтаўскай пастаноўцы, здаецца, ні разу не пажартаваў, не засмяяўся, усюды тон яго сур'ёзны, строгі. Але чаму ж у зале часта выбухае смех? І нават больш таго, смех служыць нібы «обертонам» усёй інтанацыі спектакля. Ён тут нараджаецца як новая ідэя, разам з ёю, разам з «прасвятленнем» Цярэшкі Калабка. Аказваецца, у вайне народнай не толькі ён — народ. І хоць гучыць у спектаклі песня пра мілага, які паехаў з туркам ваяваць, аднак жанчыны з дзецьмі дома засталіся не затым, каб проста гора гараваць у пакорлівым чаканні. Не тая вайна, і «запарожцы» ўжо не тыя, што некалі з казацкай Сечы толькі ад свайго імя пісалі дзёрзкае і вострае пісьмо турэцкаму султану. Сёння іх нашчадак, сын Цярэшкі Калабка Валодзька піша Гітлеру ад імя ўсяе Айчыны. І гіне за Айчыну. Па-рыцарску, як некалі ўмелі запарожцы.





«Трыбунал» на сцэне Палтаўскага ўкраінскага музычна-драматычнага тэатра імя Гогаля. Паліна — Р. Аляксеенка, Калабок — Ю. Папоў.

У гэтым галоўны пафас «Трыбунала» на палтаўскай сцэне — спектакля глыбока нацыянальнага, украінскага не толькі па мове, а і па ўсёй сваёй архітэктоніцы, па духу.

У сувязі з гэтым не магу хоць бы коратка не сказаць і пра Валодзьку. У купалаўцаў, на беларускай сцэне, гэтая роля не атрымалася. І ў Віцебску, у коласаўцаў, таксама. «Заманументавалі», ці што, яго ў нас! А ў артыста Н. Ярмоленкі ў Палтаве на першым месцы — палымяная, чулая, уражлівая душа Валодзькі. Праз вельмі горкую любоў-дакор ён выракаецца бацькі. Праз хлапчукоўскую запальчывасць перамагае свой душэўны боль: «Не батько, не батько!» І з тым жа болем, са слязьмі — не клейміць і не кляне, а хоча **вярнуць** сабе бацьку,— чытае ён сваю лістоўку.

Такога — трапяткога, слаўнага, душэўнага — Валодзьку я бачыў хіба што яшчэ ў бабруйчан. Падобнага, хаця пластычны малюнак ролі там больш зломісты, больш жорсткі.



**«Зацюканы апостал» у Харкаўскім акадэмічным рускім тэатры імя Пушкіна. Малыш — А. Літуноўскі.**

І пра начальніка паліцыі (арт. І. Кавалеўскі) не маю права змаўчаць — такой трактоўкі ні ў адным з «Трыбуналаў» не здаралася бачыць. Лíслівая, шэрая нікчэмнасць, тля на нейкіх шчупальцах-кранштэйнах, са спарадычнымі жэстамі і складам думак. Як ён красамоўна-тупа, моўчкі, прагна абірае з сябе закуску, што фантанам узляцела ад удару Калабка па місцы,— так сябе аблізвае сабака, калі абліць яго памыямі. І яшчэ цудоўная знаходка. Памятаеце, калі Цярэшка Калабок заспяваў «Броня крепка...»? Вось было смеху! Сырадоеў ачмурэла падхапіў: «...и танки наши быстры!» І па-ідыёцку зухавата цягнуў аж да «в строю стоят». Толькі на «советских» спахапіўся. З жахам! Куды завёў яго Цярэшка: раптам камендант зразумее? І пасля доўгай паўзы, за ўсё за гэта — лясь сваім «кранштэйнам» у скіўіцу Калабку. Відаць што моцна ўеліся нашы песні, калі нават Сырадоева — тлю, панажоўшчыка, здраднíка — яны так застаюць знянацку.

А што робіцца з песняй у «Трыбунале» Харкаўскага тэатра імя Т. Шаўчэнкі! Дакладней — з песнямі. Там «меламанам» выведзены... нямецкі камендант. Не толькі меламанам. Ён — этнограф! Прыехаў да нас, ці бачыце, місіянер-цывілізатар: вывучае побыт, норавы, прылады хатняга ўжытку, лексікон. «Што кіндэр кушаль?» — у яго вуснах пытанне не проста бытавое. З якім сур'ёзам вывучае ён гаршкі, збаны! На зрок, на слых, на вобмацак, праз лупу, якая велічынёй са спадак. Звычайныя гаршкі, збаны ён разглядае, нібы экспанаты з раскопак скіфскага кургана. А Калабок яшчэ нясе яму, яшчэ. Падтаквае ўсур'ёз, здзіўляючыся каменданцкай эрудыцыі,— вось яно што, а мы такога і не думалі!

З такога «ўзаемаразумення» паміж камендантам і Калабком нараджаецца сапраўды камічны эфект, які яшчэ раз пераконвае нас, гледачоў, у тым, што Цярэшка — не здраднік. «Узаемаразуменне» расце і далей, пасля песні аб танкістах — на народнай, беларускай «Чаму ж мне не пець». Спачатку камендант падцягвае ўслед за Калабком апошні склад, адно толькі «эць». Потым яны «парадачак» развучваюць разам: немец, напаўразваліўшыся ў ложку Калабка, а Калабок на кукішках. Парадачак! Потым «этнограф» (відаць, каб яго не западозрылі ў нізкапаклонстве перад беларускім меласам!) ускочыць і па-салдафонску прагаркае нямецкую. Але не народную а — «Дойчлянд, дойчлянд!». І зноў спакойна вернецца да беларускай, а потым зноў пра «юбер алес», пафельдфебельску, і Калабок падцягне, і атрымаецца ў Калабка не вельмі каб панямецку, але затое па-руску — здарава: каб у дойчлянд «убирались»!

Фантасмагарычны, бліскучы дуэт!

Гратэск на вышэйшым пілатажы акцёрскага мастацтва.

Гэтак жа віртуозна пастаўлена Ф. Аляксандрыным і сыграна артыстамі Е. Бандарэнкам (немец), В. Мізіненкам (Калабок) сцэна адходу каменданта з Сырадоевым (В. Шастапалаў). «Этнограф» ужо вывучыў куплет да «калі ў маёй хатачцы парадак ідзець», спявае на ўсю хатачку, не трапляе ў рукавы шыняля, са стала ляцяць гаршкі, збанкі («скіфскія»!), ляціць увесь стол, і ў хатачцы — нібы Мамай прайшоў — парадачак, «новы парадак»!

Крытык А. Свабодзін, убачыўшы гэту пастаноўку, назваў яе «амаральнай карцінай» («Театр», № 5, 1971). Не маю магчымасці (і месца!) спрачацца з ім, дакзваць адваротнае. Скажу адно: Свабодзін абвінаваціў шаўчэнкаўцаў у тым, што яны, маўляў, «...на працягу ўсяго спектакля нешта не могуць звесці канцы з канцамі». Можа, ён і мае рацыю. Толькі ж з якога канца глядзеў ён спектакль? Вось ён, напрыклад, піша: «Дэкарацыя ўяўляла зроблены на ўсю сцэну **дабротны, насычаны добрымі рэчамі, светлы беларускі сялянскі дом».**

А я на сцэне бачыў хату, абпаленую вайной. Груба абчэсаныя бэлькі-перакрыцці з праёмамі, у якіх палала вогненнае неба.

Свавольства зроку?

Свабодзін працягвае: «У такой дэкарацыі ставіць бы камедыю з сучаснага жыцця, лірычную драму. **Трагікамічнага яна не нясе».**

Вось дык так! «Не нясе», і кропка. Толькі ёсць пытанне : як пабудаваць «трагікамічную» хату?

Чытаем далей. «...Сын яго загінуў... нявестку ледзь не згвалцілі. А стары задаволены, фанабэрыцца, балакае — правільная, маўляў, у мяне сям'я, вытрымала экзамен». Вось як звёў канцы з канцамі! Толькі паўторым пытанне: з якога ж канца чытаў ён п'есу і глядзеў спектакль? З фіналу? Таму што ў «Трыбунале» ўсё наадварот: спачатку Калабок «задаволены, фанабэрыцца, балакае», потым — «нявестку ледзь не згвалцілі», потым — сын яго загінуў. Потым...

Свавольства логікі?

Калега, так пісаць нельга.

Ёсць у харкаўскім спектаклі спрэчныя мясціны, пралікі, але гэта тэма не для фельетоннага наскоку. Так, ёсць рознастылёвасць. Многа меладрамы, сентыменту ў Надзеі (А. Свістунова). Гэты ж сімптом у Зіны (Р. Коласава) і Галіны (В. Цімафеева). Празмерна натуралістычна паставіў рэжысёр дуэтную сцэну Сырадоева з Надзеяй (той жа грэх — у палтаўскай пастаноўцы). Зусім не трэба Валодзьку хапацца за тапор, як толькі маці сказала біць Цярэшку, калі адгукнецца з мяшка пры паліцаі.

І яшчэ адно. У Калабка пасля таго, як Паліна пайшла на падпольную яўку, няма выразнай жыццёвай задачы. Так у Харкаве, так і ў Палтаве (так, на жаль, і ў Мінску, у на дзіва таленавітым спектаклі В. Раеўскага) Цярэшка просіць, моліць і загадвае дзецям, каб развязалі, выпусцілі з мяшка. Па-рознаму ў розных пастаноўках. Але ўсюды — як і да гэтага, як пры жонцы — вар'іруецца тое ж. І зніжаецца напал сцэнічнага дзеяння.

Запытацца б у Калабка: назошта табе мучыць дзяцей, усё ж у парадку, ты сказаў жонцы, яна вернецца, і ўсё ўладзіцца. Стаміўся, сіл нестае? Тады давядзецца выканаўцу **іграць стому, пачуццё** (палтаўскі варыянт). Яшчэ раз хочаш пераканацца і парадавацца, што ў цябе, як піша А. Свабодзін, «сям'я такая, правільная» (Харкаў)? Таксама **задача не з дзейсных.** Або тое і другое разам: рады, але больш нестае сілы (Мінск). Мала, мала нават гэтага. Мне здаецца, усюды ўпушчана яшчэ адно, важнейшае. Бо вось-вось немцы і паліцыя спахопяцца — дзе стараста (і спахапіліся!). Прыйдуць сюды шукаць (прыйшлі!). Што, калі знойдуць яго звязаным у мяшку (ледзь не знайшлі!). Вось з-за чаго Цярэшку трэба было неадкладна вызваліцца, убераўчы дзяцей ад іх жа ўласнай непрадбачлівасці, выратаваць сям'ю і справу, даверанаю партызанамі! Не «вышмыгнуць» ад іх, дзяцей, а — іх ратаваць!

Не магу ўспомніць, дзе чытаў я, што ў нейкім народным тэатры Калабок, схаваны ў мяшок, сам паскакаў за печ, калі ўсе разгубіліся, бо Сырадоеў вярнуўся. Добрая прыдумка.

...За дзень да паездкі па тэатрах Украіны я закончыў нарыс аб драматургіі Макаёнка ў «Литгазету», у якім выказаў сумненне-здагадку аб прачытанні фіналу трагікамедыі «Зацюканы апостал».

«Абодва рэжысёры (у Мінску — Б. Луцэнка, у Маскве — Я. Радамысленскі) прынялі на веру тое, што, скочыўшы з трохпавярховай вышыні, Малыш стаў ідыётам. А што калі пакінуць допуск на іншую версію? У аўтара напісана, што «напачатку не зразумець — ці то ён сваты, ці то чокнуты». А што потым, калі не «напачатку»? А раптам не тое і не другое, а свядомае прадаўжэнне прэтэксту Малыша, у такой вось форме, якая складае загадку для многіх сучасных сацыёлагаў?..»

І да чаго ж я ўзрадаваўся, убачыўшы і ў Харкаве, і ў Кіеве фіналы розныя, але абодва — «без ідыётаў».

Спачатку раскажу пра харкаўскі (рэжысёр В. Дабравольскі).

Усе — каля Малыша.

«Жуй, жуй, кусай, глытай»,— клапатліва просіць маці (Н. Шарамет). «Глытай»,— з трывогай кажа бацька (В. Розен). «Глытай, глытай жа»,— гатова заплакаць сястра (С. Коўтун). Дзед (Т. Прэво) — вельмі дзелавіта, каб вызначыць дыягназ,— таксама: «Жуй, глытай».

І ён глытае. І — «напачатку не зразумець»...

Адсунуў шторку тэлекаментатар, агледзеў гасцёўню, шукаючы вачыма, **як заўжды,** яго. Убачыў. Зразумеў. І з якой спагадай, жадаючы **ўваскрэсіць яго, сваю надзею,** пачаў нешта гаварыць пра папу рымскага. Не дагаварыў. Усё зразумеў. Сам зацягнуў шторку.

Усе зразумелі — канец.

«А можа, гэта і лепш?»

«Гэта? Гэта — лепш?»

Тады Малыш, прыгнуўшыся (балюча!), пайшоў па дантавым крузе закратаванай гасцінай, дапытліва гледзячы ўсім у вочы — дзеду, маці, сястры, бацьку.

Ціха сказаў: «Вы ўсе заўсёды такія». І павольна ідзе на лесвіцу-драбіны. Вышэй. Вышэй. Туды, адкуль гаварыў калісьці маналог аб кнігах: «Вы прыслухайцеся да гэтых кніг. Колькі енкаў, колькі стогну, колькі жальбы! Ці-ш-ш... І кнігі, кожная з іх — гэта абеліск».

А яго кофта з махрамі і джынсы зліліся па колеры з вокладкамі кніг. І яшчэ на адзін абеліск стала больш.



Фёдар БАРАНОЎСКІ. Лыжніцы.



Народны артыст СССР
Павел Сцяпанавіч МАЛЧАНАЎ.

**ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**



**ВЫСТУПАЕ АНСАМБЛЬ ПЕСНІ І ТАНЦА ГОМЕЛЬСКАГА ПАЛАЦА КУЛЬТУРЫ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.**

●

«Гапак».

●

Танец «Бярозка».

●

Ляна Фядзюкіна—медсястра паліклінікі.

●

Таня Галушка—прадавец магазіна, Міла Субот — рэгістратар паліклінікі.

●

Танец «Чарот». Таня Раманава—касір магазіна «Музыка», Валеры Валкавіцкі — электраманцёр.







Фота Ул. Крука.



«Абеліскі светлым марам, светламу розуму, светлым надзеям. Дабраце. Спагадзе. Удзячнасці. Вернасці. Высакароднасці. Праўдзе. Маленькім блізнятам — чысціні і наіўнасці. Які пачэсны могільнік!»

Апостал, які рос паміж гэтымі магіламі, дзіця гісторыі, дзіця ўсіх гэтых кніг, зараз ужо не гаворыць сумных слоў. Маўчыць. Глядзіць з дакорам. Доўга. Раптам — яго рогат, на ўвесь свет: злосны, *саркастычны, з жахам ганьбы.*

Харкаўскі акадэмічны тэатр імя А. Пушкіна такім фіналам як бы ставіць п'есу Макаёнка ў ганаровы рад з тамамі кніг *на стэлажах* — **над персанажамі** спектакля, **вышэй!**

Ёмкая метафара.

А да фіналу, у цэлым, стыль спектакля *вельмі простьі. Усё гаворыцца праз* бытавую інтанацыю, без пастановачных эфектаў. І рэжысёр, і персанажы нічым не прадракалі, што мае быць бяда. *Малыш* (А. Літуноўскі) *у акварыуме* закратаванай гасцінай адкрываў даўно адкрытыя матэрыкі ідэй, пашарпаных, як бахрама на яго кофце, і з задавальненнем круціў *лакатары сваіх забаўна адтапыраных вушэй у эфіры* пераблытанага Сусвету. Сястра ўвесь час захаплялася эскападамі яго філасафем. Бацьку ўсё *гэта было наогул «да лямпачкі»,* ён стаміўся ад жыцця, ажыўляўся толькі ў «кодавых» перагаворах з нейкай «вострычкай»; якой — яму было ўсё роўна, мяркуючы *па* тым, што ён *за* «вустрычку» аднойчы прыняў родную дачку, пачаў быў ёй строіць «шуры-муры», спахапіўся і збянтэжана рэціраваўся. І мама тут была *ні добрая, ні злая. Думка* аб тым, каб пазбавіцца ад дзяцей, ёй прыходзіла вельмі раптоўна, выпадкова, «дарэчы» — прычынай таму быў, як відаць, галаўны кампрэс. І толькі дзед — нейкі «прыватны дэтэктыў», скрыпучы — усіх падазраваў бог ведае ў чым. А бог (Хрыстос, на матыльках падобны) вельмі ўжо хацеў сарвацца са стэлажоў і паляцець кудысьці, але не мог — саромеўся, відаць, адкрытай яснасці, спакою ў поглядзе Майсея. Здавалася, калі б Мікеланджэла крышачку прыгнуў яго, калі б Майсей задумаўся, падобна на Мысліцеля Радэна, тут бы Хрыстос і даў драла. Не выйшла... Мастак С. Ахвледзіяні, які афармляў пастаноўку, перашкодзіў гэтаму — каб дапамагчы рэжысёру В. Дабравольскаму па-свойму, разумна і цікава выявіць сэнс п'есы Макаёнка. (Нельга ж — без «Хрыста»).

Інакш, таксама вельмі разумна і цікава, прачыталі «Апостала» ў тэатры Лесі Украінкі ў Кіеве. Тут з «богам» абышліся больш энергічна — сагнулі, скорчылі. Не па-радэнаўску, а зусім насмерць. І ўваскрасаць яму цяпер, напэўна, ужо не захочацца. Навошта? Каб Ісусавы сыны з ім абышліся як са старой індыянкай, чыя засушаная галава з ашчэранай усмешкай выстаўлена побач з маскамі і ўсечанаю галавой Майсея на стэлажах — могілках спадзяванняў і праўды?

Дом-могілкі нагадвае тут музей. Музей з кніг, галоў, багоў, бажкоў усіх вер і масак. *І* яшчэ — музей пустых багетаў: чым запоўніць іх? Усе мітусяцца, усе шукаюць — чым запоўніць пустату.

Ці памятаеце вы ў рэпертуары міма Марселя Марсо сцэну «У майстэрні масак» — пакуты чалавека, які для прымеркі надзеў на сябе маску радаснага хама, а садраць — ніяк!

У «Зацюканым апостале» тэатра Лесі Украінкі ўсе прымяраюць маскі. Малыш пад маскай афрыканскага бажка падслухоўвае маміну размову па тэлефоне. З *маскай вечнага пакутніка* ён будзе супакойваць сястру, аберагаць яе ад праўды аб амурных прыгодах бацькі і маці. Маці кінецца ў абдымкі да мужа (усяго *толькі раз, аднойчы, і то, як аказалася,* памылкова — думала, што гэта дзед) — у масцы з выразам, які падкрэсліць іх адчужанасць.. Дзед...

*Не, пра дзеда трэба пачынаць не з* масці. Дзед тут — нібы бог, і чакаюць яго ўсе ў доме, нібы Саваофа. Маці (А. Смалярова) — каб ён яе пазбавіў ад дзяцей, *забраў з сабой, «на свежае* паветра». Бацька (С. Філімонаў) — каб дапамог павысіцца па службе. Малыш (Б. Вазнюк) — каб далучыцца да яго мудрасці, *вырашыць праклятыя пытанні.* Дачка... Ах, цуд-дачка: калі прыедзе дзед, усім будзе хораша, не будзе пустаты, якая так гняце яе — больш, чым *каго іншага.*

І дзеда сустрэлі! Кусаюць, абдымаюць, ціскаюць. Дзед — нарасхват, усім патрэбны, у кожнага «багетны» голад на яго. А дзед (М. Розен) — *такі радасны:* кожнага насыціць, адорыць, і не збяднее яго даючая рука.

Але вось ён выйшаў памыцца рукі, вярнуўся, *такі ж радасны,* прытупнуў, крэкнуў, паціраe рукі: «Ну?..» А ў гасцінай — пуста. Нікога. Багеты, багі, маскі. «М-мда...»

Узяў адну, *прымераў,* да люстэрка — нейкая пачвара.

Надзеў другую, конскую, разблытаў грыву, і...

Малыш наверсе ўсё бачыць.

І сабіла ж старому замест люстра глядзецца ў тэлевізар! І ўключыць яго. А там — не каментатар, якога так заўжды чакае наш Малыш. Там — вакханалія. Дзед, гледзячы ў яе праз маску конскай морды, выбрыквае такім жарэбчыкам. Дзед — бог?!

Сапраўды, *шэкспіраўская сцэна.* Без шэкспіраўскага тэксту. Наогул без тэксту — рэжысёр! Час назваць яго: А. Бабенка.

Калі потым, удосталь нацешыўшыся над формамі «ракетагрудай», дзед з







Кіеўскі акадэмічны тэатр імя Лесі Украінкі. «Зацюканы апостал». Сцэна са спектакля.

бацькам спахопяцца (Малыш усё бачыў, чуў), калі яны пачнуць ханжыць аб цнатлівасці, маралі — будзе позна.

«Прымусіць усміхнуцца над богам Апісам, значыць, расстрыгчы яго са свяшчэннага сана ў простага быка» (А. Гарэцан).

Дзед сам расстрыг сябе. Любімы дзед. І дзед, які любіць...

Цікавую рэч заўважыла ў «Апостале» А. Бабенка: тут усе адзін аднаго любяць, хочуць любіць, хочуць дабра і міру. Не атрымліваецца. Не могуць. Не-ка-му-ні-ка-бельнасць!

Які важкі, пяшчотны пацалунак «прыпячатаў» тата маме ў ручку — цуд! — у сцэне сустрэчы дзеда. Гэта ж была не толькі паказуха. Але... крыху ўздрыганулася яе рука, а позірк слізгануў па мужу воблачкам даўно ўжо адгрымеўшых навальніц.

Не атрымліваецца....

Як пяшчотна любіць брацiка сястрычка, тузае яго і калашмаціць, каб адарваць ад кніг, каб ён быў з ёй, бо пуста без яго (таленавіта і **змястоўна** іграе пустату дачка — І. Дука). Але... Яе ўзровень — часопіс «Плей-Бой» з сенсацыямі накшталт вынікаў конкурсу жаночай прыгажосці, дзе прызавое месца ўзяў мужчына. І Малыш да «Плей-Боя» адаслаў яе, шпурнуўшы часопіс у кулісу.

Не атрымліваецца...

І сваю маму дачка вельмі, вельмі любіць. І хоча ад яе не вельмі многа — усяго толькі кенгураня. Ма-аленькага. Не звярынец, як у мільянерскай дачкі Нэлі, дзе поні, зебра, слон і кенгуру, а вось такое, маленькае, мілае, пушыстае, каб прыцiснуць да грудзей і песціць, і гаварыць яму харошыя словы, а яно б слухала...

Не атрымалася.

Некамунікабельнасць — адна з галоўных тэм «Апостала» і ў купалаўцаў. Але там рэжысёр **выходзіць з яе,** а тут—**прыходзяць да яе,** і гэта, як мне ўяўляецца, намнога танчэй, больш змястоўна, больш трагічна.

Адна справа — калі людзі здаўна жывуць у пастыласці і адчужанасці,— тады гэта проста норма. Другая справа — калі ёсць узаемная прыхільнасць, любоў, сму-



Кіеўскі акадэмічны тэатр імя Лесі Украінкі. «Зацюканы апостал». Сцэна са спектакля.

так, але чамусьці не атрымліваецца. Тады — смутак!

Адно — калі прыехаў дзед (а ўнуку ён не бліжэй, чым зязюльчын свёкар.) І зусім іншае — калі ўнук паклікаў яго, устрывожаны: «Ты думаеш, лёгка мне, дзядуля, жыць з камком у горле?»

У сардэчным, мудрым, тужлівым і гнеўным мастацтве гэтага спектакля трагікамедыя «Зацюканы апостал» ні ў чым не адступілася ад думкі аўтара і выявіла пафас гуманізму, які заўсёды ўласцівы сатыры Макаёнка. Тут ён блізкі да вызначэння Бялінскага: як «боль при виде униженного человеческого достоинства».

Фінал спектакля — катастрофа. На тварах масак няма, але самі твары сталі маскамі, а іх — не здымеш...

Дзеду балюча, сорамна перад унукам, але на твары яго застыла маска выхаваўчай строгасці: «Хто ён? Камуніст? Анархіст?»

Пакутуе маці, але — «Жуй, глытай».

Не лягчэй і бацьку, але — «А можа, гэта і лепш?»

І маска — на твары ў Малыша: жую, глытаю, ем. Фарш — фальш. Вы гэтага хацелі — наце! Я зараз — як вы. «Вы ўсе заўсёды такія!»

І толькі дачка верабейкам забілася: «На касцёр! На эшафот!»

Малыш артыста Б. Вазнюка пойдзе, напэўна, да хіпі.

Яго сястра...

«Такі яўны выбух пратэсту... з'яўляецца адным з найбольш здзіўляючых феноменаў сучаснай гісторыі. Менш дзесяцігоддзя назад усе гаварылі аб «маўчанні» студэнтаў перад тварам вострых нацыянальных і міжнародных праблем... Рэдка ў гісторыі такая відавочная апатыя змяняецца дэманстратыўным актывізмам, маўчанне — рэзкім пратэстам».

Гэтыя словы напісаў Кенет Кінстон, буржуазны ліберал (цытую па артыкуле В. Вульфа «Бунт маладых» і «Брадвей-71», часопіс «Театр», № 9, 1971).

А вось як характарызаваў рух «новых левых» генеральны сакратар Кампартыі ЗША Гэс Хол у гутарцы з карэспандэнтам «Праўды» (5 ліпеня 1968 года): «...гэта людзі, якія бачаць хваробы сістэмы, але не разумеюць яшчэ, што ўсе гэтыя хваробы з'яўляюцца часткай сістэмы, прадуктам гэтай сістэмы». І хоць яны яшчэ «не з'яўляюцца свядомымі, ідэйна загартаванымі барацьбітамі», Гэс Хол лічыць, «што неабходна цярпенне, неабходна разуменне пазітыўных бакоў гэтага руху моладзі».

Спектакль тэатра Лесі Украінкі прасякнуты чалавеказнаўчым «цярпеннем» да таго, што называюць «сумессю барыкад і танцпляцоўкі» (Маркузе). Ён набліжае нас да разумення праблем, якія стаяць перад грамадствам любой з краін, «дзе двудушнасць маралі, прыніжэнне асобы, бесперспектыўнасць заўтрашняга дня, жорсткасць і бесчалавечнасць мяшчанскага побыту становяцца відавочнымі не толькі таму, хто ўзбагачаны жыццёвым вопытам, але нават дзецям».

Апошнія словы — ад каментатара, чый голас гучыць у спектаклі кіяўлян перад пачаткам сцэнічнага дзеяння. А гэта таксама ж своеасаблівая і вельмі дакладная па думцы знаходка рэжысёра: зліць у адзін вобраз Каментатара і Аўтара — вось каго чакае Маленькі Апостал! Бо аўтар нас папярэдзіў: «Але не скажу, што мая хата з краю».

Што ж сказаць мне ў заключэнне?

Радасна ўсведамляць, што беларускую драматургію тэатры Украіны ставяць так пранікнёна. Як кажуць у нас, «не з боку, а з сярэдзінкі!» І вяртаюць нам яе ва ўзбагачаным выглядзе.

Дзякуй украінцам!

За намі — доўг.

Таксама — і за імі.

Фота **аўтара.**








**Валянціна КОЎТУН. КАЛЯРОВЫЯ ВЁСЛЫ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.**

# ПОСПЕХІ І ЦЯЖКАСЦІ ПАЭТЫЧНАГА АДКРЫЦЦЯ

Што можна параіць маладому паэту, свайму равесніку, творы якога напісаны ў агульным рэчышчы шуканняў маладых і да таго ж не вызначаюцца асаблівай мастацкай напружанасцю радка? Параіць сёння, калі інфляцыя паэтычнага слова стала відавочнай, калі ўсё часцей прыгадваюцца словы Байрана: «...паэтаў стала больш, а паэзіі адпаведна менш»?

Валянціна Коўтун, аўтар першага зборніка «Каляровыя вёслы», сама адказала на гэтае пытанне так: «Між слоў шукайце зерне, каб вырасціць дабро». Адказала ў так званым праграмным вершы «Ex libris», не пазбаўленым літаратурнай бравады («Спяшай, жыццё, кідай пад ногі церне», на што можна адказаць прыказкай: «Узяўся за гуж — не кажы, што не дуж»). Складанне праграм у адносінах да паэзіі мне здаецца марным заняткам, але нельга не адзначыць высакароднасць намераў В. Коўтун. Гэта азначэнне таксама ўмоўная рэч, бо можна і запярэчыць: а які аўтар піша з дрэннымі намерамі? Тут мы і падышлі да самага галоўнага: сапраўды, усе пішуць з добрымі памкненнямі, але нам важна, **як пішуць.** І колькі б мы ні спасылаліся на актуальнасць, грамадзянскасць, выключную любоў да... і г. д., усё роўна якасць літаратурнай прадукцыі якраз і ўключае ў сябе ўсё гэта.

Гэты элемент ёсць у зборніку «Каляровыя вёслы», выяўлены ён не заўсёды дастаткова ярка, але па-таварыску хочацца параіць паэтэсе шукаць між слоў сваё паэтычнае зерне. Шукаць настойліва і мужна. Права на гэта даюць ёй многія паэтычныя радкі і асобныя вершы зборніка «Каляровыя вёслы».

Вось верш «Лісце», які паказвае, што В. Коўтун, можа яшчэ інтуітыўна, але натуральна валодае паэтычным чуццём і можа надаць настрою паэтычную афарбоўку:

**Вясною ранняй з ціхім смехам**
**Расце святло ў душы маёй.**
**Абноўленая, пасля снегу—**
**Вось так баліць зямля травой,**
**Вось так расце сцябло без крыку,**
**Дажджы шчыруюць ад відна.**
**А птушкі ўжо адчулі крылы,**
**І вецер хмары разагнаў...**
**Хацелася у словах выйсце**
**Знайсці,**
**Сказаць...**
**Ды спакваля**
**Трывожна з дрэў выходзіць лісце—**
**І радасна змаўкаю я.**

Сама аснова лірычнага перажывання, выказаная сціпла і нягучна, трымаецца на хвалюючым пачуцці пашаны перад з'яўленнем абноўленага жыцця. Адзначым і павольную, дакладную арганізацыю радка. Гаварыць, што з дрэў **«выходзіць** лісце», значыць адчуваць усю ўрачыстасць, веліч моманту. І пасля снегу зямля іменна «баліць травой». Нават здаецца, што сказаць выразней — немагчыма.

Наогул, паэзія толькі ўмоўна жыве ў слове. Сэнс паэтычнай фразы павінен пакідаць абалонку слоў і жыць «бесцялесным» жыццём думкі, значна шырэйшай за паняцці, укладзеныя ў словы. Словы — толькі пункціры для накіравання руху думкі, пачуцця. Але пункціры павінны быць дакладнымі, строга выверанымі і не павінны заблытваць шляху думкі, настрою, інакш яны загінуць і стануць толькі словамі—мёртвымі знакамі на паперы.

У маладой паэтэсы ёсць уменне стварыць настраёвы паэтычны малю-

нак, часцей за ўсё прыроды, граніцы якога вельмі цяжка акрэсліць. Сам малюнак у сілу сваёй паэтычнай навізны пашырае граніцы нашых уяўленняў пра тую ці іншую з'яву. Напрыклад:

**Такою ноччу нараджацца птушкам.**
**У садзе пахне цёплаю страхой.**
**Вятрыска пер'е мокрае загушкаў**
**На мяккіх голлях цішыні глухой.**
**А гэта ноч адданага даверу...**
**Апалі росы на стамлёны дол,**
**І месяц дзесьці ў небе шэры-шэры**
**Дрыжыць, нібыта ластаўкі гняздо...**

Калі б не два апошнія радкі з недакладным вобразам пра шэры месяц, карціна была б яшчэ больш цэласнай. Як у вершы «Дождж»:

**Ад сну ўцячы,**
**Пакінуць сонны бераг,**
**Забыць на вёслах стому ад дарог.**
**Ў чаўне маім туман сабакам шэрым**
**Расу сцярусіў, ціхенька прылёг.**
**І раптам першы гром,**
**Як стрэл гарачы,**
**Не разбудзіў — раскроіў далячынь.**
**Пачаўся дождж...**
**І ранак, нібы качар,**
**Плыве пад лозы, крыламі б'ючы.**

Гэтыя вершы—выразныя замалёўкі. Не сказаць, каб яны ўзбуджалі буру пачуццяў, але ўстойлівы працяг паэтычнага матыву ўзнікае ў свядомасці. Дзякуй і за гэта, аднак для далейшага творчага развіцця патрэбен больш паэтычны напал. Наогул, бяда нашай сённяшняй паэзіі ў тым, што паэты не прымушаюць сваіх чытачоў думаць.

Прачытаўшы некаторыя вершы, хочацца задаць недарэчнае ў адносінах да паэзіі пытанне: «Ну і што?» А гэтае пытанне вынікае з таго, што ў нас з'яўляецца шмат вершаў наконт той ці іншай з'явы, у той час як законы мастацтва патрабуюць раскрыцця сутнасці з'явы. Апісальніцтва падобна на снатворныя пілюлі, якія закалыхваюць і аўтара, і чытачоў. Небяспека такой з'явы ў тым, што яна нараджае інертнасць грамадскай думкі наогул. Маладосць жа і ў жыцці, і ў паэзіі павінна несці зарад навізны, харошай творчай дзёрзкасці. Змагла ж В. Коўтун у невялікай паэме «Кавалі» па-новаму сказаць пра рамантыку рэвалюцыйнай героікі:

**І раптам коні, дзёрзкія, як золак,**
**Забіліся у стайнях — не стрымаць.**
**Чырвоныя вятры ляцелі ў сёлы,**
**І ўслед за імі людзі йшлі кавацы.**

У лірыцы маладой паэтэсы няма нейкай сваёй, характэрнай толькі для яе верша тэмы. Зрэшты, гэта далёка не заўсёды дакладная прыкмета паэтычнай арыгінальнасці — хутчэй за ўсё гэта чыста знешняя адзнака. Вершы бываюць паэтычна дзейснымі пры наяўнасці ў іх унутранага багацця. І калі мы і адчуваем палескае паходжанне паэтэсы, то не праз аўтарскую дэкларацыю гэтага, а праз карціны багатай, цудоўнай і шматгалосай прыроды:

**Ударыў першы гром у дрэвы**
**І ўпаў на іх, як мёртвы воўк.**
(Трыпціх «Лес».)

**А вечарам ў гняздо пустое**
**Упала сонца.**
(«Хай восень...»);

праз светлыя малюнкі, якія ўзнікаюць ад судакранання з прыродай:

**Поўня чыстая, як крыніца,**
**Праз акно ў пакой звініць.**
**Неспакой...**
**А бабуля-жніца**
**Цяжка дыхае ў цемры, спіць;**

праз адчуванне сілы, трываласці грунту блізкіх людзей:

**У якіх суровых вёснаў**
**Сілы ўзяў мой дзед?**
**Выплылі, зусім без вёслаў,**
**Гусляры на свет.**
**Выплыла былая слава**
**Песняй не без слоў.**
**Патанулі раптам травы**
**У галасах дзядоў.**
**Патанула раптам поўня,**
**З ёю — сумны гук.**
**І устаў, хітнуўшы чоўнам,**
**Горды паляшук...**

Усе гэтыя і падобныя да іх якасці светаадчування паэтэсы важныя. Будучы першай ступенню мастацкага судакранання з прыгожым і значным, яны тоесць у сабе пэўны эстэтычны зарад. Важна, каб гэтая якасць актыўней развівалася і развівалася ў суадносінах з праблемамі часу. У сённяшняй нашай лірыцы элемент праблемнасці павінен быць больш дзейсны, адыход ад сузіральнасці можа выклікаць больш рэльефнае акрэсленне характару. У вершах В. Коўтун ёсць самі па сабе карціны, напісаныя, у сэнсе псіхалагічным, вельмі выразна. Гэта відаць хаця б з наступнай канцоўкі верша «Я вырасту»:

**Матуля,**
**Прынясі мне сёння вечар,**
**Як жменю спелых пачарнелых**
**вішань.**

У гэтых радках мне бачыцца незададзеная цяга падняцца вышэй паэтычнай замалёўкі; даць абагульненне паэтычнай карціне ў суадносінах з пэўнай элегічнай настраёвасцю. Хочацца падкрэсліць і яшчэ адну немалаважную асаблівасць вершаў В. Коўтун: натуральнасць выказвання пачуццяў. Гэта вельмі важна. У нас, у нашай паэзіі неяк парушылася гармонія паміж характарам часу і спосабам яго творчага асэнсавання. Мастацкія сродкі не заўсёды выступаюць дзейсным памочнікам задуме. Вось, напрыклад, скажыце: паэтычная рамантыка ці даніна экзатычнасці стаіць за наступнымі радкамі паэмы В. Коўтун «Кавалі»?

**Мне кавалі пярсцёнак у кузні**
**старой,**
**Браў каваль, нібы іскру, пярсцёнак**
**рукой,**
**Сіняй птушкай агонь на далонях**
**паплыў,**
**Аб кавадла вялікімі крылламі біў.**

Спроба паэтэсы сродкамі лірычнай паэмы асэнсаваць нейкую частку сваёй біяграфіі ў сувязі з героікай часу зусім небеспасяховая. Пра гэта сведчыць і лаканічная, ёмістая канцоўка паэмы:

**А вечар у будзёнаўцы выходзіць,**
**І маладзік узносіць, нібы горн.**
**Калі зарніца ўспыхвае на ўсходзе,**
**Зноў кавалі ўзіраюцца ў прастор.**
**Яны загоены раны ўспомняць —**
**І выкуюць з агню празрысты смех,**
**Як вольны вецер, праімчалі коні.**
**Вісяць падковы шчасця каля стрэх.**

Праўда, у паэме сам метад лірычнага асэнсавання эпічнага, калі можна так сказаць, жыццёвага матэрыялу пакінуў у баку многія канкрэтныя жыццёвыя рэаліі. Таму ў некаторых выпадках асэнсаванне тых ці іншых з'яў выглядае занадта аблегчаным, а паэтычная ўмоўнасць (як вобраз пярсцёнка, напрыклад) становіцца бар'ерам ва ўзаемаразуменні паміж аўтарам і чытачом.

Выдавецтва «Беларусь» робіць добрую справу, адкрыўшы серыяй «Першая кніга паэта» дарогу ў шырокае літаратурнае жыццё многім маладым паэтам. Аднак ужо сталі відавочнымі недахопы: пачала зніжацца якасць кніг з гэтай серыі. Зборнік «Каляровыя вёслы» на агульным фоне першых кніг выглядае якраз з'явай вельмі прывабнай, і калі гэты водгук пра яго нясе, можа, завялікую долю крытыцызму, то толькі таму, што ён у значнай меры цікавы. У імя веры ў талент Валянціны Коўтун не хацелася лішне заспакойваць паэтэсу, у якой наперадзе яшчэ ўсе сустрэчы з чытачом.

**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ.**






# АДНО ПАЭТЫЧНАЕ ПАКАЛЕННЕ

**Летась у Балгарыі выйшаў зборнік вершаў «Беларускія паэты. Адно пакаленне». «Маладосць» прапануе ўвазе сваіх чытачоў уступ да гэтай кнігі.**

З беларускіх паэтаў, якія нарадзіліся ў 30-х гадах і разгарнулі сваю творчасць у мінулым дзесяцігоддзі, мы выбралі толькі дванаццаць. Упэўнены, што іх творы пераканаўча прадставяць нам шматлікіх беларускіх сабратоў-равеснікаў, дапамогуць убачыць дасягненні беларускай пасляваеннай паэзіі, дадуць уяўленне пра характэрныя тэндэнцыі і напрамкі сучаснай савецкай паэзіі наогул, а таксама нагадаюць аб аналагічных з'явах нашага літаратурнага працэсу...

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ** вылучаецца не толькі адметнасцю тэматыкі, не толькі асацыятыўным, метафарычным вершам, дасканалым, амаль іканаграфічным стылем сваіх аповесцяў, якія хутчэй нагадваюць раманы. Дарэмна вы будзеце шукаць у гэтага саракагадовага пісьменніка лаканічнасць, эканомную мову, уласцівую яго пакаленню. Аднак будзе няправільна западозрыць Караткевіча ў банальнай украсе і апісальніцтве.

Як умела далучае ён мінулае свайго народа да нашай сучаснасці, якім дакладным аказваецца яго адпраўны пункт ад сённяшняга дня да падзей 17—19 ста-

годдзяў! Якія каларытныя ў яго персанажы дваранства і шляхты, як умела здымае ён з іх шалупінне глянцу, каб паказаць душэўную ляноту і цынізм прывілеяванага саслоўя, што адарвалася ад народа, каб падкрэсліць трагічную асуджанасць высакародных імкненняў тых, што не здолелі ўзначаліць народ у барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне...

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ.** Не, не ўсё раўназначнае ў яго паэзіі. Але тое, што з'яўляецца яго актывам, што забяспечвае яму пэўнае месца ў сённяшняй беларускай літаратуры, уяўляе сабой цудоўную гаму гукаў і таноў, яркую палітру фарбаў і нюансаў. Нельга быць абыякавым да яго юначых паэтычных захапленняў, якія часта тут жа змяняюцца глыбокімі, сталымі рэфлексіямі.

С. Гаўрусёў тонка адчувае свой паэтычны прадмет, і калі мы хочам зведаць, што такое духоўныя пакуты і радасць, зачараванасць і захапленне, смутак і натхненне,—усё гэта мы можам знайсці ў яго цэласнай паэзіі. Ён, можна сказаць, энцыклапедыст паэтычнага пачуцця, якое стымулюе яго неспакойную думку, яго мару пра чалавека.

Знешне-фармальная структура вершаў С. Гаўрусёва, мусіць, самая традыцыйная, але ў змесце, у дынаміцы асацыятыўнай паэтычнай думкі, у своеасаблівай інтанацыі яго твораў вы адчуваеце паэта-сучасніка.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.** Яго паэтычны голас загучаў крыху пазней за некаторых равеснікаў. Калі, як кажуць, душа перапоўнена, калі думкам горача ад перажытага, то паэтычнае крэда можа стаць магутным этычным клічам не толькі для аднаго пакалення паэтаў. Гэта ад таго, што паэт Вярцінскі запрашае да роздуму над сучасным жыццём, заклікае да свядомага ўслухоўвання ў шчырую споведзь свайго лірычнага героя. Ён не абстрактны, адрас гэтай споведзі паэта, часцей за ўсё ён названы прама, адкрыта, амаль публіцыстычна. Аднак Вярцінскі не публіцыст, а паэт, які, можа, адзін з нямногіх у беларускай паэзіі ўмее так дзейсна пракламаваць этычныя каштоўнасці. Своеасаблівая інтанацыя яго верша раскрывае паэта і чалавека, які заўсёды хвалюецца і заклікае да супольнасці, прычашчэння да чалавечага ў чалавеку.

**Алег ЛОЙКА.** У яго паэзіі—няспыннае пераадоленне самога сябе, пастаянны рух, нялёгкае, але заўсёднае адмаўленне ад мімалётнай прывабнасці, чароўнасці ў імя сваёй усвядомленай паэтычнай сутнасці. «Мне заўсёды чагось нестае, штосьці вабіць, кудысьці цягне...» («Мне спакою не ведаць»). Дык гэта ж аўтапартрэт!

Аднак у паэзіі А. Лойкі рух чаргуецца з прыпынкамі—стартавымі пляцоўкамі да новых пошукаў. Яго вершы не апрануты па апошняй модзе, у іх можна заўважыць і сузіральную летуценнасць, і акварэльную журботнасць, але разам з гэтым і нязменную цягу, імкненне да чагосьці ўзнёслага, і мары аб далёкіх шляхах. Можна адчуць крокі людзей і палёт птахаў. Яго вершы рамантычна экзальтаваныя, але ў іх ёсць і сапраўдная ўсхваляванасць.

Няцяжка пераканацца, што і гэты паэт не пазбег таго «раздваення», у якім нарадзіўся шчаслівы паэтычны сінтэз яго сучаснікаў! У яго творах шмат ад нацыянальных паэтычных традыцый, але многа і ад традыцый, якія народжаны нашым часам...

**Ніл ГІЛЕВІЧ** перш за ўсё вядомы тым, што, прасякнуты ідэяй братэрства, вывучыў гісторыю, культуру і літаратуру Балгарыі, пераадолеў адлегласць і час і з'явіўся ў нашу краіну жаданым госцем. Вярнуўшыся на радзіму, паэт з энтузіязмам пачаў будаваць цудоўны мост для хвалюючых сустрэч. Будаўнічым матэрыялам у яго была паэзія і белетрыстыка, і ніхто не ўбачыў у гэтым нічога дзіўнага. Матэрыял для свайго моста ён браў і ў нас, едучы дамоў з важкім багажом уражанняў, узятых на балканскіх кручах, у далінах і на чарназёмных раўнінах.

Узятае ў нашай краіне ён рупліва дарыў сваім суайчыннікам у Мінску, Магілёве, Брэсце, Гродна, Гомелі—праз газеты і часопісы, па радыё і тэлебачанні, праз асобныя выданні. Я быў сведкам таго, з якой увагай і шчырай цікавасцю да нашай краіны і літаратуры прымаліся гэтыя дарункі ў Беларусі.

У свой час апаненты называлі Н. Гілевіча «традыцыяналістам», і, трэба прызнацца, яны ў пэўнай ступені мелі рацыю. Сапраўды, паэт быў і цяпер застаецца ў баку ад наўмысных эксперыментаў—і, магчыма, таму ён выглядае такім падкрэслена беларускім нацыянальным паэтам. Калі ўсё ж трэба адвесці яму месца ў літаратуры, дык яно будзе сярод тых самародкаў, народных песняроў і мастакоў (як ні дзіўна гаварыць так пра эрудзіраванага дацэнта-літаратуразнаўцу і высокакультурнага паэта). Яго верш куецца ў цэху народных майстроў, якія ніколі не захапляліся разважаннямі адносна мастацтва. Ён, вядома, ведае і строга





разважоўвае эстэтычныя крытэрыі, а самыя вартыя ўмее ўвасобіць у простым вершы, у сплаве мінулага і цяперашняга, г. зн. умее падтрымаць пульс народнай культуры ў нашы дні, гаварыць з чытачамі мовай бацькоў як першакласны інтэлектуал.

**Пятрусь МАКАЛЬ.** Яго паэзію называюць інтэлектуальнай. А мы атрымліваем ад яе шмат хвалюючых эмоцый. Некаторыя схільны лічыць яго чыстым лірыкам, а ён у апошні час дэманструе неаспрэчныя дасягненні ў драматычным жанры. Адзначалася, што паэт аддае перавагу інтэрнацыянальнай тэме, а можна сказаць, што П. Макаля цікавяць штодзённыя клопаты і радасці сучасніка, без агляднкі на тое, на якіх геаграфічных мерыдыянах ён жыве.

Як бы там ні было, П. Макаль—майстар непаўторнага паэтычнага, філасофскага абагульнення—вядома, не заўсёды і не ва ўсіх творах увасобленага ў аднолькавай меры. Відавочна і тое, што яго пяром кіруе этычны імператыў—маецца на ўвазе этычнае, якое адпавядае законам прыгажосці.

Пятрусь Макаль—таксама аўтар вершаў і п'ес для дзяцей, што з'явілася не вынікам нейкага дадатковага абавязку, а як выяўленне яго ўнутранай патрэбы мець зносіны з усімі ўзростамі людзей. Як і большасць паэтаў, яго равеснікаў, ён праяўляе вялікую цягу да гумару і сатыры, без чаго, як вядома, няма сапраўднага пранікнення ў духоўны свет сучаснага чалавека...

**Рыгор БАРАДУЛІН**—натура закаханая, апантаная! І да такой ступені, што гатовы прайсці лясы і горы, каб знайсці самы моцны, самы яркі паэтычны эквівалент любові.

Хто б мог падумаць, што, здавалася б, простыя матывы ў паэзіі патрабуюць такой складанай, амаль філігранай працы. Але толькі так можна выказаць сваю закаханасць: да роднай хаты, што «сялянкай сціплаю... пры самай дарозе ўдавее»; да бацькі, што загінуў на вайне, ад якога паэт атрымаў у спадчыну «шырокую далоню»; да маці, з вачэй якой глядзіць Радзіма; да садоў, гэтых «жывучых народаў зялёнага мацерыка», якія нягледзячы ні на якія нягоды, жывуць «надзеяй на плады»; да горада, да новых мікрараёнаў, «неспакойных сыноў неспакойнага веку»; да адкрытых дзвярэй, да памытай падлогі, да бяроз і азёраў, да маленькай сняжынкі, да ручаёў, якія гамоняць у вершах паэта... Цяжка, сапраўды цяжка вымераць такую любоў! Гэта лішні раз пацвярджае, што актыўныя ўзаемаадносіны з прыродай і людзьмі ў Р. Барадуліна—норма чалавечай прыгажосці, якая ў поўным сэнсе вызначае яго грамадзянскую пазіцыю...

**Васіль ЗУЁНАК.** Нельга сказаць, што беларуская крытыка ставіцца абыякава да яго творчасці, аднак часта тлумачыць яе, калі можна так сказаць, у нейкім параўнальным плане—параўноўвае, супастаўляе з творчасцю іншых яго аднагодкаў, асабліва з паэзіяй Р. Барадуліна. На шчасце, такі падыход не прывёў да нівеліроўкі таленту паэта, да яго абязлічвання. Калі што і ёсць агульнае ў Зуёнка з іншымі, дык гэта першародства і чысціня пачуцця, гукаў, фарбаў, паэтычных асацыяцый. Паэт гэтак жа, як і яго паплечнікі, цалкам раствараецца ў акаляючым навакольным жыцці, у нашпігаванай праблемамі сучаснасці.

Праўда, Зуёнак больш стрыманы за іншых, больш спакойны і, сам раствараючыся ў жыцці, не растварае навакольнага свету. Паэт пакутліва шукае, упарта паглыбляецца ў агульную для пакалення глебу. Свой паэтычны аб'ект, прадмет свайго лірычнага хвалявання паэт надзяляе сапраўды першароднымі гукамі, фарбамі і метафарычнасцю, не ўступаючы ў гэтых адносінах нават свайму папулярнаму равесніку Р. Барадуліну...

**Генадзь БУРАЎКІН.** Як усе яго равеснікі, як усе паэты Савецкай Беларусі, ён бязмежна любіць сваю Радзіму і шчыра, паэтычна дэкларуе сваю вялікую любоў да яе. Крытыкі не могуць не бачыць у яго паэтычнай дэкларацыі хвалюючую споведзь—тым больш, што гэта споведзь праяўляецца не час ад часу, не толькі пры юбілейных урачыстасцях, а сама стварае і ўносіць святочны настрой у наша штодзённае. І, галоўнае, Г. Бураўкін—аўтар не толькі одаў і гімнаў. Можа, як ніхто іншы, ён пераконвае, што няма больш дасканалага ладу, як наш, сацыялістычны. З гарачым грамадзянскім пафасам ён змагаецца супраць усяго, што запавольвае нашу хаду да прагрэсу і чалавечай агульнасці, супольнасці.

Яго лірычны герой—звычайны чалавек, але асоба творчая, непрымірымая да зла, яна не толькі радуецца і святкуе, але разам з тым смуткуе, пакутуе і перамагае...

**Янка СІПАКОЎ.** Мне даводзілася і раней гаварыць пра яго як пра паэта дабраты і святла, як пра сучаснае ўвасабленне славянскага духу ў паэзіі. Цяпер жа хочацца прыгадаць, што невялікія па аб'ёме і нешматлікія яго зборнікі вершаў сведчаць, што Я. Сіпакоў добра адчувае свой паэтычны свет з усёй яго глыбінёй і шырынёй.

Ён выдатны нарысіст — і не што іншае, як цудоўныя рэпартажы служаць яму паэтычнай лабараторыяй. Адной са сваіх задач ён ставіць уваскрэсіць баладу — і пранікае ў глыбокія пласты славянскай старажытнасці. Ён піша дасціпныя, вострыя, кплібыя, насмешлівыя творы — рамантычныя міфы і паданні не могуць адарваць яго ад зямлі, бо ўсё-такі, перш за ўсё, ён паэт зямны.

Ніхто не аспрэчвае і не можа аспрэчваць яго талент, але, думаецца, ніхто не можа прадказаць, як ён будзе развівацца. Але як бы там ні было, ва ўсіх яго далейшых паэтычных здабытках талент будзе мець уладу над чытачом, як і цяпер.

**Алесь НАЎРОЦКІ.** Для гэтага маладога ўрача сувязь з людзьмі знаходзіць свой натуральны, лагічны працяг у яго паэтычнай творчасці. І нічога дзіўнага няма ў тым, што ён шукае адпаведнасці між паэзіяй і чалавекам. Сваім, арыгінальным шляхам паэт трансфармуе добра вядомыя, перш за ўсё з уласных назіранняў, чалавечыя характары і грамадскія з'явы. Па гэтай прычыне яго смелыя і на дзіва самабытныя паэтычныя асацыяцыі ні ў кога ніколі не выклікалі недаверу.

Спалучаючы ў сваіх творах лірыку і эпіку, паэт забяспечвае свайму лірычнаму суб'екту эпічнае выяўленне, адлюстраванне. У эпічных творах, у лірыцы, аповесцях і апавяданнях Алеся Наўроцкага нязменна прысутнічае глыбокая лірычная ўсхваляванасць і сапраўды грамадзянскі пафас...

**Данута БІЧЭЛЬ.** Гэта маладая жанчына з аксамітнымі, задумлівымі вачыма — жытні колас, які выбіўся на свет з таямніц зямных нетраў. Яна можа павесці свайго каханага да сцен старажытнай Каложы, дзе лунае бяссмерце прашчураў, а потым адтуль плыць у лодцы і шукаць бязвоблачныя землі сваіх мараў. Гэта паэтэса заўсёды настойліва імкнецца звязаць мінулае з сучасным, сусветнае з родным, блізкім, традыцыйнае з наватарскім...

На мой погляд, гэтыя дванаццаць добрых пасланцоў аднаго паэтычнага пакалення Беларусі замацавалі ў сваёй творчасці станоўчы вопыт беларускай і наогул савецкай пасляваеннай паэзіі. Перажыўшы цяжкае ваеннае дзяцінства, яны не маглі быць абыякавыя да радаснага настрою і агульнага ўздыму першых пасляваенных гадоў (1945—1948)... Яны не прынялі «безумоўны» паэтычны аб'ект і формы паэзіі 1949—1955 гадоў, а ў сваіх творах трансфармавалі духоўныя каштоўнасці народа праз уласнае мастацкае бачанне... Яны сталі ўдзельнікамі і сведкамі вялікага сёння сацыялістычнай паэзіі, паэзіі з вялікай унутранай свабодай... Сваёй творчасцю яны пацвердзілі, што ў мінулым, як, зрэшты, і цяпер, не ўсякае наватарства азначае крок наперад ці больш высокую каштоўнасць, а яшчэ менш пераломны момант... Яны адкрылі, разам з паэтамі іншых пакаленняў, надзейныя перспектывы для беларускай сацыялістычнай паэзіі.

Іх творчае амплуа, як гэта ні дзіўна можа здацца, не патрабуе дакладных вымярэнняў і дэфініцый. Гэтыя паэты добра ўсведамляюць, што ўзровень іх паэтычных здабыткаў, у параўнанні з тым, што зрабілі паэты старэйшых пакаленняў у адпаведным узросце, больш высокі. Але яны ведаюць і тое, што ўзровень сённяшняй беларускай і наогул савецкай літаратуры таксама намнога вышэйшы. Іх імкненне да новага, іх пошук бясспрэчныя. Без намаганняў кожнага паэта выказаць усяго сябе не будзе сапраўднай паэзіі.

І ўсё ж гэтае пакаленне беларускіх паэтаў выявіла ўласны воблік, паклаўшы сваю паэтыку ў аснову пазіцый сённяшняй паэзіі, у тым творчым сімбіёзе, які ўзнік шляхам зусім не фармальна-эстэтычным. Яны не адракліся ад тэмы роднай вёскі, роднай прыроды — большасць з іх дзеці сяла. Яны, можа, больш за іншых разумеюць, усведамляюць, што сёння ўжо нельга глядзець на свет, як на суцэльную вялікую вёску, і прыкладаюць увесь талент, усе намаганні, каб прыроджанае бачанне навакольнага адпавядала сённяшняму спосабу мыслення, правільна суадносілася з навуковымі дасягненнямі, з сацыяльнымі перспектывамі вёскі. Вось чаму іх традыцыйна сельскі, вясковы лірычны герой не «павісае» ў паветры, як нешта ненатуральнае, не замыкаецца сам у сабе, а арганічна звязаны з сучасным грамадствам. Якія моцныя кантакты, што аб'ядноўваюць чалавечую культуру, чалавечы суб'ект і інтымнасць з навакольным светам, з бязмежнымі прыроднымі і сацыяльнымі залежнасцямі, выяўляюцца ў паэтычным бачанні беларускіх паэтаў! Вы заўважыце, якімі ідэйнымі і сэнсавымі кампанентамі ўзбагачана іх пачуццё ад перажытага, заўважыце нязменную прысутнасць гумару...

Паэтычная, творчая сістэма, крэда гэтага пакалення беларускіх паэтаў з нязменнымі культурна-гістарычнымі, сацыяльнымі, этычнымі і мастацкімі крытэрыямі адкрывае неаглядныя магчымасці ў часе і прасторы сучаснай паэзіі.

Георгі **ВЫЛЧАЎ**.

*Красавік*

## НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ

### «Захар Беркут»



Так называецца новая каляровая шырокафарматная мастацкая кінастужка, пастаўленая рэжысёрам Леанідам Осыка на Кіеўскай кінастудыі імя А. П. Даўжэнкі па матывах аднайменнай гераіка-рамантычнай аповесці Івана Франко. Новая карціна — толькі маленькі эпізод той велізарнай гістарычнай місіі славян, якую ўзялі яны на плечы свае, спыніўшы на самым парозе Заходняй Еўропы смерч дзікага разбою татара-мангольскага іга. Разам з тым фільм «Захар Беркут» — гэта песня аб неўміручасці адухаўляючай сілы любові да роднай зямлі, аб святасці патрыятычнага абавязку перад зямлёй продкаў. І гора таму, хто замахваецца на гэтыя святыні.

Галоўныя ролі выконваюць Васіль Сіміч (Захар Беркут), Іван Гаўрылюк (Максім), Іван Мікалайчук (Любамір), Антаніна Лефцій (Міраслава), Канстанцін Сцепанкоў (Тугар-Воўк) і інш.

### «Ноч на 14-й паралелі»



Гэта шырокаэкранная мастацкая кінакарціна пастаўлена на кінастудыі «Ленфільм». Яна расказвае пра амерыканскую агрэсію ў Паўднёва-Усходняй Азіі. У цэнтры кінааповесці — лёс двух таварышаў: савецкага журналіста Дзмітрыя Сцяпанава і яго амерыканскага калегі Эда Сцюарта, які змяніў сваё пяро на салдацкую вінтоўку, стаў удзельнікам несправядлівай, ганебнай вайны ў В'етнаме. У фільме няма ніводнага «прыдуманага» кадра. Усё тут праўда. Не таму, што ў аўтараў не хапіла фантазіі. Жыццё, якое спазнаў адзін з іх — пісьменнік Юліян Сямёнаў, правёўшы ў якасці карэспандэнта газеты «Правда» многа тыдняў у Індакітаі,— аказалася больш складанае і яркае, чым любыя выдумкі.

Другі аўтар карціны, кінарэжысёр Уладзімір Шрэдаль, як і Юліян Сямёнаў, цягнецца да вострага напружанага сюжэту.

Галоўныя ролі выконваюць Валянцін Гафт, Усевалад Платаў, Алена Казялькова, Жана Кавянчук, Наталля Арынбасарава, Аляксей Палявой, Мажыт Бягалін.

## «Чорныя сухары»



«Іх прыносілі па два, па тры ў раённыя камітэты партыі і камсамола, у прафсаюзы і фабзаўкомы. Прыносілі, беражліва загорнутыя ў белую анучку, і асцярожна выкладвалі на стол, каб не скінуць ніводнай каштоўнай крошкі. Такі быў хлеб, той светлы хлеб, які галодная Расія пасылала рэвалюцыйнаму пралетарыяту Германіі». Пра гэта і пра вялікае каханне былога ваеннапалоннага немца Курта і рускай камсамолкі Тоні, якая суправаджала поезд з хлебам для пралетарыяту Германіі, расказвае новая шырокаэкранная мастацкая кінааповесць «Чорныя сухары» сумеснай вытворчасці кінастудый «Ленфільм» (СССР) і «Дэфа» (ГДР).

Пастаноўку фільма ажыццявіў заслужаны дзеяч мастацтваў Эстонскай ССР, вядомы савецкі кінарэжысёр і драматург Герберт Рапапорт. Гледачы старэйшага пакалення памятаюць яго першую карціну (створаную разам з А. Мінкіным) «Прафесар Мамлок» — атыфашысцкі фільм, які ўвайшоў у лік лепшых карцін 30-х гадоў. У 1940 годзе Рапапорт разам з А. Івановым стварае камедыю «Музычная гісторыя». У гады Вялікай Айчыннай вайны Рапапорт паставіў па сцэнарыі Яўгена Пятрова кінакамедыю «Паветраны рамізнік».

У кінастужцы «Чорныя сухары» галоўныя ролі выконваюць малады нямецкі акцёр Рудзігер Іозвіг і маладая савецкая актрыса Наталля Варлей, якая здымалася ў кінафільмах «Каўказская палонніца», «Вій», «Бег», «Золата», «Дванаццаць крэслаў».

## «Ферэнц Ліст»



Ферэнц Ліст... Гэта імя навечна ўвайшло ў скарбніцу венгерскай і сусветнай музычнай культуры. Творчаму і жыццёваму шляху геніяльнага кампазітара і прысвечана новая каляровая двухсерыйная мастацкая кінастужка «Ферэнц Ліст» сумеснай вытворчасці кінастудыі «Ленфільм» (СССР) і «Мафільм» (Венгрыя).

Карціна пастаўлена па сцэнарыі Імрэ Кесі і Леаніда Дзеля старэйшым венгерскім рэжысёрам Мартонам Келеці, творчасць якога добра знаёмая савецкаму гледачу («Мішка-арыстакрат», «Венгерскія мелодыі», «Дзіўны шлюб», «Дажджлівая нядзеля», «Гісторыя майго глупства», «Рыцары «Залатой пальчаткі» і інш.).

У галоўнай ролі выступае папулярны венгерскі акцёр Імрэ Шынковіч, які стварыў больш чым шэсцьдзесят кінавобразаў. «Гэта роль,— гаворыць І. Шынковіч,— была маім даўнім жаданнем, але я не мог і думаць аб такой магчымасці. І калі мне прапанавалі роль Ліста, я спалохаўся і ...узрадаваўся. Трэба было пераўвасобіцца ў чалавека каласальнай індывідуальнасці, дарагога не толькі кожнаму венгру, але і ўсім аматарам музыкі. Я паспешліва пачаў чытаць усё, што звязана з Лістам, яго перапіску. На працягу трох месяцаў перад здымкамі я кожны дзень па чатыры гадзіны развучваў творы Ліста. Вобраз Ліста — геніянальнага мастака, захопленага музыкай, які падпарадкаваў творчасці ўсё сваё жыццё, я хацеў зрабіць блізкім і зразумелым гледачу, перадаць усю чалавечую глыбіню і прыгажосць венгерскага кампазітара. Мне вельмі дарагая ў Лісце яго прага свабоды, ісціны, імкненне ісці ў жыцці заўсёды сваім шляхам, яго любоў да радзімы, вечная вернасць Венгрыі нават удалечыні ад яе граніц, дапамога сваёй краіне ў цяжкі для яе час».

З савецкіх акцёраў у фільме заняты Арыядна Шэнгелая (графіня Караліна Вітгенштэйн), Клара Лучко (Мары д'Агу), Ірына Губанава (Вольга Яніна), Ігар Дзмітрыеў (князь Вітгенштэйн) і іншыя.

## «Пілот першага класа»



На кінастудыі «Ленфільм» завершана работа над новай шырокаэкраннай мастацкай кінакарцінай «Пілот першага класа», створанай па сцэнарыі Уладзіміра Куніна, ужо знаёмага гледачам па кінастужцы «Хроніка пікіруючага бамбардзіроўшчыка». Гэты фільм — першая самастойная работа маладых рэжысёраў А. Вяхоткі і Н. Трошчанкі — расказвае пра ветэранаў і маладых лётчыкаў грамадзянскай авіяцыі.

У галоўных ролях заняты Анатоль Папанаў, Сямён Марозаў, Мая Булгакава, Валянцін Гафт, Ларыса Маляваная.

З цікавасцю будуць сустрэты гледачамі новая ўзбекская мастацкая кінааповесць «Парыў», венгерская кінакамедыя «Герой тэлевізійнага экрана», якая расказвае пра тое, як просты рабочы стаў героем серыі прыгодніцкіх тэлевізійных фільмаў, іспанская кінакарціна «Кабрыёла» — расказ пра лёс дзяўчыны, што становіцца пікадорам, і іншыя.

# ВЕЧАР «МАЛАДОСЦІ»



**Нядаўна ў памяшканні клуба Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся вечар «Маладосці». Вёў вечар галоўны рэдактар часопіса Алесь Асіпенка. Ён расказаў пра тое, як выдаецца часопіс, пра яго планы, пра творы, якія ёсць у партфелі рэдакцыі і якія будуць надрукаваны ў 1972 годзе.**

**З успамінамі аб літаратурным жыцці Мінска дваццатых і трыццатых гадоў выступіў Яўген Рамановіч. Старонкі з гэтых успамінаў будуць змешчаны ў часопісе ў гэтым годзе.**

**Кароткае, але цёплае і шчырае слова пра маладую паэтэсу, пастаяннага аўтара часопіса Веру Вярбу сказаў крытык Варлен Бечык. Вера Вярба прачытала свае вершы. Цёпла сустрэлі прысутныя маладую спявачку Раісу Бамбалу. Вечары «Маладосці» з удзелам аўтараў часопіса — пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў рэдакцыя мяркуе праводзіць і далей. На здымку, які наш фотакарэспандэнт зрабіў у рэдакцыі, госці вечара — Варлен Бечык, Вера Вярба, Раіса Бамбала і Яўген Рамановіч.**



А. БЯЛЯЕЎ, Б. СЫРАМЯТНІКАЎ,
В. УГРЫНОВІЧ

# ПРАВАЛ АКЦЫІ «ЦЭПЕЛІН»

**Працуючы ў архіве, мы выявілі следчыя матэрыялы па справе тэрарыстаў нямецка-фашысцкай разведкі Палітава (Таўрына) і Шылавай. З гэтых матэрыялаў мы даведаліся аб тым, як у гады Вялікай Айчыннай вайны нашы мужныя воіны-контрразведчыкі пры актыўнай дапамозе савецкіх патрыётаў раскрылі і прадухілілі тэрарыстычную аперацыю фашысцкага разведвальнага органа «Цэпелін», накіраваную супраць Вярхоўнага камандавання Савецкай Арміі. Пра гэты малавядомы эпізод з летапісу Вялікай Айчыннай вайны мы і рашылі расказаць.**

## I.

Кабінет начальніка ўсходняга аддзела 6-га ўпраўлення галоўнага імперскага ўпраўлення бяспекі фашысцкай Германіі оберштурмбанфюрара СС Грэфе размяшчаўся на чацвёртым паверсе невялікага асабняка. Шум вялікага горада сюды амаль не даходзіў, і таму Грэфе вельмі часта працаваў з расчыненымі вокнамі. У вольныя хвіліны ён любіў назіраць за жыццём вуліцы і з задавальненнем лавіў мядовы пах ліп, што даносіў лёгкі ветрык.

Але ў гэты дзень Грэфе было не да ліп і не да свежага ветру. Мераючы кабінет шырокімі, цяжкімі крокамі, ён спрабаваў зноў і зноў аднавіць у памяці ўсе дэталі нядаўняй гутаркі з начальнікам упраўлення. Між іншым, гэта была нават не гутарка, а інструктаж, які закончыўся чарговым заданнем аддзелу і яму, Грэфе, старому спецыялісту па Расіі.

Начальнік упраўлення быў надзвычай сухі і нешматслоўны і ўсё ж, нягледзячы на гэта, паспеў нагаварыць шмат непрыемнага.

Германская армія не здолела выйграць бітву, на якую ўскладваліся вялікія надзеі. Пад Курскам былі перамолаты і знішчаны лепшыя танкавыя дывізіі рэйха. Надзея фюрара на летнюю кампанію праваліся. Гэта ў корані мяняла многія стратэгічныя планы наогул і планы разведкі ў прыватнасці. Расказаўшы пра абстаноўку, начальнік упраўлення загадаў Грэфе распрацаваць план тэрарыстычнай аперацыі па знішчэнні кіраўнікоў Стаўкі Савецкага Вярхоўнага камандавання.

Выконваючы гэты загад, Грэфе паспеў зрабіць многае.

Хоць і ў чарнавіку, але быў ужо гатовы план аперацыі, было абдумана яе тэхнічнае аснашчэнне і нават падабрана кандыдатура выканаўцы. Яго і чакаў з мінуты на мінуту Грэфе.

Азнаёміўшыся з біяграфіяй будучага тэрарыста, Грэфе рашыў перад сустрэчай паслухаць яшчэ раз усё пра выканаўцу шматабяцаючай аперацыі.

Ён падышоў да стала і націснуў на кнопку званка. Дзверы кабінета расчыніліся. На парозе з'явіўся маладзенькі зондэрфюрар СС і застыў.

— Прачытайце мне яшчэ раз справу Палітава,— папрасіў Грэфе.

Ён хутка выйшаў, а праз хвіліну зноў з'явіўся ў кабінеце з ёмістай папкай у руках, адкрыў патрэбную старонку і пачаў чытаць.

— «Палітаў. З тысяча дзевяцьсот трыццаць трэцяга па саракавы год жыў на Украіне, у Ташкенце, у Башкірыі пад прозвішчам Шыла, Таўрын і Сяркоў. Перад вайной, будучы загадчыкам нафтасклада на станцыі Аягуз Туркестана-Сібірскай чыгункі, прыхапіўшы буйную суму грошай, уцёк ад крымінальнага праследавання і з фіктыўнымі дакументамі ўладкаваўся следчым у Варонежскай пракуратуры...»

Грэфе кіўнуў галавой, падумаўшы сам сабе: «На жаль, зараз рускія ўжо сталі не такія даверлівыя».

— «У лістападзе сорак першага года,— працягваў чытаць зондэрфюрар,— быў прызваны ў армію, дзе быў прызначаны камандзірам узвода, а потым камандзі-

рам роты. У маі сорак другога года перайшоў на бок нямецкай арміі. У часе допыту добраахвотна паведаміў нямецкаму камандаванню шэраг звестак, якія мелі важнае ваеннае і палітычнае значэнне. У справе маецца пісьмовая заява Палітава, у якой ён абавязваецца служыць нямецкаму камандаванню верай і праўдай і просіць прызначыць яго на пасаду бургамістра аднаго з акупаваных савецкіх гарадоў. У сорак трэцім годзе Палітаў накіроўваецца ў Аўстрыю, у школу па падрыхтоўцы агентаў германскай разведкі. У гэты ж час ён пачынае цесна супрацоўнічаць з гестапа. У перыяд вучобы дапамагае супрацоўнікам палітычнай паліцыі абясшкодзіць групу змоўшчыкаў (у справе маецца данясенне Палітава, у якім ён указвае імёны кіраўнікоў групы, а таксама асоб, якія падвяргаліся іх апрацоўцы). Дадатнымі якасцямі Палітава, якія могуць быць выкарыстаны ў перспектыве, варта лічыць: знаходлівасць, уменне арыентавацца ў складанай абстаноўцы, нянавісць да савецкага ладу, боязь пакарання за зробленыя перад Савецкай дзяржавай злачынствы. Адмоўнымі якасцямі з'яўляюцца: сквапнасць, кар'ерызм, поўная беспрынцыповасць».

Пры гэтых словах Грэфе зноў кіўнуў галавой і зноў падумаў: «Для нас цяпер гэта хутчэй дадатныя якасці».

Роўна а дзевятнаццатай гадзіне па берлінскім часе Грэфе далажылі, што прыбыў Палітаў і чакае прыёму. Гэта спадабалася Грэфе. Ён любіў дысцыплінаваных людзей.

Нейкі час Грэфе моўчкі разглядаў Палітава, потым падышоў да стала, сеў у крэсла і паказаў Палітаву на крэсла насупраць. Гаворка пачалася без прадмовы, бо Палітаў аб усім быў інфармаваны загадзя. Заставалася ўдакладніць толькі некаторыя дэталі.

— Мы б хацелі ведаць, пан Палітаў,— пачаў Грэфе,— у якой галіне разведкі вы хацелі б атрымаць заданне: у эканамічнай, ваеннай ці палітычнай. Пытанне сур'ёзнае, і вы можаце не спяшацца з адказам.

— Пан оберштурмбанфюрар, я меркаваў, што гэта будзе вас цікавіць,— адказаў Палітаў.— Я ўжо ўсё абдумаў і таму прасіў бы даць мне заданне ў галіне палітычнай разведкі.

Грэфе кіўнуў галавою:

— У такім разе я хацеў бы ведаць, што вы разумееце пад палітычнай разведкай?

— Збор звестак палітычнага характару, вывучэнне настрою насельніцтва, палітычных сітуацый,— пачаў пералічваць Палітаў.

Грэфе ўзняў руку.

— Не, пан Палітаў. Усё куды больш канкрэтна і цяжэй,— не даслухаўшы свайго субяседніка, прагаварыў ён.— Для нас сёння палітычная разведка азначае фізічнае знішчэнне ваенных і палітычных кіраўнікоў працоўніка. У гэтых адносінах, пан Палітаў, нам асабліва прыемна было даведацца пра тое, што вы маеце сувязь з некаторымі асобамі, якія заняты абслугоўваннем Стаўкі Савецкага Вярхоўнага камандавання.

— Так точна. Маю, гер оберштурмбанфюрар,— паспешліва, не міргнуўшы вокам, пацвердзіў Палітаў, хоць гэтыя сувязі былі яўнай містыфікацыяй, разлічанай на тое, каб набіць сабе цану.





**Агент нямецка-фашысцкай разведкі Палітаў (Таўрын) і яго памочніца Шылава перад адпраўкай у савецкі тыл.**

Грэфе састроіў на сваім твары нешта падобнае на ўсмешку.

— Мы цалкам давяраем вам, пан Палітаў, і ўскладаем на вас вялікія надзеі,— прадаўжаў Грэфе.— У нас з вамі адна мэта — барацьба з камунізмам, і ў гэтую барацьбу вам даецца магчымасць унесці свой дастойны ўклад. У адпаведнасці з планам намечанай аперацыі вы будзеце перакінуты на самалёце ў раён Падмаскоўя. Знайдзіце там кватэру, прапішацеся, вывучыце маршруты руху машын кіраўнікоў Стаўкі Вярхоўнага камандавання, а тады... самі разумееце, што тады...

Сказаўшы гэта, Грэфе пільна паглядзеў у вочы субяседніку. Палітаў маўчаў.

— Канечне, гэта толькі агульны план. Ён складаецца з тысячы дэталяў,— растлумачыў Грэфе.— Вывучэнне іх будзе праводзіцца з усёй дасканаласцю. Вы ні ў чым не будзеце мець нястачы. Вас забяспечаць усім неабходным: дакументамі, грашыма, сродкамі сувязі, самай дасканалай, новай, асоба сакрэтнай зброяй, але ў канчатковым выніку ўсё закончыцца стрэлам. Вы здолееце яго зрабіць? — прадаўжаючы глядзець у вочы Палітаву, спытаў Грэфе.

— Здолею,— адказаў Палітаў, вытрымаўшы позірк эсэсаўца.

— У такім разе для канкрэтнай падрыхтоўкі мы накіруем вас у спецыяльную каманду разведоргана «Цэпелін». Вам давядзецца ехаць у горад Пскоў. Жадаю ўдачы, пан Палітаў,— закончыў гутарку Грэфе.— Праз нейкі час мы зноў сустрэнемся з вамі і яшчэ пра многае пагаворым.

## 2

Новы шэф Палітава — мацёры разведчык штурмбанфюрар СС Краўс — адразу ж перавёў Палітава на легальнае становішча. Палітаў быў прыкамандзіраваны ў якасці інжынера на адзін з заводаў і, як прыватная асоба, зняў кватэру ў горадзе. Увесь свой час ён, як правіла, праводзіў у кампаніі Краўса. Штурмбанфюрар атрымаў ад Грэфе спецыяльную праграму для падрыхтоўкі Палітава і сістэматычна, з дня ў дзень, працаваў з ім.

Падрыхтоўка вялася ў некалькіх напрамках: стральба з асабістай зброі, ваджэнне матацыкла і аўтамабіля. У той жа час Краўс уважліва сачыў за тым, як праходзіць жыццё яго вучня.

— Не трэба быць такім змрочным, пан Палітаў,— неяк сказаў ён яму.— Усё ідзе добра. У Берліне задаволены вамі. Толькі цікавей вы скарыстоўвайце свой вольны час.

На гэты раз Палітаў не адразу зразумеў, чаго ад яго хочуць.

— Чалавек не павінен быць адзінокім. Гэта ненармальна,— фантазіраваў Краўс.— Чаму б вам не займецца сям'ю? «Ці да гэтага тут?» — хацеў быў адказаць шэфу Палітаў, але, ведаючы з вопыту, што той нічога не гаворыць дарэмна, ліслява згадзіўся:

— Шлюб вазьму ахвотна. З кім загадаеце?

— Але чаму ж так? — састроіў пакрыўджаную грымасу Краўс.— Выберыце сабе сяброўку сэрца. Мы пастараемся дапамагчы вам забяспечыць будучую жонку.

Крыху памарудзіўшы, Палітаў ліслівa прамовіў:

— Калі дазволіце, гер штурмбанфюрар, ёсць тут адна знаёмая, якая працуе ў швейнай майстэрні, што абслугоўвае штаб часцей германскай арміі, які размяшчаецца ў Пскове, толькі я яшчэ з ёю не вельмі добра знаёмы.

— О, гэта, калі я не памыляюся, фройлен Шылава,— задаволена заўважыў Краўс, як бы падкрэсліваючы гэтым, што ні адна дэталь жыцця Палітава не магла схавацца ад увагі начальства.— Наколькі нам вядома,— прадаўжаў ён,— гэта дачка асобы, асуджанай камуністамі за, як яны называюць, антысавецкую дзейнасць. У вас ёсць густ. Гэта вельмі добра,— сказаў Краўс.— Лічыце, што выбар ваш ухвалены. Спадзяюся, вы не будзеце пярэчыць, калі ваша будучая жонка асвоіць спецыяльнасць радысткі?

У самым пачатку лістапада Палітаў аформіў свой шлюб, а крыху пазней кіраўніцтва галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі зноў выклікала яго ў Берлін.

## 3

У гэты час начальнікам усходняга аддзела замест Грэфе быў прызначаны Хенгельхаўпт. Новы шэф быў больш гаваркі, чым Грэфе. У час першай жа сустрэчы ён запрасіў Палітава ў рэстаран і правёў з ім увесь вечар. Гутарка паміж імі была вольная, але ў даволі канкрэтным кірунку. Хенгельхаўпт імкнуўся пераканаць Палітава ў тым, што няўдачы немцаў на савецка-германскім фронце — гэта няўдачы часовыя, што райх не вычарпаў яшчэ сваіх рэсурсаў і не сёння-заўтра ў дзеянне ўступіць новая, небывалая дагэтуль па сваёй моцы зброя, якая не толькі зраўняе сілы ваюючых бакоў, але і спыніць наступленне рускіх.

Гэтая сустрэча мела і яшчэ адну, бадай, самую важную мэту: новы шэф усходняга аддзела хацеў пераканацца асабіста ў адданасці Палітава Трэцяму райху. Увесь вечар Хенгельхаўпт усяляк праверыў Палітава. Час ад часу налівaў у келіх субяседніка то каньяк, то рускую гарэлку, не груба, але настойліва выклікаў яго на шчырасць, задаваў пытанні, зноў і зноў прымушаў расказваць пра сябе. Застаўся задаволены Палітавым і яго настроем.

Познім вечарам, калі на дэсерт былі пададзены шампанскае і садавіна, Хен-

гельхаўпт пазнаёміў Палітава з праграмай знаходжання ў Берліне.

— Вы ўбачыце тут шмат цікавага,— сказаў ён.— Вы пазнаёміцеся са зброяй, якая спецыяльна зроблена па нашым заказе для вас, а таксама сустрэнецеся з адным з самых славутых людзей райха.

Палітаў адчуваў, што немцы давяраюць яму. Аднак яшчэ не было зручнага выпадку, каб упэўніцца ў тым, што ў ім зацікаўлена галоўнае імперскае ўпраўленне бяспекі.

— Абяцаю вам таксама,— прадаўжаў Хенгельхаўпт,— што вельмі хутка мы запросім сюды і вашу жонку. Спадзяюся, аб Берліне ў вас застанецца прыемны ўспамін.

Палітаў і гэтую заяву прыняў як яшчэ адзін доказ таго, што ў ім, а яшчэ больш у заданні, якое яму даручалася, немцы зацікаўлены самым сур'ёзным чынам.

На наступны дзень разам з Краўсам і іншымі работнікамі аддзела, якіх Палітаў ужо добра ведаў, ён паехаў на палігон, размешчаны ў прыгарадзе Берліна. Бетонная стужка дарогі доўга ныряла пад мастамі і пуцеправодамі, пакуль не схавалася ў густых зарасніках акацый. На ўсім шляху машыну ні разу не спынілі, хоць у прыдарожных кустах Палітаў заўважаў патрулёў і вартавыя пасты эсэсаўцаў.

На палігоне прыбыўшых сустрэў высокі маёр з мясістым носам у форме тэхнічных войск. Ён правёў іх у доўгі аднапавярховы будынак з вокнамі, закладзенымі цэглай. Тут Палітаву спачатку на словах, а затым і ў арыгінале паказалі тое, што, на думку кіраўнікоў галоўнага ўпраўлення, павінна было найлепшым чынам забяспечыць выкананне задання.

— «Панцэркнаке»,— назваў маёр гэтую невялікую прыладу, якая складалася з кароткай трубы дыяметрам міліметраў шэсцьдзесят, рамянёў, правадоў і кнопачнага ўключальніка.— Выключная зброя. Стральба вядзецца рэактыўным снарадам кумулятыўнага дзеяння. Мае дастатковую дальнасць палёту снарада і прабіўную здольнасць на ўзроўні саракаміліметровай брані. Стрэл бясшумны, з рукава паліто стралка,— даваў тлумачэнне маёр.

— Гэта будзе надзейная зброя,— пацвердзіў Краўс і любоўна пагладзіў рукою невялікія, чорныя, падобныя на бутэлькі снарады «Панцэркнаке».

— Калі можна будзе выпрабаваць яе? — спытаўся Палітаў.

— Вельмі хутка,— запэўніў маёр.— Мы працуем па плане. Усё будзе зроблена ў тэрмін.

Увечары Палітава зноў прымаў Хенгельхаўпт, але на гэты раз ужо на сваёй кватэры. Утульны, аформлены ў паляўнічым стылі «бярлог» шэфа зрабіў на Палітава ашаламляльнае ўражанне. Шэф паказаў Палітаву сабраную ім калекцыю стрэльбаў і намякнуў на тое, што пасля выканання задання і вяртання ў Берлін Палітаў зможа разлічваць на такія ж апартаменты.

Праз тры дні ў Берлін прыехала і Шылава. Паколькі Палітаў у гэты час быў у ад'ездзе, яе пасялілі ў пансіянаце на Кюрферстэндам, 55.

Палітаў пабываў і на авіяцыйным заводзе, дзе канструктары рыхтавалі для маючай адбыцца аперацыі спецыяльна сканструяваны самалёт «Арада-332».

Па плане кіраўніцтва галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі, гэта павінен быў быць унікальны дэсантны манаплан, які валодае высокай хуткасцю і вялікай вышынёй палёту. Самалёт быў аснашчаны навейшымі навігацыйнымі прыборамі, дзякуючы чаму ён мог свабодна лятаць як днём, так і ноччу, а таксама рабіць пасадкі і на непадрыхтаваную пляцоўку абмежаванага памеру. Апошняе дасягалася спецыяльнай канструкцыяй шасі, зманціраванага з дваццаці гутаперчавых колаў. Самалёт практычна быў гатовы, але ў самы апошні момант Палітаў раптам заявіў кіраўніцтву, што яму патрэбны яшчэ матацыкл, каб пасля прызямлення самалёта ён мог адразу ж пакінуць раён пасадкі. Канструктары павінны былі сканструяваць яшчэ і спецыяльны трап, які ўбіраўся ў фюзеляж самалёта, па ім Палітаў і яго спадарожніца змаглі б лёгка выехаць з самалёта проста на матацыкле, як толькі самалёт прызямліцца.

Палітаў застаўся задаволены аглядам «Арада». Кіраўніцтва «Цэпеліна» — таксама.

Прайшло яшчэ некалькі дзён, і Хенгельхаўпт паведаміў Палітаву, што яго запрашае адна вельмі высокапастаўленая асоба.

Агледзеўшы самалёт, Палітаў канчаткова пераканаўся ў тым, што яго акцыі ўзняліся вельмі высока, але ён зараз губляўся ў здагадках: хто ж тая ўплывовая асоба? Якое б цеснае ні было супрацоўніцтва немцаў з людзьмі, якія перайшлі на іх бок, яно заўсёды мела пэўную мяжу, за якую Палітаў і да яго падобныя проста не дапускаліся. Гэта праяўлялася ў многім, у тым ліку і ў фанабэрлівасці старшых начальнікаў. Урэшце Палітаў рашыў, што яго прыме хто-небудзь з кіраўнікоў ваеннага абвера, але сапраўднасць пераўзышла ўсе яго чаканні. У кабінет на Патсдамштрасе, 28, яго запрасіў не хто-небудзь, а давераны самога фюрара — штурмбанфюрар СС Ота Скарцэні. З таго часу, як гэты вопытны і нахабны дыверсант украў Мусаліні, яго імя не сыходзіла са старонак газет і часопісаў. З ім вельмі ласкавы быў нават сам фюрар. Гэта быў герой дня нумар адзін. І гэты чалавек, дзялок ад разведкі, пажадаў сустрэцца з Палітавым.

Размова атрымалася жывая. Скарцэні ахвотна дзяліўся з Палітавым сваім вопытам, тлумачыў, якімі асабістымі якасцямі павінен валодаць, на яго думку, тэрарыст і як яму патрэбна псіхалагічна рыхтаваць сябе да выканання тэрарыстычнага акта. Пры гэтым Скарцэні ўвесь час падкрэсліваў, што калі Палітаў хоча застацца жывы, ён павінен дзейнічаць вельмі рашуча і смела і не баяцца смерці, бо малейшая няўпэўненасць і баязлівасць загубяць яго. У пацвярджэнне Скарцэні расказаў выпадак з уласнай практыкі.

Адправіўшыся красці Мусаліні, Скарцэні пераскочыў цераз агароджу замка і ўбачыў за два крокі ад сябе карабінера, які стаяў на варце.

— Калі б я прамарудзіў тады хаця б адну секунду,— прыгадаў Скарцэні,— то напэўна загінуў бы, але я без ваганняў прыкончыў карабінера, а потым выканаў заданне і, як бачыце, застаўся жывы.

Перапыніўшы на гэтым свой расказ, Скарцэні пачаў роспыты сам. Яго цікавіла, што ведае Палітаў пра Маскву, пра жыццё савецкіх камуністаў, якія канкрэтна сувязі ў яго наладжаны з работнікамі, што абслугоўваюць Стаўку, як Палітаў збіраецца выкарыстаць сваю зброю, якую ролю адводзіць ён у маючай адбыцца аперацыі Шылавай. Закончыў размову Скарцэні нечаканым пытаннем:

— Як вы лічыце, пан Палітаў, ці можна ў СССР правесці такую аперацыю, якую я так бліскуча правёў у Італіі?

Нахабны, самаўпэўнены тон, якім вёў гутарку Скарцэні, не спадабаўся Палітаву. Побач з гэтым мацёрым бандытам Палітаў выглядаў шчанюком. Каб хоць як-небудзь узняць свой прэстыж у вачах прысутных, Палітаў адважыўся на дзёрзкасць:

— СССР — гэта не Італія, пан штурмбанфюрар,— не вельмі гучна, але даволі цвёрда адказаў ён,— і зрабіць там такое, што вы зрабілі ў Італіі, значна цяжэй.

10 студзеня 1944 года кіраўніцтва 6-га ўпраўлення рашыла перанесці месца падрыхтоўкі Палітава з Пскова ў Рыгу. У сувязі з гэтым 12 студзеня 1944 года Палітаў пакінуў Пскоў. Афіцэр СС, які суправаджаў Палітава, уладкаваў яго ў Рызе ў гасцініцы «Эксельсіёр» і прапанаваў адміністрацыі замацаваць за ім лепшы нумар. Апрача таго, Палітаву была прадастаўлена кватэра ў адным з дачных прыгарадаў Рыгі.

Шылава яшчэ некаторы час знаходзілася ў Берліне; яна вучылася працаваць на рацыі, практыкавалася абыходзіцца з апаратурай, зашыфроўваць і расшыфроўваць дакументы, складаць коды табліц, данясенні, схемы.

Закончыўшы вучобу, яна пераехала ў Рыгу і пасялілася разам з Палітавым.

(Заканчэнне ў наступным нумары.)

# АФРЫКАНСКІЯ КАРАЛЕВЫ

«Афрыканцы ніколі не мелі сваёй дзяржаўнасці»,— заяўляла неаднойчы буржуазная прапаганда з мэтай апраўдаць панаванне каланізатараў у Афрыцы. Але гэты довад даўно абвергнуты гістарычнай навукай.

Яшчэ задоўга да таго, калі еўрапейцы дабраліся да афрыканскага кантынента, тут існавалі шматлікія дзяржавы, якія на той перыяд дасягнулі высокага ўзроўню развіцця.

Якое ж месца ў тых афрыканскіх дзяржавах займала жанчына на працягу шматвяковай, поўнай трагізму гісторыі кантынента? Ці была яна толькі рабыняй, маці сыноў і дачок, за якімі цэлыя чатыры стагоддзі палявалі, нібы за звярамі, гандляры рабамі, вывозячы на рынкі «цывілізаванага свету» нявольнікаў?

Звесткі, якія дайшлі да нас, гістарычныя дакументы, запісы місіянераў і вандроўнікаў сведчаць пра тое, што жанчыны ў афрыканскіх дзяржавах адыгрывалі значную ролю, што з ліку жанчын тут выходзілі мудрыя дзяржаўныя дзеячы, таленавітыя і харобрыя военачальнікі, смелыя барацьбіты за свабоду сваёй бацькаўшчыны.

●

Перанясёмся ў думках на канец пятнаццатага стагоддзя, у той раён Афрыкі, дзе цяпер размешчана партугальская калонія Ангола, а тады — аднайменная раннефеадальная дзяржава, якая атрымала сваю назву ад правячай дынастыі Нгола.

Ужо тады партугальцы захапілі тут плацдарм на ўзбярэжжы і пачалі пранікаць у глыбінныя раёны краіны. Сотні тысяч вывезеных рабоў — такі быў страшны падрахунак першых кантактаў Анголы, як і іншых афрыканскіх краін, з Еўропай. Але і гандаль рабамі не задавальняў партугальцаў, якія прагнулі захапіць усю краіну з яе багатымі залежамі срэбра.

Як вядома, жыхары Анголы адказалі на нашэсце партугальцаў масавым паўстаннем, але пацярпелі паражэнне. Да канца шаснаццатага стагоддзя каланізатары захапілі ўсю краіну.

З новай сілай успыхнуў народны рух у семнаццатым стагоддзі, калі яго ўзначаліла каралева Нзінга Мбандзі Нгола — жанчына вялікага розуму, з вольналюбівым характарам.

Вось што пісаў пра Нзінгу італьянскі місіянер Дж. Каваці: «Сярод усіх неграў, з якімі мне даводзілася размаўляць, я не сустрэў ніводнага, які высакароднасцю душы, мудрасцю сваёй пераўзыходзіў бы гэтую жанчыну».

Нзінга выявіла таксама не абы-якія дыпламатычныя здольнасці яшчэ тады, калі яе брат, узначаліўшы ўрад краіны, даручыў ёй весці перагаворы з партугальцамі. Яна з вялікай годнасцю дамагалася міру, рашуча адмовіўшыся плаціць Партугаліі даніну. «Перад вамі,— гаварыла Нзінга партугальцам,— не скораны народ, а народ, які прапануе мір і ўзаемную дружбу».

Пасля смерці брата Нзінга адхіліла ўсіх, хто згодны быў скарыцца партугальцам, і рашуча стала на шлях узброенай барацьбы з рабаўнікамі. Яна адмовілася ад кабальных умоў каланізатараў, і ўсе спробы дыпламатычным шляхам уплываць на «чорную каралеву» закончваліся правалам.

Тады з Партугаліі да Анголы рушыла вялікая вайсковая экспедыцыя. У баях з афрыканцамі партугальцы не раз спазнавалі паражэнні. Імя Нзінгі наводзіла на іх жах. Але сілы былі надта ж няроўныя. І, умела манеўруючы, Нзінга вымушана была са сваімі атрадамі адступіць углыб краіны.

Узброеная барацьба народа Анголы пад кіраўніцтвам Нзінгі працягвалася аж тры дзесяцігоддзі. Каланізатарау удалося нават на той час выгнаць з краіны. Толькі пасля прыбыцця вялікага партугальскага флоту Нзінга вымушана была скласці зброю. Але і пасля таго яна не згадзілася прызнаць васальную залежнасць ад Лісабона.

У Анголе і дасюль жыве памяць пра бясстрашную каралеву. Нездарма яе празвалі афрыканскай Жанай д'Арк.

●

Залаты бераг у Заходняй Афрыцы (цяпер рэспубліка Гана). Безліч каланізатараў бачыла гэты край — сюды пранікалі французы, партугальцы, галандцы, немцы, датчане, англічане. Адсюль на працягу стагоддзяў еўрапейцы вывозілі рабоў, золата, каштоўныя гатункі дрэў, слановую косць. Ішла ўпартая барацьба сапернікаў. На пачатку дзевятнаццатага стагоддзя тут асталяваліся англічане. Форты, якія збудавалі яны яшчэ ў пятнаццатым стагоддзі, цяпер сталі апорнымі пунктамі для прасоўвання ў глыб краіны. Аднак на шляху англічан сталі не толькі дрымучыя лясы з неспрыяльным кліматам, але і магутная дзяржава Ашанці, якая з даўніх часоў мела высокі ўзровень развіцця.

Восемдзесят гадоў з перапынкамі працягваліся англа-ашанційскія войны. Узброеныя пераважна лукамі і стрэламі, маючы толькі ўстарэлыя ружжы, воіны Ашанці адважна біліся з каланізатарамі. У чатырох войнах (а ўсяго іх было сем) англічане зведалі паражэнні. Справу вырашыла агнястрэльная зброя англічан. У 1895 годзе яны захапілі сталіцу Ашанці Кумасі. Тут зберагаўся аздоблены залатам трон з чорнага дрэва. Для народаў Ашанці ён быў і застаецца як святыня.

У 1900 годзе ў Кумасі прыбыў англійскі губернатар Ходжсан. Ён склікаў да сябе правадыроў плямён і стаў вымагаць, каб яны аддалі трон. Правадыры адказалі маўчаннем, і яно было сігналам да новага народнага паўстання. У адным з баёў быў узяты ў палон асантэхене — кіраўнік краіны.

У той крытычны для краіны момант армію Ашанці ўзначаліла каралева-маці Яаа Асанцьева. Паказваючы прыклад гераізму і храбрасці, яна дала рашучы адпор англічанам. Узначаленае ёю дваццацітысячнае войска воінаў-ашанційцаў аблажыла форт, дзе схаваўся губернатар. На дапамогу яму было кінута падмацаванне, але яно трапіла ў пастку.

«Англійская армія церпіць паражэнне ад арміі, якую ўзначальвае жанчына!» Гэта пагражала прэстыжу Англіі нечуванай ганьбай. Перакінутыя з Англіі вялікія вайсковыя сілы прывялі да паражэння Ашанці. Яаа Асанцьеву ўзялі ў палон і саслалі на Сейшэльскія астравы. Але легенды пра храбрую каралеву пераходзілі з пакалення ў пакаленне.

«Яаа Асанцьева — жанчына-воін,— спяваецца ў адной песні,— ты са стрэльбаю і мячом у руках адважна змагалася і абараняла сваю дзяржаву».

●

Расказваючы пра выдатных жанчын Афрыкі, нельга не згадаць і пра каралеў Мадагаскара, якія зарэкамендавалі сябе дасведчанымі і дальнабачнымі кіраўнікамі дзяржавы.

Пра таямнічы востраў Мадагаскар яшчэ ў трынаццатым стагоддзі пісаў Марка Пола. А ў чатырнаццатым стагоддзі ў цэнтральнай частцы вострава ўзнікла моцная цэнтралізаваная дзяржава Імерына, якая ў сваім развіцці прайшла перыяды ўздыму і заняпаду. З пачатку дзевятнаццатага стагоддзя дзяржава Імерына стала называцца каралеўствам Мадагаскар.

У паспяховым развіцці эканомікі і культуры Мадагаскара немалаважную ролю адыгралі каралевы Ранавалуна I, II і III, асабліва Ранавалуна I, якая кіравала краінай тры дзесяцігоддзі запар з 1828 па 1861 год.

У сваёй фундаментальнай працы «Мадагаскар. Гісторыя малагасійскай нацыі» вядомы палітычны дзеяч Малагасійскай Рэспублікі Р. Рабеманадзара так характарызуе Ранавалуну I: «Што б ні пісалі пра Ранавалуну, яе праўленне было вырашальным перыядам у гісторыі малагасійскай нацыі. У неспрыяльных умовах Ранавалуна I змагла прывесці ў рух патэнцыяльныя сілы нацыі, якія дагэтуль драмалі... Яна змагла дабіцца належнага месца для Мадагаскара сярод вольных і незалежных нацый».

Ранавалуна I прагла ліквідаваць залежнасць краіны ад іншаземных дзяржаў у эканамічных адносінах, забяспечыць раслрацоўку яе нетраў.

Ва ўмовах барацьбы за незалежнасць яна змагла ўзняць таксама і культурны ўзровень народа. Цікава адзначыць, што яшчэ ў 1876 годзе (а гэта на шэсць гадоў раней, чым у Францыі), на востраве было ўведзена бясплатнае навучанне дзяцей з васьмі да шаснаццацігадовага ўзросту.

Ранавалуна I надавала вялікую ўвагу арміі, мадэрнізуючы яе ўзбраенне. «У якім бы становішчы ні была наша краіна, ці пагражае ёй нейкая небяспека, ці не,— напісала яна ў сваім палітычным запавеце,— усё роўна нельга ісці на ліквідацыю арміі. Ніхто з кіраўнікоў нашай дзяржавы не павінен дазволіць заваёць нас у тую пастку. Армія ёсць надзейная гарантыя бяспекі і сілы нашай краіны».

Свае палітычныя здольнасці Ранавалуна I не раз выяўляла ў адносінах з Англіяй і Францыяй. Пазіцыя яе заўсёды была цвёрдай і прамалінейнай. А калі ў 1845 годзе англа-французскі флот напаў на Мадагаскар, малагасійскае войска паспяхова адбіла дэсант іншаземцаў.

У перыяд кіравання прадаўжальніц Ранавалуны I Мадагаскар працягваў ісці шляхам самастойнага эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця. Знешняя палітыка Ранавалуны II і Ранавалуны III таксама вызначыліся прагай зберагчы незалежнасць сваёй краіны. Цікава ў гэтых адносінах нагадаць іх выказванні.

«Калі хто-небудзь прыйдзе сюды,— гаварыла Ранавалуна II,— і захоча нейкім чынам захапіць нашу зямлю, я не згаджуся ніколі, каб аддаць яе хаця з рысавае зернятка».

Прыкладна так гаварыла і Ранавалуна III: «Калі хто-небудзь пажадае адабраць у нас хаця б невялічкі шматок нашай зямлі, я абараню сваю бацькаўшчыну так, як рабіў бы гэта мужчына».

●

З крахам каланіялізму на афрыканскім кантыненце пачаўся новы перыяд у жыцці афрыканскіх жанчын. Сярод іх цяпер ёсць нямала палітычных дзеячаў, міністраў, дзеячаў культуры. А ў ПАР, Радэзіі, Анголе, Мазамбіку, Гвінеі (Бісау) яны змагаюцца са зброяй у руках за свабоду сваіх краін. Іх натхняе на гэтую барацьбу памяць пра сваіх адважных папярэдніц.

# ПАДВОДНЫ ЧОВЕН ЧАРНОЎСКАГА

Падводнае плаванне ведалі яшчэ далёкія грэкі. Праўда, іх чаўны бралі толькі аднаго чалавека і пад вадою трымаліся нядоўга. Падводныя чаўны мелі і запарожскія казакі. Яны выкарыстоўвалі іх у бітвах з турэцкім флотам.

Лічаць, што першы падводны човен збудаваў галандскі механік Карнелі Дрэбель. Гэта адбылося ў Англіі ў 1620 годзе. Човен браў на борт 15 чалавек. Тагачасная хроніка сцвярджае, што ў выпрабаванні таго чоўна ўдзельнічаў англійскі кароль Якаў I. Цікава, што для паглынання скарыстанага паветра Дрэбель атрымаў спецыяльную вадкасць, рацэпт якое застаўся невядомы.

У 1653 годзе ў Ратардаме збудавалі новы падводны човен, памерам 21,5×2,4×3,6 м. Значна пазней, у 1770 годзе, падводны човен пабудаваў Дэй. Выпрабоўваючы яго, канструктар загінуў. А праз шэсць гадоў амерыканец Бюшнел збудаваў падводны човен спецыяльна для атакі на марскія судны. Тут ужо былі тыя элементы, якія і пазней выкарыстоўваліся пры будаўніцтве падводных лодак.

Мінула дваццаць гадоў, і француз Кастэра падаў свайму ўраду праект чоўна, з дапамогай якога можна будзе знішчаць англійскія караблі. У 1800 годзе гэты праект удасканаліў славуты вынаходнік Роберт Фултон і паказаў яго Напалеону. Човен збудавалі і выпрабавалі. З трыма пасажырамі на борце ён прабыў пад вадою 20 хвілін і прайшоў значную адлегласць. Фултон не спыніўся на гэтым. Праз год ён сканструяваў «Наўцілус» і з чатырма матросамі прабыў пад вадою каля гадзіны, праплыўшы паўмілі. Аднак Напалеон не ўхваліў вынаходства, бачачы ў гэтым толькі нязначную выдумку канструктара. У 1810 годзе французы браты Куазін пабудавалі падводны човен з гарызантальным і вертыкальным вінтамі, мог ён прыводзіцца ў рух і вёсламі. У чаўне змяшчаліся два рэзервуары са сціснутым паветрам. Але недасканалая механізацыя часта падводзіла, і човен урэшце патануў.

Цікава, што яшчэ ў 1820 годзе, калі Напалеон быў у выгнанні на в. Святой Алены, між французаў разнеслася чутка, якую пусціў амерыканскі кантрабандыст Джонсан, што Напалеона можна было б выкрасці на падводным чоўне. Пачалі нават збіраць сродкі. Але Напалеон не дачакаўся сваіх вызваліцеляў і неўзабаве памёр.

Спробы збудаваць падводны човен мелі месца і ў Расіі. Вельмі цікавая гісторыя першага праекта падводнага чоўна, аўтарам якога быў беларус Казімір Чарноўскі — вязень Петрапаўлаўскай і Шлісельбургскай крэпасцяў.

19 ліпеня 1829 года колішні мінскі дваранін Чарноўскі, знаходзячыся ў зняволенні, падае прашэнне на імя цара Мікалая I, у якім зазначае, што ён сканструяваў у 1825 годзе падводны човен і працуе над яго ўдасканаленнем. Зняволены вынаходнік прасіў дазволу прадоўжыць работу і запэўніў, што для гэтага яму досыць двух месяцаў.

Аўтар праекта ўказваў на важнае значэнне свайго вынаходства як для вайсковай справы, так і для прамысловасці. З дапамогай падводнага чоўна можна было б збіраць на марскім дне каштоўныя камені, знішчаць варожыя караблі, высаджваць дэсант. Чарноўскі пісаў, што яму не трэба ні грошай, ні волі; найбольшае яго жаданне — ажыццявіць свой праект, каб прынесці карысць Айчыне.

Неўзабаве вязню дазволілі падаць пісьмовы даклад праекта, што ён і зрабіў, напісаўшы яго на 64 старонках.

Праект меў тры часткі. У першай аўтар апісаў падводны човен. У другой — вялікі падводны карабель з гарматамі. А ў трэцяй даводзіў перавагу падводных чаўноў над надводнымі караблямі.

Падводны човен Чарноўскага быў дзесяціметровай даўжыні і каля чатырох метраў у шырыню. Прыводзіўся ў рух веслярамі. Вёслы нагадвалі парасонікі, бо адкрываліся і закрываліся. Апусканне і пад'ём на паверхню праводзіліся з дапамогай 28 скураных мяшкоў. Калі вада запаўняла мяшкі, човен апускаўся, калі ж ваду адкачвалі — ён падымаўся. Ветразі давалі магчымасць плаваць і на паверхні мора. На карме ўстанаўлівалася мачта з падзорнай трубою.

Дэталёва апісвалася ўнутраная будова карабля, у тым ліку месца для весляроў, каюты адпачынку матросаў, камеры для правіянту, рэзервуар для сціснутага паветра. Чарноўскі таксама апісаў «апарат», з дапамогай якога можна было б знішчаць варожыя караблі (выбухам пораху), а таксама спецыяльныя ружжы для стральбы пад вадой. Аўтар праекта не забыў і пра вадалазныя касцюмы — яны нагадвалі сучасныя.



Праект Чарноўскага разглядаў генерал корпуса шляхоў зносін Базен. Генерал, які быў знаёмы са спробамі збудаваць падводны човен у Англіі, Амерыцы, Францыі, зрабіў шэраг крытычных заўваг і ў дакладной запісцы на імя цара адзначыў, што «вынаходства робіць гонар яго творцу і дае падставу гаварыць, што яго сумленнасць і практычныя веды маглі б быць карыснымі пры будучых доследах і праявядзенні значных эксперыментаў па ўвядзенні і ўдасканаленні падводнага суднаплавання ў Расійскай імперыі... Разважаючы розных частак чоўна паказвае, што вынаходнік мае практычныя веды ў марской справе». Але царскі генерал нават не пацікавіўся, чаму вынаходнік у турме. Ён толькі пажадаў мець дэталёвы праект чоўна (план, чарцяжы асобных частак і механізмаў).

Здавалася, што дадатны водгук на вынаходства зацікавіць цара. Ды дзе там! Чарноўскага перавялі з Петрапаўлаўскай крэпасці ў Шлісельбургскую, дзе ўмовы былі куды горшыя. Новы камендант адабраў у вязня паперу і чарцёжныя прылады, бо іх выдавалі толькі з асабістага дазволу цара.

Мінула дзевяць месяцаў, і ваенны міністр прыслаў запытанне: у якім стане праект Чарноўскага? Аўтар у той час не меў ні аркуша паперы, ні алоўка. І толькі ўвосень 1830 года пасля доўгай канцылярскай цяганіны яму выдалі паперу і чарцёжныя прылады. Ды і ўмовы былі немагчымыя: ні кніг, ні даведнікаў, ні з кім параіцца, пракансультавацца. Бяздушнасць і казёншчына. Улетку 1831 года даведзены да адчаю вынаходнік вырашыў пакончыць з сабою: ён параніў нажом шыю і доўгі час праляжаў у ложку.

11 чэрвеня 1832 года ваенны міністр зноў запытваў: як працуе Чарноўскі? Камендант крэпасці адказваў, што аўтар праекта, які спачатку ўзяўся за работу з запалам, «цяпер астыў, працуе неахвотна, часта задумваецца». Відавочна, Чарноўскі ўжо быў псіхічна надламаны.

Праз колькі месяцаў зноў прыйшло запытанне. Камендант крэпасці заявіў, што прылады і паперу Чарноўскаму ён не даў, але... «пераконваў яго працаваць». З гэтых радкоў паўстае трагедыя чалавека, творчы запал і энергію якога задушылі турэмныя муры. Чарноўскага ахапіла апатыя, абыякавасць. Аднак у канцы 1832 года ён падаў частку чарцяжоў і адказ на запытанне царскага генерала. Гэтым разам крытыка Базена была больш рэзкай. Генерал выявіў нямала хібаў, асабліва ў сістэме забеспячэння паветра, у апараце апускання чоўна ў ваду.

Далейшы лёс вынаходніка невядомы. Да 1834 года яго прозвішча значылася ў спісах вязняў Шлісельбургскай крэпасці, якія штомесяц пераглядаў цар. Казімір Чарноўскі ці памёр тады, ці яго перавезлі ў іншую крэпасць. Выпускалі на волю са Шлісельбургскай крэпасці вельмі рэдка.

Пабудовай падводнага чоўна ў 1835—1838 гадах займаўся інжынер Шыльдар. Яго човен быў абабіты меддзю, меў адну гармату і паравы рухавік. Ці выкарыстаў Шыльдар што-небудзь з праекта Чарноўскага, невядома.

Інтэнсіўнае ж падводнае чоўнабудаванне пачалося толькі пасля вынаходства рухавіка ўнутранага згарання.

**В. БУЛАЎКА.**

# З УСМЕШКАЙ

### СТАЙНЯ

**Французскі пісьменнік-філосаф Вальтэр аднойчы паскардзіўся старшыні парламента (да рэвалюцыі 1789 года парламент называўся каралеўскім вярхоўным судом), што яго члены несправядліва вырашылі адну справу. На гэта старшыня адказаў:**

**— Конь мае чатыры нагі, і то спатыкаецца.**

**— Дапусцім,— сказаў Вальтэр,— аднак усёй стайні гэта не да твару.**

### СУВЯЗЬ З МЕСЯЦАМ

**Дырэктар абсерваторыі ў Мюнхене Круітхаўзен прапанаваў у 1845 годзе пасеяць на палях рапс так, каб ён утвараў вялізныя геаметрычныя фігуры — квадраты, кругі, трохвугольнікі і г. д. Калі ён цвіце, жыхары Месяца могуць убачыць праз тэлескопы гэтыя геаметрычныя фігуры і пераканацца, што на Зямлі жывуць разумныя істоты. Такім жа чынам ён хацеў паказаць хатніх жывёл, каб жыхары Месяца пазналі натуральную гісторыю Зямлі і ўзаемна паказалі сваю фаўну. Так вынаходлівы дырэктар хацеў наладзіць дыялог паміж планетай Зямля і яе спадарожнікам.**

### ПАСРЭДНІЦТВА АСТРОЛАГАЎ

**Самы вялікі індыйскі часопіс на працягу некалькіх гадоў праводзіў апытанне ўсіх міністраў цэнтральнага ўрада. Было іх 47. Толькі шэсць з іх заявілі, што, прымаючы**

тыя ці іншыя рашэнні, яны не звяртаюцца за парадамі да астролагаў. У сваю чаргу астролагі, якія па зорках чытаюць наканаванне лёсу, далі зразумець, што часта атрымліваюць ад прамыслоўцаў узнагароды за сваю службу міністрам. Гэта вельмі добры спосаб мець доступ да міністэрскага вуха.

### ПРАКТЫЧНАСЦЬ ВЫНАХОДНІКА

Да вынаходніка Эдысона, які некаторы час жыў у вёсцы, прыходзіла шмат гасцей. Яны здзіўляліся, што веснічкі, якія вялі ў сад, адчыняюцца вельмі цяжка. Нарэшце адзін з яго сяброў сказаў:

— Такі геній, як вы, мог бы сканструяваць лягчэйшыя весніцы.

— Мае весніцы сканструяваны геніяльна.

— Няўжо!!

— Яны злучаны з цыстэрнай. Кожны мой госць, які іх адчыняе, аўтаматычна пампуе дваццаць літраў вады ў цыстэрну.

### ЗАБІВАЮЦЬ ТОЛЬКІ ВЯДОМЫХ

На XXXIV кангрэсе пен-клуба ў Нью-Йорку ў 1966 годзе, у перапоўненым Доме культуры, недалёка ад Гарлема, паэт Пабло Няруда, якога цёпла сустрэла публіка, чытаў свае вершы. Упершыню за 43 гады ён наведаў Нью-Йорк, бо да гэтага часу яму адмаўлялі ў візе.

Пасля выступлення Няруды адзін фотарэпарцёр сказаў:

— Нічога не зробіш. Нікога не падпусцілі да Няруды: баяліся замаху на яго жыццё. Забілі ж нават прэзідэнта гэтай краіны.

Жыхар Нью-Йорка, які стаяў побач, паціснуў плячыма:

— А нічога б не было з гэтым Нярудам. Хто яго тут ведае!

### ПАЧУЦЦЁ СТЫЛЮ

Аднойчы Арнольд Цвейг запрасіў на шклянку кавы аднаго маладога пісьменніка. Той у размове ўжыў выраз «па найменшай меры». Фраў Беатрычэ Цвейг заўважыла, што па-нямецку гэта не гучыць. Арнольд Цвейг адвёў убок маладога пісьменніка і лагодна сказаў:

— Не звяртайце ўвагі. Яна і з Фейхтвангерам гэтак. Калі яму не зусім зразумела якая-небудзь моўная тонкасць, дык ён нават не заглядвае ў лінгвістычны слоўнік Дудзена, а адразу звоніць маёй жонцы.

### СУВЕНІР

У часе акупацыі Францыі афіцэры і салдаты вермахта часта наведвалі майстэрню Пікасо. Кожнага з гэтых няпрошаных гасцей мастак моўчкі сустракаў, моўчкі вадзіў па майстэрні, і кожны з іх пры адыходзе атрымліваў рэпрадукцыю славутай карціны, на якой паказаны разбураны нямецка-фашысцкімі лётчыкамі горад Герніка ў Басконіі. Толькі адно слова вымаўляў пры гэтым Пікасо: «Сувенір».

Аднойчы да яго з'явіўся агент гестапа, паказаў такую ж рэпрадукцыю і спытаў:

— Гэта вы зрабілі?

— Не,— адказаў мастак,— гэта зрабілі вы!

### ГРАФАЛОГ

Славуты французскі пісьменнік Анарэ Бальзак верыў, што характар чалавека можна пазнаць па яго почырку.

Неяк адна дама паказала яму ліст, напісаны дрэнным почыркам, і папрасіла:

— Паглядзіце, калі ласка, на гэты почырк і скажыце пра характар і будучае аўтара. Каб аблегчыць вашу місію, скажу, што пісьмо пісаў дванаццацігадовы хлопчык.

Бальзак сказаў:

— Спачатку я задам вам пытанне. Вы — маці гэтага хлопчыка?

— Не.

— Добра, тады я магу гаварыць з вамі шчыра. На жаль, гэты хлопчык вельмі лянівы і поспеху ў жыцці не даб'ецца.

Дама засмяялася.

Бальзак здзіўлена спытаў:

— Чаго вы смеяцеся?

— Гэта пісьмо пісалі мне вы, калі вам, месье Бальзак, было дванаццаць гадоў...





# ДЗЕ? ШТО? ЯК?

### ТРАКТАР ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ



У ГДР распрацаваны праект аўтаматычнага трактара-камбайна. На полі гэтай універсальнай машынай будуць кіраваць па радыё з дыспетчарскага пункта. Адзін чалавек зможа ўправіцца з дзесяццю машынамі.

Вясной трактары-аўтаматы будуць араць, сеяць і ўносіць вадкія ўгнаенні. Калі прыйдзе час уборкі ўраджаю, з дапамогай дадатковых механічных вузлоў іх ператвораць у самаходныя камбайны.



### ВЫНАХОДНІЦТВА ГЕРМАНСКАГА ПРЫНЦА

Бывае, вынаходніцкая фартуна ўсміхаецца і прадстаўнікам імператарскага роду. У 1909 годзе ў галаве прынца Генрыха, брата германскага кайзера, мільганула цікавая ідэя. Раздражнёны тым, што ў дождж трэба ўвесь час выціраць ветравое шкло аўтамабіля, ён... вынайшаў «дворнік», канструкцыя якога дайшла да нашых дзён.

### КАСМІЧНЫЯ ЗЛОДЗЕІ



Вага Месяца кожны год змяншаецца на 600 тон. У гэтым вінаваты... метэарыты. Удараючыся аб паверхню Месяца, яны «выбіваюць» з яе ў чатыры разы больш рэчываў, чым важаць самі. Але зямлянам можна не хвалявацца: Месяц прыкметна «схуднее» толькі праз некалькі мільярдаў гадоў.

### КОЛЬКІ НАРАДЖАЕЦЦА ЛЮДЗЕЙ

Па дадзеных бюро даведак народанасялення (Вашынгтон, ЗША), кожныя дзесяць секунд на Зямлі нараджаецца 39 чалавек і памірае 17. У 1970 годзе штодзённа нараджалася 331 тысяча дзяцей, з іх у індустрыяльна развітых краінах толькі 51 тысяча. Прырост насельніцтва ў сярэднім на зямным шары складае 2 працэнты ў год (у Еўропе—1 прац., у Лацінскай Амерыцы—3 прац.). З еўрапейскіх краін самы нізкі працэнт нованароджаных у Венгрыі (14,6 чалавек на 1000), самы высокі—у Албаніі (34 чал. на 1000). Самы нізкі прырост насельніцтва маюць Люксембург, Бельгія і ГДР (0,1 працэнта ў год), самы высокі—Кувейт (7,6 прац.). Іярданія (4,1 прац.) і Коста-Рыка (3,8 прац.).

# КЛОПАТЫ, ПРАБЛЕМЫ

Дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. Навучальная ўстанова, адкуль можна выйсці чэмпіёнам, можна—алімпійцам, а што здаровым і моцным чалавекам—напэўна. Такіх школ у нашай рэспубліцы сотні—яны ёсць не толькі ў гарадах, буйных і малых, але і амаль ва ўсіх сельскіх раёнах.

У дзіцяча-юнацкіх спартыўных школах пачыналі свой шлях алімпійскія чэмпіёнкі Ларыса Петрык і Алена Бялова, чэмпіёны Спартакіяды народаў СССР Міхаіл Жалабоўскі і Тамара Лазаковіч, многія іншыя вядомыя нашы спартсмены. Большасць ДЮСШ працуе плённа. І тым не менш у іх дзейнасці нямала праблем і нявырашаных патынняў.

Да размовы пра гэтыя праблемы карэспандэнт часопіса «Маладосць» запрасіў двух вопытных педагогаў—майстра спорту Вадзіма Шэгельмана, дырэктара Мінскай ДЮСШ № 2, і заслужанага трэнера БССР Уладзіміра Зверніка, старшага трэнера спецыялізаванай ДЮСШ таварыства «Чырвоны сцяг» па плаванні.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Паспрабуйце скласці мадэль найбольш тыповага для нашага часу шляху спартсмена, з першых крокаў да вышынь майстэрства.**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Шлях абавязкова пачынаецца са звычайнай школы, з урокаў фізкультуры, дзе закладваюцца асновы фізічнага развіцця—каардынацыя рухаў, лоўкасць, гібкасць, хуткасць. Затым паступленне ў спартыўную школу: рэгулярныя трэніроўкі, выступленні ў спаборніцтвах. Фізічная падрыхтоўка тут ужо спецыялізаваная—выпрацоўваюцца галоўным чынам тыя якасці, якія асабліва неабходныя для выбранага віду спорту. Тут вядзецца закладка трывалага фундамента майстэрства—тэхнікі. Гэта асабліва важна ў юнацкім узросце, пасля будзе позна...

А што будзе з нашымі выхаванцамі далей? Найбольш здольныя і добра падрыхтаваныя з іх трапляюць у школу вышэйшага спартыўнага майстэрства. За тых мы спакойныя. Іншыя пойдуць у маладзёжныя спартыўныя школы, у секцыі таварыстваў, вышэйшых навучальных устаноў, калектываў фізкультуры. І, на жаль, вельмі часта рост майстэрства іх па тых або іншых прычынах замаруджваецца.

Адным словам, лёс выпускнікоў—адна з праблем, якая нас асабліва непакоіць.

**ЗВЕРНІК:**—А чаму, уласна кажучы, мадэль? Ці не лепш расказаць пра сістэму, якая ўжо ўкараняецца ў практыку нашай школы? Першы этап—усеагульнае навучанне плаванню вучняў 4-х класаў. У нашым Ленінскім раёне горада Мінска гэта ўжо рэальнасць. Тут маецца на мэце: па-першае, прывіць дзецям важнейшыя жыццёвыя навыкі, па-другое, выявіць найбольш здольных для далейшага спартыўнага ўдасканалення. Пасля гэтага для адабраных—заняткі ў вучэбных групах спартыўных школ і далей—у спецыялізаваных класах агульнаадукацыйных школ. Гэта не ўтопія—у Мінску яны ўжо існуюць. 17 гадоў для плыўца—узрост сталага майстра. Гэта значыць, заканчэнне школы супадае, а часам нават і адстае ад узросту, у які нашы выхаванцы выходзяць у «вялікі спорт».

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Як жа вы ўяўляеце сабе найлепшы спосаб камплектавання дзіцячых спартыўных школ? Што гэта—набор або адбор?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Згодна Палажэння аб дзіцяча-юнацкіх спартыўных школах, якое афіцыйна існуе,—набор. Фактычна ж, вядома—адбор. Прымаць усіх жадаючых мы не можам. Трэнеры шукаюць падлеткаў каардынаваных, гібкіх, смелых ад прыроды. Дарэчы, парадокс: акселерацыя, паляпшэнне ўмоў жыцця злосна пажартавалі над трэнерамі па гімнастыцы. У дзяцей 7—9 гадоў цяпер рост і вага прыкметна большыя, чым 10—15 гадоў назад. Нярэдка трапляюцца і проста «закормленыя». Гімнастыцы такое не паказана. А бацькі хочуць, каб мы рабілі з іх Турышчавых і Лазаковіч. Мы ж аддаем перавагу худзенькім «заморкам». З гэтых «заморкаў» часцей за ўсё і выходзяць лебедзі гімнастыкі.

**ЗВЕРНІК:**—Ні тое, ні другое, а натуральны вынік дзеючай сістэмы, пра якую ішла гаворка вышэй. Адсеў непазбежны на працягу кожнага года навучання. У 4-х класах мы вучым і вучым і прапускаем тысячы дзяцей, а да 10-га спецыялізаванага класа застануцца дзесяткі два, не больш. Інакш нельга, калі мы сапраўды маем намер імкнуцца да высокай мэты—рыхтаваць майстроў вышэйшага, міжнароднага класа. Патрабаванні ж нашага часу да плыўцоў менавіта такія.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Значыць, усё ж адбор, у выніку якога абавязкова нейкая група дзяцей не пройдзе ў ДЮСШ. На гэту тэму лістамі завалены, відаць, усе маладзёжныя і спартыўныя рэдакцыі: «Чаму маю дачку не прынялі на аддзяленне фігурнага катання?» і г. д. Як жа быць з гэтымі дзецьмі? Пазбавіць іх магчымасці займацца спортам?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Дзяцей, якія не маюць здольнасці ні да аднаго віду спорту, амаль не бывае. Мы стараемся, калі адмаўляем каму ў прыёме, рэкамендаваць бацькам і дзецям, у якім відзе спорту ім можна лепш сябе праявіць. Напрыклад, занадта высокаму хлопцу ў гімнастыцы давядзецца цяжка, а баскетбалісты яго чакаюць з нецярпеннем. Але, на жаль, нашых рэкамендацый бацькі не заўсёды слухаюцца. І яшчэ, тут неабходна садружнасць трэнераў, глыбокая зацікаўленасць кожнага педагога лёсам кожнага дзіцяці, якое цягнецца да спорту. Як ні сорамна, але не кожны трэнер можа гэтым пахваліцца.

**ЗВЕРНІК:**—У нас справа крыху прасцей. Існуюць платныя, так званыя абанементныя групы. Туды прымаюць усіх, хто жадае. Сяго-таго існаванне абанементных груп, я ведаю, шакіруе. Я з гэтым не згодзен. ДЮСШ павінны працаваць на «вялікі спорт»—з гэтым цяпер цяжка спрачацца. Шлях туды даступны не кожнаму. Той жа, хто хоча плаваць для забавы, для ўмацавання здароўя, урэшце, павінен плаціць за ўваход у басейн. Па-мойму, гэта таксама натуральна, як плата за гарадскі транспарт, за электрычнасць, за газ. Гэта не вечна, але пакуль натуральна.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Цяпер звернемся да іншага. Якія, на вашу думку, павінны быць узаемаадносіны ДЮСШ і агульнаадукацыйнай школы, трэнераў і настаўнікаў?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Патрэбен самы цесны кантакт. Практыка паказвае, што ў лепшых трэнераў і сувязі з настаўнікамі, з класнымі кіраўнікамі іх выхаванцаў самыя моцныя. У іх амаль ніколі не ўзнікае канфлікту. І наадварот—не ведаюць дарогі ў школу толькі трэнеры-падзёншчыкі, блізарукія і абыякавыя. Такія, на жаль, у нашым асяроддзі яшчэ сустракаюцца.

**ЗВЕРНІК:**—На мой погляд, спецыялізаваныя класы з падоўжаным днём здымаюць гэтую праблему. Цікавасць настаўнікаў і трэнераў цесна пераплятаецца. Спашлюся на прыклад з нашае практыкі. Нядаўна я прысутнічаў на сходзе ў адным з такіх класаў. Выхавацельніца дакарала вучняў за тое, што яны няправільна харчуюцца—псуюць апетыт цукеркамі і піражкамі, няправільна адпачываюць. І мне адразу ж падумалася: «Гэта ж нашы пытанні!» У сваю чаргу, калі адзін з юных плыўцоў паленаваўся падрыхтаваць урокі і атрымаў двойку, мы параілі класнаму актыву выпусціць «маланку». Вось гэтак і ўзаемадзейнічаем—цесна і пастаянна.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Дарэчы, пра двойку. Як вы лічыце—ці могуць непаспяваючыя вучні займацца ў ДЮСШ? Або, іншымі словамі,—ці не варта за двойкі выключаць са спартыўнай школы?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Ні ў якім разе. Выключаць з ДЮСШ «цяжкага» падлетка—гэта значыць прадаставіць яго ў лепшым выпадку самому сабе, а часцей за ўсё—выштурхнуць на вуліцу. Нярэдка такія вучні вельмі любяць спорт, адданыя яму і спадзяюцца праявіць сябе. Навошта ж пазбаўляць іх гэтага? Ці не больш правільна, выкарыстоўваючы іх любоў да спорту, дапамагчы ім пераадолець адставанне і навучыць праяўляць у вучобе такую ж настойлівасць, як і ў спорце?

**ЗВЕРНІК:**—Спачатку трэба паспрабаваць усе магчымыя меры ўздзеяння, каб прымусіць двоечніка выправіцца. А калі ўсе сродкі будуць вычарпаны і вынікаў

не будзе—выключаць неадкладна. У нашым вiдзе спорту нагрузкi велiзарныя. Плывец, нават юны, павiнен штодзённа прабыць у басейне некалькi гадзiн. А калi падлетак не паслухаецца парады трэнера i настаўнiка, калi ён так i не прывыкне з дапамогай валявых намаганняў рэгламентаваць свой дзень, спартсмена з яго не выйдзе. Таму з выключэннем не варта марудзiць. Шкадаваць ужо будзе позна.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Як вы лiчыце: цi павiнен адзiн трэнер весцi вучня з першых крокаў да вышэйшага ўзроўню ў спорце або неабходна паслядоўнасць—перадача юнага спартсмена на адпаведных этапах падрыхтоўкi ад аднаго трэнера да другога?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Iдэальны выпадак—калi ў спартсмена на працягу ўсяго часу адзiн трэнер. I кожны трэнер павiнен iмкнуцца да высокай мэты. Маладзi трэба даць магчымасць паспрабаваць сябе не толькi ў пошуку i першапачатковай апрацоўцы таленту, але i ў яго ювелiрнай шлiфоўцы. У жыццi ж бывае i iнакш. Я не раз сустракаў спецыялiстаў спартыўнай педагогiкi, якiя выдатна працуюць з навiчкамi, закладваюць трывалыя асновы майстэрства, але далей справа ў iх не iдзе. Такiя трэнеры таксама прыносяць карысць, заслугоўваюць падтрымкi i павагi, а штучна навязаць iм работу ў галiне вышэйшага майстэрства не варта. У такiм выпадку больш карысцi, калi перадаць вучня другому трэнеру.

**ЗВЕРНIК:**—У школе звычайна такi парадак, калi кожны трэнер займаецца са сваёй групай вучняў з моманту iх прыёму ў ДЮСШ да выпуску. Прычым недзе ў сярэдзiне ўсяго цыкла навучання ён атрымлiвае яшчэ адну групу навiчкоў, каб пасля выпуску першай групы яму не давялося пачынаць усё спачатку.

Трэнер, як правiла, расце разам з вучнем. Маладым педагогам, якiя ўступаюць на гэты нялёгкi шлях, заўсёды патрэбна дапамога старэйшага, больш вопытнага таварыша. А выхаваць трэнера, на маю думку, не менш ганарова, чым моцнага спартсмена.

**КАРЭСПАНДЭНТ:—Што, на вашу думку, з'яўляецца вызначальным у ацэнцы работы дзiцяча-юнацкай спартыўнай школы—перамогi ў спаборнiцтвах з такiмi ж школамi цi ўзровень падрыхтоўкi яе выхаванцаў?**

**ШЭГЕЛЬМАН:**—Мы разумеем, што ад нас чакаюць папаўнення ў зборныя каманды рэспублiкi i нават краiны. I каму не хочацца падрыхтаваць алiмпiйскага чэмпiёна або хаця б усведамляць, што маеш дачыненне да яго падрыхтоўкi! Гэтага ад нас чакаюць спарткамiтэты, федэрацыi.

Але мы падначальваемся Мiнiстэрству асветы. Яго мара—паспяховае выступленне на Усесаюзнай спартакiядзе школьнiкаў. Далейшае—не яго клопат. Вось i мяркуюць пра нас па тым, колькi кандыдатаў мы падрыхтуем у зборную школьнiкаў рэспублiкi i якое месца зоймем у спаборнiцтвах з iншымi спартыўнымi школамi. Тут вiдавочная супярэчнасць, выклiканая ведамасным бар'ерам. Як яе вырашыць—сказаць цяжка.

**ЗВЕРНIК:**—Я бачу толькi адзiн крытэрый—падрыхтоўка майстроў вышэйшага класа. Астатнiя рубеж з iм мала значныя. Я нават асмелюся сказаць, што i колькасць падрыхтаваных майстроў спорту не iстотная. Гэта толькi адзiн з прамежкавых этапаў на шляху да галоўнай мэты, не больш. Захапляцца канкурэнцыяй адзiн з другiм—значыць дарэмна растрачваць сiлы.

Размова ў нас была досыць шчырая i вострая. Магчыма, некаторыя думкi i палажэннi, выказаныя В. Шэгельманам i У. Зверніка, могуць паказацца спрэчнымi, тым больш, што яны не ва ўсiм згодны адзiн з другiм. Запрашаем чытачоў—трэнераў, педагогаў, спартсменаў, бацькоў, аматараў спорту, усiх жадаючых прадоўжыць пачатую размову пра дзiцяча-юнацкiя спартыўныя школы, пра iх клопаты, трывогi, праблемы.

**Гутарку правёў**
**Мiхаiл СУПАНЕЎ.**

■■■



Раздзел вядзе мiжнародны майстар Макс ШАВЕЛЬ

# НА МАЛЕНЬКАЙ ДОШЦЫ

Вельмi цiкавых вынiкаў дамаглiся ў розныя часы майстры шашачных кампазiцый Беларусi на рэспублiканскiх i ўсесаюзных конкурсах. Дасягненнi iх адзначалiся дыпломамi, лепшыя партыi змяшчалiся ў дапаможнiках, многiя ўдзельнiкi конкурсаў атрымалi званне майстроў спорту. Але доўгi час нiхто з нашых складальнiкаў кампазiцый не мог дамагчыся звання пераможцы ўсесаюзнага конкурсу. Для перамогi ў такiм спаборнiцтве мала стварыць многаварыянтны твор, якi павiнен рашацца толькi адным спосабам. Звычайна першае месца прысуджаецца кампазiцыям, у якiх аўтар пры натуральнай расстаноўцы шашак здолеў даць зусiм новыя прыёмы рашэння.

I вось нарэшце судзейская калегiя XI-га ўсесаюзнага конкурсу пасля карпатлiвага адбору прызнала лепшай канцоўку выпускнiка матэматычнага факультэта БДУ iмя У. I. Ленiна Георгiя Укмана.

Думаем, што аматары шашак з прыемнасцю азнаёмяцца з гэтай кампазiцыяй. Здаецца, быццам гэта становiшча атрымалася ў практычнай партыi пасля апошняга памылковага ходу чорных f—e5.




Белыя пачынаюць i выйграюць.

Рашэнне канцоўкi пачынаецца нечаканым ходам 1. h2—g3. Цяпер пры любым адказе чорных магчымы прыгожыя камбiнацыйныя варыянты.

**ВАРЫЯНТ I.**

1. ... h8—g7, 2. e3—d4 g7—f6, 3. d4—c5 d6 : d2, 4. c1 : e3! a3 : c1, 5. f4 : b8 c1 : h2, 6. f2—g3 h2 : d6, 7. b8 : h8 d8—c7. Аднак белая дамка паспявае затрымаць абедзве простыя шашкi чорных. 8. h8—e5! c7—b6, 9. e5—d4 b6—a5, 10. d4—c3 h6—g5, 11. c3—d2 g5—h4, 12. d2—e1. Цяпер усё зразумела!

**ВАРЫЯНТ II.**

Гэта, здаецца, самы эфектны працяг. 1. ... d8—e7, 2. c1—d2!! a3 : c1, 3. c3—d4!! e5 : e1, 4. e3—d4 c1 : g5, 5. d4—c5 d6 : b4, 6. g3—h4 e1 : g3, 7. h4 : h4!!, здымаючы адным ударам дзве дамкi i тры простыя!

**ВАРЫЯНТ III.**

1. ... c7—b6, 2. e3—d4 d6—c5, 3. d4 : f6 b6—a5, 4. f2—e3 c5—b4, 5. c3—d4 b4—c3, 6. d4—c5 c3 : a1, 7. f6—e7 d8 : f6, 8. c5—b6! a5 : c7, 9. e3—d4 a1 : e5, 10. f4 : b8 з лёгкiм выйгрышам.

Рашэнне канцоўкi прыносiць вялiкае эстэтычнае задавальненне. Аўтарскiя варыянты проста цудоўныя!

Невялiкi пралiк у трэцiм варыянце пазбавiў канцоўку першага месца, хоць яна i была прызнана лепшай. Ёй прысуджана другое месца.

Вельмi цiкава i тое, як было знойдзена прыватнае пабочнае рашэнне. Пасля апублiкавання вынiкаў конкурсу, пасля прысуджэння беларускаму шашысту першага месца гросмайстар Зiновi Цырык i майстар Юры Чарняеў знайшлi, што пасля ходаў 1. ... c7—b6, 2. e3—d4 d6—c5, 3. d4 : f6 b6—a5, 4. f2—e3 c5—b4 белыя маюць магчымасць выйграць iншым шляхам: 5. g3—h4 b4 : d2, 6. b2—c3 d2 : b4, 7. e3—d4. Улiчваючы гэты недагляд, журы рашыла прысудзiць Г. Укману другое месца, а першага нiкому не даваць.

● Іван АНОШКІН



# ГУМАРЭСКА

— Падвёў ты мяне, таварыш Капыток... Увесь заўком пасадзіў у галёш... Собіла ж мне падпісваць тваю рэляцыю!

— Схібіў, Карпавіч,— апраўдваўся Капыток.— Бывае. Вы, так сказаць, у фізкульт-спорт яшчэ не ўвайшлі, а я не першы год... І не такое сыходзіла... Прэміі і падзякі... А тут — гэтакая дробязь: падрыхтоўка баксёра-разрадніка.

— Каб жа падрыхтавалі! — ушчуваў Карпавіч.— А то фантазія, таварыш Капыток. Каго пасылаць на спаборніцтва? Сам едзь. Я падстаўляць галаву не збіраюся.

— Неяк утрасецца, Карпавіч!.. Абмазгуем...

— Мазгуй не мазгуй, а ехаць камусь трэба. Вось выклік. Або прасігналізуй, што няма ў нас баксёра. Памылка, маўляў...

— Жывая вымова! — затрымцеў Капыток.— А, можа, фінтом?

— Чым, чым? — выцягнуў тонкую шыю Карпавіч.

— Фінтом, кажу...

— Што за жаргон?

— Ды што вы!.. У баксёраў гэта лжывы выпад...

— Ілжывы? — насцярожыўся старшыня заўкома.— Зноў за сваё? Цяпер вунь як строга за ашуканства!

— У боксе без фінта не абысціся... Не выйграць! У боксе фінт узаконены...

— Няўжо ўзаконены? — засумняваўся старшыня заўкома.

— Ды за каго вы мяне лічыце? З усёю адказнасцю заяўляю!

— Давай, выкладвай, што за фінт?

— Што тут выкладваць. Усё будзе ў ажуры...— І Капыток выдыхнуў клубы дыму, дзелавіта падсеў да тэлефона.— Трэці цэх? Гэта з заўкома. Дзе там Сёма Пудоўкін? Хай на хвілінку зойдзе.

— Ён баксёр, гэты твой... Як яго?

— Пудоўкін? Зараз пабачыце... Вось ён і сам.

Хлопец, які пераступіў парог, быў аднаго росту з Капытком, але Капыток, як тумба — квадратны, непавароткі, а гэты — худы, як уюн.

— Клікалі, Карпавіч? Няйнакш, разгледзелі маю просьбу?

— Якую просьбу?

— Ну, пуцёўку...

— З гэтым пачакай... Чарга і ўсё такое...

— Будзе, братухна, пуцёўка! — перахапіў ініцыятыву Капыток.— З усёю адказнасцю запэўніваю. І Карпавіч, бачыш, падтрымлівае... Паедзеш хоць на Чорнае мора, набярэшся здароўя. Толькі спачатку справа...

— Якая справа?

— Дробязь. Дарэчы, якая твая вага?

— Сорак восем кілаграмаў.

— Петушыная вага! — узрадаваўся Капыток.— Мара, а не баксёр!

— Баксёр? — аслупянеў Пудоўкін.

— Найлягчэйшай вагі!.. Так што збірайся, Сёма, на раённае спаборніцтва...

— Ды вы што... Мігам забаксуюць...

— Не бойся! Табе і не давядзецца выступаць,— угаворваў Капыток.— Дзе яшчэ выкапаюць такога сухара?

— Зразумела? І не фінці, таварыш Пудоўкін,— аздобіў нос акулярамі старшыня заўкома.— Ідзі і ўсё такое... А табе, таварыш Капыток, быць за трэнера...

— Навошта трэніроўка! — паціснуў плячыма Капыток.— Збавім для вернасці яшчэ кілаграмы два — і ў форме!.. Ты, Сёма, на шніцэлі і біфштэксы не налягай. Кефір! Кожны дзень лазня. Жорсткі тапчан... І на рынг!

«Ну і задалі задачу! Адно слова чаго варта — рынг! Што за рынг?»,— гадаў Сёма.

Ім аказаўся звычайны памост, накшталт танцавальнай пляцоўкі. Толькі абцягнуты канатамі. Выбягаюць на тую пляцоўку ў адных трусах здаравенныя біцюгі. Лупяць адзін аднаго гірамі-рукавіцамі. Адзін дзяцюк ад тумака ледзьве цераз бар'ер, у самую людскую гушчу, не пераляцеў.

— У другім раўндзе гэтаму амба! — гаварыў Капыток.

«Добра, што самому біцца не прыйдзецца»,— толькі падумаў Сёма, як строгі суддзя ў белым касцюме выкрыкнуў яго прозвішча.

— Сустракаюцца баксёры найлягчэйшай вагі: Сямён Пудоўкін з завода «Рашпіль» і Юзік Гуз з быткамбіната «Жалезны цвік».

Больш Пудоўкін нічога не чуў. Можа ад гонга, можа яшчэ ад чаго зазвінела ў вушах. Уваччу ўсё замітусілася. Быццам гэта не яму Капыток надзяваў на рукі цяжкія скураныя пальчаткі, быццам не яго выштурхнуў на рынг...

А там — кучаравы хлопец. Схапіў за руку, паціснуў.

— Баксёры, на сярэдзіну!

Кучаравы заскакаў малайцом-удальцом ды бах Сёму пад дыхавіцу. Сёмка войкнуў і аб'ехаў на памост.

— Раз... два..,— пачаў лічыць суддзя.— Тры!..

Сёмка памкнуўся падняцца, але сустрэўся поглядам з кучаравым. «Знявечыць!.. Ляжачага не б'юць...» — і ўтуліў галаву ў плечы.

— Чатыры... пяць...

Зала пляскала, тупацела, свістала.

Але Сёмка ўчуў, быццам скрыгат жалеза, голас Капытка: «Ляж-жы, ж-жаваранак!..»

— Шэсць... сем... восем...

— Дзевяць, дзесяць,— памог далічыць Капыток.

...Суддзя аб'явіў, што званне раённага чэмпіёна і дыплом першай ступені заваяваў баксёр быткамбіната «Жалезны цвік» Юзік Гуз. Другое месца і дыплом другой ступені прысуджаюцца баксёру «Рашпіля» Сямёну Пудоўкіну...



Мал. **С. Волкава.**

# нашы аўтары

**БАСУМАТРАВА Святлана** нарадзілася ў 1946 годзе ў Мазыры. Завочніца Мінскага педінстытута імя Горкага. Працуе настаўніцай.

**КАРПЮК Аляксей** нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Страшава (цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР). Пасля вызвалення Заходняй Беларусі вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы. У гады вайны ўдзельнічаў у партызанскай барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў, затым разам з войскам І-га Беларускага фронту прайшоў шлях ад Варшавы да Берліна. Быў двойчы паранены. Пасля вайны скончыў Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Пэўны час аддаў педагагічнай дзейнасці. Выдаў зборнікі апавяданняў і аповесцяў «Дзве сасны», «Данута», «Пушчанская адысея» і інш.

**БАРАВІКОВА Раіса** нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Працавала ў Быхаўскай райгазеце. Скончыла Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве.

**БАРАВІК Марыя** нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Перадолы Глыбоцкага раёна. Скончыла сярэднюю школу. Працавала мастацкім кіраўніком у Доме культуры, у райгазеце, цяпер працуе ў дзіцячай бібліятэцы.

**ХАМЧУК Валянціна** нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Навасёлкі на Гродзеншчыне. Працавала дываноўшчыцай у Малдавіі, настаўніцай на Урале. Цяпер вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

**ГАРАГЛЯД Ніна** нарадзілася ў 1952 годзе на Піншчыне. Скончыла мясцовую дзесяцігодку. Цяпер займаецца на другім курсе Брэсцкага педінстытута.

**КОЛАС Георгі** нарадзіўся ў 1929 годзе на Чэрвеньшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў акцёрам і журналістам. З рэцэнзіямі і артыкуламі выступае з 1953 года. Выдаў кнігі на рускай мове «Сучаснік у грыме і без грыму», «Хто твае сябры» і «Дыялог цераз рампу».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 3**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОУСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары: **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕУСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 09082. Здадзена ў набор 28/І 1972 г. Падпісана да друку 28/ІІ 1972 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15562 экз. Зак. 740. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі праспп., 79.**